ББК 81.411.3
Ц 97

Абмяркована і рэкамендавана да друку радай факультэта беларускай філалогіі і культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта ім. Янкі Купалы

Рэцэнзент – **Яшкін І. Я.**, кандыдат філалагічных навук.
Навуковы рэдактар – **Сцяцко П. У.**, доктар філалагічных навук.

**Цыхун А. П.** СКАРБЫ НАРОДНАЙ МОВЫ (з лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну). Гродна, 1993.

Кніга-слоўнік мае тры часткі. У першай – „Лексіка" – падаюцца рэгіянальныя словы Прынёманскага краю, не зафіксаваныя сучаснымі слоўнікамі літаратурнай мовы, словы родных аўтару гаворак. У другой частцы – „Анамастыка" – змешчаны геаграфічныя назвы Гродзеншчыны, назвы водных аб'ектаў басейна ракі Свіслач. Трэцюю частку складаюць прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы , зафіксаваныя ў народнай мове.

Слоўнік адрасуецца шырокаму колу чытачоў, аматарам і захавальнікам роднага слова, а таксама настаўнікам і вучням сярэдніх школ, ліцэяў, гімназіяў, студэнтам і выкладчыкам ВНУ.

## ПРАДМОВА РЭДАКТАРА

Кніга „Скарбы народнай мовы" (З лексічнай спадчыны насельнікаў Гродзенскага раёну) – плён шматгадовай працы Заслужанага настаўніка Беларусі Апанаса Пятровіча Цыхуна, скіраванай на выяўленне і захаванне для нашчадкаў неацэнных моўных залацінкаў родных яму гарадзенскіх гаворкаў, вынік сумленнай збіральніцкай і даследчыцкай вымогаў улюблёнага ў роднае слова чалавека. Усяго назапашана да 10 тысяч лексемаў, каля тысячы ўстойлівых народных выслоўяў і шмат анамастычных адзінкаў мясцовых гідронімаў (з басейну ракі Свіслач), тапонімаў і мікратапонімаў.

Пад час падрыхтоўкі рукапісу да выдання ў „Лексіцы" пакінуты толькі рэгіянальныя словы, па-за яе межамі засталіся гутарковыя лексемы, зафіксаваныя „Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы". Апушчаны таксама словы, якія супадаюць з літаратурнымі і адрозніваюцца заканамернымі для гарадзенскіх гаворак фанетычнымі рысамі, найперш прыстаўным гукам (г): гараць (літарат. араць), гандарак (андарак), гока (вока),гікаць (ікаць), ганучa, гаўчына, з'явай няпоўнага акання: добро, слабо, много. Словы з лексікалізаванаю адметнасцю падаюцца ў „Лексіцы" , напрыклад, даенка (літар. даёнка), егдзіць (ездзіць). Адлюстраваныя тут словы з адметным фанетычным складам у суфіксальным фармацне, хоць гэтая з'ява і паўтараецца ў шэрагу лексемаў, напрыклад: шумавене (параўн. літарат. шумавінне), гуркавене (агурочнік), бульбавене (бульбоўнік). На месцы прыстаўкі не- у гродзенскіх гаворках нярэдка чуецца (ні): ні быў, ні бачыў, ні чытаў. У „Лексіку" трапілі з гэтаю адметнасцю толькі тыя словы (адзінкавыя), якія не супадаюць з літаратурнымі і па іншых адзнаках: нізграбоце: (нязграбны), нізгоршы (някепскі).

Загалоўныя словы падаюцца ў „Слоўніку" ў арфаграфічным запісе. Калі напісанне разыходзіцца з вымаўленнем, у дужках паказваецца (спрошчанаю транскрыпцыяй) гукавы склад слова. Словаўтваральныя і фанетычныя варыянты-сінонімы месцяцца ў адным слоўнікавым артыкуле: бомк і бонк, бонка, і бамкач, (авадзень), турак і турчак, туркаўка (мядзведка), валент, валён і вэлюм. Трапілі ў „Лексіку" фанетычныя варыянты, адметныя ў гаворках і літаратурнай мове цвёрдасцю-мяккасцю зычных (гунка і гунька), з несупадзеннем галоснай у аснове: часнык (літарат. часнок), чаўнык (чаўнок).

Адметнасць мясцовай народнай мовы гарадзенцаў і ў тым, што назоўнікі агульнага роду сумяшчаюць граматычныя значэнні

не толькі мужчынскага і жаночага роду, але і ніякага (чудзіло: ён і яно).

У загалоўных словах не адлюстроўвалася такая адметнасць гарадзенскіх гаворкаў, як націскны канчатак -э (-е) у назоўным (вінавальным) склоне назоўнікаў мужчынскага роду (панажэ, хадаке).

Апрача „Лексікі", кніга мае яшчэ 2 часткі: „Анамастыка", „Устойлівыя выслоўі". У першай падаюцца тапонімы, мікратапонімы Гродзенскага раёну і гідронімы басейна ракі Свіслач, у другім – прыказкі, прымаўкі і фразеалагізмы.

Кніга адрасуецца шырокаму колу чытачоў, аматарам і захавальнікам роднага слова. Разам з тым яна прызначаецца і як навучальны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў, найперш з факультэту беларускай філалогіі і культуры. Матэрыялы кнігі паспяхова будуць скарыстаныя падчас падрыхтоўкі лекцыйных курсаў па дыялекталогіі, сучаснай беларускай мове, гісторыі мовы, на лінгвістычных спецкурсах і спецсемінарах. Абавязковым дапаможнікам стане кніга на практычных і лабараторных занятках па дыялекталогіі і падчас выканання кантрольных працаў па гэтай дысцыпліне на завочным аддзяленні. Каштоўны матэрыял для напісання курсавых і дыпломных працаў знойдуць у кнізе студэнты старэйшых курсаў, а таксама даследчыкі лексікалогіі і словаўтварэння, фразеалогіі і анамастыкі роднага краю.

Тапанімія будзе добрым „асялком" для выпрабавання марфемнай, словаўтваральнай і этымалагічнай здатнасці пачаткоўцаў у навуцы. Фразеалагізмы можна выкарыстаць дзеля спробы складання адпаведнага слоўніка ці для выяўлення спецыфікі рэгіянальных фраземаў у іх семантыцы і структуры параўнальна з літаратурнымі.

У ілюстрацыйных прыкладах знайшлі свой адбітак усе найважнейшыя фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя рысы гарадзенскай народнай мовы. Таму гэтая праца будзе паспяхова скарыстаная на Гарадзеншчыне пры вывучэнні – у супастаўляльным кірунку – беларускай літаратурнай і народна-дыялектнай мовы ў школах, ліцэях, гімназіях і ВНУ. Бо менавіта параўнальнае вывучэнне нормаў літаратурнай мовы і мясцовых адметнасцяў дае найлепшыя вынікі ў авалоданні агульнанароднай мовай. Спрыяць будуць гэтаму і пазакласныя заняткі, скіраваныя на выяўленне адметных лексемаў у мясцовых гаворках, складанне вучнямі дыялектных слоўнікаў.

Тапанімічныя і гідранімічныя звесткі настаўнік можа выкарыстаць для зацікаўлення вучняў у даследаванні назваў паселішчаў, урочышчаў з роднай мясціны, разгортванне і паглыбленне цікаўнасці вучняў да лабараторыі нашага маўлення, да будовы слова, гісторыі роднага краю, сваёй Бацькаўшчыны.

Словам, прапанаваная чытачу кніга стане яго дарадцам у выкарыстанні і ахове роднага слова, гісторыі роднай старонкі.

**Павел Сцяцко**

Рукапіс рыхтавалі да друку: тэкст на літары А–К Сцяцко П., на літары Л–Р Данільчык З. і Сцяцко П., на літары С–Я Даніловіч М.; „Анамастыку" – Сцяцко П., „Устойлівыя выслоўі" – Даніловіч М.

## ПРАДМОВА АЎТАРА

На працягу больш як дваццаці гадоў інспектарскай працы ў Гродзенскім аддзеле народнай асветы мне ўдалося запісаць вусную народную творчасць, народныя песні, назвы палеткаў, урочышчаў, прытокаў малых рачулак, сажалкаў, азёраў, гарадзішчаў, вадзяных млыноў, ветракоў, якія існавалі некалі на тэрыторыі Гродзенскага раёну. Але найбольшую цікавасць праяўляў я да жывой народнай мовы. Міжвольна прыгадваў словы геніяльнага польскага паэта Адама Міцкевіча: „На беларускай мове гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана..." Як пісаў А. К. Сержпутоўскі: „Каб ясна зразумець сучаснае, трэба аглянуцца назад у глыбіню стагоддзяў і падслухаць, як раней жыў, думаў і верыў старажытны чалавек". Гэта і натхніла мяне на складанне дыялектнага слоўніка Гродзенскага раёну. Я заўважыў, што лексічнае багацце гэтай мясцовасці вывучана і зафіксавана слаба. З пашырэннем літаратурнай мовы звужаецца сфера бытавання народных гаворак, яны выходзяць з актыўнага ўжытку. Народныя гаворкі не павінны бясследна знікнуць. Гэта было б вялікай стратай для нашай культуры і навукі.

Першыя спробы збірання і сістэматызацыі матэрыялаў для дыялектнага слоўніка Гродзенскага раёну пачынаюцца недзе ў 1939–40 гадах. Асноўная ж частка была запісана ў пасляваенны час. Я імкнуўся зафіксаваць жывую мову маіх землякоў, захаваць для нашчадкаў яе мілагучнасць, вобразнасць, трапнасць. Тут знайшлі свой адбітак шматвяковая гісторыя народу.

Лічу патрэбным даць даведку аб Гродзенскім раёне і спіс населеных пунктаў раёну, народныя прыказкі, прымаўкі і фразеалагічныя спалучэнні. Дапамаглі мне ў працы жонка Марыя Аляксееўна, і сыны Пятро і Генадзь.

**Апанас Цыхун.**

# ЛЕКСІКА

## А

Абалакаць незак. Надзяваць чыстую бялізну. Заўтра Зельна, а абалакаць німа чаго, усё ні мыто. Кунцаўшчына.

Абамберыць зак. Неакуратна падстрыгчы нагала, абалваніць. Абамберыў ножніцамі хлопца, брытко на вуліцу выйсці, смяяцца будуць. Кунцаўшчына.

Абапал м. Аполак. Абапалаў прывёз, будзе чым загарадзіць, і дрова будуць. Батароўка.

Абач у знач. выкл. Бач. Абач, які ты мондры зрабіўсо, адкуль такі ўзяўсо? Верхнія Пагараны.

Абгорваць незак. Абганяць, абворваць бульбу. На сухі рок бульбу трэбо абгорваць глыбяй. Зялёная.

Абгрызак м. Агрызак; недаедзены яблык або груша. Гэто хто абгрыскаў панакідаў, ні пройдзяш? Караневічы.

Абдзіртус м. экспр. 1. Дзіця, якое вельмі хутка зношвае адзенне, абутак. Некі абдзіртус ні дзіця, адзежы ні настарчысса. Хамякі. 2. Ашуканец, махляр. Некалі быў крамар, абдзіртус, абдзіраў людзей, як мог. Лазы.

Абдрыпаны дзеепрым. Абарваны, неахайны (пра чалавека). Усяго мая, а абдрыпаны цёнгле ходзіць. Капцёўка.

Абечка (абечко) н. Скрыня з дошчак для жорнаў. У нас абечко было добро, мука нігды ні рассыпалася, добро было выбіраць. Бакуны.

Абірацца незак. Чысціцца (пра курыцу). Усёроўно, як курыца на дождж абіраяцца. Рацічы.

Абіручны нож. Бандарскі струг для вырабу клёпак. Клёпкі спярша колюць з дзерава, потым абіручным нажом стругаюць, як трэбо, выгінаюць. Бандары.

Абкалупачыць зак. экспр. Ашукаць, абмануць. Ён ні аднаго апкалупачыў, пусціў с торбай, а цібе німа што. Аульс.

Абкінуты дзеепрым. Абшыты, аблямаваны ніткамі. Як добро апкінута пятліца ў каптане, то яна мацнейша, гузік спраўней зашпільваяцца. Клачкі.

Аблахманіцца зак. Абадрацца, знасіць вопратку. Зусім аблахманіўсо чалавек, мусіць, жонка ні глядзіць. Пагараны.

Аблезлік м. экспр. Той, у каго ад сонца аблезла з твару скура. Аблезлік ты, чысто з носа скура злезла. Кунцаўшчына.

Аблядры мн. Частка конскай вупражы – драўляныя накладкі на пастронках, каб не націралі бакі каню. Аблядры робяць з асіны,

яны лёхкія і моцныя. Лаша.

Абмалахтаць зак. Абмануць, ашукаць. Братэ зусім меншаго абмалахталі, саму горшу землю далі. Свіслач.

Абмахнаціцца зак. Абрасці барадой, валасамі. Хлопяц зусім абмахнаціўсо, на чалавека ні падобны. Пагараны.

Абменак м. Слабое, рахічнае дзіця. У Ганулі нашае дзіця абменак нека, адна галава велька, само мізэрно. Пагараны.

Абмылак м. Дэфект у самаробнай тканіне. 1. Нітка парваласа, як ні згледзіш-зробіш абмылак. Свіслач. 2. Змылак, кусочак мыла. Абмылак недзе ў воду ўпаў, ні знайсці. Каленікі.

Абмыліцца зак. Памыліцца. Абмыліўсо, ні пазнаў сваго загона Баяры. Абмыліўсо, зусім пераблытаў дні, думаў – пятніца. Капцёўка.

Абойчык м. Ключыца. У яго абойчык быў зломаны, але зросса, і ціпер, бачыце, нічога ні відаць. Каменка.

Аборса ж. Абора (у лапці). Лёхко было хадзіць у пасталах, апкруціш ганучкі аборсамі, і ідзеш сабе. Казіміроўка.

Абракацца незак. Абавязваць, даваць зарок. Яшчэ Настуся ў тым року абракаласа схадзіць да Грыбава, пакланіцца святому Ільі. Кунцаўшчына.

Абрамызіць зак. Зняважыць. Ён ні рас сваю Гандзю абрамызіў перад людзьмі, як тулькі яна церпіць. Рагачы.

Аброжак м. Нашыйнік для цяляці. Аброжак цяляці шыюць с тоўстаго палатна, кап шыі ні муляў. Свіслач.

Абруб м. Вялікі кавалак ворнай зямлі. Некалі ў пана купілі цэлы абруб зямлі – сем чалавек. Батароўка.

Абрында ж. Пра жанчыну, якая ходзіць у заношанай, бруднай адзежы. Абрында нека, ні глядзіць за сабой, спадніца вечно ў яе абрындана. Гумнішча.

Абрыняць зак. Уздуцца, успухнуць. Кап ты абрыняла, як Магілянска гара, кап ты! (праклён). Круглікі.

Абрыскнуць зак. Пракіснуць крыху. Малако, мусі, абрыскло, зварыцца. Гродна.

Абторкаць (апторкнуць) зак. Абсадзіць, абставіць чым-небудзь. Лён, кап кратэ ні парылі, апторкваям дупчыкамі, мо ні палезуць. Агароднікі.

Абубніць зак. экспр. Нагала абстрыгчы (валасы на галаве). Зусім абубніў, ні аднаго валаска на галаве ні пакінуў. Прыгодзічы.

Абхіліць (апхіліць) зак. Абхінуць. Абхілі добро шалікам дзіцяці шыю, каб ні прадуло. Рудавіцы.

Абходзіцца (апходзіцца) зак. Накарміць, напаіць жывёлу на ноч. Абходзіўсо, ціпер можно ісці на пасядушкі да мужчын. Зарубічы.

Абцёпканы (апцёпканы) прым. Растрапаны край тканіны. У

маго гаспадара клешні ў нагавіцах заўсёды апцёпканы, ходзіць, як мокра курыца. Свіслач.

Абцэнгі (апцэнгі) мн. Абцугі. Кап цвік дастаць, трэбо мець апцэнгі, пальцам ні дастаняш. Рацічы.

Абцясаць (апцясаць) зак. Абчасаць, абсклюдаваць. Склютам абцясаць сцену жывей было, як апілаваць. Дзекалавічы.

Абшарпанец (апшарпаняц). Абадранец, дрэнна апрануты чалавек. Гэ, некі апшарпаняц да Гэлі ў сваты прыехаў. Адэльск. Ці будзень, ці свято – заўсёды апшарпанцам ходзіць. Квасоўка.

Абшастаць (апшастаць) зак. экспр. Абрэзаць зусім, дашчэнту Ты што гэто каню хвост апшастаў, адна макаўка засталаса?

Абштарцаваць зак. Даць прачуханкі, аблаяць. Стась яго як апштарцаваў, та век будзя помніць. Верхнія Пагараны.

Абэрда (і абэрджа, абэржа, абэржня) экспр. Недарэчны будынак вялікіх памераў. Выставіў хату, як абэрду, а жыць у ёй німа каму. Загорцы. 2. перан. Пра што-небудзь вялікіх памераў. Узяў жонку, як абэрджу, у хату ні ўлезя. Стральцы. Ці гэта адрына патрэбна на такую гаспадарку? Што Антось будзя ў гэту абэржу класці? Свіслач.

Авадзён м. Авадзень. Кароў дзісь ні выганялі – авадзён ні дае жыць. Малая Жорнаўка.

Авацаваць незак. Пладаносіць (пра садовыя дрэвы). Яблыні павырасталі, а ні авацуюць, цвету аж усыпано, а яблыкаў німа. Круглікі.

Агер м. Аер. Як на агеры хлеп спячэш, то натто скарынка пахла. Свіслач. Некалі с сачком патопчасса ў агеры і шчупакоў наловіш. Верцялішкі.

Агладкі мн. Аладкі. Помню, маці напячэ агладак з рошчыны, кіславатыя такія, і мы ямо. Белева.

Аглядзіны мн. Агледзіны. Паедзямо ў аглядзіны, хай пакажа, што мая. Клінчаны.

Агроднік м. Садоўнік у панскім маёнтку. Да вайны у Свіслачы быў добры агроднік. Як пойдзямо абіраць яблыкі, то ён да нас лёстачкамі, ніяк ні называў, тулькі „Мая душэчка", а потым як скажа брыткае слова, то хоць вушы затыкай. Свіслач.

Адбівацца незак Адрыгацца. Наеўсо замного, цэлы дзень адбіваецца, ні добро неяк. Лэйгаболі.

Адбіцца зак. Пакрыцца (пра кабылу). Кабыла адбіласа, ні патрабуя, да жарабца ні павяду. Кунцаўшчына.

Адбіць зак. Размеціць шнурам, нацёртым галавешкай ці крэйдай перад распілоўкай бервяна.

Адбіяна ж. Звычай у час танцаў: хлопец падыходзіць да пары танцораў, пляскае ў далоні, кажучы „Адбіяна"; танцор павінен быў затрымацца і аддаць сваю партнёрку, а сам выйсці з кола (быў пашыраны да 1939 года і з'яўляўся прычынай для абразы і

боек). Стась, каб завясціса біцца, падыходзіў па некулькі разоў і даваў адбіяна. Рацічы.

Адбыдлаваць зак. Стаць цельнай; аплaдніцца; пабегаць (пра карову). Дзякаваць богу, карова адбыдлавала, з другім целям будзя. Каменка.

Адведзіны мн. 1. Наведванне жанчыны пасля родаў родзічамі і знаёмымі. Учора на адведзінах былі: у Гэлі другі сын. Адэльск. 2. Паездка бацькоў засватанай дзяўчыны да жаніха. Ездзілі ў адведзіны да Галаўніч, глядзелі, дзе жыць будзя наша Верка. Казіміроўка.

Адвэнт м. Вялікі пост у католікаў перад калядамі. У нас у адвэнт ніхто не браў шлюбаў. Занявічы.

Адвязіч м. Кусок палатна, які накручваецца на навой кроснаў, чапляецца за аснову, каб даткаць кужаль і не пакідаць доўгіх канцоў асновы. Калі мала асновы, бяру адвязіч і датыкаю кужаль. Свіслач.

Адгануць зак. Адгадаць. Адгані загатку: „У лазе на адной назе грыб". Што гэто? Пагараны.

Аддалёк прысл. Здалёк. Свой сваго аддалёк пазнае, здагадаецца хто гэта. Кунцаўшчына.

Аддыдуліць зак. Адставіць, выпучыць. Жвот, як начоўкі, аддыдуліў і стаіць, ні прайсці. Карозічы.

Аджымаць незак. Праць бялізну. Плаце ў гарачай вадзе аджымала, а паласкаць трэбо ісці на рэчку. Рудавіцы. У нас мяшке аджымалі на рэчцы. Рацічы.

Адкарабкацца (аткарапкацца) зак. Пазбавіцца, адчапіцца, адкараскацца. Як прыстаў некі жулік, ледво ад яго аткарапкаласа. Гродна.

Адкарахтацца (аткарахтацца) зак. Адчапіцца, адкараскацца. Як прывязаласа нека сучка, ледво ад яе аткарахтаўсо. Жукевічы.

Адкачаць (аткачаць) зак. Адпрасаваць бялізну з дапамогай спецыяльных драўляных прыладаў. Валко і качалко недзе на гарэ, можно ўзяць і аткачаць плаце, як маці некалі качала. Баброўнікі.

Адлог м. Аблог. Як прыехалі з бежанства, то ўсё поле адлогам ляжало, лесам парасло, ледво мама с Паўлам выкарчавалі, гарaць ні было як. Свіслач.

Адлюднік м. 1. Скрыты, замкнуты ў сябе чалавек. Адлюднік гэты, вечно сядзіць у сваёй хаці, людзей нібачыць. Белева.
2. Той, хто жыве на водшыбе, далёка ад населенага пункта. Пастроіў сабе хату пад самым лесам і жыве гэты адлюднік, як воўк. Клінчаны.

Адмянціць зак. Адлупцаваць, аддубасіць. Я сваго адмянціў, як мая быць, хай ведая, як на бабу бзікаць. Кунцаўшчына.

Адонкі мн. Апошнія снапы збожжа ў адрыне ці стозе. Як мала-

цілі, я падняў адонкі, так шашок і выскачыў. Нагой прыціснуў, а ён зубамі за бот, выкруціўсо, уцёк. Кунцаўшчына.

Адпалява́ць (атпалявaць) зак. Стаць цельнай; пабегаць (пра карову). У гэтым року карова ізноў мусі ні атпалявала, перадойкай будзе. Круглікі.

Адпалянтава́ць (атпалянтаваць) зак. 1. Адрэзаць, адарваць вялікі кусок чаго-небудзь. Атпалянтаваў нехто ў кажусі кусок палы, і хадзі, як хочаш. Кунцаўшчына. Тулькі прышыла кішэнь хлопцу, а ён ізноў атпалянтаваў, вырваў з мясам. Рацічы.

Адпіры́ць (атпірыць) зак. Адлупцаваць. Здаецца, атпірыў кабылу, як трэбо, а яна ізноў у шкоду. Лаша.

Адры́нішча н. Месца, дзе раней стаяла адрына. На адрынішчы нічого ні расло, мы усё паляныя цвіке там збіралі. Гібулічы.

Адско́чыць (атскочыць) зак. Адстаяцца. Ужэ сок бярозавы атскочыў, стаў белы, можно піць. Зялёная.

Адста́віць (атставіць) зак. Выставіць, выпучыць. Ты што жываціско атставіў, стаіш, як начвач які. Лаша.

Адсту́пнае (атступнае) н. Плата, якую адзін пакупнік прапануе другому, каб той уступіў тавар (адступіўся). Даў купцу атступнаго, а так і ні купіў бы гэтай каровы. Дубоўка.

Адудзе́ньчыць зак. Адплаціць за паслугу. Калі хто мне добро зробіць, то я ўдубальт адудзеньчу. Квасоўка.

Аду́ра м. ж. Той, хто дурное гаворыць. Нека адура, ні чалавек, сам ні ведая, што пляце. Рагачы.

Адхла́ны (атхланы) прым. Скупы. Нашы панэ вельмі атхланыя былі, ніґды нікому нічого ні пазычалі. Адэльск.

Адхля́біць (атхлябіць) зак. экспрэс. Шырока адчыніць. Ты што дзверы атхлябіў, у хаці і так хоць ваўкоў ганяй. Свіслач.

Адхля́шчыць (атхляшчыць) зак. Расшпіліць. Зашпілі пальто, а то атхляшчыў і стаіш на марозі, дрыжыш. Рагачы.

Ажахо́вы прым. Карычневы. У той час бабы ткалі андараке ўсе ажаховыя, наймаднейшыя тады былі. Агароднікі.

Акало́чанік м. Акалот. Акалочанікаў нарэзаў на сечку, будзя на пару дзён. Рацічы.

Акірна́чыць зак. Сесці верхам на што-небудзь і ахапіць нагамі. Акірначыў слон нагамі, сядзіць, як на кані. Караневічы.

Аклада́ць незак. Лупцаваць, біць. Дастаў біча і давай акладаць каня, а ён ні з месца, наравісты, тулькі галавой круціць. Каленікі.

Акладніцы мн. (акладніца адз. ж.) Шырокія дошкі, якія закладаюць паміж ручкамі воза для перавозкі гною. Каб больш гною накласці, на воз, акладніцы падымалі. Пагараны.

Ако́ліца ж. Засценак. У аколіцах шляхта казала: „Шляхціц на загродзе – роўны ваяводзе". Лаша. Дзе самыя лепшыя землі, там шляхецкія аколіцы былі, шляхта сядзела. Баброўнікі.

Ако́льнік м. Сталярная прылада для надання фігурнай формы

аконным рамам. Дзераво да акольніка сам зрабіў, жаляско старое, ашчэ дзедаво. Дзекалавічы.

Акоман. м. Аканом (службовец у панскім маёнтку). Некалі Альшэўскі ў Ляхнове акоманам быў, каровы займаў з руні. Кунцаўшчына.

Акрыванка ж. Вялікая хустка, якой жанчыны акрываліся ў дарозе, асабліва ў непагадзь. Без акрыванкі бабы ў дарогу ні ехалі, кожная брала. Пракопавічы.

Аксны мн. Асцюкі (шыпы). У курыцы аксны трэбо было павырываць, бо, як астыне, та ні дасі рады. Грандзічы.

Акуляры мн. Спецыяльнае прыстасаванне на вуздэчцы на ўзроўні вачэй, у выглядзе скураных паўкруглых латак, якое не дае магчымасці каню глядзець у бакі; шоры. У аднаго гаспадара палахлівы конь быў, насіў, і акуляры ні памагалі. Пагараны.

Акуце н. Металічныя дэталі, неабходныя для акоўкі драўляных земляробчых прыладаў, плуга, бараны і г. д. Пры паляках натта ш акуце было дарагое, ні даступіцца. Ферма.

Акуця выкл. Вокліч, якім выганяюць авечак з хлява. Акуця вон! Акуця вон! Пашлі ў поле. Лойкі.

Акцызны м. Акцызнік. Карчмарэ натта ж баяліса акцызнаго, ён глядзеў, каб ні абманвалі людзей, ставіў на кручке штэмпяль. Дзекалавічы.

Алёз м. Мокрае месца, парослае рэдкім лесам. Найбольш алёз зарастае лазняком і альхой. Сабаляны.

Алігант м. экспр. Ганарысты, фарсісты, элегантны хлопец. Алігант,– на ўвесь кант. (выслоўе). Панявічы.

Алігантны, алігантскі прым. Стройны, прыгожы, элегантны. Вылюдзіўсо, стаў алігантным хлопцам, стройным. Лугавая. Алігантскі, а да працы – нораў панскі (прыказка). Квасоўка.

Алінгерка ж. Верхняе жаночае адзенне з шэрага сукна, з чорным каўняром. У алінгерках жанке да касцёла хадзілі. Русота. Помню, ашчэ ў мамы была алінгерка. Круглікі.

Алуха ж. Канец, пагібель. Каб ні асвабадзілі нашы, та ўсім тут алуха была п. Пагараны.

Альшына ж. Альшэўнік. У Смузе над рэчкай альшына павырастала пад небо, ні пралесьці. Губінка.

Аляктроўня ж. Электрастанцыя. Першую аляктроўню пастроілі пры Саветах ў Вайтаўшчыні, на ўсю акругу свяціла, ціпер некі растаран зрабілі ў ёй. Кунцаўшчына.

Аман м. Чалавек, якога наймалі ў дарэвалюцыйны час багатыя яўрэі на сваё свята: яго вадзілі па вуліцы, піхалі, насміхаліся і г. д. Што вы,міне піхаяця, як амана? Індура.

Амарыканка ж. Гатунак бульбы. Некалі амарыканку садзілі, яна с такімі чырвонымі ямачкамі была, добро разварваласа. Пад'ятлы.

А́маць незак. дзіцяч. Есці. Можа ты, унучку, амаць ужэ хочаш? Скамарошкі.

Аме́шкацца зак. Абжыцца, усталявацца. Не паспелі мы тут і амешкацца, як зноў вайна надышла. Кунцаўшчына.

Анаві́цы мн. Штаны, нагавіцы. Надзеў святочныя анавіцы, а ў будзень ходзіць. Ліхачы.

Анге́лькі мн. Святочныя боты з дарагой скуры з высокімі заднікамі, якія насілі вайскоўцы і багатыя гаспадары пры панскай Польшчы. Ні кожны шавец мог добрыя ангелькі зрабіць, яны дораго каштавалі. Рацічы.

Андана́рнік м. Парабак, які атрымоўваў за гадавую службу аплату збожжам (пры панскай Польшчы). Ён на анданарыі быў – анданарнік. Цыдовічы.

Андына́рац м. Ардынарац. Як служыў у панскім войску, то андынарцам быў у паручніка, добро было, ні ганялі, як другіх. Гібулічы.

Ані́гдачкі прасл. Ніколі (узмацн). Анігдачкі больш рабіць так ні буду, хай яно пропадам прападзе. Каменка.

Ані́гды прысл. Ніколі. Больш анігды да вас ні паедзямо, хай вы згарэце з вашай гасцінай. Малая Альшанка.

Ано́да ж. Эфірнае масла, якое бедныя сяляне ў панскай Польшчы ўжывалі замест гарэлкі. Капнеш на цукар аноды, з'ясі – так у мазгах і заверне. Ліхачы.

Ано́дым м. Тое, што і анода. Анодым капалі на цукар і бралі ў рот. Я помню, мая цётка Тэкля піла. Загорцы.

Антлэ́ф м. Канец, пагібель. Антлэф мусі зараз ім будзя, ні вытрываюць. Індура.

Антыля́рыкі мн. Брыжы, карункі (на адзенні). Маленькія брыжачкі, такія тоненькія, называліся антылярыкамі, прышывалі да сарочак у два радэ. Клачкі.

Апары́шчыць зак. Зварыць, прыгатаваць ежу. Кап што кольвек апарышчыць, накарміць, ды хай ішлі б малаціць. Кавалічы.

Апасты́ць зак. Абрыднуць, апастылець. Ты ўжэ мне апастыў, глядзець ні хачу. Кунцаўшчына.

Апачы́на ж. Доўгае вясло для кіравання плытом (апачыны дзве – спераду і ззаду). Закідай апачыну ўлево! Трымай, кап ні зняслo! Свіслач.

Апе́нія ж. Аўтарытэт. Апенію зусім згубіў з-за гэтых бабаў, ніхто з ім не лічыцца. Скрыннікі.

Апе́шыць зак. Спалохацца, струсіць. Хлопец, як глянуў, што робіцца, так і апешыў, стаў, як укопаны. Дарашэвічы.

Апіна́стар м. Вожык; прыстасаванне, якое надзявалі цяляці, каб яно не ссала карову. Надзенеш апінастар, цяля ткнецца да лымя, а карова яму – бэнц нагой. Грандзічы. Азяркі.

Апі́ня ж. Тое, што і апенія. Ён ніякай апіні ні мае, як і яго на-

чальнік. Круглікі.

Аполец (аполяц) м. Вялікі кавалак сала. Паршука такрок закалолі добрага, ашчэ апольцаў тры маям сланіны. Дарашэвічы.

Аполіны мн. Адходы ад правейвання круп. Збяры аполіны, дый кінь пат свіня, хай перабіраюць. Бакуны.

Апона ж. Шына. Апону, мусі, на цвік прабіў, дух спускае. Жукевічы.

Апоўзлік м. Бесхарактарны, марудлівы, бязвольны чалавек (пагард.). Каб ён ні быў такім апоўзлікам, та пат старасць можно было б і на яго спадзявацца. Баброўнікі.

Апоўзлы прым. Бесхарактарны; марудлівы; бязвольны. Лазіць, як апоўзлы, ледво ногі валачэ. Рудавіцы.

Апрандаваць незак. Паважаць, шанаваць. Ён зусім свае жонкі ні апрандуя, за нішто мая. Круглікі.

Апсік! выкл. Вокліч, якім адганяюць ката. Апсік! Німа ад цібе спакою. Лаша.

Апуцканы дзеепрым. Вымазаны, запэцканы, забруджаны. Дзіця апуцкано, стварэня на ім ні знаць. Ферма.

Апуцкацца зак. Вымазацца, забрудзіцца, запэцкацца. Вытры бараду, а то апуцкаўса, як малы. Баранавічы.

Апуцкаць зак. Вымазаць, забрудзіць; запэцкаць. Скінь каптан, бо апуцкаяш ядучы. Бандары.

Апяхнуць зак. Адмовіцца ад сваіх намераў. Узяўса спачатку за работу, а пасля апяхнуў. Старая Руда. Пасля смерці жонкі хацеў жаніцца, а пасля апяхнуў. Кавалічы.

Арапорт м. Аэрапорт. Якрас двойка ідзе да арапорта, сядай жывей, паедзям. Калбасіна.

Армонік м. Гармонік. Іван добро граў на армоніку, прас сябе граць навучыўса. Грандзічы.

Асавік (і асавяк) м. Падасінавік. У нашым лесі асавіке растуць тулькі пад асінамі. Зарубічы. Гэта асавяк, ён робіцца такі разлезлы, як адварыш. Свіслач.

Асакор м. Таполя. За цесцям, каля Стасюка, рос асакор, ціпер спілавалі, пень адзін астаўсо. Пагараны.

Асашкі мн. Выязныя сані з фігурным верхам. Асашкі былі тулькі ў багатых гаспадароў, бедныя ні мелі. Бакуны. Некалі ў нас у Альшаніцы прывозілі ў асашках свянціць карапке, ездзілі да цэрквы. Вялікая Альшанка.

Асёлка ж. Асялок, брусок. Ён, бывало, мне паменьціць асёлкай касу, та яна аж ліжа, косіць траву. Свіслач.

Аскерыцца зак. З'едліва ўсміхнуцца. Ты што на міне аскерыўсо, глядзіш ваўком? Пагараны.

Аскоміна ж. Аскома. Пасля яблыкаў аскоміну набіла, хлеба ні ўкушу. Рагачы.

Аславухі прым. Аблавухі. Аславухія свіня файныя, яны добрыя

на сало, пародзістыя. Бакуны.

Асмолак м. Асмалак. У нікаторых вёсках называлі галавешкай, а ў нас – асмолкам, ім сувальскія пільшчыкі націралі шнурэ, значылі калоду. Караневічы.

Аснісека (асьнісека) ж. Доўгая пуга, якой паганялі валоў (устар.) Тады Сцяпан Бычок падняў аснісеку, што валоў паганяць, і давай сцёбаць жонку, што сляпому жабраку нічого ні дала. Капцёўка.

Асны мн. Маленькія, недаразвітыя зачаткі пярынак (застаюцца пасля абскубання на целе курыцы, качкі, гусі). Як аскубеш курыцу, та застаюцца аснэ, іх тулькі нажом можно павырываць ці асмаліць на агні. Круглікі.

Асыпаць зак. Акучыць (бульбу, буракі). Ні ўспеў, халера, бульбу асыпаць, а ціпер перарасла, ні улесці .Капцёўка.

Асыпаць незак. Акучваць. Пасля гэтаго дажджу ні шкодзіло б буракі асыпаць. Хамякі.

Асыпка ж. Мука грубага памолу з аўса і ячменю для жывёлы. Як асыпка есць, та і паршука можно выкарміць, як кажуць: „Кармі свіню мукой, та пойдзя рукой". Дарашэвічы.

Асяніна ж. устар. Звычай у сялян: восенню (на дзяды) даваць папу, пастуху, карчмару і настаўніку збожжа і бараніну. На дзеды калісьці ў нас пастыр хадзіў па асяніне, давалі яму па лусце хлеба, па сем хунтаў жыта, нікаторыя гаспадарэ давалі па лапаццы бараніны. Лаша.

Асянюк. М. Баранчык, які нарадзіўся восенню. З асянюка тонкая гаўчынка, на кажух ні гадзіцца. Свіслач.

Асянючок м. Тое, што і асянюк. Асянючка пакідалі на зіму, кап падрос. Карозічы.

Атвой м. Плынь ракі, якая адносіць ад берага на сярэдзіну. І папаў на атвой, чысто выбіўсо с сіл, думаў, ні даплыву да берага. Селюкі.

Аточына мн. Унутранае сала з кішак свінні. Аточыны некалі ператаплялі і на салі пяклі аглаткі. Зарыца.

Аўсюг м. (і аўсюга, ж. Аўсюк (пустазелле). Даўней ніяк аўсюгу ад гаўса ніхто ні аддзяляў, ціпер паліваюць – і прападае. Пагараны.

Афэйданы дзеепрым. Замазаны, забруджаны. Гэто такого ўжэ складу чалавек, вечно афэйданы лазіць. Салаўі.

Афэндацца зак. забрудзіцца. Зусім афэндалася каля свіней. Рацічы.

Афэрма м. Уродлівы чалавек. Але і афэрма, хто за яго замуж пойдзя. Караневічы.

Афяра ж. Ахвяра. Мне твая афяра ніпатрэбна, я ні жабрачка. Балічы. Афяру даваць – рэлігійны абрад, у пятніцу, перад Вялікаднем, прыносіць у царкву кужаль, ручнікі, настольнікі і класці

каля плашчаніцы. Мы, дзяўчата, хадзілі спяваць на клірас, а афяру давалі тулькі старыя бабы. Коматава.

Афяравацца зак. Даць клятву, абяцанне. Некалі афяраваліса схадзіць ў Журовічы, пакланіцца іконі божай мацяры; хадзілі і старыя і малыя. Клачкі.

Ахойваць незак. Абгаворваць, чарніць. Падло, нідобра баба, усіх паччыстую ахойвае, адна яна добра. Рудавіцы.

Аходжвацца незак. Упраўляцца па гаспадарцы. Наш тато заўсёды аходжваўсо да цямна, а вечарам плёў кошыкі, альбо вязаў волак. Рагачы.

Ацарапіць зак. Ачарэпіць, абняць рукамі. Налізаўса, як трэбо, ацарапіў дзераво і стаіць, пакуль ні зваліцца. Зарыца.

Ацепкацца зак. Растрапацца (пра краі тканіны, адзежы). Рукавэ могуць зусім ацёпкацца, доўго не находзіш. Лікоўка.

Аціца ж. мн. Аўсянік, крылатае насякомае, якое жыве ўсяго некалькі дзён; падзёнка. На аціцу рыбу добро лавіць, як закіняш вудачку, так і схопіць, тулькі цягай. Прывалка.

Ацюпіш выкл. Вокліч, якім адганяюць куранят. Ацюпіш! Ацюпіш! Пашлі пат курыцу. Лугавая.

Ачарэпіць зак. Абняць нагамі або рукамі што-небудзь. Помню, ачарэпіш каня нагамі і нясесса с хлопцамі навыператкі. Пыра.

Ачмяліць зак. Аглушыць. Паліцман – за печку, а ён яго як ачмяліў таўкачом па галаве, так той і сеў. Зарубічы.

Ашаке мн. Адходы пры ачыстцы збожжа ў выглядзе мякіны, каласкоў, пустазелля. Як нічыста пшаніца, яе скружваюць на рэшато, збіраюць ашаке. Свіслач.

Ашкіля выкл. Вокліч, якім адганяюць авечак. Ашкіля! Ашкіля! Пашлі ў поле. Сцяцкі.

Ашмуляць зак. Нацерці, прычыніць боль трэннем. Хамут замалы, конь чысто лапатку ашмуляў, мясо чырваніць. Балічы.

Ашуга ж. Галавакружэнне пры павышаным крывяным ціску. У галаве муціць, мусі ашуга прыстае, водзіць у баке, як станяш на ногі. Круглікі.

Ашчапенец (ашчапеняц) м. Пра малое дзіця, якое хапаецца рукамі за што-небудзь. Ашчапеняц некі, як учэпіцца ручанятамі, ні адарвеш. Свіслач.

Аюсь (і аюські) выкл. Вокліч, якім адганяюць свіней. Аюсь! Вон, халернікі, вы куды гэто улезьлі? Лойкі. Аюські! Аюські! У хлеў пашлі! Кунцаўшчына.

## Б

Баба[1] ж. Дэталь калодзежнага жураўля – стоўб з развілінай, на якім трымаецца рычаг (не вельмі тоўстае бервяно з процівагай на канцы). Некалі пры студні нашай была дубовая баба, ні

гніла. Сабаляны.

Баба² ж. Гатунак грушы. Бабы вырастаюць велькія, але даўкія, ні смашныя, доўго ні ляжаць. Рацічы.

Бабзно ж. экспр. Тоўстая, здаравенная жанчына. Тая бабзно і зноў нечаго прыходзіла, гаварыла з Агатай. Лаша.

Бабіч м. Бабнік. Стары падло, а яму ўсё на ўме адно – бабы, нідарма ш і празвалі бабічам. Кунцаўшчына.

Бабка ж. Страказа, драпежнае насякомае з доўгім брушкам і дзвюма парамі празрыстых сеткаватых крылаў. Бапка тая сіня, усё над вадою лётае, круціцца, на кустэ сядае. Табольская Будка.

Бабка ж. Бабок. Як палец нарывае, та бапкай прыкладалі, каб гной выцягало, бо гэта зелье лякарственае. Пышкі.

Бабуня ж. Бабуля. Бабуню, мы вас правядзем прас клатку, ні бойцяса. Клачкі.

Багацтво н. Багацце. Якое там у нас багацтво было, конь і карова. Рацічы.

Багон м. 1. Тарфяное балота (дзе капаюць торф). Даўней дроў ні было, палілі саломай, егдзілі ў багон па торпу. Круглікі. 2. Мокрае, балоцістае месца. Трэбо сухого року, кап праехаць праз багон. Табала. Праз багон познай восеню сам чорт ні прабярэцца. Галаўнічы.

Байбачыско м. узмацн. Байбак. Ты гэтаго байбачыска ні накорміш, крычыць, усё яму мало. Рагачы.

Бакеш м. Кароткая мужчынская вопратка з сукна. Новы бакеш Копель на свято пашыў, файно будзя хадзіць. Пракопавічы.

Бакляжка ж. Біклага. Напіліса мы, ашчэ ў баклашкі набралі і думаем: „Ціпер будзем жыць". Загорцы.

Балагэйла м. Бесталковы чалавек. Нейкі балагэуло, ні чалавек, як скажа што, – та німа на што слухаць. Карозічы.

Балахан м. Старая, парваная вопратка. Павесь свой балахан, хай ні валяецца пад нагамі. Агароднікі.

Балбан м. Высечаная або вылепленая фігура чалавека, балван. Пчолы чысто скусалі хлопца, ляжыць, як балбан. Рагачы.

Балбатух у знач. вык. Боўць, шабулдых. Чую – нехто балбатух у воду і паплыў на другі бераг. Балічы.

Балбянуць зак. Упасці неспадзявана ў ваду. Нага паслізнулаexcellent са, так і балбянуў с клаткі, тулькі булькаўкі пашлі. Лугавая.

Бало пабочн. сл. Бывала. Бало, людзі нітак жылі і здаровыя былі. Круглікі. Бало, і ў нас буяло, а ціпер і сухое ні гарыць (прымаўка) Рагачы. Бало, і ў нас рыкало, а ціпер і ні мычыць (прымаўка) Свіслач.

Балота (балото) н. Сенажаць. У нас было балото аж у Лянявіч, як пойдзямо грабіць сено, там і начуям, баімосо, кап хлопцы ні напалохалі. Свіслач.

Балэнтацца незак. Матляцца, целяпацца. У яго старого заўсё-

ды канец дзягі балэнтаецца, ні можа зашпіліць. Рагачы.

Балюшчы прым. Балючы. А рана тая доўго ні гавіласа, балюшчая, што хоць на сцену лесь. Салаўі.

Баляноўка ж. Даваеннай маркі веласіпед з драўлянымі абадамі, з шырокімі шынамі. У нашаго Стася ашчэ польская баляноўка есць, добро егдзіць па пясчанай дарозі. Квасоўка.

Бамбале мн. Пухіры на целе ад укусаў камара. Камарэ панакусвалі ногі, аж бамбале павыскоквалі, ні вытрымаць. Адэльск.

Бамбэрас м. Шматгадовая расліна, каля метра вышыні, з прадаўгаватымі ліісткамі, цвіце ружова-сінімі кветачкамі, утвараючы жывую агароджу. Праз бамбэрас ні пралезяш, густы, коляцца. Кунцаўшчына. На гарэ каля старога замка такі бамбэрас, што як пралазілі, та чысто ногі паабдзіралі. Ласосна.

Банкачэ мн. Авадні. Банкачэ жыць ні даюць, каровы гілазуюць, уцякаюць у кустэ. Сабаляны.

Банкі мн. 1. Бурбалкі на вадзе ў час дажджу. Мусі, задажджыцца, нат на лужынах банкі стаяць. Кунцаўшчына. 2. Мыльныя бурбалкі. Дзяцьмі збярэмса, наробім мыла і давай пускаць банкі на воду, чые даўжэй прастаяць. Луцкаўляны.

Банталацца незак. Матляцца. Карові, каб дахаты ні ўцякала с пашы, на шыю вешалі на вяроўцы калок. Калок банталаяцца, б'е па нагах, і карова ні ўцячэ. Кунцаўшчына. Прывяжы ляпей вяроўку да воза, хай ні банталаяцца. Кавалічы.

Барабан м. Мачавы пузыр (з свінні, выкачаны ў попелі, надуты паветрам і высушаны, з гарошкам у сярэдзіне) для забавы дзецям. Помню, як заколюць паршука, та тато с посіка нам рабіў барабан. Кунцаўшчына.

Барабуля ж. Бульба. На вячэру зварылі барабулі, с квасам паямо. Бычкі. Караневічы.

Баранцовы прым.: баранцовае небо – пакрытае перыстымі хмаркамі неба. Небо стало зусім баранцовым, мусі, непагадзь будзя. Бакуны.

Барбара ж. Вяроўка з кручаных дубцоў для прывязвання плыта да берагу ў час стаянкі. Скідай ганавіцы, скачы на барбару, трымай гартволь! Селюкі.

Барвінец м. Барвенак (шматгадовая травяністая расліна). Барвінец зялёны, ды па саду паслаўсо, а мой мілы чарнабровы па людзях сланяўсо (з нар. песні). Адэльск.

Барджэй прысл. Жывей, хутчэй, шпарчэй. Барджэй ідзі, каб ні спазніўсо на аўтобус. Табала. Барджэй сядай, ды паедзям. Верцялішкі.

Барліночак м. Барвенак. У нас у гародзі заўсёды барліночак рос, мама сеяла, як хто замуж ішоў – бралі. Круглікі.

Барыла (барыло) м. Пра тоўстага, непаваротлівага чалавека. Некі барыло прышоў, мусі, які начальнік? Гожа.

Бару́шчы прым. Бадлівы (пра рагатую жывёлу). Тато неку барушчу карову купіў – нагой у дайніцу як бэнцнула, так з рук і паляцела. Белева.

Ба́с м. Посуд у выглядзе высокай кадушкі, выдзяўбанай з дрэва, для захоўвання збожжа. У нас і ціпер бас стаіць пат хлявом, ні згніў, што даўней сыпалі жыто. Грандзічы, Азяркі.

Баса́к м. Бусак, багор. Хаці ні далі зусім згарэць, басакамі сцены расцягнулі. Пыра.

Басэ́тля ж. іран. Пра тоўсту́ю, мажную жанчыну. Іван узяў неку басэтлю-жонку. Пагараны.

Ба́т м. Вялікая лодка. Нешто бат пацёк, трэ латаць, вадэ набірая. Дарашэвічы.

Батарэ́йка ж. Кішэнны ліхтарык. Вазьмі батарэйку, на гуліцы цёмно, пасьвеціш сабе. Свіслач.

Баўто́к м. Наседжанае без зародка яйцо, баўтун. Курыца нідобро сядзела, кошкала, пераварочвала яйца – ні аднаго кураняці, усе баўтке. Лаша.

Баўту́н м. Балбатун, пустаслоў. Чалавек стары ўжэ, а некі баўтун, гаворыць абы-што. Верцялішкі.

Баху́р м. Бутуз; карапуз. Пашла б на работу, ды дзе гэтых бахуроў падзенеш, з кім пакіняш? Гібулічы.

Бахураня н. Малое дзіця. Бахураня падлезло пад вос, чуць конь ні наступіў. Старая Дубавая.

Баху́рка ж. Маленькая дзяўчынка. Самы паехалі, а бахурку пакінулі з малым дзецям. Пракопавічы.

Безгало́ўе н. Пагібель, няшчасце, бяда. А кап на яго якое безгалоўе прышло, кап ён ні вытрымаў, як нам уеўсо. Клачкі.

Безрабо́тны м. Беспрацоўны. У нас безработных німа, кап тулькі хацеў рабіць, работа знойдзяцца. Караневічы.

Бе́лка ж. Ваверка. Белка дзяцей ні баіцца, нават падрачваяцца з імі. Дуброва.

Бе́льмы (і бельмачы) мн. экспр. Пра вылупленыя вялікія вочы. Адышоў, бельма на міне вытрашчыў і стаіць, як вупар. Горніца. Пазалівають гарэлкай бельмачэ, што ім тыя дзеці. Хамякі.

Беляхце́ць незак. Бялець. Нешто далёко ў полі бяляхціць, а што – і сам ні знаю. Барбарычы.

Берагу́лька ж. Берагавая ластаўка, беражанка. Малымі, помню, гэтых берагуляк рукамі даставалі з норак. Занявічы.

Беражо́к м. Каляровая палоска па краі хусткі. Дзісь прадавалі ў магазіні файныя хусткі, я адну купіла з жоўценькім берашком. Калбаскі.

Беразіна́ ж. Бярэзнік. У беразіну як пойдзяш, так падбярозавікаў і набярэш кош, файных такіх. Зарубічы.

Берасце́нь м. Збанок без ручкі. Берасцень кіслаго малака за дзень выпіў, смажыло піць. Бандары.

Берда (бердо) н. Ткацкая прылада для набівання нітак утку на аснове бёрда. Берда і сталёвыя і дзеравяныя былі, мы дзяравянымі мешкавіну ткалі. Гліняны.

Беркулёз (бяркулёс) м. Туберкулёз. Антася німа, на бякулёс усё хварэў і памёр. Яскевічы.

Беспрасыпу прысл. Не прачынаючыся. Як лёг, так і спіць беспрасыпу другія суткі. Гліняны.

Бзік м. 1. Дзівацтва, капрыз. Нікуды ні дзеняцца, паганяя бзіка і зноў да жонкі верняцца. Эйсманты. 2. Невытрыманы чалавек, дзівак. Мікалай наш некі бзік, з ім талково ні пагаворыш. Квасоўка.

Бзыкаць незак. Агрызацца. Ціпер дзеці ні толькі ні слухаюць бацькоў, а бзыкаюць на іх, слова ні скажы. Каўпакі.

Бібула ж. Прамакатка. У добраго вучня і бібула чыста, прывязана на нітаццы. Лугавая.

Бібулка ж. Тонкая, празрыстая папера. У магазіні такую пяцёрку не прымуць, трэбо бібулкай склеіць. Калбасіна.

Бікеш м. Доўгая суконная мужчынская вопратка, падагнаная ў таліі і з распоркай ззаду; бекеша. Гэта як прыехалі з бежанства, з Расеі, то ўсе шылі бікешы. Караневічы.

Біла (біло). Папярочная перакладзіна (іх чатыры) для злучэння станін кроснаў. Замацуй білы клінкамі, а то кросна раз'едуцца. Каленікі.

Бімбус м. Здаровы, тоўсты, гультаяваты падростак. Гэтакі бімбус вырас, а бацькам нічого не памагая. Сапоцкін.

Бітка ж. Моцнае велікоднае яйцо. Той рок у міне бітка добра была, многа яец навыбіваў, пакуль на смаляное нарваўсо. Рагачы.

Бітушчы прым. Бойкі, агрэсіўны. А ніхай яго, натта ж пятух бітушчы, нікому прайсці ні дасць, ногі паабдзёўбваў. Струбка.

Блашыцы мн. Клапы. Блашыцы завяліся ў хаці, рады німа. Бакуны.

Блізма ж. (і блізна). Дэфект у тканіне, блюзна. Блізмаў нарабіла, брытко будзя людзям паказаць. Зарубічы. Сляпая, ні бачыла, што нітка парваласа, блізнаў нарабіла. Свіслач.

Блотнік м. Балотнік (дэталь веласіпеда). Каб ні блотнікі, та па той дарозі ні праехаў, калам закідало б усяго. Каўняны.

Блюзка (блюска) ж. Блузка. Там блюскі бывалі ўсялякаго коляру, якія толькі ўздумаяш, такія і былі. Адэльск.

Блюзэчка ж. Блузачка. Некалі шляхцянкі блюзэчкі насілі з крамнай матэрыі, пекныя такія. Занявічы.

Блят м. Верхняя частка стала. Маці кожную сыботу мыла блят гарачаю вадою, бо за тыдзянь дзеці чысто ўквэцаюць. Чашчаўляны.

Бляўзгаць незак. Плявузгаць, гаварыць абы-што. Што ты бля-

вузгаяш, людзей пастыдаўса п старэйшых. Баброўнікі.

Бляха́н м. Бляшаны бідон, конаўка для малака. Цэлы бляхан малака паставіла ў студню, кап ні скісло да раніцы. Малая Альшанка.

Бо́бяхі мн. Круглыя невялічкія камячкі; часцей – пра дробную бульбу. Некалі і гной клалі, а бульбы ні было, пачнем выбіраць – адны бобяхі. Чашчаўляны.

Бо́м м. Шост для праверкі глыбіні ракі і спіхвання плытоў з мелі; бома. Паглядзі бомам, ці далёко дно, а то сядзям. Селюкі.

Бо́міць незак. 1. Стукаць па вадзе шастом, наганяць рыбу ў невад. Мы будзям цягнуць сетку, а ты боміць, каб рыба ішла. Дзекалавічы. 2. Бубніць, паўтараць тое самае. Даволі боміць ужэ, галава пэнкая ад цябе. Свіслач. 3. Плакаць (пра дзяцей). Ты што гэто боміш, маці прыдзя, нідзе ні дзеняцца. Балічы.

Бо́мк м. Авадзень. Бомк, як нападзе на коні, та ні ўтрымаяш, круцяцца, матырхаюць галавамі, храпуць. Свіслач.

Бо́мка ж. Тое, што і бомк. Бомка напала на коні, круцяцца, німа як гараць. Хвайняны.

Бо́нда[1] ж. Невялікі хлябок. Помню, маці выскрабая з дзешкі цесто і пячэ бонду. Пагараны.

Бо́нда[2] ж. Карова, якую бацькі давалі дачцы ў пасаг. Добру бонду прывяла Маня, цэло вядро малака дае. Каўпакі.

Бо́ндачка ж. Невялікая булачка. Ні плач, Колік, я табе бондачку спяку, будзяш есці, а тато верняцца. Грыўкі.

Бо́рсаць незак. Таптаць, ламаць, псаваць пасевы. Коні жыто борсаюць, а ты спіш, халернік. Ханявічы.

Бо́тка ж. Стрэмка. Ботку забіў пад ногаць, ледво дастаў. Батароўка.

Бо́ўт[1] м. Шост з перакладзінай на канцы, якім наганяюць рыбу ў волак. Боўтам боўтаяш ў асацэ, каб рыбу нагнаць. Балічы.

Бо́ўт[2] м. Балбатун, пустаслоў. Сядзіць, ды што як баўтане, та хоць вушы затыкай. Ну, вядома, боўт. Сухая Даліна.

Бо́хаць незак. 1. Ліць больш, чым трэба. Што ты бохаяш малако, а дзеці што будуць есці. Рагачы. 2. Моцна кашляць. Бохая на ўсю хату, аш страх слухаць. Кунцаўшчына.

Брава́рка ж. Мужчынская вопратка з сукна, падбітая футрам. Некалі ўсе да маго тата прыходзілі хлопцы пазычыць браваркі ехаць да вянца. Клачкі.

Бра́гяль м. Шчэбень, друз. Брагялю навязлі, відаць, дарогу будуць праводзіць. Галаўнічы.

Бра́згаўка ж. Бразготка. Дзіцяці як дасі бразгаўку, яно забаўляяцца, ні плача. Ялаўшчына.

Бразгаце́ць незак. Рабіць шум ударамі аднаго прадмета аб другі, стукацець, звінець, бразгаць. Нешто ў возі бразгаціць, і сам ні ведаю што. Брузгі. У багатаго ў кішане грошы бразгацяць,

а ў беднаго што? Свіслач.

Братанак м. Братаў сын. Братанак часто бывая ў нас, памагая старым. Кулёўцы.

Братанка ж. Братава дачка. Братанка, мусі, замуш пойдзя – хлопяц быў у сватах. Некрашы.

Брохаць незак. Грукаць абуткам. Пасля дванастай усё нехто брохаў, хадзіў па падворку, сабакі брахалі. Жукевічы. Ні брохай ботамі, дзіця спіць. Каўпакі.

Брук м. 1. Брук[2]. Каменная агароджа. У Кунцаўшчыні ўсе палеткі абнесяныя брукам, каб жывіна ў шкоду ні лезла. Лаша. 3. Штабель торфу. Як торпа трошкі пацсохня, яе складаюць у брук. Круглікі.

Брушка ж. Бручка. Ціпер брушкі ніхто ні варыць, а матка часто варыла, смашна была. Белева.

Брушкавене н. Бручкоўнік; бручкавае бацвінне, лісце бручкі. Бручкі ні відаць, адно брушкавене вырасло. Агароднікі.

Брыжы мн. Вязаны чэпчык з карункамі, які насілі замужнія жанчыны на галаве пад хусткай. Як толькі вышла замуж, так на галаву і надзела брыжы. Клачкі.

Брызгаўка ж. Авадзень. Брызгаўкі на коні нападаюць, страшэнна тнуць, ні ўтрымаць. Парэчча.

Брызгачэ мн. Скручаныя ў пучкі ніткі па краях настольніка, хусткі; дробныя кутасікі. Брызгачэ ў настольніках абвязалі, кап ні цёпкаліса. Лікоўка.

Брызгота ж. Слота, мокрая пагода. На дварэ нека брызгота, ні хочацца з хаты выходзіць. Сухмяні.

Брызготна прысл. Сыра, мокра (пра пагоду). Як выганялі каровы раніцай, халадно было, брызготна неяк, ціпер пацяплело. Гарны.

Брызгуль м. Драўляны самаробны гузік у выглядзе кароткай палачкі; бірка. Як адарвецца брызгуль ат світкі, ні бяда, купляць ні трэбо, сам зробіш. Брузгі.

Брызгульчыкі мн. Біркі. Брызгульчыкі прывязвалі да гаўчын, каб ні паблытаць. Рыбніца.

Брылік[1] м. Посуд, сплецены з саломы і лазы для вымярэння і рассявання збожжа. Набярэш поўны брылік збожа і сеяш памаленьку, пакуль ні кончыш, тады зноў набіраяш. Батароўка.

Брылік[2] м. Услончык, зэдлік, тапчанік. Стары наш возьме брылік, сядзя каля печы і грэя плечы. Прыгодзічы.

Брылік[3] м. Казырок. Мы табе, Ґенік, шапку з брылікам купілі, кап слонца ні пякло, нос ні аблазіў. Скідаль.

Брымкаць незак. Іграць няўмела на музычным інструменце, брынкаць. Ні ўмеяш іграць – кінь брымкаць пад вўхам. Ханявічы.

Брында ж. Неахайная жанчына. Хто ні казаў, але ні гэта брында сама вечна абрындана поўзая. Прывалка.

Брындачэ мн. Растрэпаныя ніці па краях абруса, ручніка, хусткі. Чысто брындачэ ў настольніку паабрываліса, німа як на стол засцілаць. Рудавіцы.

Брындуляць незак. Няўмела іграць на струнным інструменце, брынкаць. Узяў балалайку і брындуляя нешто. Гродна.

Брынчаць незак. Нездаволена мармытаць, бубніць. Сказала яму дзіця пільнаваць, ні ідзе, стаў і нешто брынчыць сабе пад нос. Балічы.

Брыскотна прысл. Мокра, сыра. Нека імжа на гуліцы, брыскотно стало. Каленікі.

Брысы мн. Вусікі ў пшанічным коласе. Да вайны нікаторыя брысатую пшаніцу сеялі, у яе такія брысы доўгія былі. Свіслач.

Брытаць незак. Заблытваць (пра ніці). Брытаць матке вы ўмеяця, а хто размотваць іх будзя? Карозічы.

Брэдзіць незак. Трызніць. Стары зусім аслаб, брэдзіць, гаворыць сам да сябе. Агароднікі.

Брэндацца незак. Хадзіць, сланяцца без патрэбы. Цэлы дзень недзя брэндаяцца, каля хаты ні прыпыняяцца. Гродна.

Брэндаць незак. Няўмела іграць на струнным інструменце, брынкаць. Узяў мандаліну і брэндая, здаецца, ні ўмеяш – ні бяры. Лікоўка.

Брэчкі мн. Карункі. Даўней дзяўчаты апшывалі брэчкамі рушніке, рукавэ ў блюсках. Струбка.

Бубешка ж. Круглы камячок, шарык. Як патклала гною, та на маей півоні бубешак, як усыпано. Скідаль.

Бубнець незак. 1. Біць у бубен, бубніць. У бубен бубнець таксамо трэбо ўмець (прымаўка). Бубны. Аб ім усюды, як у бубен бубняць. Скідаль. 2. Гаварыць невыразна, незразумела, бубніць. Што ён там бубніць, чорт яго ведае. Лукавіца.

Бугаіско м. экспр.. Пра гультаяватага дужага мужчыну. Бугаіско гэты глядзіць толькі сібе, жонка зусім дайшла, ледво ходзіць. Рагачы.

Будта (бутто) прысл. Нібы, нібыта. Іван наш бутто на смех людскі ўсё робіць, абы жывей. Свіслач.

Буза ж. Сумесь розных рэчываў (пра яду). Наварыла нейкай бузы, сама еш! Жытомля.

Буйда ж. Няпраўда, хлусня. Гэта буйда, ні вер нікому. Квасоўка.

Буйка ж. Бойка. Буйка есць і добро, часамі масло зб'еш сваё. Рацічы.

Букіш выкл. Вокліч, якім дражнілі барана. Букіш і Букіш і Баран – бэ-бэ-бэ і ...Белева.

Булавешка ж. экспр.Пра дзіця. Ты што гэта зрабіў, булавешка твая дурная. Кунцаўшчына.

Бульбавене н. Бульбоўнік, бульбянік. На бульбавене бульба

вырасла, а пат кальвам німа – адна, дзве бульбачкі. Скамаршкі.

Бульбаткі (і бульбаўкі) мн. Бурбалкі. Як шуснуў у воду, тулькі бульбаткі пашлі. Азёры. На лужах бульбаўкі пасталі – задажджыцца. Баранава.

Буля ж. дзіцяч.. Бульбачка. Ні плач, зарас маці булю дасць, будзяш есці. Рудавіцы.

Бунаваць незак. Буяніць, скандаліць. Зяць як пачаў бунаваць, ні было рады, мусяў да вас начаваць ісці. Бабpоўнікі.

Буракавене н. Бацьвінне, лісце і сцеблы буракоў. Як німа часу збіраць зелье, наломіш буракавеня, кінеш – і свіня ядуць. Рудавіцы.

Бурдовы прым. Бардовы, цёмна-чырвоны. Пражу на дыванэ хварбавалі на бурдовае або зялёнае. Кунцаўшчына.

Бурдыга ж. Вялікі кусок, кавалак. Ні дачакаўшыса вячэры, узяў бурдыгу хлеба і ўсухамятку есць. Бабpоўнікі.

Буркаўка ж. 1. Ваўчок. Дзед наш рабіў нам буркаўкі, распілуя шпульку,. усадзіць шпеньчык і – буркаўка. Бубны. 2. Дзіцячая забава, вялікі гузік, насаджаны праз дзіркі на падвоеную нітку, ваўчок. Таму і называяцца буркаўкай, што гузік круціцца та туды, та сюды і бурчыць. Рагачы.

Бурскануць зак. Кінуць на зямлю, марскануць. Здаецца, малы, а як схапіў за грудзі, так і бурскануў фацата аб зямлю. Лаша.

Бурыць незак. Падбухторваць. Верка ўсё міне бурыць, кап карову прадала. Свіслач.

Бушвалак м. Важкі дручок, дубіна. Я схапіў некі бушвалак і думаю: „Хай тулькі зачэпіць". Белева.

Быдлаваць незак. Пра перыяд палавой актыўнасці ў кароў, бегаць. Учора пастух наказваў, карова быдлуя, трэбо да быка вясці. Лугавая.

Быля-куды прысл. Абы-куды. Надаело ўсё, пайду быля-куды, каб і вочы ні бачылі. Круглікі.

Быля-што прысл. Абы-што, што папала. Пляце быля-што, а ты, як дурны, сядзі і слухай. Гушчыцы.

Быля-як прысл. Абы-як, як папала, неахайна, нядбала. Ён і майстар такі, робіць быля-як, а грошы бярэ добрыя. Пракопавічы.

Бэмбяль м. Пухір. На руцэ некі бэмбяль выскачыў, свярбіць. Адэльск. Камароў процьма, чысто скусалі, ногі ў бэмбялях. Кунцаўшчына.

Бэнтацца незак. Матляцца, целяпацца. Бэнтаяцца, як у сабакі хвост. Гожа. Адваяваў наш Янак, левай рукі німа, адзін пусты рукаў бэнтаяцца. Гродна.

Бэнцнуць зак. Ударыць, выцяць. А паліцман мне як бэнцнуў у морду, аж у гачах пацямнело. Бабpоўня.

Бэткаць незак. Штурхаць, падымаць, будзіць. На раніцы бэткаяш, а ён спіць, як пшаніцу прадаўшы. Ферма.

Бэ́хі мн. экспр. Пра малыя дзеці. Забірай сваіх бэхаў, надаелі за цэлы дзень, як горка рэцька. Дубоўка.

Бялеўка ж. Белая даматканая паўшарсцяная спадніца. У бялёўцы кепско было хадзіць, натта ж урабляласа. Струбка.

Бязлюднік м. Нелюдзім. Сядзіць гэты бязлюднік, як воўк, на сваім хутары. Вусенікі.

## В

Ва́бік м. Невялікі вулей для заманьвання пчол. Вабік павесіў на ліпу, можа, які рой прыляціць. Зарубічы.

Вага́рыць незак. Прагуліваць, прапускаць (урокі). Вясной мы часто вагарылі, хадзілі на Нёман, у лес. Гродна.

Ва́да ж. Загана, недахоп. Чужыя вады бачыш, а сваіх і знаць ні хочаш. Лугавая.

Ва́дзіць незак. У час гульні выконваць самыя цяжкія абавязкі. Як пачнем гуляць у лапту, та Толік вадзіць і вадзіць, ніяк ні адгуляяцца. Свіслач.

Вайта́ць незак. Наракаць, выказваць крыўду, незадавальненне. Яны хай ні вайтаюць на сваіх дзяцей, яны і так добрыя вэдлуг іх. Ферма.

Ва́л м. Ніткі нізкага гатунку. Пры паляках мы ўжэ з валу ні ткалі, у нас воўна была. Новая Руда.

Валаві́на ж. Ялавічына. Свініна рэдко бывая, а валавіны можно браць, сколькі хочаш. Гродна.

Валаво́д м. Вяроўка, на якой водзяць карову. Падаткі былі такія, што бяры карову за валавот і вядзі прадавай. Бубны.

Ва́лак м. Прыстасаванне для разгладжвання бялізны, валок. У нас і ціпер есць валак, што дзед зрабіў з дубу. Зялёная.

Валаке́ мн. устар. Прылада для перавозкі драўлянага плуга. Бывало, плух паложыш на валаке, сядзеш і едзяш на палудзянь. Каменка.

Валако́ннікі мн., валаконнік адз., м. Валачобнікі. Валаконнікі недзя спяваюць, хутко да нас прыдуць. Лойкі.

Валасні́к м. (і валасяніца ж). 1. Паразітычны вадзяны чарвяк. 2. Хвароба скуры ног у чалавека. Маці палохала нас: „Ні купайцяса доўго, а то валасяніца ўлезя ў ногу. Кунцаўшчына. У міне ў самого была валасяніца, месца ні знаходзіў, пакуль баба Гануся ні выліла на жытнія каласэ. Кунцаўшчына.

Валацэ́нга м. Валацуга. Ты дзе быў, валацэнга, у цібе дзіцей німа, ці жонкі, што валочысса? Лойкі.

Валачо́нна мн. Фарбаваныя яйкі, якія даюць дзецям на вялікдзень. Хрышчона матка шторок давала нам валачонна, нігды ні забывала. Быльчыцы.

Валачо́ннікі мн., валачоннік адз., м. Валачобнікі. Як учуяш, што

співаюць валачоннікі, так і гатовіш яйца і пірог. Брузгі.

Валён (і вэлён) м. Вясельны ўбор маладой. А валён у маладой быў харошы, доўгі, канец у руцэ трымала. Лікоўка.

Валізка (валіска) ж. Чамадан. Даўней з валіскамі ездзілі толькі панэ і ўжэнднікі, а ціпер кожны з валіскай. Квасоўка.

Валкаваты прым. Сываваты, нявысахлы. Жыто валкавато, ашчэ німа як вазіць. Саломенка.

Валкаўніца ж. (і валка (валко) н. Прыстасаванне для разгладжвання, качання бялізны. Раней возьмя маці валкаўніцу, пакачая плаце, і такое гладкае было, ніякіх жаляскаў ні зналі. Прыгодзічы. Рушнік накруціш на качалко, а валкам качаяш, пакуль ні выкачаяш. Дзекалавічы.

Валокальнікі мн., валокальнік адз. Валачобнікі. Валокальнікі спявалі дзяўчатам: „Добры вечар, панянэчко", а хлопцам – „Добры вечар, кавалежэ". Талочкі.

Валокаць незак. Валачобнічаць, хадзіць з песнямі на вялікдзень. Як толькі прыцямнея на першы дзень вяліканца, так хлопцы і пашлі па хатах валокаць Талочкі.

Валося ж. устар. Жаночы вечар-свята ў канцы лютага – пачатку сакавіка з часоў паганства. На Валосю бабы як разыдуцца, так гуляюць да дзвюх гадзін ночы, скачуць, спяваюць, дурэюць. Клачкі. Бацюшка быў проціў Валосі, казаў – гэто ні свято, выдумкі нейкія. Кунцаўшчына.

Вальц (і валец (валяц) м. Вальс. Заграй нам вальца „Пі, браце, пій! На старасць – торба і кій". Міцкавічы.

Валяг (валях) м. Гультай. Валях страшэнны, а нічого ні хоча рабіць. Стральцы.

Валяць незак. Качаючы, размінаючы, рабіць сукно больш шчыльным, цвёрдым. Дзет казаў, што некалі сукно вазілі валяць аж у Нізбудак, а ў нас валялі ў Фолюшы. Баранавічы.

Вангеля н. Евангелле. Вангеля хлеба ні намеля (прымаўка). Пагараны.

Вангерка ж. Гатунак слівы. Пасля тых марозаў усе вангеркі вымярзьлі, рэтко ў каго засталіса. Рагачы.

Вангор м. Вугор. Дзед казаў, што вангор чуя гарох здалёк, ночу па расе так і паўзе туды. Лугавая.

Ванджэга м. Цяльпук, цюхцей. Некі ванджэга, ні мужык; каб ні жонка, прапаў бы. Рудавіцы.

Вандзідла (вандзідло) н. Цуглі. Дай каню вадзідло ў зубы, каб ні панёс. Саннікі.

Вандолы мн. Выбоіны, калдобіны. Дарога зусім разбіта, адны вандолы, ні праехаць. Занявічы.

Ванзэлак м. Клунак. Узяў ванзэлак і пашоў у дарогу, нічого ні сказаўшы. Пяслі.

Вантабура ж. Сварка. Зайшоў да дачкі, та зяць як падняў ванта-

буру, ледво з хаты выскачыў. Баброўнікі.

Вáнтух м. Пра вялікі жывот. Як начальнікам стаў, та і вантух наеў, ледво поўзая, бедны. Эйсманты.

Варóнка ж. Душнік у склепе. Кожны раз затыкай добро варонку саломай, каб мароз ні ўвабраўсо. Бакуны.

Варóцечкі (вароцячкі) мн. Веснічкі, варотцы. Вароцячкі зачыняйця, кап свіння ні ўлезлі. Бакуны.

Варóчацца незак. Вяртацца. Хоць што і забыўса ўзяць, з дарогі ні варочайса. Каробчыцы.

Вартаўнéйшы прым. Каштоўнейшы, большварты. Жытня зямля мо.жа нават вартаўнейша за пшанічну, пшаніца вырасця ці не, а жыто – заўсёды вырасця. Квасоўка.

Васарвáга ж. Ватэрпас. Васарвагу я сам зрабіў, шкельца з вадой дастаў з німецкага танка. Дзекалáвічы.

Васісéр м. Прайдоха, прайдзісвет, дробны жулік. Хлопцы, некі васісёр паявіўсо, круціцца каля нашых дзяўчат. Кунцаўшчына.

Васмáхтар м. устар. Пасрэднік у час продажу ці куплі жывёлы (каня, каровы) да 1939 г. Э, браце, даўней без васмахтара каня ні прадасі. Рацічы.

Вáсь! выкл. Вокліч, якім клікалі свіней. Вась! Вась-вась!.. Усе да карыта! Луцкаўляны. Круглікі.

Васьмірýчка ж. Від касы. Для міне васьміручка самы рас каса, добро косіць. Струбка.

Ваўнýшка ж. Ваўнянка. Ваўнушкі трэбо добро адварваць, каб горкія ні былі. Казіміроўка.

Ваўчакé мн. Вострыя клычкі ў парасят. Трэбо ваўчаке абцэнгамі пазломваць, а то парася зусім схудло, ні можа есці. Свіслач.

Вéдзьма ж. Пра вялікага матыля цёмнага колеру, які вечарамі ўлятае ў хату і кружыць каля лямпы, у святле. Зачыняй акно, а то і зноў ведзьма ўляціць у хату. Рацічы.

Вéля прысл. 1. Многа. Так веля было народу, што ў хату ні змясціліса, стаялі пад вокнамі. Кузьмічы. 2. Колькі. А веля гэта каштаваць будзя? Вулькаўцы.

Велькáнац м. Вялікдзень. Велькaнац быў той рок халодны, яйкі памерзлі. Баранавічы.

Вéлькі прым. Вялікі. Ты мусі вельку пэнсію палучыў, ні такую, як я? Верцялішкі. Велька мадэра – вялікая справа. Падумаяш, велька тут мадэра зрабіць вуляй, я і сам зраблю. Васілевічы.

Вéрхнік м. 1. Фрамуга. У старых хатах верхнікаў ні было, трэба было аччыняць акно або дзверы. Каменка. 2. Квадратная адтуліна ў тыльнай сцяне курнай хаты (для дыму). Верхнік аччынялі на Дзеды, каб душачкі змарлыя прышлі на вячэру. Лáша. Трэбо верхнік аччыніць, кап хутчэй сканаў чалавек, ні мэнчыўса. Кавалічы. 3. Верхняя дэталь ільномялкі, церніцы. Яшчэ цёмно, а дзяўчата ўжэ ляскаюць верхнікамі, труць лён. Бакуны.

Вéрцяха ж. Макацёр (макатра, гліняная пасудзіна, у якой труць (мелюць) мак, ільняное семя.) У верцясі мак аднаму ні змалоць, трэбо, каб хто трымаў, а другі – малоў. Балічы.

Весялýха ж. Вясёлка. Глядзі, весялуха воду п'е, патопу больш ні будзя. Галавачы.

Вецінáр м. Ветэрынар. За вецінара вышла, добры хлопец, толькі што нісцітут кончыў. Дарашэвічы.

Вéялкі мн. Вейкі (вачэй). А яна стаіць і веялкамі моргая, як дурная. Клачкі.

Вігíлія ж. Урачыстая вячэра напярэдадні каляд у католікаў, як куцця ў праваслаўных. На Вігілію на стол клалі сена, засцілалі абрусам, пакуль зорка пакажацца. Казловічы. На Вігілію падавалі куцю з макам, сялядцы, ламанцы – усяго дванаццаць патраў. Кузьмічы.

Відня́ць незак. Віднець, світаць, святлець. Яшчэ ні відняло, а немяц ужо ляцеў бамбіць Гродно. Гібулічы.

Віслá (вісло) н. Рычаг – вага, дэталь каладзежа-жураўля, якая апіраецца на стойку. Што хочаця, на цэлу вёску толькі дзьве студні, вісло не пераставало скрыпець. Зарубічы.

Вісóк м. Скронь. Чалавек, здаецца, ні стары, а віске зусім белыя. Барбарычы.

Вóбмарак м. Непрытомнасць. Як сказалі, што сына німа, так у вобмарак і ўпала, ледво вадой адлілі. Славічы.

Вóгер м. Жарабок, непакладны конь; конь-самец. Учора вадзіў кабылу да вогера. Лойкі.

Вóжык м. Прылада з вострымі цвічкамі, якую вешаюць на мысу цяляці, каб не ссала карову. Цяля чысто карову дабіло, трэбо мусі адлучаць, вожык вешаць. Лужкі.

Вóз м. Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Глядзі, воз зусім перахіліўсо, світаць мусі будзе. Забагонікі.

Вóздзека, вóзьдзе і войдзе прысл. Тут. Во, сядзь, воздзека, каля міне, пагаворым, як жыць будзямо. Баброўнікі. Ты, мусі, шапку шукаяш, а яна возьдзе, ляжыць. Батароўка. Войдзе рэчку і ў брод можно перайсці, ні вельмі глыбока. Ласосна.

Вóле н. Валлё (пашыраная частка стрававода ў птушак для накаплення ежы). Ты бачыш, як жоўта курыца наеласа, аж воле перабэчыласо. Зарубічы.

Вóляк м. Расол з-пад селядцоў. У вялікі пост маці паставіць у місцы трошкі воляку, і мы мачаям у яго бульбу, ямо. Лужкі.

Вóпарак м. Прашча; прылада з вяровачкі і раменьчыка для кідання невялікіх камянёў. Як малыя былі, то ўсё з вопаракаў каменьчыкі кідалі, як кіняш, та аш засвішча, ляціць. Балічы.

Вóпцасам прысл. Нахабна, бесцырымонна. Ты чо гэта вопцасам на людзей лезеш, як табе ні брытко? Літвінкі.

Вóрак м. Вяшок. Картофля хай ашчэ ў ворках пастаіць, а потым

у склеп высыплям. Ланявічы.

Ворса ж. 1. Кароткія валаскі на целе чалавека, якія паўстаюць пры паніжэнні тэмпературы. Змерзла, глядзі, як ворса на руках папаўставала. Сцяцкі. 2. Кароткі начос на паверхні некаторых тканін; ворс. Моцно ні шаруй шчоткай, а то, бачыш, як ворсу паздзіраў, зараз дзірка будзя. Аульс.

Вочкі мн., вочко адз. н. Вочко. Зародкі парасткаў на клубнях бульбы. Я стараюса бульбу так рэзаць, каб у кожнай часцы было ні меньш як па два вочкі. Кругляны.

Вугор м. Невялікі бугарок на спіне ў рагатай жывёлы, утвораны лічынкамі авадня-падскурніка. Як націсняш пальцамі, так вугор у каровы с-пад скуры і вылязя, упадзе. Я сама вугры выціскала. Рагачы.

Вуек м. Дзядзька; брат бацькі або мацеры. Я добро помню, як вуек на вяльканац яйка маляваў. Эйсманты.

Вунака і вундзяка часц. Вунь там. А вунака твая кабыла ходзіць, нідалеко лесу. Жукевічы. А вуньдзяка брод, там можаш перабрысці на той бок. Свіслач.

Вупар м. Пра ўпартага падлетка. Ты чаго гэта стаў у кутку. вупарам, слова ад цібе ні даб'еся. Свіслач.

Вутлы прым. Хваравіты; слабы. Ён зусім у міне вутлы, абы чуць дзе прадуло, так і хварэя. Вялікая Жорнаўка.

Вуці-вуці-вуці! выкл. Вокліч, якім падзываюць качак. Вуці-вуці-вуці! Вуцячкі вы мае, хадзеце, дам есці. Кашэўнікі.

Вучыцелька ж. Настаўніца. Да нас нека нова вучыцелька прыехала, дзяцей вучыць будзя. Кулёўцы.

Вушанята мн. ласк. Вушы. Ляпей шапку нацягні, а то вушанята адмерзнуць. Лукавіца.

Вушлы прым. Пра хітрага, лоўкага чалавека. О, вушлы быў чалавек, я яго добро знаю, любого мог абмалахтаць. Баранава.

Выблякнуць зак. Выцвісці, страціць першапачатковы колер; зліняць. Гэтаго на касцюм ні бяры, ён можа выблякнуць на слонцы. Пруды.

Выбрыкаць зак. (незак. выбрыкваць). Конь мой, як пapастаяў без работы, так і пачаў выбрыкаць, у хлеў ні зажанеш. Бірулічы.

Выбухаць зак. Выліць усё адразу. Ты нашто гэта ўсю воду з вядра выбухаў, напіцца нават ні пакінуў. Горніца.

Вывальгіс м. Гультай; лежабок. Сынэ нашаго Адама некія вывальгісы, анічого ні хочуць рабіць. Скідаль.

Выгінуць зак. Загінуць, прапасці; знішчыцца. На полі сьнегу зусім мало, пшаніца можа выгінуць, вымярзьне. Аленічы.

Выгнаіць зак. Угноіць. Ён кожны рок зямлю як добро выгнаіць, та і пшаніца расце, аш паляжа. Літвінкі.

Выгорваць незак. Выворваць. Бульбу трэбо было выгорваць, а то потым коняй ні дастаняш. Луцкаўляны.

Выдзірак м. Узараная цаліна. На выдзірку добро жыто родзіць, мы ў той рок коп дзесяць нажалі. Галаўнічы.

Выдлужыць зак. Асіліць, адолець. Панабіралі ўсюды даўгоў, ні ведаю, ці ён выдлужыць іх выплаціць. Галавенчыцы.

Выжалабкаць (выжалапкаць) зак. Выхлебтаць; выжлуктаць. Як дабраўсо да малака, та с паўзбанка адразу выжалаптаў. Лаша.

Вызікацца зак. Вылаяцца; нагаварыць грубасці. Ён у міне такі, можа на цібе вызікацца, але крыўды ні зробіць, праз мінуту якую адыдзе, добры. Дзекалавічы.

Вызубаць зак. Выбраць моцнае яйцо, лёгка пастукваючы аб зубы. Столькі ў цябе яец, і ты ні можаш сабе вызубаць моцнае яйцо. Агароднікі.

Выкапаны дзеепрым. перан. Падобны, такі самы; выліты. Наша Алеся — выкапаны бацько, усё ў яго пераняла. Гродна.

Выкаркулёўваць незак. перан. Разлічваць, размяркоўваць. Трэба было добро выкаркулёўваць, каб да вясны на такой гаспадарцы пратрымаць каня і карову. Славічы.

Вылажыць зак. Кастрыраваць; вылегчыць. Я і сам магу сваіх парцучксў вылажыць, ні трэбо прасіць. Навасёлкі.

Вылапатаць зак. перан. Выхлебтаць, выпіць. Коля, глядзі, кот малако з ладышкі вылапатаў, нічого ні пакінуў. Лаша.

Выластажыць зак. Вылупцаваць, моцна пабіць, адлупіць. Здаецца, ужэ так выластажыў хлопца, а ён усёроўно ні слухая, сваё выробляя. Пагараны.

Вылахаць зак. Выесці; з'есці поўнасцю. Я і сама дзіўлюса, куды ўсё дзяваяцца; што ні дасі — усё вылахая, а поправы яму — німа. Селіванаўцы.

Вылахтаць зак. Тое, што і вылахаць. Паршук у міне добры, што ні дасі, стараяцца ўсё вылахтаць. Дубоўка.

Вылюдзіцца зак. Стаць рослым, прыгожым, выхаваным; вылюдзець. Усе быў некі нігеглы, а ціпер паглядзеця, які хлопяц стаў, патрапіў вылюдзіцца. Старая Дубавая.

Вылягоўвацца незак. Вылежвацца. За яе ўсё паробяць, а яна тулькі вылягоўваяцца сабе, як якая пані. Дзекалавічы.

Вымагляваць зак. Выпрасаваць, выгладзіць. Некалі ніякіх гэтых жалясkaў ні было, магляваді валкам і качалкам, і ўсё глаткае было. Свіслач.

Вымаклі мн. Пасевы, якія загінулі ад празмернай вільгаці. Гэтыя вымаклі і ціпер трэбо будзя атсяваць ячменям, кап пустое поле ні ляжало. Рудавіцы.

Вымаліставаць зак. Вымаліць, выпрасіць. Ледво вымаліставаў, аніяк ні хацеў даць сошкі бульбу абгараць. Дзекалавічы.

Вымантажыць зак. Вымаліць; набыць хітрыкамі, падманам, выманіць. Як прыстаня да чалавека, та ўсяроўно што вымантажыць у яго, так ні пойдзя. Свіслач.

Вы́мантаць зак. Тое, што і вымаліставаць. Дошчак уже дастаў, а як гэто было б ашчэ ў яго вымантаць на печку кахлі. Дзекалавічы.

Вы́манчыць. Вымаліць, выпрасіць настойлівай просьбай. А хай яго, ледво нейк выманчыў, аніяк ні хацеў атпускаць дроў. Баранава. Ён у кожнаго выманчыць, што яму трэбо, усё дастаня. Лікоўка.

Вынёслы прым. Гонкі, высокі, рослы. У гэтым лесі, глядзі, якія вынёслыя сосны. Ласосна.

Вы́палавець зак. Пажаўцець; зліняць, зблякнуць, выцвісці. На слонцы валасэ і тыя выпалавець могуць, ні тулькі што другое. Зарубічы.

Вы́пляжыць зак. Высекчы; знішчыць, зглуміць. У апошню вайну немцы чысто лес выпляжылі, нічого не засталосо. Зарубічы.

Вы́пугаць. Выхлебтаць. Як паставіла міску зацеркі, так дзеці ўміг і выпугалі. Баранава.

Вы́рабіць зак. Аформіць; атрымаць (пра дакументы). Кап паехаць у Польшчу, трэбо спачатку вырабіць загранічны пашпарт, тады паедзэш, а так ніхто цібе ні пусціць. Адэльск.

Вы́свянціць (высвяньціць) зак. 1. Асвянціць; выканаць царкоўны абрад надання святасці. Хату трэбо было высвянціць, а то ўсе нейкія беды да нас прыстаюць, чапляюцца. Гліняны. Учора ў саборы некаго маладого на бацюшку высвянцілі, можа дзе ў Коматаво пашлюць. Пагараны. 2. перан. Моцна набіць; адлупцаваць (жарт). Але і высвяньціў, другі раз будзя ведаць, як дзеда ні слухаць. Літвінкі.

Вы́сьнякаць зак. Высмаркаць. Ідзі да бабы, хай табе носік высьнякая, а то сапці ні можаш. Дарашэвічы.

Вы́спірыць зак. Выбіць пранікам (пра бялізну). Паласкаць плаце я ўсё на рэчку хадзіла, палажу на камянь, пранікам выспіраю, папалашчу – і чысто. Кунцаўшчына.

Высціго́вы прым. Верхавы. Гэты коні высціговы, ім тулькі на высцігі егдзіць, а ні ў плуг запрагаць. Занявічы.

Вы́фураваць зак. Вытурыць. Нараві, браток, а то с хаты можа выфураваць, і нічого ні зробіш, закон такі. Сапоцкін.

Выцавэ́ркі мн. Ласункі, прысмакі; марцыпаны. Мой мужык на адных выцавэрках жыве, быля чаго ні хоча есці. Кунцаўшчына.

Вы́цьвінчыць зак. Вымуштраваць. Яна так сва́го мужыка выцьвінчыла, што той як па нітаццы перад ёю ходзіць. Шабаны.

Вы́цек (выцяк.). Выток. Кажуць, выцяк Ласасянкі недзе аж у Польшчы, нідалеко ат Кузніцы. Бакуны.

Выцілі́нгваць незак. Іграць на струнным музычным інструменце. Бало, сядзе пат хату і давай выцілінгваць на мандаліні ўсялякія полячкі, любо слухаць. Жукевічы.

Вы́цяпкаць незак. Выцягнуць ніткі з тканіны для вышыўкі (мя-

рэжкі). Пакуль вышываць, та я спачатку стараюса выцяпкаць ніці, а тады ўжэ вышываю. Грыўкі.

Вы́шмыгаць зак. Астудзіць хату, часта адчыняючы дзверы. Дзеці чысто хату вышмыгалі, хоць ваўкоў ганяй, халадно. Лаша.

Вышчака́ны дзеепрым. Балбатлі́вы, гаваркі. Гэты хлопяц даволі вышчаканы, з ім і сабакі ні збрэшуцца. Сцяцкі.

Вы́яда м., ж. Той, хто надакучвае сваімі частымі дакорамі, папрокамі, напамінкамі. Выяда ні чалавек, і як ты з ім жывеш? Палаткова.

Вэ́бак прысл. Побач, поруч. Сядайця вэбак, так больш месца будзя. Малая Жорнаўка.

Вэ́длуг прысл. У параўнанні; супраць (каго-небудзь). Вэдлуг сваёй жонкі ён даволі стары, ні пара ёй. Старая Дубавая. Вэдлуг той зімы гэта намного цяплейша, ні такая і снежная. Жытародзь.

Вэ́йдацца незак. Сноўдацца, сланяцца; хадзіць без справы. На работу яго ні хочуць браць, так і вэйдаяцца, марнуя час. Белева. Замуж ні вышла, так і вэйдаяцца адна, нікого ні мая. Круглікі.

Вэ́нгяр м. Той, хто кастрыруе жывёлу. Вэнгяр у сяле, ідзі пакліч, хай і нашага паршучка вылажыць. Бакуны.

Вядра́нец м., вядранка ж. Кароўка сямікрапінкавая, божая кароўка. У нас нікаторыя старыя вядранец на божу кароўку казалі, як хто хоча, так і называе. Кунцаўшчына. Вядранкі бываюць з пяці крапінкамі і з сямі крапінкамі. Забагонікі.

Вяжа́ляс м. Выязныя, упрыгожаныя санкі. Як па-беларуску, называюцца – ні скажу, а ў нас – вяжаляс. Азяркі, Грандзічы.

Вялі́кі: вялікая пятніца – апошняя пятніца ў тыдні перад вялікаднем. У вялікую пятніцу ўсе посцілі, ніхто ў рот нічога ні браў. Баранава. Вялікі пост – сямітыднёвы пост перад вялікаднем. У вялікі пост трэбо было посціць і дзецям, малака і таго ні можно было даваць. Зарубічы.

Вяне́ц: браць вянец – вянчацца. Мы як бралі вянец, та ў Дзярэчыні ашчэ бацюшкай Надарынскі быў. Свіслач.

Вярабя́тнік м. Дзікае шчаўе. Якое ў нас там поле было, адзін вярабятнік рос, чырванеў. Караневічы.

Вясёда устар. ж. Забава, пацеха, гульня, вясёлае правядзенне часу. На мярліны – гэта табе ні на вясёду ехаць, каму хочацца? Кунцаўшчына.

Вя́тро̄ўка ж. Ятроўка; жонка аднаго брата ў адносінах да́ жонкі другога брата. Німа, брат, такіх вятроўкаў, каб у адной хаці ды мірно жылі, усе сварацца. Клачкі.

Вятро́ўкі мн. Басаножкі. Во, купіла сабе файныя вятроўкі, хоць ногі ні будуць прэць. Батароўка.

Вяша́к м. Вешалка. Павесь пальто на вяшак, вун там, каля самай шафы. Эйсманты.

# Г

Га́б м. Бераст. Нечаго наш габ у гэтым року засох. Кажуць, усюды павысыхалі габэ. Свіслач.

Габэ́ляк м. Гэбель. Габэляк файны папаўсо, добро струшку бярэ. Хамякі.

Гаві́цца незак. Гаіцца, зажываць, залечвацца. Рана ніяк не хацела гавіцца, што мы з ёю ні рабілі, куды ні ездзілі. Кунцаўшчына.

Гавэ́нда м. Гутарка, размова. Які чалавек, такая з ім і гавэнда (прыказка). Лугавая.

Га́га ж. Крэмень, які выкарыстоўвалі для высякання агню. Знойдзяш сабе добру гагу і красаяш, каб агню дабыць. Пракопавічы.

Га́гавіца (і гагаўка) ж. лаянк. Рот, глотка, горла. Ты чо сваю гагавіцу раскрыў, дзярэсса, думаяш, хто цібе баіцца? Кунцаўшчына. Я табе гагавіцу зараз заткну, ні пісняш. Лаша. Гагаўка ў яго велька, можа крычаць, Кунцаўшчына.

Гага́няц м., устар. Самаробная газоўка, газніца. Гаганяц запаліш, паставіш на гзымс – і ў хаці відно. Квасоўка.

Гада́не н. Гутарка, размова. Якое тут гадане можа быць, гэтаму ніхто не паверыць. Парэчча.

Гадзі́ць незак. Наймаць на працу на пэўны перыяд. Кожны рок трэбо было гуртам гадзіць гавечаго пастуха, самы гавец ні пасвілі. Караневічы.

Гаёвы м. Ляснік, даглядчык лесу. Як добры гаёвы, та парупкі ў лесі ні будзя. Скідаль.

Гаё́ўка ж. Хата лясніка. У Дуброўцы гаёўка была, ляснік з жонкай і дзяцьмі жыў, ціпер німа – разабралі. Скідаль.

Га́к м. Мель, непрыкметны астравок, небяспечнае месца для плытагонаў. Глядзі, каб на гак плыт ні сеў, а то бяда будзя, прападзем. Дарашэвічы.

Галава́ ж. Дэталь у кроснах у выглядзе драўлянага круга з жалезнымі зубамі, пры дапамозе якой нацягваецца і адпускаецца аснова. Паткруціш галаву на некулькі зубоў, і пруткай робіцца аснова, спраўней ткаць. Рагачы.

Галаве́нь пагард. Пра таго, хто мае вялікую памерам галаву. Галавень некі, галава, як цэбар. Рагачы.

Галаго́ны мн. Бомы. Зімой, як у дарогу ехалі, каню на шыю вешалі галагоны, іх здалёк было чуваць. Прывалка.

Гала́й м. Бедны чалавек, галайстра. Галай гэты, хто за яго дочку аддасць, нічога ні мая. Гібулічы.

Гала́нка ж. Карова галандскай пароды. Галанка больш малака дае, але яно радзейшо, як ат такой каровы. Сапоцкін.

Галапу́пак м. Неаперанае птушаня. У гнязьдзе галапупкі, як

падышоў, так дзюпкі і параззяўлялі. Зарубічы.

Галаўнічы м. Плытнік, які надае плытам кірунак. Наш галаўнічы – спрактыкаваны плытнік, ён Нёман добра ведая. Свіслач.

Галёнка ж. Панчоха без пяткі. Каб ні галёнкі, усе лытке жнучы папарола б на пожні. Панямунь.

Галобля ж. 1. Аглобля. Адзін раз галобля паламаласа ў дарозі, рады ні было, пакуль у вёсцы ні папрасілі сакеры зрабіць новую. 2. перан. Пра высокую, тонкую дзяўчыну. Узяў бабу, неку галоблю, у хату ледво ўлезла. Калбасіна.

Галокальнік м. Валачобнік. Некалі галокальнікі па хатах хадзілі, вялікодныя песні спявалі" „Хадзіў Хрыстос сам па зямлі", а дзяўчатам – „Канапельку". Кунцаўшчына. Як прыцямнея, так галокальнікі і пачнуць галокаць, песні спяваць. Рагачы.

Галокаць незак. Спяваць валачобныя песні. За вечар некалькі парціяў галокальнікаў пройдзя, усё галокаюць. Лаша. Я сам хадзіў галокаць, голас файны быў, хлопцы бралі. Кунцаўшчына.

Галонзка ж. Галінка. Той рок яблык было, аж галонскі ламаліса. Хлістовічы.

Галуза м. Бедны чалавек. Гэ, маўчаў бы гэты галуза, а то і ён нешто пляце, век нічого ні меў. Сухая Даліна.

Гальё н. Галлё. Даўней дроў ні было, па гальё ездзілі ў Зарубіцкі лес, кубікі куплялі. Лікоўка.

Галька ж. Жаночая ніжняя спадніца з карункамі. Надзеня гальку і ідзе сабе, як пані. Сухая Даліна.

Галямацыя ж. Бяссэнсіца, бязглуздзіца, лухта. Нека ў нас галямацыя тварыцца, нічого ні разбярэш, што да чаго. Кунцаўшчына.

Галяч ж. 1. Адкрытае, незаслоненае ад вятроў месца. Каб дзе ў зацішку, а то на гэтай галячы паставіў хату, вецяр тулькі свішча. Жылічы. 2. Пустэча, месца без расліннасці. Журневіч пачаў сеяць на галячы, дзе нічого ні расло, угнаіў, і такое жыто расце. Квасоўка.

Галяшка ж. Галёнка, частка нагі ад калена да ступні. Але ж і высцябаў дупцом па галяшках, будзя ведаць, як у чужы сад лазіць. Сіўкава.

Гамарны прым. Нязручны, празмерны вялікі; няўклюдны. Калун некі папаўса гамарны, ніяк ні прыспасобісса калоць. Ніжнія Пагараны. Дзядзько некі гамарны ўпёрса ў аўтобус, ні павернясса. Квасоўка.

Гаматны прым. Нязручны, празмерна вялікі. Некі гаматны каўнер у бурцы зрабіў, галавы ні паверняш, стаіць аддыдуліўшыса. Свіслач.

Гамба ж. Загана, хіба. Людзі, купляйця карову, у яе ніякай гамбы німа, добра карова. Індура.

Гамбаваць незак. Абгаворваць; абмяркоўваць, шукаючы заганы. Пачалі дзеўку гамбаваць, цяпер ніхто дзвярэй да яе ні аччыніць. Круглікі.

Гамзэлька. Камізелька. Некалі ў маго тата гамзэлька была, ціпер гамзэляк ні носяць, з моды вышлі. Пракопавічы.

Гамоліна ж. Высакаразлы, грузны чалавек. Гэта ні дзяцько сюды ўпёрса, а цэла гамоліна, паўаўтобуса заняў, ні павярнуцца. Квасоўка.

Гамярэшка ж. Драўляная папярочная накладка на чаранку радлёўкі або вілаў. Як гамярэшка на чаранку рыдлёўкі, так і капаць ямчэй, руку ні намуляяш. Сухая Даліна.

Гана ж. Раздолле, раскоша. Вось ім тут будзя гана, зажывуць на ўсю ногу. Кунцаўшчына.

Гангрына ж. Гангрэна. Гангрына ўпала ў ногу, спачатку палец чарнеў, а потым і ўся нага. Карозічы.

Гандурыць незак. Размаўляць, вясці гутарку. Стаімо гэта мы і гандурым сабе паціху. Гродна.

Гандэлак м. 1. Крама, магазін. Пайшлі ў гандэлак, можа, прывязлі што? Крыўляны. 2. Посуд для піцця гарэлкі, крыху большы за чарку. Сядай, браце, мы ўжэ па адным гандэлку кінулі. Сапоцкін.

Гандэлаўка ж. Піўная. Каб ні гэта гандэлаўка, так і бяды ні ведалі п. Пагараны.

Гансёр[1] м. Шкляная бутля з вузкім горлам, аплеценая лазой. Прывязеш гансёр газы і паліш месяцаў два, тры. Цыдовічы. У гансёр пяць бутэляк гарэлкі ўлазіло, казалі: гансёр гарэлкі. Літвінкі.

Гансёр[2] м. Спецыяльнай формы чарапіца. Гансёры паложыш на строп, пазамазваяш глінай, каб ні дуло – і ўжэ добра. Круглікі.

Ганьё (і ганьё) н. Зграя сабак, ваўкоў. Ганье напало на цяля, ледво выратавалі. Рагачы. Усю ноч ганьё ні давало заснуць, грызьліса пад вокнамі. Навікі.

Гапа м. Разява, разявака. Каб ты ні быў гапай, та да гэтаго ні дайшло п. Сапоцкін.

Гапка ж. Гафтачка, прарэшак. Прарваў усе гапкі, ціпер будзяш хадзіць расхрэстаным. Мігова.

Гаплюк м. 1. Металічны кручок для зашпільвання адзення. Некалі на гаплюк ганавіцы зашпільваліса, гузікаў ні было. Каленікі. 2. Перан. Худы, маларослы конь. Купіў некаго гаплюка, чым гараць ён будзя? Балічы.

Гара ж. экспр. Гарэлка. Здаецца, выпіў бы трошкі, а то набярэцца гэтай гары, як свіня, і лезя дахаты. Зарубічы.

Гарабей м. Верабей. Гарабей – з канапель, а пташачка – з лёну (з нар. песні). Свіслач.

Гарабіна ж. Рабіна. Як гарабіны много, будзя бульба малая. (нар. прыкмета). Круглікі.

Гарабінец м. Рабіннік. На полі Журневічавым адзін гарабінец рос, нічого ні было, ціпер жыто, як сцяна, расце. Квасоўка.

Гарахавене (і гарохавіско) н. Гарохавінне, гарохавая салома. Як канюшыны мало было, то да сечкі гарахавеня прырэзвалі. Баброўнікі. Гарохавіско пад гоўца кідалі, кап перабіралі. Круглікі.

Гараць незак. Араць. Ой, пайду я шугам-лугам, дзе мой мілы гарэ плугам (з нар. песні). Малая Альшанка. Гараць у загон – араць пад пасеў азімых. Гараць у загон трэбо як найраней, тады і азімыя будуць добрыя. Капцёўка.

Гарач м. Араты. Які там з яго гарач, з ручок плуга ні відаць. Бакуны.

Гарачэ прысл. Горача, спякотна. Слонца з неба смаліць, гарачэ, ні вытрымаць. Капцёўка.

Гардадэля ж. экспр. Вялікая, нязграбная рэч, гаргара. Гардадэлю паставіў, а ні адрыну, што класці ў яе будзя? Баяры. 2. Перан. Высокая няўклюдная жанчына, жыбёліна. Ні розуму ў яе німа, ні выгляду, нека гардадэля. Казіміроўка.

Гардзель[1] (і гардзеліс) м. Прывязка з кручаных дубцоў, якой змацоўваюцца бярвенні ў плыце. Давай набярэм гэтых гардзялёў, добро будзя на хлеп паліць. Дарашэвічы. Гардзелюс пачэпім на дзераві, зробім гушкаўку і гушкаямса. Азеркі, Грандзічы.

Гардзель[2] (і гардзёлка) ж. (груб.). Глотка, горла. Што ты сваю гардзель раззявіў, крычыш? Круглікі. Я яму гардзёлку заткнуў, а ні піснуў. Кунцаўшчына.

Гардыба (і гардэба) ж. Пра высокую, нязграбную жанчыну. Села баба на вос, гардыба нека, ледво конь цягня. Верцялішкі. У яго баба, як гардэба, гаспадарку аб'есць. Ланявічы.

Гаркушка ж. Гарчак, невялікая рыба сямейства карпавых. Гаркушкі ўсялякія бываюць: залатыя, чырвоныя, нават чорныя бываюць. Лаша.

Гарлач м. Гарлапан. Гарлач ні чалавек, заўсёды стараяцца перакрычаць другого. Пракопавічы.

Гармоня ж. Гармонік. Як добра гармоня, то і добро грая, на кепскай і добры музыкант ні заграя. Палаткова.

Гармушка ж. Ежа з накрышанага хлеба і вады. Наша баба наробіць гармушкі ў місцы, сядзя і есць. Свіслач.

Гарно н. 1. Месца на плыце для агню. Пад гарно на плыт клалі дзёрна, каб ні загарэласо дзераво. Дарашэвічы. 2. Горан (у кузні). Пастой цэлы дзень каля гарна, памамахай молатам – будзяш ведаць, што за хлеб каваля. Белева.

Гартволь м. Дубовы кол з суком, які выкідаюць на бераг для затрымкі плыта. Свіслач.

Гарцоўка ж. Невялікая бочачка на 3 літры. Піво вазілі на дзеды па вёсках, бацько возьмя гарцоўку, і нам даволі было. Казіміроўка.

Гаршчэчнік м. Ганчар. Некі чалавек пераехаў ў Азёры, хату купіў, мусі, гаршке ляпіў, та яго гаршчэчнікам і празвалі. Азёры.

Гасаць незак. Бегаць, гайсаць (пра жывёл). Сабака гасае па жыці, мусі, зайца вынюхаў. Квасоўка.

Гастрыць незак. Вастрыць, Трэбо гастрыць, а то сталі клочыць. Баранава.

Гасцё н. Восці. Раней ніхто ні забараняў біць рыбу, возьмяш гасцё і пашоў на рэчку. Лаша. 2. Асцюкі. Як малоціш босым, та гасця паналазіць у клешні, аш казыча. Кунцаўшчына.

Гаўняк м. 1. Памёт жывёлы. Гною, мусі, на гарод ні мае, што гаўняка збірае. Карозічы. 2. Перан. Падлетак, які не выклікае павагі сваімі паводзінамі. Гаўняк некі, і ён сюды лезя. Лойкі.

Гаўсяніска (і гаўсянішча) н. Аўсянішча (поле, дзе рос авёс). Гаўсяніско згараў, мо лубіну трошкі пасею. Рагачы. Па гаўсянішчы канюшына пашла, пакрыла, касіць можно. Лаша.

Гаўчарнік м. Аўчарня, авечы хлеў. Ваўке, бывае, і ў гаўчарнік улезуць, паткапаюць пат фундамянт і гавец парэжуць. Свіслач.

Гашт м. Флёкс (кветка). Гашт – гэто такія кветкі). Бываюць сінія, белыя, рознаго коляру бываюць. Пад'ятлы.

Гвазнуцца зак. Стукнуцца. Як ступіў на лёд, так і гавазнуўсо патыліцай. Лаша.

Гвалтам прысл. Сілком; прымусова.. Гвалтам міне ні возьмяш, ні такая я. Пракопавічы.

Гвяздурэ мн. м. Каляднікі. Помню, як гвяздурэ хадзілі па хатах, календы сьпявалі. Пад'ятлы.

Гвякнуцца зак. Упасці на зямлю, моцна стукнуцца. Як гвякнуўсо аб землю, та насілу ўстаў. Зарыца.

Гдыка ж. Кадык. Гдыка ў яго вытыркая, аж нідобро глядзець. Бакуны.

Гега ж. Камень для высякання агню, крэмень. Знайшоў добрую гегу, файно будзя красаць. Рыбніца. 2. Маленькі, кругленькі каменьчык. Давайця, дзеці, у гегі будзямо гуляць, хто выйграя. Кунцаўшчына.

Гегні мн. 1. экспр. Пальцы. Хоць бы гегні памыў, суняш нímытыя. Свіслач. 2. Рыбалоўная снасць з драўлянай асновай у выглядзе палазоў. Пасля вайны, помню, гегні як возмяш, та торбу рыбы валачэш дахаты. Парэчча.

Гелаз (гелас). Авадзень. Гелас, каровы гелазуюць, во як хвастэ пападымалі. Адэльск.

Гелзанка ж. Цуглі. Палахліваму каню гелзанку заўсёды ў зубы давай, а то калёс ні збярэш. Гібулічы.

Геліцца незак. Прыкідвацца хворым, ленавацца. Геліцца, бо рабіць ні хоча. Каўняны.

Гельд (гельт) м. іран. Грошы.Купіў бы каня, ды гельд німа (прыказка). Пракопавічы.

Гемз (гемс) м. Вышэйшы гатунак шавецкай скуры. Гемз дарагі быў, мне заказвалі гемзавыя туфлі, а Любі – хромавыя. Свіслач.

Гзымс м. Выступ над прыпечкам у хлебнай печы. Газоўку маці паставіць на гзымс, лямпы ні запальвала, і робіць што трэба. Кунцаўшчына.

Гівалт выкл. Гвалт. Гівалт, людковя, ратуйця, б'юць жулікі. Індура.

Гіжаць незак. Рухацца безупынку, круціцца. Рыба ў завадзі аж гіжыць, ходзіць. Сіўкава. Чэрві на дзераве аж гіжаць, выкручваюцца на слонцы. Батароўка.

Гіжушчы дзеепрым. Рухавы, жывы. Мужык у Гэлі маленькі некі, гіжушчы, усё недзя бяжыць, нешто робіць. Рудавіцы.

Гілазаваць незак. Уцякаць ад укусаў аваднёў, гізаваць. А потым каровы, пачалі гілазаваць, гілёз напаў. Рацічы.

Гілёз (гілёс) м. Авадзень. Гілёс страшно пячэ ў палудзянь, кароў ні ўтрымаяш, уцякаюць дахаты. Рацічы.

Гілізаваць (і гіляваць) незак. Уцякаць ад укусаў аваднёў. Каровы гілізуюць, у воду лезуць. Рацічы. Каровы гілююць, гілі сякуць, рады німа. Стральцы.

Гіль м. Авадзень. Гіль напаў на каровы, у кустэ хаваюцца. Стральцы.

Гімка ж. Гатунак бульбы (жаўтаватага колеру). Гімка добра была, жоўта, рассыпіста. Дзекалавічы.

Гіргатаць незак. Гаварыць на незразумелай мове, гергетаць. Нямчурыско нешто пачаў гіргатаць, а я кажу: „Пане, я нікс партызан! Нікс! Літвінкі.

Гіхар м.: рабіць на гіхар – рабіць абы-як, як папала. Зараз, брат, усё робіцца на гіхар, абы хутчэй, абы больш. Батароўка.

Гіццаль м. 1. Скуралуп, скурадзёр. Сабакі, як учуюць, што гіццаль паявіўся, та ўсе ўцякаюць, як могуць. Гродна. 2. лаянк. Нягоднік, мучыцель, гіцаль. Пры немцах гэты гіццаль людзей прадаваў, і ціпер жыве. Пагараны.

Гладамор м. экспр. Пражэрлівы, ненасытны чалавек. Гладамор некі, сам худы, а прэ ні ў свае духе, дзе гэто ўсё дзеняцца. Прывалка.

Гламануць зак. Хапануць, глэмнуць. Як галодным канём гарэш, та той толькі стараяцца гламануць зубамі траву ці які асот. Кунцаўшчына.

Гламызнуць зак. Тое, што і гламануць. У кавалэрыі, як служыў, та ўсялякія коні былі, другі так і стараяцца гламызнуць цібе зубамі за плечы або за руку. Рудавіцы.

Глінаваты прым. Гліністы. У адным палетку глінаваты кавалак зямлі быў, на ім сеялі сачэўку; добро расла. Сухары.

Гліняк м. Гліняны гаршчок. Як чыгуноў ні было, варылі ў гліняках. Парэчча.

Глотка ж. Куставая расліна з ядомымі ярка-чырвонымі, жоўтымі пладамі; глог. У рові глотка расла, мы ўсе яе рвалі і елі, але нісмашна была, нека прэсна. Кунцаўшчына.

Глубацца незак. Калупацца. Дзіця сядзіць сабе ў куточку і нешто глубаяцца. Круглікі.

Глухандзя ж. і м. Глухі чалавек. Глухандзя, ты яму гавары адно, а ён табе другое пляце. Круглікі.

Глушак м. Тое, што глухандзя. У нас каваль быў — глушак, добро ні чуў, глушаком называлі. Сухая Даліна. Глушак некі, яму кажы, ні кажы, усёроўно па-свойму зробіць. Літвінкі.

Глымнуць зак. Глэмнуць. Карову, як жанеш каля жыта, так і стараяцца хоць раз глымнуць зубамі. Свіслач.

Гляўш м. Слабы конь. Конь гляўш, ім і за суткі да Гродна ні даедзяш, рукі адбярэ паганяючы. Цыдовічы.

Гнаты мн. Сцёгны. Я табе, гіцлю, гнаты паперабіваю, будзяш знаць, як чужое браць. Баброўнікі.

Гнаярка ж. Шырокая дошка (іх дзве), якая застаўляецца ў возе, калі вывозяць на поле гной. Гнаяркі падымяш і кладзеш гной вышэй ручок, ледво конь зварухне з месца. Кунцаўшчына.

Гніба ж. Клюшня. Рак сваімі гнібамі можа нават паляц адшчыпнуць. Сапоцкін.

Гнілкі мн. ж. Гнілыя грушы. У дзеда Ясюка заўсёды на гарэ ляжалі гнілкі, дастаня і нас частуя. Кунцаўшчына.

Гнэмбіць незак. Мучыць, катаваць, здзеквацца. Кат некі ні чалавек, дзяцей сваіх гнэмбіў, дзеўчына калекай засталаса. Круглікі.

Гобздзі мн. экспр. Агрубелыя пальцы. Ты дзе гэта садзіш свае німытыя гобздзі, адыдзі. Кунцаўшчына.

Гобруць ж. Аброць, вуздэчка. Жарабяці німа, а на яго гобруць шыюць. Бакуны.

Гойна прысл. Багата, заможна. Яны гойна жылі, усяго было ў дастатку. Кунцаўшчына.

Голень ж. Галёнка (частка нагі ад калена да ступні). Жнучы чысто голені паапорвала пожняй, прышчаць. Пракопавічы.

Голяк м. Расол з-пад селядцоў. Некалі бульбу ў голяк макалі, елі, а ціпер с скваркамі ні хочуць. Стральцы.

Голяндра ж. Каляндра. Голяндра ў нас у гародзі расце, да мяса добра, пахня на ўсю хату. Калбасіна.

Гоміла (гоміло) н. Дзіцячая гульня з лучынкамі. Малымі мы ўсё ў гоміло гулялі, наробім з лучынак такіх рамак, ходзім і спяваям.: Гоміло, гоміло, упала баба з коміна, а дзед с печы — пабіў

бабі плечы. Кунцаўшчына.

Гоншчык м. Смалакур. Я ўжэ больш трыццаць рок у смалярні гоншчыкам. Сабаляны.

Гоны мн. Вялікі падоўжаны кавалак поля, гоні. У нас весь палетак засявалі пшаніцай, толькі адны гоны жытам. Сухая Даліна.

Гопцас прысл. Нахабна. Ашалеў ці што, гопцас на людзей прэцца, ні глядзіць ні на кого. Баброўнікі.

Гоп-ца-ца! выкл. Вокліч, які ўжываецца, калі падкідваюць малое дзіця на руках уверх. Гоп-ца-ца! Гоп-ца-ца! Во, як мы высоко... Свіслач.

Горба ж. Куча. Цэла горба бульбы засталаса на полі ні накрыта, памерзня. Круглікі. Цэлу горбу снегу накруціло каля плота. Луцкаўляны.

Гостры прым. Востры. Нож у плузі як гостры, та і гараць лёхко, спраўней ідзе. Галынка.

Гоўтаць незак. Ледзь варушыць. Дзісь вецяр слабы, вятрак крыламі ледво гоўтая, малоць ні будзя. Грыўкі.

Гоц выкл. Скок, гоп (вокліч, якім суправаджаецца пераадоленне перашкоды). Ні кажы гоц, пакуль ні пераскочыш (прыказка) Індура.

Гоцкаць незак. Падкідаць на руках малое дзіця. Кінь дзіця гоцкаць, у яго ўжэ духе заняло ат твайго гоцканя. Балічы.

Гоцкі мн. Танцы, скокі, гульні. Дзісяй гоцкі, заўтра – гоцкі, будзям хадзіць бес сарочкі. (прымаўка). Круглікі.

Грабелькі мн. Жалезныя планкі з зубамі на канцах аглобляў для нацяжкі атосаў. Як грабелькі добрыя, та і атосы добро трымаюць аглоблі. Нямейшы.

Грабельня ж. Сельскагаспадарчая машына для зграбання сена, грабілка. Грабельня ні ў кожнаго гаспадара была, тулькі самыя багатыя мелі. Квасоўка.

Грабільне н. Грабільна (ручка ў граблях). Грабільне найлепшо з асіны, яно лёхкае такое, файно грабіць. Тапалёва.

Грабіць (і грабсці) незак. Зграбаць (сена). Німа такіх грабель, каб грабілі ат сібе. (прыказка). Сухая Даліна. Як добрыя граблі, та і сено добро грапсці, складаць у капке. Сухая Даліна.

Градавы. Градавая серада – свята ў першую нядзелю пасля вялікадня. Градавую сераду ні ўсе святкавалі. Старыя казалі, калі хто будзя ў Градавую сераду рабіць, та грат паб'е ўсё збожо. Свіслач.

Градка ж. Палічка для ложак і місак. Я сама ашчэ помню, як маці паложыць на гратку лошкі, міске, і яны там сохнуць. Канчатка.

Грады мн., устар. Дзве жэрдкі, падвешаныя пад бэлькамі курнай хаты. На грады вешалі каўбасы, яны ў дыме вэндзіліся,

цыбулю, маці вешала. Каханова.

Гразіна ж. Гразкае, багністае балота. У нас была такая гразіна, што праз яе ніхто ні праходзіў, дзікія качкі тулькі вадзіліса, крычалі. Табала.

Грайзэга ж. Круглая піла з вялікімі зубамі для падоўжанай і папярочнай распілоўкі. У яго была грайзэга з добрай сталі, файно рэзала. Дзекалавічы.

Грамабой м. Пра высакарослую, грузную жанчыну. Гэта баба грамабой, яе нават мужчыны баяцца, ні тулькі бабы. Свіслач.

Грамзоліць незак. Пісаць дрэнным почыркам, няўмела, крамзоліць. Што ты грамзоліш, тут ты такі пісака, што ні разбярэ і сабака. Літвінкі.

Грандзіць незак. Скандаліць, буяніць. Што вы тут грандзіця, зарас участковаго паклічу. Квасоўка.

Гранды мн. Сані з шырокімі, раскладзістымі драбінамі, у якіх перавозілі цяжар. На грандах больш вазілі сено. У грандах чі выврнясса, яны так зробляны. Круглікі.

Граса (і граска) ж. Матыка. Як граса гостра, та палоць добро, усё зелье перасякая. Кунцаўшчына. Граску трэбо гастрыць, зусім ступіласа. Стральцы.

Грасаваць незак. 1. Матычыць, рыхліць глебу матыкай. Учора ездзілі грасаваць бураке, чысто папрыставалі. Свіслач. 2. Таптаць, нішчыць. Коні жыто грасуюць, а ён ні бачыць, сядзіць сабе. Лугавая.

Граты мн. Хлам. Выкідай ты з хаты гэтыя граты, яны німодныя. Гродна.

Графіроўка ж. Гафрыраваная жаночая спадніца. І ў міне была графіроўка зялёна і сіня. Як вышла замуш, та па будні хадзіла ў графіроўцы. Жылічы.

Графка ж. Англійская шпілька, аграфка. Графкі некалі бабы куплялі ў ганучнікаў, іх много ездзіло па сёлах. Кунцаўшчына.

Грацкоўе н. Салома грэчкі. Грацкоўе каровам давалі, з грацкоўем нават сечку рэзалі, як канюшыны ні было. Гібулічы.

Груда ж. Хвароба ног у коней. Груда на капыце ў каня, кульгая. Рацічы.

Грудзіла н. Цуглі. Дай каню грудзіло ў зубы, каб ні панёс, машыны палохаяцца, халернік. Брузгі.

Грузіна ж. Гразкае балоцістае месца. Грузіна страшэнная, каровы завальваліса, вяроўкамі мужчыны даставалі. Верцялішкі.

Грузліца ж. Туберкулёз, сухоты. На грузліцу як хто хварэў раней, рады ні было, так і паміраў. Рагачы.

Грумада ж. Група людзей, натоўп, грамада. У нас была цэлая грумада людзей: пяць братоў і пяць сёстраў было. Эйсманты. У іх велька грумада людзей, есці ні мелі чаго, нішчымніца страшна была. Эйсманты.

Грыво н. Грыва на спіне ў каня. Як сядаяш на каня, адной рукой трымаясса за грыво, каб ні ўпасці. Круглікі.

Грыка (і грэччына) ж. Грэчка. Грыка як цвіце, та пчолы над ёй аж звіняць. Сапоцкін.

Грык-выточка ж. Мядзведка (насякомае). Грык-выточка ўямінах складае ікру, з яе выходзяць малыя грыкі. Крыўляны.

Грэйзаць незак. Няўмела пісаць, крэмзаць. Навучыўсо трошкі грэйзаць і грэйзая, фамілю сваю напіша. Свіслач.

Грэмзаць незак. Тое, што грэйзаць. Хлопяц ні піша, а грэмзая, німа на што глядзець, ніяк навучыць ні магу. Карозічы.

Грэмзы мн. экспр. Пальцы. Ты дзе гэта свае грэмзы садзіш, спярша памыць трэбо, а тады садзіць. Кунцаўшчына.

Грэта ж. Крэйда. Грэты німа, трэба было б хату пабяліць. Стральцы.

Грубіца ж. 1. Мера даўжыні кужалю ад сцяны да сцяны хаты, губка. У адной аснове дзесяць губіц кужалю, цэлы свойчык. Сіўкава. 2. Старая мера палатна. У адной губіцы лічыласо шэсць аршын кужалю. Жылічы.

Губняткі мн. ласк. Губы. Ты што гэта губняткі наставіў, мусі амаць хочаш? Свіслач.

Гугаль м. Тушаная бульба з бручкай, морквай на гусіным тлушчы. Помню, як жыдэ гугаль у медных каструлях у печках тушылі, дастануць, тулькі пара ідзе, жоўты такі. Пракопавічы.

Гуда м. Мянушка беларусаў, якія жывуць у аколіцах Друскенікі Парэчча. Як на мужчыну літовец кажа: „Вун гуда пашоў". Парэчча.

Гудас м. Мянушка беларусаў, якія жывуць у аколіцах Прывалак Гожскага сельсавета. Літоўцы на нас кажуць гудас, а мы іх празываем клюмпікі, бо яны ў клюмпах ходзяць. Прывалка.

Гудаска ж. Мянушка беларускі сярод літоўцаў. Гудаска з Парэча прышла да нас замуж. Казіміроўка.

Гукаць незак. Пра перыяд палавой актыўнасці ў свінні. Свіня, мусі, гукаць будзя, ні есць, усё перавярнула, тулькі гукая. Свіслач.

Гула (і гумба) ж. Вузел з закручаных валасоў у жанчыны. Некалі дзяўчаты косы заплятали, закручвалі ў гулы, у каго косы велькія, та і гула велька. Стрэльчыкі. Даўней дзяўке косы закручвалі ў гумбы, гэто ціпер апстрыжаныя ходзяць. Стрэльчыкі.

Гультаіска (гультаіско). Гультаіна. Падло, гэты гультаіско, людзі робяць, а ён возьмя вудачку і рыбу ловіць. Балічы.

Гумза ж. 1. Вузел, скрутак, пакунак. Здаецца, і бедны чалавек, а як выцягнуў з-за пазухі гумзу грошай, та аж усе ахнулі. Балічы. 2. Нарасць на дрэве. Думаў грыб расце на бярозі, а зноў нека гумза. Зарубічы.

Гунка ж. Зрэбная посцілка, пакрывала, гунька. Як конь спацея.

накрывалі гункай, каб ні прастыў, вады халоднай ні давалі. Дарашэвічы.

Гунцвот м. устар. экспр. Нягоднік, паганец. Гунцвот гэты і зноў нешто натварыў, недзя ўлез. Загорцы.

Гур м. Баваўняныя ніці, якія куплялі пры панскай Польшчы у крамах. Я сама купляла гур у Індоры, ткала мужыку і дзецям на каптане. Грыўкі.

Гурай м. Гермафрадыт. Гурай, мусі, ні курыца, ні пятух, ні спявая і ні нясецца, чорт яго ведая, што купіла. Ходзіць, кажа, як гурай, ні мушчына, ні баба. Рацічы.

Гургале мн., гургаль адз. м. Лёд, намёрзлы на шыбах. Праз вакно нічого ні відаць, гургале намерзлі. Парэчча.

Гурок м. Агурок. Некалі гурке тулькі для сібе садзілі, ціпер садзяць на продаж, машыны за гурке купляюць. Рагачы.

Гурыстасць (і гурысціна) ж. Выпуклая верхняя частка ступні нагі, пад'ём. У міне гурыстасць ні велька, чаравікі кожныя падыдуць. Свіслач. Дзе тут чаравікі ёй падбярэш, такая гурысціна ў дзеўкі. Клачкі.

Гурысты прым. Высокі ў пад'ёме. У міне ногі гурыстыя, ботаў ні магу падабраць. Балічы.

Гусьтаўка ж. Гушкалка, арэлі. У нас гусьтаўка была, дзет ашчэ зрабіў, мы ўсе гусьталіса. Сапоцкін.

Гусячы прым. Гусіны. Гусячы пух лепшы ат курынаго, каштоўнейшы. Кунцаўшчына. Гусячы зносак – меншае, чым звычайна, яйцо. Ля, гусячы зносак, гусь рабая знясла. Рагачы. Той вялігдзень у яго быў гусячы зносак, усе яйца павыбіваў. Клінчане.

Гутняк м. Гутнік. У гутнякоў цяшкая праца была, яны ўсё больш на лёхкія хварэлі. Гродна.

Гуц м. Гультай. Гуца выгадавала на сваю галаву, а ціпер мэнчуса з ім. Галавачы.

Гушальніца ж. Гушалка, арэлі. Ён, кажуць, ашчэ малым упаў з гушальніцы, ногу вывіхнуў. Зарубічы.

Гушацца незак. Гушкацца. Наш Толік баяўсо гушацца, галава кружыласа. Навасёлкі.

Гу-ша-ша! выкл. Вокліч старэйшых, калі гушкалі малое дзіця ў калысцы. Гу-ша-ша! малога Коліка. Гругляны.

Гуля (і гыля) выкл. Пазыўныя да гусей. Гуля, гыля, шэры гусі. Гыля, гыля ў лебяду. Павязалі галаваньку – дый да дому ні прыду (з нар. песні). Карозічы.

Гэдак прысл. Так, гэтак. Гэдак ні добро рабіць, брытко, людзі смяяцца будуць. Хамякі. Гэдак веля – столькі многа. Гэдак веля ваша карова малака дае, а кажаця, што перадойка. Ланявічы.

Гэдакі займ. Такі, гэтакі. Гэдакі чалавек, браце, ні прападзе, будзя жыць, у яго ўсё будзя. Свіслач.

Гэ́дулькі прысл. Столькі, гэтулькі. Гэдулькі чалавек усялякай бяды пяражыў, адкуль будзя тое здороўе. Сцяцкі.

Гэ́дулько прысл. Столькі, гэтулькі. Мы з ім гэдулько біліса, каб ён чалавекам стаў, і ўсё прапало. Свіслач.

Гэ́йдалка (і гэйдаўка) ж. Гушалка, арэлі. Гэйдалку пачапілі на вярбе і гойдаямсо, пакуль ні надаесць. Сапоцкін. У нас гэйдаўка была, збярэмса і давай гэйдацца, пакуль хто ні зваліцца. Гібулічы.

Гэ́мка ж. Гатунак бульбы, жаўтаватага колеру. Мы пры палякках усё гэмку садзілі, ціпер німа ўжэ, звяласа. Каханова.

Гэ́ркаць незак. Груба адказваць; пакрыкваць, гаркаць. Прывык гэркаць на кожнаго, і гэркая, ні глядзіць, ці то стары, ці малы. Лужкі.

Гэ́рц (і гэрш) м. Задзіра, забіяка. Гэрц быў, пакуль галавы ні скруціў, рады ад яго ні было. Кульбакі. Гэ, у Сабалянах ён цэлы гэрш, без яго ні вяселе, ні забава ні абыдзяцца. Рыбніца.

Гэ́ршкі: Браць на гэршкі – садзіць дзіця на шыю ці на плечы і насіць. Мой тато любіў браць на гэршкі, як малы быў. Рагачы.

Гэ́стка ж. Карункі. Даўней шляхцянкі шылі сукенкі з гэсткамі, ціпер гатовыя купляюць. Занявічы.

Гэ́тарашні прым. Сёлетні. Гэтарашні бычок горшы, але гадаваць будзямо. Ферма.

Гэ́ттака прысл. Тут. Гэттака і паўгактара балота ні будзя, а ты кажаш, гактар. Карозічы.

## Д

Дабра́нац выкл. Пажаданне спакойнай ночы, дабранач. Дабранац вам! Я ўжэ пайду дахаты, позно. Ланявічы.

Дае́нка ж. Дайніца, даёнка. У нас рабілі дзешкі, каткі, даёнкі, вазілі прадаваць да Індоры. Бандары.

Дажджаві́к м. Дажджавы чарвяк. Нікаторыя людзі кажуць, што дажджавік падая з дажджом на землю з неба. Пышкі. На дажджавік рыба добро бярэцца. Забагонікі.

Дальбо́ выкл. Дальбог. Дальбо, гэта праўда была, каб я так жыла. Дарашэвічы.

Даляга́ць незак. Непакоіць, турбаваць, трывожыць. Каму ні баліць, таму і ні далягая (прыказка). Белева. Нешто далягая дзіцяці, плача, ні спіць, а што, ні ведаю. Карозічы.

Даражыня́ ж. Дарагавізна, дарагоўля. Там такая даражыня, што з нашымі грашыма ні пастуліцца. Пракопавічы.

Дало́пкацца зак. экспр. Сцяміць, скеміць, зразумець. У цямнаце ні ведаў, дзе я, а потым ледво даталопкаўсо, у якім месцы. Свіслач.

Даты́кач м. Прылада для завяршэння ткання ў выглядзе куска палатна з двума пруткамі. Датыкач прывязвалі да асновы і даты-

калі, каб канцэ асновы карацейшыя былі. Кругляны.

Даўба́к м. лаянк. Тупы, някемлівы чалавек, даўбешка. Даўбак некі, вучыцца ніяк ні хоча, тулькі бегая цэлы дзень, як дурны. Лікоўка.

Даўбні́ца (і даўбяніца) ж. Ступа, даўбёнка. У даўбніцу насыпляш ячменю, папарыш кіпятком і таўкачом даўбеш, пакуль ні абаб'еш, каб была куця. Путрышкі.

Даўбяніца ж. 1. Ступа. У нас на гарэ і ціпер даўбяніца ляжыць, нікому ніпатрэбная, валяяцца. Путрышкі. 2. Карыта з накрыўкай, выдаўбленае з дрэва для захоўвання сала і мяса. Даўбяніца такая доўгая, накрываласа вечкам, зьверху звужана. Пышкі.

Даўво́д (даўвот) м. Адведкі маладых (праз тыдзень пасля вяселля) да бацькоў жонкі. На даўвод паехалі, да бацькоў маладой, у хаці іх німа. Рацічы.

Даўгавя́з (даўгавяс) м. Высокі і худы, даўгавязы чалавек. Даўгавяс велькі пад небо, а дурны, як трэбо. Кунцаўшчына.

Даўжы́р м. Даўжыня. Такі даўжыр, як гляняш, канца ні відаць. Свіслач.

Дахвато́вы прым. Хваравіты, схільны да захворванняў. Конь некі дахватовы, вады халоднай як нап'ецца, так і зноў залазуя. Вялікая Жорнаўка.

Дахо́даваць зак. Зжыць са свету, давесці да смерці. Відаць, старого хоча даходаваць, а хату прадаць. Гродна.

Да́цца зак. Змарнець, схуднець. За зіму чалавек зусім даўсо, ні пазнаць. Луцкаўляны.

Да́чка ж. Горшы гатунак фабрычнага белага палатна. Дачка ідзе на простыні, цяпер дачкі німа, каб была, бралі п. Гайкі.

Дво́рны прым. Прыслуга пры панскім двары, парабак, дваровы. З дворным пан што хацеў мог зрабіць, мог зімой выгнаць з двара. Пальніца.

Двузі́мак м. Жарабя, якое перазімавала дзве зімы. Двузімак, у воз ашчэ ні запрагалі, малады. Рудавіцы.

Двухво́стка ж. Палёвы прус (невялікае насякомае з дзвюма вострымі выпусткамі на канцы, якімі шчыпае). Паяўляецца пад падвешанымі на плоце анучкамі. Як падымяш ганучу, так двухвостка і загіжыць, забегая, бо яна свету баіцца. Свіслач.

Джвэ́нгнуцца зак. Моцна ўдарыцца, стукнуцца. Цемнавато было, ішоў та як джвэнгнуўсо галавой аб вушак, аж іскры пасыпаліса. Карозічы.

Джга́ць незак. Біць, сячы. Як пачаў джгаць каня пугай, та аш шкада стало, а ён наравісты, ані з месца. Бакуны.

Джы́гаўка ж. Балячка. Нека джыгаўка па шчацэ выскачыла, і сам ні ведаю, ат чаго. Адэльск.

Джынго́л м. Кутас. У нас аднаго празывалі джынгол, бо ён насіў ашчэ кавалерам пояс з джынгаламі. Кунцаўшчына.

Каро́бка (каропка) ж. Высокая, круглая пасудзіна, сплеценая з лазы і саломы для захоўвання збожжа. Каропка высока, я сам як залес у яе, та ледво выляс. Караневічы.

Карто́фля ж. Бульба. Картофлі ў гэтым року насыпалі поўны склеп, будзя і сабе і свіням. Сапоцкін.

Карчако́п м. Чалавек, які капаў саматужна карчы. Карчэ для смалярні капалі карчакопы, складалі ў штабяле. Рыбніца.

Касі́ва (касіво) н. Крэсіва. Запалкі былі дарагія, кожны курэц меў касіво, каб выкрасаць сабе агню. Бакуны.

Ка́слаўка ж. Жменя, пасма лёну. Каслаўкі лёну будзя мало, вазьмі ашчэ крышку. Свіслач.

Касма́ ж. пагард. Жанчына з неахайнай прычоскай. Касма, валасоў сабе ні рашчэша, так і ходзіць. Рагачы.

Кастро́г (кастрох). Касцёр. Мы ўжэ адзін кастрог дроў налажылі і ашчэ будзям пілаваць. Рацічы.

Кася́рка ж. Сенакасілка. Як настане сенакос, та касяркі на балоці тарахцяць па цэлых днях, спакою ім німа. Квасоўка.

Катахе́ мн. Рагоз (расліна). Дзяцьмі як былі, палезям у прудэ, так катахоў і нарвем. Чэхаўшчына.

Като́к м. устар. Узятае без дазволу гаспадара збожжа. Я ад бацькі жыта ні краў, а былі такія, што бралі катка. Клінчаны.

Каўдо́ба ж. Калдобіна, выбоіна. На дарозі ну і каўдобаў, возам ні праехаць. Адэльск.

Каўмы́га ж. экспр. Неахайная жанчына. Каўмыга, да яе ў хату ні ўлезяш, усюды брут. Каленікі.

Каўне́рац м. Каўнерык. Даўней пекно вышывалі каўнерцы ў рубашках, кожна баба ўмела вышываць. Струбка.

Каўце́ць незак. Жаваць. Зубоў німа, та мясо ў році каўціць, каўціць, ніяк праглынуць ні можа. Бакуны.

Ка́хля ж. Кафля. У нас печка с файнае кахлі, маці брала недзе каля Скідля. Малая Альшанка.

Кацмалу́х ж. экспр. Пра неахайную жанчыну. Кацмалух, зусім дзяцей запусціла, ні глядзіць. Каваліčы.

Кацуба́ ж. 1. Прылада ў кроснах ў выглядзе клюшкі для замацавання і падкручвання навоя з асновай.. Як навой хочаш паткруціць, кацубу падымяш – і паткруціш, колькі трэба. Рацічы. 2. Прылада ў выглядзе драўлянай палкі з суком для мяшання варыва ў гаршках. Як кацуба доўга, та можно гаршчок з печы і ні вынімаць, так памяшаяш. Свіслач.

Кацубе́шка ж. Тое што і кацуба. У нас і ціпер кацубешка ляжыць на гарэ, нікому ні патрэбна. Рудавіца. 2. перан. Худая, згорбленая жанчына. Кацубешка гэта ледво лазіць, а усё недзя ідзе, усё ёй мало. Карозічы.

Кача́ць: качаць калясо – гульня хлопчыкаў з невялікім колам.

Збярэмса і давай качаць калёса та ў вадзін канец гуліцы, та ў другі. Круглікі. Качаць ка́чулку – гульня хлопчыкаў з невялікім драўляным колкам. Я любіў качаць качулку, набегаясса, ледво да хаты прывалачэсса. Клінчаны.

Качу́р м. Качар. Качура пазнаць можно зразу, у хвасце закручаны пярынкі, галава блішчыць. Свіслач.

Качы́нец м. Расліна з жоўтымі кветкамі, якая расце ў мокрых месцах. Качынец, як расцвіце на лузі, та аж у вачах трамкаціць, жаўцея. Табала.

Ка́ша ж. Страва з тоўчанай варанай бульбы. Некалі маці паставіць на стол гаршчок кашы, кожны чэрпая, стараяцца, кап сква́рка папала. Путрышкі.

Ква́ска ж. Драўляная пасудзіна з клёпак для хлебнага квасу. Кваскі былі меньшыя за дзешку, іх рабілі ў Бандарах, можно было купіць у Скідалі. Галавачы.

Квасні́к м. Страва з хлебнага квасу, бульбы, цыбулі. Постам, перад калядамі, больш кваснік варылі, с хлебам елі. Кунцаўшчына.

Квітава́ць незак. Разлічвацца, расквітвацца. Пры паляках такія падаткі былі, што ні кожны мох квітаваць, ні было чым. Гарны.

Квэ́стар м. устар. Жабрак, які хадзіў па людзях з біблій. Квэстар ні браў хлеба, яму давалі толькі грошы, ні меньш як 13 капеяк. Капцёўка.

Ке́рат м. Конны прывад малатарні, сячкарні. Запрагуць у керат дзве пары коняй, хлопцы паганяюць, і малатарня аж буіць, малоціць. Батароўка.

Ке́йбал м. іран. устар. Хлопчык, хлапчук. Надаеў мне твой кейбал, усё таўчэцца і таўчэцца пад нагамі. Кунцаўшчына.

Ке́лб м. Пячкур. Бывало, як выскачыш з волакам на рэчку, так келбаў збанок і наловіш. Кунцаўшчына.

Ке́лзаць незак. Кілзаць. Гэтаго каня трэбо келзаць, а то панясе, і ні ўтрымаяш. Круглікі.

Ке́пал м. экспр. Галава. Як кепал ні варыць, та, брат, нічого ні будзя, навука сама ні пойдзя. Пракопавічы.

Ке́пнуць зак. экспр. Памерці. Мусі, кепнуў, прышоў і на яго канец. Кунцаўшчына.

Кіла́ ж. Грыжа. Раней ніякіх аперацыяў на кілу ні рабілі, так і да смерці хадзіў. Балічы.

Кіла́ч м. груб. Пра таго, хто пазбаўлены зграбнасці, спрыту ў руках. Кілавачэ вы ўсе, дый годзі, нікудышнія людзі. Рага́чы.

Кіла́вы прым. Чалавек, хворы на грыжу. Мусі, ён кілавы, за плугам хадзіць ні можа, ногі шыроко растаўляя. Сухмяні.

Кілапа́р м. Няўдала прыгатаваная страва, баланда. Наварыць нейкаго кілапару і кажа: еш! Гродна.

Кіле́йша м. Касалап, крываногі чалавек. Кілейша, ідзе з нагі на

ногу пераваљваючыса. Рагачы.

Кілу́н м. Чалавек, хворы на грыжу. Яго і да войска ні ўзялі, бо кілун быў. Кунцаўшчына.

Кінчы́ба ж. пагард. Няўклюдная, сварлівая жанчына. Гэтай кінчыбі ніхто ні ўнаравіць, усё ёй ні так, як яна хоча. Кунцаўшчына.

Кіраўні́ца ж. Руль веласіпеда. Як апусціш кіраўніцу, та старому ляпей ехаць. Пракопавічы.

Кірна́ч м. зневаж. Крываногі мужчына. Ён з малога кірнач, такім урадзіўса. Кунцаўшчына.

Кіршчы́ны мн. Рэшткі ў дзежцы, якія застаюцца пасля хлебнага квасу. У нас кіршчыны выкідалі свіням. Верцялішкі.

Кі́ха ж. Веласіпедная камера. Дай клею, мусі, кіха прабіта, дух спуская. Рацічы.

Кі́шка ж. Дэталь у хамуце, зробленая с саломы і абцягнутая скурай. Кішка ў хамуце, кап конь шыі ні нашмуляў. Карозічы.

Кішлава́ць незак. Няўклюдна ісці, пераваљваючыся збоку на бок. З ім намэнчысса ідучы, ён ледво кішлуя. Кунцаўшчына.

Кішла́й м. Касалапы. Некі кішлай узяўсо падводзіць, ледво ад яго аччапіліса. Сухая Даліна.

Кішчы́ны мн. Тое, што кіршчыны. Квасу німа, адны кішчыны на дне засталіса. Калбасіна.

Кладавіцца незак. Класціся. Што ты сядзіш, вочы заплюшчыўшы, кладавіса спаць, ужэ позно. Батароўка.

Кле́цка ж. Скрутак апрацаванага лёну. У кудзелю ўлазіло дзве 'ат сілы клецкі лёну. Рудавіцы.

Кле́цкі мн. Клёцкі. На вячэру матка наварыць клецак, забеліць малаком, і добро было. Сухая Даліна.

Кле́шня ж. Калоша, калошына. Ціпер зноў мода на шырокія клешні пашла, а некалі, як дуткі, насілі. Зарыца.

Клёкнуць. зак. Прапасці, загінуць, змарнець. Гэтыр рок могуць азімыя зусім клёкнуць, снегу мало на полі. Белева.

Клёмбы мн. Абутак на драўлянай падэшве. Як хто ідзе ў клёмбах, та здалёк чуваць, як па каменях брохая. Бакуны.

Клі́н м. Прарэх, пярэдні разрэз у штанах. Стары стаў, клін ні зашпіліць, так і лазіць. Кунцаўшчына.

Клі́рас м. Месца для пеўчых у царкве. У нас клірас ні велькі быў, усяго чалавек дзесяць пеўчых стаяло. Лаша.

Кло́це н. Рэзкі, востры боль, колікі. Неко клоце ў грудзях, ні дае дыхнуць. Балічы.

Клу́стасць ж. Тлушч. Добрая сланіна гэты раз, глядзі, колькі клустасці нацякло. Бакуны.

Клу́сты прым. Тлусты. Клусты крупнік, бо мяса свіного добры кусок улажыла. Лаша.

Клыша́вы прым. Клышаногі, касалапы. Ля, нейкаго клышаваго каня купіў, як ён ім гараць будзя? Лаша.

Клыбаты прым. Кульгавы. І зноў паўзе да нас Ёдаль клыбаты, чаго яго чорт нясе. Адэльск.

Клыбаць незак. Марудна ісці, накульгваючы; клыпаць. Зусім дабіў каня, ледво клыбая ўжэ, дзе ім заедзяш. Круглікі.

Клыбач м. груб. Пра таго, хто ходзіць кульгаючы. Пакуль гэты клыбач дахаты заклыбая, та слонцо зойдзя. Круглікі.

Клыгаць незак. Марудна ісці, накульгваючы. Думалі, зусім бяз ног застанецца, а зноў вылячылі, ужэ клыгая памалу каля хаты. Малахавічы.

Клэйша м. ж. Пра таго, у каго нязграбная, касалапая паходка. З гэтай клэйшай ісці брытко, ні толькі танцаваць. Рагачы.

Клюка ж. груб. Загнуты, глюгасты нос. Што ты звесіў сваю клюку, мусі, у галаву нечаго набраў? Лікоўка. 2. Палка з загнутым канцом. Як клюка ў руках, та сабакаў німа чаго баяцца. Рагачы.

Клюмпы мн. Абутак на драўлянай падэшве. Клюмпы самы некалі рабілі, ні трэбо было купляць. Парэчча.

Ключ м. 1. Чарада птушак, якія ляцяць клінам. Як ключ ляціць, та наперадзі заўсёды важак, ён ведая, куды ляцець. Баброўнікі. 2. Вочап; шост, да якога прымацоўваецца калодзежнае вядро. Ключ той рок памянялі ў студні, а то зусім быў збуцвеў. Сабаляны.

Ключка ж. Палка з загнутым верхнім канцом; кульбака. Наш дзед заўсёды с ключкай хадзіў, дзе ні ідзе, та ўсё з ёю. Дубоўка.

Ключкі мн. Прымітыўная прылада для вырабу тоўстых вяровак, канатаў. Раней моды ні было купляць вяроўкі, самы выраблялі, спускалі на ключках такіх. Кунцаўшчына.

Клябаня ж.. Дом, у якім жыве поп, плябанія. Клябаня ў Лашы, кажуць, старая, ад тае вайны. Лаша.

Клякатун м. Пра бусла. Бусел, бусел-клякатун, схапіў жабу за каўтун (прымаўка). Карозічы. Бывала, косім, а клякатун за намі ідзе, жабы ловіць. Сухая Даліна.

Клякнуць зак. Прапасці, загінуць. Кажуць, у гэтым року бульба можа клякнуць, дажджэ ідуць, цяпла німа. Гібулічы.

Клямэрка ж. Невялікая спражка. У нашай аколіцы паненкі шылі сукенкі с такімі клямэркамі, кап пякней было. Занявічы.

Кляпа ж. Борт. Як.бартоўка добра, та і кляпы будуць гладкія, ні згомтаюцца. Бакуны.

Кніга ж. Кнігаўка. Ашчэ снег ляжыць, а ўжэ кнігі прыляцяць, крычаць над балотам. Дзекалавічы.

Кнігі мн., адз. кніга м. Адзін з чатырох аддзелаў страўніка жвачных жывёл. Як зарэзалі старую карову, та ў кнігах кавалак дроту некаго знайшлі. Пагараны.

Кныпцвангі мн. устар.. Пласкагубцы, абцугі, канцы ў якіх маюць плоскую паверхню. Кныпцвангамі скуру добра нацягваць, ні парвеш. Індура.

Коварат м. Рычаг-вага ў калодзежы з жураўлём. Ашчэ пастух

кароў ні выганяў, а ўжэ коварат скрыпеў – воду бралі. Сабаляны.

Ко́лмасць ж. Калёсная мазь. Даўно ні мазаў, вос скрыпіць, трэбо колмасцю пашмараваць. Кунцаўшчына.

Ко́льба ж. Корба. Як возьмя за кольбу круціць дзвюма рукамі, та разаке аш шастаюць, салому толькі падавай. Круглікі.

Ко́льчыкі мн. м. Завушніцы. У міне былі кольчыкі залатыя, але рэтко калі насіла, баяласа. Эйсманты.

Ко́мшч м. устар. Звязак анучаў, якім у курнай хаце затыкалі адтуліны для дыму. Комшч заткнеш, і ўжэ ў хаці цяплей, дух ні выходзіць. Прывалка.

Ко́паніца ж. Копанка, сажалка. Пан прыказаў быў выкапаць копаніцу, кароў паілі. Забагонікі.

Ко́пна ж. Бабка – дзевяць снапоў, састаўленых разам для прасушкі і накрытых распасцёртым дзесятым. У нас жыто, як пажнуць, у копны ставілі, каб ні прамокло. Табольская Будка.

Ко́рац м. Пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы, для захоўвання збожжа. У корац лезло можа 10–15 пудоў жыта. Цыдовічы.

Ко́рча ж. Сутарга. Некалі ат корчы лячылі так: ставілі каля вушака і роўна з галавою выкручвалі дзірачку, астрыгалі валасэ, пазурэ, клалі ў яе і забівалі колікам. І памагало! Лаша.

Ко́ўзала (коўзало) н. Расцышчанае месца, пакрытае лёдам, для катання, коўзанка. Помню, зробім сабе коўзало і коўзаямсо, пакуль ні сцямнея. Баяры.

Ко́ўтаць незак. П'ючы, пры глытанні ўтвараць глухія гукі. Прывык, п'ючы ваду, коўтаць, і коўтае, аж брытко слухаць. Сухая Даліна.

Ко́хан м. Кавалер, залётнік. Маня ўжэ наша кохана мая, файны хлопяц. Рагачы.

Ко́хлік м. У народных забабонах: злы дух, які жыве ў хлявах. Кохлік збівае каню грыву, усероўно, як каўтун. Каб ні дакучаў каню, проціў жолаба прыбівалі люстэрко. Рацічы.

Ко́ц м. Шарсцяная коўдра. Пат коцам добро спаць, ён такі мяхкі і лёхкі. Адэльск.

Ко́шкацца незак. Марудзіць, корпацца, калупацца. Чо ты кошкаясса, людзі ўжэ паехалі, а ён усе яшчэ прыбіраяцца. Каленікі.

Ко́шкаць незак. Варушыць, пераварочваць, злёгку разграбаць. Пачаў кошкаць прысак, аш там – печана бульба, нікаторая зусім згарэла. Кашэўнікі.

Ко́шусць ж. Перхаць. Як кошусць, та, кажуць, трэбо мыць галаў цыбульным наварам, памагая. Перстунь.

Ко́щык м. Від дзявочай прычоскі – косы, заплеценыя ў адзін венчык і прымацаваныя на патыліцы. Дзяўчата ўсё косы заплятали ў такі кошык, шпількамі прыколвалі. Бакуны.

Ко́шыр м. Мяса з пярэдняй часткі тушы каровы ці бычка. Старыя

яўрэі тулько кошыр елі, другого мяса ім німожно было есці. Індура.

Крагелькі мн. Прылада для размотвання маткоў нітак. Надзеняш маток на рашке, і давай накручваць ніткі на крагелькі. Копанькі.

Крамар м. Уладальнік крамы або прадавец у краме; крамнік. Крамар у карчме ні адзін прадаваў гарэлку, яму памагала шынкарка. Дзекалавічы.

Крампавацца незак. Саромецца. Ён нідзе ні быў, крампавацца будзя перад людзьмі. Занявічы.

Крампулец (крампуляц) м. Моцнага складу чалавек, здаравяка. Ён такі крампуляц, яго ніхто ні здужая. Кунцаўшчына.

Крамсаць незак. Неакуратна, невыразна пісаць, крэмзаць. Як пачне крамсаць, та толькі паперу змарнуя. Аульс.

Красёнка ж. Прыстасаванне на плыце ў выглядзе рамкі для замацавання шырыгі (тоўстага кала); для тармажэння і затрымкі плыта. Бес красёнак шырыгу магло п скруціць набок, вырваць. Дзекалавічы.

Красіво н. Красала, крэсіва. Красіво мужчыны рабілі с сярпоў старых, адаб'еш кусочак сярпа – ужэ красіво маяш. Пракопавічы.

Краснагаловік м. Падасінавік. Мама як пойдзя ў Віхноўшчыну, та адных краснагаловікаў кош набярэ, месца такое ведала. Свіслач.

Крахцець незак. Крактаць. Штось наш дзед захварэў, с печы ні злазіць, крахціць. Каўпакі.

Крок м. Крык. Дзеці нарабілі кроку, і самы ні ведаюць чаго, кажуць, нешто паказаласо. Клачкі.

Крокаць ж. Балота, нізкае багністае месца. Людзі сталі гарэлку піць, а чэрці па крокаці вадзіць (прымаўка). Рудавіцы. Тут такая крокаць, што ні пралесці; ні праехаць. Верцялішкі.

Кругелькі мн. Тое, што крагелькі. Спачатку ніці з маткоў перамотваюць на кругелькі, а тады ўжэ снуюць на снойніцу. Пяслі.

Крук м. Груган. Крук круку вока ні выдзяўбе (прыказка). Кунцаўшчына.

Крумкачы мн. перан. Жабы. Крумкачэ пад вечар пачынаюць крумкаць, як ціхо станя. Лаша.

Крумкі мн. Жабы-жарляняткі. Крумкі пачалі крычаць, цяпло будзя. Гродна.

Круп-круп выкл. Вокліч, якім падзываюць куранят. Мая маці, бывала, кіне жменю круп і кліча: „Круп-круп-круп", каб ішлі есці. Лойкі.

Круцель м. Непаседа. Ну і круцель, а ні адной мінуткі ні пасядзіць на месцы, усе круціцца. Сіўкава.

Круціцца: круціцца на языку – успамінацца. Круціцца на языку,

а ніяк ні магу ўспомніць, як называўсо. Бычкі.

Кручок м. 1. Пячкур. Якая там рыба, адны кручке ў рэццы водзяцца. Балічы. 2. Невялікая медная пасудзіна ў выглядзе чаркі з ручкай для піцця гарэлкі. Як ачышчаў пажарыско, то знайшоў ашчэ Бэркаў кручок, ля, паглядзі які. Свіслач.

Крушня ж. Куча камення. Якое ў нас там поле было, нічого ні расло, адны крушні, камень, грэччына і тая ні хацела расці. Славічы.

Крывіндзя ж. Пра жанчыну, якая часто хварэе і мае дрэнны настрой. На гэту крывіндзю гляняш і сам скрывісса. Лаша.

Крышчыны мн. Астаткі ў дзежцы пасля хлебнага квасу. Квасу ўжэ німа, адны крышчыны ў дзешцы. Караневічы.

Крэнк м. Канец, смерць. Крэнк на іх прышоў, адгулялі панэ свае. Кунцаўшчына.

Крэнтам-бэнтам прысл. Бестурботна; гультаявата; ухіляючыся ад работы. Гэ, гэты чалавек пражыў свой век крэнтам-бэнтам, хіба ш што ён рабіў? Верцялішкі.

Кубарка ж. Бляшанка. Во, дай гэту кубарку, хай дзіця пагуляя. Каленікі. Бывало, накрышыш сабе ў кубарку тытуню і за дзень высмаліш. Сухая Даліна.

Кубатарка ж. Інкубатарка. Кубатаркі — нідобрыя куры, натто ш палахлівыя, паверху ходзяць. Свіслач.

Кубачкі мн. Белыя гарлачыкі. Нашы хлопцы на чайку сядуць і едуць рваць кубачкі, а яны такія харошыя-харошыя! Свіслач.

Кубрак м. Тужурка; мужчынская кароткая адзежына з самаробнага сукна. Хлопцы і мужчыны кубраке сабе шылі, а найбольш усе ў Крынках шылі. Бакуны.

Кудаса ж. Мяцеліца, завіруха, завея. Глядзі, на дварэ якая кудаса, свету ні відаць. Карозічы.

Кудраўцы мн. Кудзеркі. На маім кані кудраўцы уюцца (з нар. песні). Зарыца.

Кудыкольвяк, куды-кольвячы прысл. Куды-небудзь. Пайду куды-кольвячы, каб і гочы ні бачылі вас. Кульбакі. Ён можа кудыкольвяк і паступіць, бо вучыцца нікепско, голаў мая. Кадыш.

Кузака ж. Казяўка, кузурка. Ля, паглядзі, нека кузака паўзе, каб дзіця ні ўкусіла. Дарашэвічы.

Кука ж. дзіцяч. Ранка, болька. Ні бяры ножыка ў рукі, а то куку зробіш. Скрабляві.

Кукла ж. Заламаны і зблытаны пук жытніх сцяблін, які, па ўяўленні забабонных людзей, мог наклікаць бяду на гаспадара нівы. Мы куклы баяліса, абжыналі яе левай рукой і кідалі прас сябе, выносілі на дарогу. Клачкі. 2. Від жаночай прычоскі — сабраныя ў касу і закручаныя ззаду валасы. У Кругліках дзяўке косы ўсе закручвалі у куклы, прыколвалі шпількамі; мода такая была.

Круглікі.

Кукоўка ж. Зязюля. С кукоўкамі кукавала, у вішнёвым саду начавала, с салавейкамі шчабятала (з нар. песні). Свіслач.

Куксач м. Чалавек з астаткам пакалечанай або ампутаванай рукі (куксай). Куксач, правай рукой нічого ні мог рабіць, так і мэнчыўсо. Брузгі. 2. Моцны штуршок. Паліцман як пацсадзіў куксача пад дыхавіцы, та аж дух заняло. Каленікі.

Кулёўка ж. Машына для прамога абмалоту жыта ці пшаніцы. Кулёўцы былі толькі ў багатых гаспадароў, бедныя і цапамі ні мелі чаго малаціць. Бабpоўнікі.

Кульбака ж. Прыстасаванне ў кроснах ў выглядзе выгнутай палкі для падкручвання навоя з асновай. Як трэбо, кульбаку падымяш і колькі трэбо новой сабе пакруціш. Карозічы.

Кульбакі мн. устар. Дэталі ў парным ярме ў выглядзе выгнутых палак і металічных пруткоў. Як кульбакі ўставіш у ярмо, та валэ ў баке ні будуць разыходзіцца, просто пойдуць. Крыўляны.

Кульбачка ж. Гладкая палка з сучком для мяшання стравы ў гаршку. У міне кульбачка была, як у бусла дзюба, добро было мяшаць у гаршках. Канчатка.

Кульша ж. Бядровая частка нагі. Глядзі, з зімы ў каровы зусім кульшы павысыхалі, адкуль тое малако будзя. Старая Дубавая. У нашай Цацэлі вельмі такі тоўстыя кульшы, аж людзі смяюцца. Брузгі.

Куля ж. Кастыль, мыліца. Тады, як ён ногу зламаў, та можа месяцаў два на кулях хадзіў. Віцькі.

Куляць незак. Выцягваць коньмі бярвенне на бераг ракі. Во, плытэ прышлі, заўтра будзям куляць дзераво з Нёмана. Свіслач.

Кумкаць незак. Крактаць, квакаць. Жабы ў сажалцы кумкаюць, на цяпло, відаць, павярнуло. Кунцаўшчына.

Кумпята мн. Пра бёдры; сцёгны. Ні лесь у сат, а то кумпята паадбіваю, будзяш ведаць. Кавалічы.

Кундаль м. Сабака з доўгай шэрсцю. Кундаль некі прыбіўсо, ні адагнаць ат хаты. Занявічы.

Курай м. Курыны гермафрадыт. Курай, мусі – ні курыца, ні пятух, чорт ведая, што купіла. Радзевічы.

Курак м. Туга звязаны і запалены пучок саломы. Як смалім паршука, та тато курак запаліць, і ён курыць; як трэбо агню, падуя – і загарыцца, ні трэбо запалкаў. Квасоўка.

Кураке мн. Гнілыя, спарахнелыя кускі драўніны, якія кладуць у дымар для падкурвання пчол. Бяда, кураке вышлі, ідзі і зноў дзе шукай, німа з чым да пчол падысці. Караліно.

Куралей м. Тое, што і курай. У нас быў адзін рок куралей, ні спяваў, яец ні нёс, та маці зарэзала. Путрышкі.

Кураўка ж. Прымітыўны дымар для падкурвання пчол. Дымароў такіх ні было, скруціш ганучку, патпаліш – во і кураўка, да пчол ідзеш, паткурваяш. Ахрымаўцы.

Курачы прым. Курыны. Курачы гной трэбо вадой разбаўляць, а так можа папаліць цыбулю. Свіслач. Курачы зносак моцны, любое яйцэ можа пабіць. Грыўкі.

Курашчуп м. пагард. Пра мужчыну, які правярае курэй-нясушак. О, да чаго дажыўсо курашчуп гэты, сам курэй шчупая. Рудавіцы.

Курбан-байрам м. Рэлігійнае свята ў скідальскіх татараў. На Курбан-байрам заўсёды бычка татары рэзалі, па кавалку разносілі па хатах, бедным аддавалі ногі і рошкі. Скідаль.

Курвель м. Распуснік. Гэты курвель ні дзіцей, ні жонкі ні трымаўсо, пакуль голаў ні скруціў. Літвінкі.

Курдупяль м. Недаростак; карлік. Курдупяль, ніяк ні расце, і па ком ён удаўсо? Лаша.

Куркнуць незак. Курлыкнуць; падаць голас (пра птушку). Ашчэ ні адна птушка ні куркнула, а ён ужэ палетак абышоў, усё агледзяў. Бакуны.

Курмяўка ж. Невялікая рыба сямейства карпавых, аўсянка. Кажуць, на курмяўку добро фарэль браласа. Бакуны. Адных курмявак налапаў, якая там рыба. Чэхаўшчына.

Курна ж.: скруціць у курну – скруціць у крук, у баранаў рог. Як схапіў Гарцёма, так і скруціў у курну, той ні адагнуўсо. Кунцаўшчына.

Куропка ж. Курапатка. Куропкі, як настаня вечар, так за адрынамі і крычаць, бегаюць па полі. Скамарошкі.

Курпель м. Недаростак; карлік; заморанае дзіця. Курпель, мусі, ні вырасця, зусім замарыла мачаха. Кунцаўшчына.

Курта ж. Пра жывёліну з кароткім хвастом. У нашых сучка была, Лёдзяй звалі, курта, зайцоў добро лапала. Свіслач.

Курыла (курыло) н. Самаробны дымар для падкурвання пчол. Бес курыла да пчол ні суньса, засякуць. Азяркі.

Кухта ж. пагард. Дзяўчына лёгкіх паводзін. Хто яе ні ведая, гэта ш кухта, з жаўнерамі круціласа. Круглікі.

Куцаваць незак. Тармасіць, тузаць. Сабака, які дагнаў яго, так і стаў куцаваць, пакуль ні адагналі. Баяры.

Куцю-куцю. Вокліч, якім падзываюць авечку. Куцю-куцю, гавечкі, пайшлі ў хлеў. Луцкаўляны.

Кучкі мн. 1. Рэлігійнае свята ў яўрэяў (у верасні – месяцы), да якога кожны вернік рабіў сабе кучку (буданчык), у якой праводзіліся абрады. Задажджыласо, мусі, яўрэйскія кучкі натходзяць. Пракопавічы. 2. Укладка зжатай грэчкі для прасушкі. У нас грэччыну ў кучке ставілі, каб дождж ні намачыў. Кавальцы.

Кушнерка ж. 1. Шапка з футра такога самага колеру, як і каўнер адзежыны. Некалі шляхта ўсё кушнеркі насіла, такія дарагія шап-

кі. Эйсманты. 2. Зімовая шапка з казінага футра. Прыдбаў сабе кушнерку, і нідарагая, і цёплая. Брузгі.

Кушпе́ль м. Недаростак; карлік. Кушпель, гэта ж дваццаты рок ад мая пашоў, а ён ад зямлі ні адрос. Белева.

Кы́цы-кы́цы выкл. Воклiч, якім падзываюць ката. Кыцы-кыцы, Мурачка, хадзі малачка трошкі пап'еш. Жукевічы.

## Л

Лаба́сцік м. Пра чалавека з вялікім выпуклым ілбом. Лабасцік, у яго лоп як тачыло. Кунцаўшчына.

Лабахта́р м. Ілгун, хлус. Гэта лабахтар, як пачне лабахтарыць, та канца і берагу німа. Гліняны.

Лабе́сіна ж. экспр. Лоб. Як сеў есці, та еш, а то заробіш лошкай па лабесіні. Кунцаўшчына.

Лабе́шка ж. экспр. Галава. Каб яго лабешку ды другому, та той міністрам стаў бы. Свіслач.

Лавіча́нка ж. Даматканая спадніца з рознакаляровымі палоскамі. Як маладзейша была, та больш усё лавічанкі насіла с такімі паскамі па краёх. Сапоцкін.

Ладо́ды мн. Галушкі з цёртай бульбы, закручаныя ў капусны ліст і залітыя тлушчам або макам з цукрам. Ціпера ладодаў ні пякуць, а некалі пяклі. Калбасіна.

Ладу́нак м. Груз, паклажа. Ладунку на возі, здаецца, ні много было, а конь аш упрэў. Агароднікі.

 Laды́га ж. Сцябло без лісця. Той рок чэрві ўсе яблыні аб'елі, адны ладыгі тырчалі. Рацічы.

Лады́шак м. (і ладышка ж.). Збанок без ручкі. У ладышку малако заўсёды халаднейшо, бо у ім палівы німа. Азёры. Напіўсо, як ліса з ладышкі (прымаўка). Кавалічы.

Лажамэ́нт м. экспр. Ложак. Нічого ў яго ў хаці німа, адзін некі лажамэнт стаіць. Кунцаўшчына.

Лажбі́на ж. Лагчына, нізіна. Вёска наша ў лажбіні, у ёй зацішней, ні так вецяр дуя. Галаўнічы.

Лаза́нкі мн. Страва з парэзанага на квадрацікі тонкараскачанага цеста, запраўленая макам і цукрам. На першу куццю маці заўсюды лазанкі варыла, іх халоднымі елі. Балічы.

Лазэ́нга ж. і м. Бадзяга, валацуга. Лазэнга ты, цэлымі днямі недзе ўсё лазіш, у хаці ні прыпыняесса. Гродна.

Лакта́ць незак. Жлукціць. Прывык гарэлку лактаць, і рады з ім ніякай німа. Рыбніца.

Ламаві́к м. Парода дужых коней для перавозкі цяжкіх грузаў. Усе цяжары тады перавозілі ламавіке, ніякіх машынаў ні было. Ласосна.

Ламa´к м. 1. Пра дэбільнага чалавека. Ламак некі, да яго нічого

ні прыстае, ніякая культура. Капцёўка. 2. Прылада для першапачатковай апрацоўкі лёну. Спачатку лён трэш на ламак, а потым ужэ на церніцу. Бакуны.

Ламанцы мн. 1. Цёртая бульба ў выглядзе галушак, запечаная на капусных лістах. У Капцёўцы некалі такія ламанцы пяклі, дзеці натто любілі. Капцёўка.

Ламастаць незак. Бязлітасна рваць садавіну; латашыць. Малымі, бывало, як пойдзямо ламастаць па садох яблыкі, та ламастаем, пакуль хто ні напрэ. Пышкі.

Ламата ж. 1. Хваравітае адчуванне болю ў касцях, суставах, мышцах. У нас даўней, як у каго ламата ў касцях, та да балючага месца прыкладвалі сінюю гліну. Селюкі. Ламата нека ў суставах, месца ні находжу. Малая Альшанка. 2. Пра непаваротлівага, няўклюднага чалавека. От ужэ ламата, шагу зрабіць ні можа, кап што ні разбіць! Свіслач.

Ламачка ж. Драўляная прылада для першапачатковай апрацоўкі льну; прымітыўная церніца. Спяршы лён ламалі на ламачках, а пасля ўжэ церлі на церніцах. Карозічы.

Ламашыцца незак. Неспакойна спаць, варочацца. Як ляжа, та ламашыцца, аш надаесць. Квасоўка.

Ламбучок. Тонкая галінка. Глядзі, якісьці ламбучок пасадзіў, а якое дзерава вырасло. Цыдовічы.

Лані прысл. У мінулым годзе, летась. Лані жыто ні такое палёглае было, як у гэтым року. Пагараны.

Лантух м. груб. Вялікі жывот. Наела лантух, і ледво лазіць ціпер, нагнуцца ні можа. Казіміроўка.

Лапатка ж. 1. Драўляная прылада для капання торфу ўручную. Я сам, як папавыкідаў лапаткай торпу, та назаўтро рук ні мох падняць. Круглікі. 2. Дэталь у калаўроце ў выглядзе лапкі, з дапамогай якой прыводзіцца ў рух махавое кола. Лапатку і самому можна зрабіць с планачкі, нічога тут цяшкага німа. Казіміроўка.

Лапатнік м. Качарэжнік. У нас у лапатніку стаяла качарга, лапата хлеп садзіць, а таксама і памяло. Бандары.

Лапатуха ж. Выгіб у лязе касы, як вынік няправільнага яе кляпання. Лапатуху, мусі, у касу ўвагнуў, касіць ні будзя. Агароднікі.

Лапаць незак. Лавіць. За ім гестапо ганяласо, паліцаі лапалі, і ні маглі злапаць. Аульс.

Лапоўка ж. Хабар. Ён, кажуць, лапоўку даў солтысу, кап у Германю дочку ні вывязлі. Індура.

Лапсярдак м. Доўгая мужчынская вопратка, лапсардак. Кажуць, яшчэ дзет мой насіў лапсярдак. Азёры.

Лапунэ мн. Невялікія круглыя аладкі з цёртай бульбы, запраўленыя макам і цукрам. Адвары лапуноў на вячэру, даўно ні варыла. Бакуны.

Лапшы́вы прым. Пра чалавека, які многа і без разбору есць. Ён такі лапшывы, што сырое еў бы. Баброўнікі.

Лапянда́ ж. Жанчына, якая многа без толку гаворыць; лапатуха, балбатуха, Ні аднаго талковага слова ні скажа, бо лапянда есць лапянда. Рагачы.

Ла́сне пабочн. сл. 1. Уласна. Ласне, ці я табе ні казала, што гэтак будзя? Славічы. 2. часціца. Хіба, няўжо, ці. Ласне гэта праўда, што людзі пра яго кажуць? Кунцаўшчына.

Ластажы́ць незак. Лупцаваць, біць, хвастаць. Каб жывіну так ластажыць, гэта трэбо зверам быць. Свіслач.

Ластама́н м. Крывадушны ліслівы чалавек. Але ж і ластаман, глатко сцеле, цвёрдо спаць, як той казаў. Кунцаўшчына.

Ла́стаўка ж. Клін, вузкая трохвугольная ўстаўка ў адзенні. Ну і каптан шшыў – рукі ні падняць, мусі, ластаўку ні так. уставіў. Бычкі.

Латве́й прысл. Зручней, ямчэй. Тут будзе латвей пераехаць прас рэчку, ні глыбоко. Занявічы.

Ла́ўка ж. Частка плыта, у якой звычайна налічваецца 24 бервяны. У плыце бывае 20 і больш лавак. Загорцы. Лаўкі звязваюцца шварцугамі, каб маглі выгінацца, выкручвацца на загібах. Дарашэвічы.

Лаханда́ ж. Жанчына, якая многа без толку гаворыць; балбатуха. З гэтай лахандою лепяй ні сустракацца, як развядзе неку нуду, та німа на што і слухаць. Саломенка.

Ла́х м. Абарванец, дрэнна апрануты чалавек. Ішоў пад гарой некі лах, але я і не падумаў, што гэта наш сваяк. Зарачанка.

Лахмы́тка ж. Дрэнна апрануты чалавек. Чаму ўжэ гэта ты як лахмытка ходзіш, здаецца і зарабляяш добро? Жытародзь.

Лахна́ ж. Тое, што. і лаханда. Як дзве лахны зыдуцца, та іх і вадой ні ражжанеш. Пагараны.

Лаху́дра ж. Неахайны чалавек. Калі жонка лахудра, та ні паможа і пудра (прымаўка). Круглікі.

Ле́да ж. Прылада ў выглядзе трох замацаваных апораў, калаўрота і жалезнага тросіка для падымання бярвенняў. Маючы леду, і аднаму можно палажыць штуку на вос. Азеркі, Грандзічы.

Ле́два (ледво). Ледзь, ледзьве. Стары ледво шчарапкаўсо на печ. Верцялішкі. Да гэтаго марозу ледво бульбу кончылі выбіраць. Малая Капліца.

Ле́днік м. Халадзільнік. Сваго ледніка німа, та стаўлю ў леднік кватаранткі. Зарубічы.

Ле́мях м. Лямеш (частка плуга). На нашай зямлі лемях тупіцца хутко, бо каменяў много. Кавалічы.

Ле́нь у знач. выкл. Глянь, паглядзі. Лень, гэта што за людзі ідуць, аткуль яны? Ферма.

Ле́рка ж. Дэталь калаўрота ў выглядзе металічнай пласцінкі для

замацавання шпулькі. Як выпадзя лерка, та ўжэ прасці ні будзяш, шпулька станя. Круглікі.

Ле́ха ж. Кавалак ворнай зямлі. Цэлу леху зямлі захапіў, жыто пасею. Зарубічы. Згараў у дзве лехі ніву. Малая Альшанка.

Ле́хкі прым. Спрытны да хады, лёгкі. Хто з ім ззыдзецца, ён лёхкі, як хорт. Трычы.

Ле́шка ж. Невялікі кавалак ворнай зямлі. Цэлу лешку пасеяў грэччыны, хоць жарства, але павінна вырасці. Парэчча.

Лёды мн. Марожанае. Пойдзем, зафундую табе лёдаў. Пракопавічы.

Лёз (лёс) м. Зазор, запас, прамежак. У боці замного лёзу, нага шлыгаяцца. Жылічы. Калясо ходзіць, лёз завелькі, трэбо мутру паткруціць. Горніца. 2. Вольны, свабодны час. Ён мае больш лёзу, чым я, таму і рыбу ловіць. Пагараны.

Лёнка ж. Затычка (металічны шпянёк, які ўтрымлівае кола на восі). Заткні лепей лёнку і прывяжы, каб ні выпала ў дарозі. Лаша.

Лёстачкі мн. 1. Ліслівыя словы. Яна лёстачкамі чалавеку душу дастаня, ты яе ні ведаяш. Баброўнікі. Ён усё лёстачкамі да яе патходзіць, далікатне. Бакуны. 2. Прымітыўная медыцынская шына ў выглядзе двух вузкіх змацаваных планачак. Як я руку паламала, та яе ў такія лёстачкі бралі, кап косць зрасласа. Свіслач.

Ліме́невы прым. Алюмініевы. Ліменевы дрот ні мая такого прыцяжэня, як жалезны. Зарубічы.

Лі́нка ж. Жалезны трос. Адзін раз лінка ні вытрымала, пэнкла, та паром лѐдво затрымалі, так нясло. Жылічы.

Ліпатэ́нт м. Упаўнаважаная асоба. Мой дзед ліпатэнтам у пана Клімашэўскага быў, меў давер кіраваць усімі лясамі. Скідаль.

Лі́фік м. Бюстгальтар, ліфчык. Раней дзеўкі ніякіх ліфікаў ні ведалі, а ціпер кожна ў ліфіку ходзіць. Галаўнічы.

Ліхі́ прым. Адваротны бок адзення, матэрыялу. Глянь, на ліхі бок надзеў сарочку. Балічы.

Ліхта́р м. Падсвечнік. У нашай цэркві ліхтар быў вісячы, блішчасты такі, з медзі. Табольская Будка. У нас у хаці і ціпер есць ліхтар, баба ў ім свечкі ставіць. Яскевічы.

Ло́гавіска (і лагавіска). Логава. Як гоўца пасьвілі, та пат карчом знайшлі воўчо логавіско, з ваўчанятамі. Караневічы. Мы тады знайшлі ў асінніку лягавіско, аля ваўчанят у ім ні было. Зарубічы.

Ло́жачка ж. Дыхавіца. Нечаму баліць пад ложачкай, як дыхнеш, та аш коля. Прыгодзічы.

Ло́жачнік м. Прыстасаванне для сушкі лыжак. Нат палічкай тут быў прыбіты ложачнік, у яго лошкі ўтыкалі. Караневічы.

Ло́жка (лошка) ж. Лыжка. Пасля вайны лошкі самы рабілі,

вылівалі з люменю, цынку. Капцёўка.

Ложка (лошко) н. Ложак. Да вайны, помню, былі дзеравяныя лошкі, рассоўваліся, па пяць чалавек можно было спаць. Баброўнікі.

Лом м. Металічны прэнт для закрывання дзвярэй. Як прыехалі з бежанства, та дзверы бралі на лом, кап коней ні пакралі. Стрэльчыкі.

Лонскі прым. Мінулагодні. Яны ашчэ лонскі хлеб ядуць, жыто маюць староё. Батароўка.

Лоц м. Костка пры гульні ў бабкі або шашкі, якая ўпала на зямлю выпуклым бокам. За лоц больш выігрывалі грошай, чым за жох. Караневічы.

Луб (луп) м. Накрыўка ў рыбацкім чоўне. Нацягні луб, бо дошч пачынае крапацець. Пагараны.

Луначка ж. Маленькі загончык зямлі, градка. Луначку цыбулі пасадзіў, будзя на зіму. Зарубічы.

Лунка ж. Круглы посуд з лубу для вымярэння збожжа. Лунка – гэта пудовая мера будзя. Бакуны.

Лупаты прым. Пра чалавека з вялікімі тоўстымі губамі. Ля, некі хлопец у клуб лупаты прышоў. Брузгі.

Лупаць незак. Лыпаць. Стаў, узіраецца і тулькі лупае вачыма. Пракопавічы.

Лупач м. Пра чалавека з тоўстымі губамі. У нас аднаго лупачом празывалі, бо меў велькія лупы. Калбасіна.

Лупы мн. экспр. Губы. Ты чо гэта на міне лупы наставіў, і глядзіш, як на воўка. Брузгі.

Лучко н. Дугападобная ручка ў маленькім сіце. На, патрымай за лучко сітко, кісель працадзіць трэбо. Кунцаўшчына.

Лучак. м. Ручка на касільне. Лучак трэбо прымацаваць пат свой рост, тады і касіць спраўней. Сухая Даліна. Найлепшы лучак з вербалозу, ён як высахня, та такі лёхкі, моцны. Рудавіцы.

Лыгаць незак. Ілгаць, хлусіць. Змалку прывык лыгаць і ціпер лыжэ. Бычкі.

Лыгун м. Ілгун, хлус. Ой, ні магу цярпець, як гэты лыгун выступае. Жылічы.

Лыжбы мн. ж. 1. Лыжы. Ціпер на лыжбах усе егдзяць – і старыя, і малыя. Пышкі. 2. Самаробныя драўляныя канькі, падбітыя знізу дротам. Як дзецьмі былі, та самы рабілі лыжбы, па лёдзі егдзілі. Копанькі.

Лымя н. Вымя. Натта ж у каровы лымя цьвёрдо, рукі адбярэ, пакуль выдаіш. Каўпакі.

Лында ж. Гатунак бульбы белага колеру з ружовымі плямкамі. Пры паляках садзілі лынду – бульба такая была. Брузгі.

Лынды мн. экспр. Доўгія ногі. Ты дзе гэта свае лынды садзіш, тут і так месца няма. Кунцаўшчына.

Лэбусь м. экспр. Пра маленькага хлопчыка. На работу трэбо ісці, а лэбуся свайго німа с кім пакінуць, хоць ты плач. Сухая Даліна.

Лэмнуць зак. Знікнуць, прапасці. Недзе як лэмня, та цэлы дзень ні відаць. Аульс.

Лэнда ж. Гультаяватая жанчына, балбатуха. Казалі: ні бяры, а ён узяў лэнду, ціпер хай сам за яе бегая. Лаша.

Лэнтух м. экспр. Вялікі жывот. Ён з-за сваго лэнтуха зямлі ні бачыць, ледво цягая. Канчатка.

Лэпа ж. Гатунак бульбы белага колеру з сіняватымі ямачкамі. У нас была картофля лэпа, урадліва натто, много пат кальвам. Сапоцкін.

Лэхаць незак. Прагна і многа есці. Удачны паршучок гэты рок, што ні дасі – лэхае, аш вушы трасуцца. Верцялішкі.

Лэхтаць незак. экспр. Піць, жлукціць.Ён добро лэхча гарэлку, німа таго дня, каб ні піў. Аульс.

Любівае прым. Худое, поснае, без тлушчу (пра мяса). Аніяк ні магу сытаго мяса есці, толькі любівае. Балічы.

Любчык (люпчык) м. Шматгадовая расліна сямейства архідных, чараўнік. Кажуць цешча любчыку яму дала, та ён і ўзяў, а так бы сядзела ў дзеўках. Забаганікі.

Людска (люцко) прысл. Па-людску. Люцко зрубілі майстрэ хату, будзя век стаяць. Дзекалавічы.

Люмень м. Алюміній. Гэта ж люмень, ні мець, што ты хіба ні пазнаеш? Свіслач.

Лютаеж (лютаеш). Той, хто не мае апетыту, дрэнна есць. Ён у мяне лютаеж, як стаіш з лошкай каля рота, та ашчэ з'есць што. Віцькі. Свінчо ні ўдалосо – лютаеш, яду яму хоць на вушы вешай. Дарашэвічы.

Лютаежны прым. Пра таго, хто дрэнна есць. Купіў якуюсьці лютаежную карову, адкуль у яе малако будзя. Малая Альшанка.

Люфцік м. Фортка. Адчыні люфцік, хай пара ззыдзя. Квасоўка.

Люцыпар м. Чорт, д'ябал. У Руцявым балоці чэрці водзяцца, а над імі самы старшы – люцыпар. Селюкі.

Люшка ж. Чыгунная круглая накрыўка, якой закрываюць комін. Прычыні люшку, каб цяпло с печы ні вышло. Кавалічы.

Люшні мн., ж. 1. Дэталі ў возе (іх дзьве), якія надаюць ўстойлівасць драбінам. Без люшняў снапоў у драбы ні наложыш, бо ручкі ні вытрымаюць. Рагачы. 2. Прылада ў выглядзе дзвюх скрыжаваных жардзін, прымацаваных да задняй восі (пры перавозцы доўгіх бярвенняў). Як вязеш доўгу штуку, та бяз люшняў ні абысціса, бо зад воза будзе круціцца. Бакуны.

Лявош м. Далёкія ад сядзібы палеткі ворнай зямлі, на якія не давалі гною. На нашым лявошы нічого ні расло, былі рокі такія, што нават ні верняш насеня. Эйсманты.

Лягары мн. Доўгія жэрдкі, якія кладуць аднымі канцамі ў ваду пад плыт, а другімі на бераг; па лягарах коньмі выцягваюць на бераг бярвенне. Па мокрых лягарах лепяй куляць дзераво. Хамякі.

Лягаць незак. Класціся. Трэбо ўжэ лягаць спаць, позно, ні ў каго агню ні відаць. Батароўка.

Лягуміны мн. Прысмакі, ласункі. Распешчано дзіця, на адных лягумінах жыве. Кунцаўшчына.

Ляда ж. Прылада ў выглядзе трох змацаваных апораў, калаўрота і жалезнага тросіка для падымання бярвенняў. Ляда, браце, гэта добра штука, любую калоду можна палажыць нават аднаму. Сабаляны. 2. Скрынка ў сячкарні, па якой падаецца салома для рэзкі. Як сячкарня на маторы, та тулькі паспявай лажыць салому ў ляду, так рэжа. Табала. 3. Віка. Ляды пасеяў мо с паўгактара, будзя каровам да сечкі прырэзваць. Табала.

Лядаваць незак. Падымаць, класці бярвенне на воз пры дапамозе ляды. Мы з цесцям удвох лядавалі дзераво, удвох ашчэ спраўней лядаваць. Рыбніца.

Лядаўніца ж. Металічная дэталь сячкарні, праз якую салома непасрэдна падаецца пад разакі. Як многа наложыш, та салома аш трашчыць у лядаўніцы, так ідзе. Адэльск.

Лязаваць незак. 1. Гасіць вапну. Чысто вапна рукі параз'ядала, пакуль лязаваў. Балічы. 2. Мясіць, пераціраць гліну. Гліну трэбо добро лязаваць, бо як апальваць, та цэгла пэнкаць будзя. Гліняны.

Лязней прысл. Вальней, свабодней. Пасуньцяса наперат, можа, трошкі лязней будзя ў аўтобусі. Рацічы.

Лякацець незак. Дрыжаць, трасціся. Прайшоў той час, што перат кожным панком трэбо было лякацець. Вялікая Альшанка.

Ляля ж. перан. Распешчаная, не прывучаная да працы дзяўчына. Узяў такую лялю, што ціпер самому трэбо за ее гаршке мыць. Верцялішкі.

Лялясаць незак. экспр. Голасна крычаць, енчыць. Як пачалі лялясаць, та я с хаты ледво ўцёк, там ні разбярэш, хто праў. Кавалічы.

Лямех м. Лямеш. Лямех згараўсо, трэбо да каваля, каб нагастрыў. Баброўнікі.

Ляндух м. (і лянтух). Вялікі жывот. Як стаў начальнікам, так і ляндух адгадаваў, а то раней і ганавіцы ні трымаліса. Батароўка.

Ляндэрак м. 1. Маленькая каструля з ручкай. Вазьмі ляндэрак, ды звары кашы дзіцяці. Васілевічы. 2. Чыгунны посуд у выглядзе міскі на трох нізкіх ножках. У ляндэрку толькі скварке скварылі, больш нічога. Індура.

Лянішча н. Поле, на якім рос лён. На лянішчы трэбо было больш

гною класці, бо лён усё высмактаў, расці нічого ні будзя. Галаўнічы.

Ляпей прысл. Лепш, лепей. Ляпей у зямлі ляжаці, чым з немцам баляваці. Капцёўка.

Ляпняк м. Клейкі, няўдала спечаны хлеб. Хлеп як ляпняк, але, як кажуць, хлеп ні нявеста, які ўдаўсо, такі і з'есца. Горніца.

Лярва ж. Пра здаровую гультаяватую жанчыну, якая жыве за кошт працы іншых. Гэтай лярве адно ў галаве – кап толькі пасцаць і добро пад'есці. Свіслач.

Ляска ж. Папярочныя планкі ў драбінах воза. У драбінах лясак ні хватая, трэбо новыя паўстаўляць. Кругляны.

Лятарня ж. 1. Ліхтар. Некалі ні адзін гаспадар бяз лятарні ў хлеў, як сцямнее, ні ішоў, гэта ціпер усюды аляктрычаство. Цвіклічы. 2. перан. экспр. Галава. Але ж і ласая кабыла, так і садзіць сваю лятарню, каб гламянуць што. Баранава.

## М

Маглявáць незак. Прасаваць, разгладжваць. Жаляскаў ні было, маглявалі бялізну валкам і качалкам, качаяш, пакуль глаткай ні станя. Клачкі. Вазьмі жаляско дый маглюй плаце, заўтра свято велька. Галаўнічы.

Магляўніца. ж. Драўлянае прыстасаванне для разгладжвання, качання бялізны. У нашых і ціпер магляўніца есць, плаце маглююць. Клачкі.

Мадэля ж. устар. Гатунак бульбы. Бульбу мадэлю разводзілі, добро разварваласа, рассыпчаста такая была. Цыдовічы.

Мадэрыя экспр. ж. Невялікая, нескладаная справа. Ну і што, велька тут мадэрыя, я і сам магу гэта зрабіць. Свіслач.

Маёхас м. экспр. Гулянне, выпіўка. А гэта ў вас што тут за маёхас? Пракопавічы.

Майдан м. Вымашчаная каменнем яма для гною. У майдан заягджалі параконнымі вазамі гной браць. Свіслач.

Майранак м. Маяран. Як майранак есць, та ўжэ ні трэба ні перцу, ні лаўроваго лісця. Казловічы.

Майстравы прым. Умелы, здатны да работы чалавек. Хлопяц майстравы, усё можа сам зрабіць. Каўпакі.

Майткі мн. Штаны, нагавіцы. Майткі хлопец зусім падраў, ні настарчысса яму купляць. Квасоўка. Зашпілі шлейкі, а то майткі згубіш. Карозічы.

Макавене н. Макоўнік. Некалі, як дзіця ні спіць, напараць макавеня, напояць – і яно спіць, ні разбудзіш. Зарубічы.

Макаўнікі мн. Піражкі з макам. Макаўнікі – сама лепша яда была на куцю. Калбасіна.

Макацёрка (і макацёрт, макітра). Макацёр. Як маці малола мак, та я макацёрку трымаў, кап ні круціласа. Каўпакі. Патрымай макацёрт, трэбо маку змалоць. Бандары. Як свая макітра, та і добро, калі захацеў, тады маку і змалоў. Круглікі. Макотру ойцец купіў, файно будзя мак малоць. Эйсманты.

Макля́к м. Бязвольны, бесхарактарны чалавек. Макляк некі ні мужчына, ні ён, а жонка ім кіруя, што хоча робіць. Кунцаўшчына.

Малаве́ля прысл. Крыху. Кап хоць малавеля што стараўсо рабіць, а то нічагусянькі ні робіць. Балічы.

Малахо́льны прым. Недаразвіты. Малахольны чалавек, што аб ім казаць, нечаго ні дастае. Свіслач.

Малаці́льнік м. Малацьбіт. Малацільнікі лупяць цапамі, тулько лёскат ідзе. Балічы.

Малача́й м. Грыб з шырокай белай шапачкай. Малачай самы смашны грып, хрупкі такі. Зарубічы.

Малёгаваць незак. Настойліва прасіць, выпрошваць. Як пачне малёгаваць, ну як тут яму аткажаш, ні дасі. Карозічы.

Маліства́не н. Выпрошванне. Колькі гэтаго маліставаня было, як тут яму аткажаш. Сапоцкін.

Маліства́ць незак. Выпрошваць. Маліставаў, маліставаў, ледво вымаліставаў у гэтаго скнэры. Сухая Даліна.

Ма́ла (мало) прысл. Ледзь. Мало ні парваліса ат смеху, так рагаталі з яго. Галынка.

Мало́чна дарога. Млечны шлях. Паглядзі, як малочна дарога працягнуласа, бела якая. Забагонікі.

Мана́рка ж. Куртка. Манарку сабе файну пашыў, будзя ў чым да людзей выйсці. Галаўнічы.

Манджэ́ва (манджэво) н. Лістаўніца. Да нас адзін пан манджэво с Францыі прывёс, с той пары і расце ў лесі. Зарубічы.

Мандрэ́й прысл. Разумней, талкавей. Гэты добро сказаў, а той ашчэ мандрэй. Свіслач.

Манёбры мн. Манеўры. Відаць, манёбры пачаліса, войска натта ш много. Гінавічы.

Маніґра́нт м. Эмігрант. Дохтар у Індоры быў, маніграт, фамілю забыў, дачка мо помніць. Навасёлкі.

Мані́с м. Гатунак тытуню. Некалі маніс сеялі, як закурыш, на ўсю хату пах ідзе. Кунцаўшчына.

Мані́ць незак. Угаворваць. Ты яе мані, кап хаця ні здумала ісці ў Іванаўцы праз лес. Радзевічы.

Манке́ты мн. Манкет м. Манжэт. Манкетаў шляхта ні вышывала, вышываны былі толькі ў мужыкоў. Занявічы.

Ма́рац м. Сакавік. Радаваўсо старац, што пражыў марац, а як прышоў май – ды паняслі ў гай. Пагараны.

Маркаве́не н. Маркоўнік. Маркавене чысто на марозі памерзло, ні прыкрылі. Кунцаўшчына.

Маркітаць незак. Пра перыяд цечкі ў авец. Гаўца маркітаць стала, усе бегая, бляе. Дарашэвічы.

Маркітун м. Маркач. Маркітун нігды да хаты ні прыдзя, усе бегая за гоўцамі, ні нойдзяш яго. Панямунь.

Мармоліць незак. Невыразна гаварыць. Ён зроду такі быў, толькі маці і магла разабраць, што ён мармоліць. Скідаль.

Мармынуць зак. Зікнуць. Недзе, як мармыне, та і за свечкай яго ні знойдзяш. Вялікая Жорнаўка.

Марокаць незак. Маракаваць. Во, на яго і людзі марокаюць, а ён сабе жыве і ў вус ні дуя. Рагачы.

Марцаваць незак. Пра цечку (гон) у катоў. Кошка марцуя – весну чуя. Рудавіца. Катэ пачалі марцаваць, усю ноч дзяруцца, ні заснеш. Кунцаўшчына.

Марынарка ж. Пінжак. Марынарку як пашыў, та і ціпер ходзіш. Малая Жорнаўка. Раней марынаркі сваёй работы насілі, ніхто іх ні купляў. Адэльск.

Марэніць незак. Хіліць да сну. Прасьці ні магу, марэніць, кап хоць на мінутку прылехчы. Бандары.

Маслінóўка ж. Хустка белага колеру з кветкамі. Масліноўкі ні дарагія былі, дзяўке і бабы насілі. Казловічы.

Маслюк м. Масляк, казляк. Маслюке таксамо можно сушыць як і белыя грыбэ. Зарубічы.

Маслянка ж. Маслёнка. Шляхта скупая была, на адной маслянцы жыла, з бульбай усе елі. Балічы.

Мастыкавацца незак. Зручна размяшчацца, уладкоўвацца. Улес у аўтобус і давай мастыкавацца, кап дзе спраўней сесці. Свіслач.

Мастыколіцца незак. Масціцца, уладкоўвацца. На вяселі кожны мастыколіцца, каб бліжэй да стала сесці. Рацічы.

Маставіло н. перан. Высокі, нязграбны чалавек. Ля, зноў маставіло палес, недзя, перавальваючыса збоку на бок. Круглікі.

Матаідло н. (і матаілка, ж., матачка ж.). Матавіла. Круцяча матаідло ні так просто зрабіць, яго заказвалі ў майстра. Капцёўка. У міне матаілка ашчэ бабіна была, натта лёхка матала. Пяслі.

Матарзак (і матуз) м. Скручаная вузкая палоска тканіны для завязкі. Патпяражацца нейкім матарзаком, аш смех бярэ, і ходзіць так. Адэльск. На, хоць гэтым матузом мяшок завяжы, мо ні развяжацца. Загорцы.

Матарóўка ж. Маторная лодка. Да вайны ніякіх матаровак ні было, ніхто на іх ні егдзіў. Кашэўнікі.

Матыгавацца незак. Разважаць, меркаваць, раздумваць, прымервацца. Што тут доўго матыгавацца, кожны ведая, як рабіць, як зробіш, так і добро будзя. Кунцаўшчына.

Матыжыць незак. Матычыць. У гародзі буду матыжыць пасолю, а то пырай пашоў. Свіслач.

Матэйка ж. Цімафееўка. Канюшыну добро з матэйкай сеяць, яна ні паляжа. Гушчыцы.

Махер м. экспр. Жулік, ашуканец. Ого, ён добры махяр, я яго даўно знаю. Індура.

Махрачка ж. Гатунак бульбы. Махрачка зусім ніўрадліва бульба, пат кальвам много, але як гарэхі. Кавалічы.

Махрачэ мн. экспр. 1. Махры. Як настольнік з махрачамі, та ён і глядзіцца ляпей, як такі. Адэльск. 2. Карэнне, якое мае вялікую колькасць дробных пабегаў. Бульбы німа, як вырвеш кальво – адныя махрачэ. Рагачы.

Мацак м. Моцнае велікоднае яйка. Як пападзецца мацак, та любое яйцэ паб'еш. Лаша.

Мацёра ж. Свінаматка. Добра была мацёра, шторок парасят прыводзіла, грошы бралі. Агароднікі.

Мацыклет м. Матацыкл. Ні хочаш жыць, купі сабе мацыклет, та галаву скруціш. Галынка.

Мацыя ж. Справа. Велька тут мацыя, я і сама гэта патраплю зрабіць. Лікоўка.

Мацярке мн. 1. Частка канапель, з якой атрымоўваюць насенне. Мацярке ні цвітуць, з іх бывая семя. Пад'ятлы. 2. Маткі. Ціпер і мацярке часамі атказваюцца ат сваіх дзіцей. Гродна.

Мачнікі мн. Піражкі, начыненыя макам і падсмажаныя на скавырадзе. Як с кудзелямі хадзілі, та часто мачнікі сабе пяклі. Путрышкі.

Мачула ж. (і мачуло н.). Мачыльня. У нас каля зроя была мачула. Тумашы. Мачуло было файнае, ніглыбока. Панабіваям колікаў і мочым лён. Копанькі.

Мачымόрда м. лаянк. П'яніца. Мачыморда спакою людзям ні дае, надаеў усім. Круглікі.

Машыць незак. Класці мох паміж бярвёнамі ў сценах пры будоўлі. Трэбо сцены добро машыць, та зімой будзяця сядзець у цяпле. Капцёўка.

Мелініс м. Млён. Мелініс з аднаго канца акуты, насаджана рэхвачка і шпянёк убіты. Азяркі, Грандзічы.

Ментка ж. Лапка ў калаўроце, якая прыводзіць у рух вялікае кола. Ментка рамушком прывязвалаcа да панажа, каб мацней трымалаcа. Яскевічы.

Месячнік м. Лунацік. У нас быў адзін месячнік, у месячную ноч хадзіў па стрэхах. Пад'ятлы. Як месяц свеціць, та месячнік усю ноч ходзіць па дварэ, і дзіця плача. Цыдовічы.

Мішугін м. экспр. Вар'ят. Ні звязвайся з гэтым мішугінам, ён што хочаш можа зрабіць. Пракопавічы.

Млеўка (і млява) прысл. Млосна. Неяк млеўко стало, у галаве завярнуло ат слабасці. Пагараны.

Млін м. Млын. У Вайтаўшчыні вадзяны быў млін, ціпер ні меля.

Кунцаўшына.

Млінар м. Млынар. У Гаркоўскім мліне млінара ні было, сам малоў. Карозічы.

Мляўкі прым. Млявы, вялы, пазбаўлены бадзёрасці. Як гарачэ, та мляўкі станеш, рабіць ні хочацца. Баброўня.

Мляўш м. 1. Слабасільны конь. Гэтым млявушом і за двое сутак да Гродна ні заедзяш. Круглікі. 2. Мужчына, які многа есць, а сілы не мае. Мляуш некі, есць ні ў свае духе, а мяшка з воза ні падымя. Баранава.

Могліцы (і моліцы) мн. Могілкі. Могліцы зусім зараслі, на іх даўно ніхто ні хавая. Радзевічы. Ні пазнаць, што моліцы, усё зарасло лесам. Караневічы.

Модзіцца незак. Франціць, прытрымлівацца моды. Нешто наш удавец модзіцца, з хлопцамі пачаў хадзіць. Абуховічы.

Можджар м. Медная ступка для размолу спецыяў. Можджар і ў нас быў, перац маці церла. Кунцаўшчына.

Мокраць ж. Непагадзь, слата, хлюпата. На дварэ мокраць, с хаты ні хочацца вылазіць. Зарачанка.

Момра м. ж. Той, хто невыразна гаворыць. Момра нешто момрыць, нічого ні разбярэш, што хоча сказаць. Бяляны.

Момрыць незак. Невыразна гаварыць, мармытаць. Сказаць ён нічого ні скажа, толькі момрыць сабе нешто пад нос. Бакуны.

Мондры прым. Мудрагелісты, хітрамудры. Занатта ш ты мондры стаў, аткуль такі ўзяўсо? Гібулічы.

Мондрыцца незак. Мудрагеліцца, разумнічаць, мудраваць. О, мондрыцца, а такі, як і ўсе. Адэльск.

Мончка ж. Цукровы пясок. Той рок за бураке добро далі, аш па сто кілё мончкі. Адэльск.

Мотар м. Доўгая палка (2–3 м.), якой рыбакі наганялі ў сетку рыбу. Мотар возьмяш, ды як пачнеш пляжыць ім па вадзе, так рыба і дае ў неват. Пагараны.

Мрэц м. Нябожчык. Мрэц так і стаіць у гачах, баюсо на двор выходзіць. Рудавіцы.

Мудохацца незак. Мучыцца, мардавацца. Кінь ты мудохацца, уся роўно да вечара ні кончыш. Кунцаўшчына.

Мудрык м. Той, хто мудрагеліць, хітруе. Кап такіх мудрыкаў больш было, та свет перавярнуўса п. Круглікі.

Муза ж. Няўмела прыгатаваная страва. Нейкай музы наварыла і паставіла есці. Рацічы.

Мул м. Іл, глей. Як папаў ў мул, та ледво ногі выцягнуў, так і зацягвая. Азёры.

Муляк м. Мазоль. Намуляў муляк на пазе, ніяк ў ботах ні магу. Лэйгабалі.

Мурлыга м. экспр. Пра мардатага чалавека. Мурлыга такі, хто паверыў бы, што яго смерць возьме. Панямунь.

Мурок м. 1. Выступ над прыпечкам ў печы. Маці паставіць газоўку на мурок і бульбу скрэбе. Круглікі. 2. Мурожная сенажаць. На мурках расце руціца, гарошак, добрая трава. Клачкі.

Мурын м. Негр. Мурыну гэтаму і вада ні паможа, мый, ні мый – усероўно чорны. Круглікі.

Мус прысл. у знач. вык. 1. Неабходна, патрэбна. Нам гэто мус зрабіць, іначай нічого ні будзя. Грандзічы. 2. Павінен. Я мус гэта сказаць, каб ён ведаў. Пагараны.

Мусі пабочн. сл. Мусіць. Мусі, я табе надаеў, ні да каго, а ўсе да цібе іду прасіць. Занявічы.

Мусова (мусово). Неабходна, патрэбна. Нам мусово паехаць да ўнукаў, даўно ні бачылі. Ласосна.

Мутарны прым. Заблытаны, цяжкі для рашэння. Гэта, брат, мутарная справа, тут сам чорт ні разбярэ. Мігова.

Мутра ж. Вялікая гайка, якая ўтрымлівае кола на асі воза. Мутру добро ні закруціў, глядзі кап калясэ ні спало. Баяры.

Мушля ж. Бяззубка. Як пойдзямо на рэчку, панабіраям мушляў і гуляям сабе. Кузьмічы.

Мша ж. Імша. Мшу закупілі ў касцелі па нібошчыку тату, будзя рок, як памёр. Эйсманты.

Мыліць незак. Абмінуць, абысці. Ляпей мыліць ліхого чалавека, чым з ім сустрэцца. Квасоўка.

Мырса ж. Мыса, пыса, морда. Малако кепско, кот мырсу сваю ўсадзіў і ні п'е. Гінавічы.

Мыслівец м. Паляўнічы. Бывае мыслівец праходзіць цэлы дзень і з пустым дахаты ідзе. Эйсманты.

Мышкаваць незак. Разнюхваць, выведваць. Чо тут мышкуяш, тут тваго нічого німа. Нямейшы.

Мэйсар м. Спецыяльны шавецкі нож. Вазьмі другі мэйсар, гэты дай пагастру. Індура.

Мэнка ж. Мука, пакута. З малымі дзяцьмі мэнка, а як падрастуць, та ашчэ большая мэнка. Квасоўка.

Мэнтаць незак. Перакладаць рэч без патрэбы з аднаго месца на другое. Што ты мэнтаяш яе ў руках, палажы, а то папсуеш. Падліпкі.

Мэнчыцца незак. Мучыцца. Хвароба аднекуль прычапіласа, тулькі мэнчыцца чалавек, ні жыве. Ферма.

Мэрля ж. Марля. Тонкая баваўняная тканіна. Я праз мэрлю кісель цадзіла і добры выходзіў. Кульбакі.

Мэтар м. 1. Цэнтнер. У мэтры лічыцца шэсць пудоў, ні менш. Ферма. Мы цэлы мэтар пшаніцы вальцавалі, было на зацерку і на пірагe. Свіслач. 2. Кубічны метр дроў. Даўней усе торпай палілі, як купіш які мэтар дроў, та і ўсё. Пракопавічы.

Мэшты мн. экспр. Хатні абутак. Недзе мэшты мае падзелі, ніяк ні знайду. Кунцаўшчына.

Мядзгала (мядзгало) м. Няўклюда, непаваротлівы чалавек. Мядзгало нека, ні можа прайсці, кап ні зачапіцца за што-небуць. Карозічы.

Мядніца ж. Медны таз. Мядніцаў ніякіх ні было, мыліса ў балеі, улієш трошкі вады і мыясса. Лугавая.

Мязга ж. Маса ў гарбузе, у якой знаходзіцца насенне. Гарбуз той добры, у якім мязгі много. Балічы.

Мянтовы прым. Мятны. Мянтовыя цукеркі файныя, але, кажуць, няможно таму есці, хто на сэрцо хварэя. Занявічы.

Мярнічы м. Каморнік, спецыяліст па межаванню зямельных надзелаў. У нас мярнічы ні быў, а там быў, дзе рабілі хутарэ. Карозічы.

Мятляць незак. Кідацца ў розныя кірункі. Ліса хітра, просто ні бяжыць, мятляя, кап след свой замясці. Жукевічы.

Мяшэчнік м. Чалавек, які быў вымушаны хадзіць (з мяшком) па вёсках і здабываць сабе на пражытак, жабрак. Пасля вайны, як голад быў, та мяшэчнікаў праз вёску чалавек сто пройдзе, і кожнаму трэбо было даць, бо людзі. Свіслач.

## Н

Наабум прысл. Наўгад, не падумаўшы. Ат, сказаў абышто, наабум. Малая Жорнаўка.

Наба ж. Дэталь у калаўроце, на якой мацуюцца спіцы вялікага кола. Наба робіцца тулько з бярозы, кап спіцы добро трымаліса. Канюхі.

Набакерыцца зак. Прыняць баявую позу, падрыхтавацца да сутычкі. Ні руш яго, глядзі, як набакерыўсо, можа ўдэрыць. Каўпакі.

Набандзаваць зак. Напоўніць, налажыць больш меры. Ці ж гэто парадак? Набандзуя поўно вядро малака, а тады, разліваючы, нясе. Баброўнікі.

Набасонач прысл. Набасанож, на голую нагу. Пакуль што, надзеняш боты набасонач і жывей у хлеў – карова на цялені. Малахавічы.

Набахаць зак. Наліць звыш меры. Набахала поўну балею халоднае вады і кажа: „На, мыйса!" Кавалічы.

Набільніцы мн. Набіліцы. Як ччэш, та набільніцамі прыстукваяш, кап нітка добро прыставала. Зарубічы.

Набінос м. Пра чалавека, які мае звычку лезці ва ўсе справы. Такі набінос, усюды ён свае тры грошы ўсуня. Кунцаўшчына. Набінос усюды ўсадзіць свой нос. Кунцаўшчына.

Набовіч м. (і набойка ж.) Бандарская прылада для набівання абручоў на бочкі .Як добры набовіч каваль-зробіць, та і габручэ

спраўней набіваць. Бандары. Габруч на месцы ні сеў, і набойка ні памагае. Бандары.

Набо́й м. Снег на дарозе, убіты (утрамбаваны) конскімі капытамі. Набой на дарозі велькі, цяшко мыліць, так і засядзяш, як з'едзяш убок. Гарны.

Набрэ́нкнуць зак. 1. Набрыняць. Дошкі набрэнкнулі, трэбо сушыць, бо ні пагаблюяш. Сухмяні. 2. Апухнуць. Ногі нечаму набрэнклі, у боты ні ўлазяць. Свіслач.

Набутара́жыць зак. Нагрувасціць, бязладна накласці. Набутаражыў снапоў на вос і кажа: „Вязі!" Але ш дзе тут іх давязеш. Балічы.

Навіна́ ж. Страва, звараная першы раз у сезоне. Навіна на вячэру будзя, крапівы маладой наварыла з бульбай. Кунцаўшчына.

Наво́дзіць незак. Падбухторваць, настаўляць варожа аднаго на другога. Гэта ён наводзіў хлопцаў, каб яны Івана набілі. Свіслач.

Наво́круг прысл. Навокал, навокала. О, гэтаго прайдзісвета навокрух ведаюць. Чэхаўшчызна.

Наво́тляй прысл. Наводмаш. Доўга ні чакаючы, адвёў яму навотляй, і сам у ногі. Стрэльчыкі.

Наво́шчуп прысл. Вобмацкам, усляпую, наўздагад. Цёмно, ледво дзверы навошчуп знайшоў, выйшаў с хаты. Верцялішкі.

Навучыце́лька ж. Настаўніца. Навучыцелька той рок на кватэры ў нас была, ціпер у школі жыве. Кашэўнікі.

Нага́баць зак. Напаткаць, сутрэць. Ледво яго неяк нагабаў, а то ён усё стараўсо ні пападаць мне на гочы. Лаша.

Нага́ўка ж. Калоша, калашына. Пашыў ганавіцы, надзеў, а зноў адна нагаўка чамусьці карочша. Клачкі.

Нагі́хар прысл. Абы-як, на хуткую руку, нявкасна. Ціпер, брат, усё робіцца нагіхар, абы хутчэй. Караневічы.

На́гла ж. (і нагліца). Трасца. А нагла яго ведая, дзе ён прападая цэлы дзень, дзе яго бура носіць. Гарны. Нека нагла да чалавека прычапіласа і жыць ні дае. Чэхаўшчына. Во, нека нагліца прычапіласа, начнеш што рабіць і – ні можаш, сілы німа. Свіслач.

Надава́цца незак. Падыходзіць, быць прыгодным, прыдатным. Гэта скура якраз надаецца для вырабу хрому, чаравікі добрыя будуць. Карозічы.

Надае́дны прым. Надакучлівы. Надаедны чалавек, як прыстаня – рады німа, ні аччэпісса. Гарны.

Надаўбня ж. 1. Надаўбень. Кап немцы ў горат ні ўварваліса, капалі равэ, надаўбні ўбівалі ў землю. Гродна. 2. перан. Няўклюдная, тупая жанчына. Неку падаўбню ўзяў, ні жонку, нічого рабіць ні ўмея. Кунцаўшчына.

На́дауміць зак. Навесці на думку, на розум. Нарэшце ты міне надауміў, ціпер ведаю, што рабіць. Крыўляны.

Надаяда м., ж. Дакучлівы, назойлівы чалавек. Надаяда ні хлопяц, як прыстаня, ні аччэпісса ад яго. Гібулічы.

Надзелень ж. Пра недаспелую садавіну. Як у пасылку, та я грушы надзелень зрываю, пакуль зойдуць – якраз даспеюць. Каленікі.

Надундзіцца зак. экспр. Напіцца, нассацца. Дала цыцкі дзіцяці, та ўмэмант надундзіласо і во спіць. Дарашэвічы.

Надуцька (надуцько) м. Пра незадаволенага, надзьмутага чалавека. Надуцько нейкі, ходзіць надуўшыса. Казіміроўка.

Надэбацца зак. Нахадзіцца. Баба каля хаты нічого цяшкаго ні робіць, а за цэлы дзень надэбаяцца, ледво ногі валачэ. Кавалічы.

Нажанята мн. ласк. Ножкі. Ідзі сюды, Пецік, нажанята пагрэю, а то скарчанеў чысто. Гарны.

Нажачоны м. Кавалер, залётнік, нарачоны. У нашай Гэлі нажачоны ўжэ есць, можа і вяселё хутко будзя. Квасоўка.

Нажутка ж. устар. Верхняя жаночая вопротка. Помню, нажутку такую пакойніца мама насіла. Канчатка. Нажуткі аксамітныя былі, іх настаяшчыя дзяўке насілі. Казіміроўка.

Назімка ж. Азіміна. Назімка у гэтым року добра, рунь аш паслалаща. Ліхачы,.

Наказане. н. Кара; бяда, гора. Вот наказане з гэтым хлопцам; вучыцца аніяк ні хоча. Каўпакі.

Накараць зак. Пакараць. Ідзі накарай яго, а то ніяк ні слухая мацяры. Сухаўляны.

Наклад (наклат) м. Накладка (з сухога карэння пырніку на верх страхі). Я, бало, як зраблю наклат, прывяжу жэрткамі, та ніяка бура ні ззарве. Казіміроўка.

Налыгацца зак. экспр. Наесціся больш, чым трэба. Налыгаўса клецак, а ціпер хварэяш, жвот баліць. Тужаўляны.

Налягаць незак. Настойваць, дамагацца. Каб ні налягаў на яго, та ён інстытута ні кончыў бы. Кунцаўшчына.

Намырснік м. Наморднік. Надзень намырснік цяляці, а то зноў ссе карову. Забагонікі.

Намэдрыкі (і намэтрыкі) мн. Набэдрыкі. Намэдрыкі заказвалі ў рымара, самы ні шылі. Круглікі. Намэдрыкі надзявалі на каня, кап хамут на шыю ні налазіў, як з гары едзяш. Пагараны. Помню, як тато намэтрыкі прывёз с Скідаля, там заказваў. Свіслач.

Наніц прысл. Зусім, цалкам. Як узяўса, та хлопца наніц збіў, аш шкада стало. Хлістовічы.

Наотляй прысл. Наводмаш, з размаху. Казюк ішоў, а потым як урэжа наотляй паліцыянту, та той і паляцеў. Зарубічы.

Нападарэндзі. прысл. Побач, паблізу, пад рукамі. Ні руш, хай стаіць войдзяка, нападарэндзі, каб можно было ўзяць. Лікоўка.

Напірыць зак. экспр. Набіць, налупцаваць. Здаеца, напірыў, як каня, а ён усероўно свае робіць. Хамякі.

Напíхач м. Той, хто многа есць; абжора. Некі напіхач, жарэ ні ў свае духе, і ўсе яму мало. Свіслач.

Напýгацца зак. экспр. Нахлябтацца, насёрбацца. Дзеці напугаюцца вечарам зацеркі і сьпяць, як забітыя. Круглікі.

Напýдзіць зак. Напалохаць. Іван як напудзіў яго, та той уцякаў, аш шапку згубіў. Тарусічы.

Напýчыцца зак. Утаропіцца, уставіцца позіркам. Сядайця, цётку, чо на міне так напучыліса. Ласосна.

Напяхóту прысл. Пеша. Мне некалі напяхоту ні страшно было хадзіць, а ціпер і аўтобусам ні магу ехаць. Гарны.

Нарáзе прысл. Пакуль што, нейкі час. Наразе пахадзі ў старым каптане, а потым зробім новы. Хлістовічы. Ні руш, хай наразе тут пабудзе, а потым перавядзем у другі хлеў. Рацічы.

Нáрты мн. Лыжы. Нарты як натрэш воскам, та зусім іначай ідуць, ні чуваць пад нагамі. Занявічы.

Нарцярка ж. устар. Від зімовай шапкі. Некалі шапку-нарцярку купіў, та і ціпер нашу. Рацічы.

Насакéрыцца зак. Варожа наставіцца. Я, здаецца нічого яму і ні сказаў, а ён, бачу, насакерыўса, глядзіць воўком. Кунцаўшчына.

Насéнніца ж. Насенная бульба, якая праляжала ў зямлі да восені і не згніла. Я ніяк ні магу адрозніць насенніцы ад бульбы, разам кідаю ў кошык. Свіслач.

Наскавáць зак. Нацкаваць. Як наскаваў сабаку на свіней, та чысто вушы паабрываў. Старая Дубавая.

Насóўвацца незак. Нахадзіцца. За цэлы дзень насоўваесса каля хаты, нох ні чуяш. Тумашы.

Настáрчыцца зак. Прыстарацца, забяспечыць. Дзецям аднаго тулькі абутку ні настарчысса, ні толькі чаго. Рагачы.

Настаяшчы прым. Сапраўдны. Бярэця, гэта настаяшчы ліповы мёт, ні падробляны, каб я так здарова была. Круглікі.

Настрáмак м. Невялікі воз сена, саломы. Якое там сено было на Грайні, прывязеш настрамкаў два, і ўсё. Кунцаўшчына.

Настрýг (наструх). Нож з дзвюма ручкамі для вырабу клёпак. Наструг з добрай сталі, та зусім іначай стругаць, другая работа. Азеркі, Грандзічы.

Настрэнчыць зак. Нараіць, параіць, парэкамендаваць. Я табе настрэнчыў добраго чалавека, будзяш век успамінаць міне. Няцечы.

Настыбýрчыцца зак. Адтапырыцца. Каўнер кравец некі ніўдачны зрабіў, настыбурчыцца, ніяк ні прылягая. Жукевічы.

Настырлівы прым. Настырны. Настырліва дзеўчына, тры разы паступала ў нісцітут, аш пакуль сваго ні дабіласа. Кунцаўшчына.

Натармóліць зак. Наліць чаго-небудзь звыш меры. Натармоліла ў зацерку аднаго малака і кажа, кап еў. Каўпакі.

Натрапа́ць зак. Набіць, налупцаваць. Енчыў на ўсю хату, пакуль ні натрапала, ціпер во спіць. Хамякі.

Натрусі́ць зак. Параскідаць, натрэсці, насмяціць. Натрусіў на падворку саломы, а пазбіраць німа каму. Балічы.

Наты́хмяст прысл. Неадкладна, тэрмінова. Ідзі і натыхмяст мне прынясі тоя, што ўзяў, бо кепско будзя. Каўпакі.

Наўза́вады прысл. Галопам, наперагонкі. Як вадзілі пасвіць коні, та часто наўзавады ездзілі, хто каго перагоніць. Кунцаўшчына.

Наўзна́к прысл. Наўзніч. Ляж, сынок, наўзнак, можа заснеш, будзя ляхчэй. Рудавіцы.

Наўпрастке́ прысл. Нацянькі. Калі пойдзяш наўпрастке, сцежачкай, та брот тут нідалёко. Занявічы.

Наўрэ́цца зак. Захацець. Як наўрэцца, кап купілі гармонік, та будзя за табой хадзіць, пакуль ні купіш. Круглікі.

Наўсты́дзіць зак. Пасароміць. Ідзі наўстыдзі яго, можа цібе паслухая, старэйшаго, ні будзя так рабіць. Круглікі.

Нафурава́ць зак. экспр. Накласці звыш нормы. Нафуравалі на вос стольki збожа, а як яго давясці па такой дарозі? Рагачы.

Нахваро́бу прысл. экспр. Навошта, для якой патрэбы. Нахваробу ёй такі мужык здаўсо, кап на яго ашчэ рабіць. Ферма.

Нахля́цца зак, экспр. Напіцца. Бяда з ім, нахляяцца кожны рас і лезя, людзей ні ўстыдаяцца. Гродна.

Наця́віч (і нацягіч) м. Бандарская прылада для нацягвання жалезных абручоў. Быў у міне добры нацявіч, але зламаўса. Бандары. Як добры нацягіч, та габруч сам на месца сядае. Азеркі, Грандзічы.

Начва́ч м. Чалавек з вялікім жыватом. Начвач гэты, жвот, як начоўкі, ледво паўзе. Жылічы.

Начле́г (начлех). Пасьба коней ноччу. Як малым быў, та натто любіў вадзіць коняй на начлех, хоць тато ні пускаў. Лаша. Мой дзет казаў, што ён адзін валоў ганяў на начлех, ні баяўсо. Лікоўка.

Начмуці́ць зак. Звесці ў зман. Дзяцько гэты начмуціў, ні верця яму. Цыдовічы.

Начо́вачкі мн. памянш. Начоўкі. Найлепшыя начовачкі з ліпы, і з асіны, нікепскія, яны такія лехкія. Азеркі.

Нашарма́к прысл. Абыяк, як папала, нядбала. Ён ні майстар, усё робіць нашармак, абы грошы ўзяць. Батароўка.

Неаспа́лы прым. Той, хто рана ўстае. Чалавек неаспалы, ашчэ чэрці на кулачкі ні сходзіліса, а ён ўжэ нешто робіць. Жылічы.

Невыбрэ́дны прым. Нерaзборлівы ў ежы. Ён у ядзе невыбрэдны, што ні дасі – ўсё з'есьць. Рыдзелі.

Негаджа́й м. Неахайны. Негаджай некі, каб ні жонка, та прапаў бы, згінуў бы. Рацічы.

Недавярак м. Бязлітасны, жорсткі чалавек; ліхадзей. Недавярак, пакінуў сваю сям'ю і павалокса па свеці. Каўпакі. Гэты недавярак збыткуяцца з старымі, кажуць, есьці ні дае. Пракопавічы.

Недалэнга м., ж. Няўклюда, слабы, хваравіты чалавек. Недалэнга нека, ні да танца, ні да ружанца, толькі таго, што жыве. Казловічы.

Недарадзь (недарацьь) ж. Недарод, неўраджай. Недарацьь, каласэ ў жыці, як мухі, аткуль той умалот будзя. Барбарычы.

Недарасль ж. Недаразвітая садавіна. Недарасль на яблынях найдаўжэй трымаяцца, нават на зіму застаецца. Лаша.

Недасек м. Загана ў даматканым матэрыяле, недабой бёрдам нітак ўтка. Брытко каму паказаць кужаль, недасекаў нарабіла ткучы. Баброўнікі.

Недацёпа ж. Няўклюда, слабы, хваравіты чалавек. Яна сама бачыла, што недацёпа, але ж багаты быў, таму і вышла за яго. Свіслач.

Незграбоця (і незгрэба) ж., м. Пра нязграбнага, няскладнага чалавека. Але вот незграбоця, і ў каго яна ўдаласа? Баяры.
Няспрытны, няўмелы, нязграбны чалавек. Нязгрэба хлопец, нічого да яго ні прыстае, адзежа і тая ляжыць ні так, як трэба. Баркі.

Немчык м. Дэталь у калаўроце ў выглядзе лапкі, якая прыводзіць у рух вялікае кола. Як спадзе немчык, так калясэ і стане, прасьці ні будзяш. Пад'ятлы.

Неотлы (і нівотлы) прым. Слабы, хваравіты. Малой неотлая была, а ціпер бачыш, што за дзеўка вырасла. Свіслач.

Нехлюй м. Неахайны чалавек. От, нехлюй, рук нават ні памыя, так за стол і прэцца. Кунцаўшчына.

Нігды прысл. Ніколі. Нігды таго ні было, кап скакало памяло (прымаўка). Няцечы.

Нізгоршы прым. Нядрэнны. Някепскі, неблагі, даволі добры. У гэтым року ўраджай нізгоршы быў, німа чо казаць. Каўпакі.

Нізкі: Нізкі на вочы – блізарукі. Ён ніскі на гочы, добро ні бачыць. Забагонікі.

Ніпанадны прым. Непрывабны, пазбаўлены прывабнасці. Хлопец ніпанадны, а глядзі якую файну дзеўку ўзяў. Дубніца.

Ніраха ж. Неахайны. Здаецца і ў людзях недзе быў, а як быў ніраха, так і застаўсо. Баранава.

Ніўпорны прым. Няўчасны нясваечасовы. У Ганулі перша дзіця ніўпорна было, колькі яна з ім папамэнчыласа, што ні рабіла – усероўно ні выжыло. Карозічы.

Ніхарозны прым. Непрыгожы, непрывабны. Але ж і ніхарозны хлопец, і па кім ён пашоў? Славічы.

Ніц займ. Нічога. Ніц ні будзя мой, галубок, с свае хаты нікуды

ні пайду. Кузьмічы. Ніц ні бэндзе, пане сэндзя (прымаўка). Васоўка.

Нічальніцы мн. Прыстасаванне ў кроснах з прутоў і ніцей для раздзялення асновы на дзве часткі. Як дзяўкамі былі, та выбірыстыя радна ткалі ў шэсць і нават ў восім нічальніц. Віцькі.

Нішпоры мн. Вячэрняя касцельная служба. Ужэ ў касцелі на нішпоры зазванілі, пара ісці. Адэльск.

Нішчата ж. Галеча, беднасць. У Забагоніках нішчата была, ніхто бульбы свае ні меў. Забагонікі.

Нішчэмніца (і нішчымніца) ж. Нішчымніца, бясхлебіца, голад. Тады нішчымніца душыла, ні мелі чаго ў гаршчок нават усыпаць, галодныя хадзілі. Эйсманты. Некалі галодныя жылі, нішчэмніца мэнчыла. Сапоцкін.

Носаль м. Пра таго, у каго вялікі нос. Але ж і носаль, яго нос на семярых рос, а аднаму дастаўса. Кунцаўшчына.

Нудаль (і нуднік) м. Скнара, скупярдзяй. Нудаль, ён сам сабе есці шкадуя, ні толькі каму дасьць. Кунцаўшчына. Нуднік ты, чалавек табе дабро зрабіў, а ты нават паўбутэлькі ні паставіў. Гібулічы.

Нуртам прысл. Ніцма, тварам уніз. Мусі, лёх нуртам, бо храпе на ўсю хату. Салаўі. Кап ты лёг нуртам ды ні ўстаў. Кавалічы.

Нутрак м. Нутрэц (самец жывёлы). Нутрака ні выхарашаяш, у яго адно яйцэ ўнутры. Каленікі. У нас у аднаго быў нутрак, та рады ні было, так лез да кабылаў. Кунцаўшчына.

Нытка (нытко) прысл. Млосна, нядобра, моташна. Мусі страва нісвежа была, неяк нытко стало, ныдзіць. Малая Альшанка.

Нэк м. Заіка. Ад гэтаго нэка нічого ні даб'есша – будзе с паўгадзіны табе нэкаць, пакуль што скажа. Усенікі.

Нэмаць незак. Красці. Відаць і зноў недзя нэмаць пачаў, пакуль ні пападзецца. Індура. Прывык нэмаць, так і паглядае, дзе што нідобро ляжыць. Кунцаўшчына.

Нядбайліско (і нядбайліца) м., ж. Нядбайны, бесклапотны чалавек, нядбайла. Падло, нядбайліско гэты, каб ні цесць, та прапаў бы. Бычкі. Нядбайліцу неку ўзяў, ніц ні робіць, тулькі спіць. Казіміроўка.

Нямаць незак. Есці (дзіцяч). Ціхо, дзецятко, зарас нямаць будзяш, кашкі дам. Кашэўнікі.

Нямчур м. 1. Немец. У канцэ нашаго палетка нямчур некі ляжаў забіты, та дзед потым закапаў. Баяры. 2. Негаворкі, маўклівы, замкнуты чалавек (зневаж). Ён такі па натуры нямчур, будзя сядзець дзень і да жонкі ні акажацца. Гарны.

Нямчурыско м. (узмацн.). Немец. Вязла прадаць трошкі яец і масла, та халернік нямчурыско перапыніў, усё забраў. Каўпакі.

Нясўшча прым. Якая нясе шмат яец, нясучая. Кубатаркі нinfinite адаедлівы, але затое нясушчыя куры: Свіслач.

Няўдобкі мн. Няўдобіца, малапрыгодная зямля. Якая там у Берштах зямля была, адны няўдобкі. Азёры.

Няўломак м. Здаровы, нармальны чалавек. Ты і сам няўломак, можаш зрабіць, а то спадзяесса, што хто за цібе зробіць. Бандары.

Няхлюйства (няхлюйство) н. Неахайнасць, неакуратнасць. Няхлюйство страшно, да іх у хату носа ні ўсуняш. Вялікая Альшанка.

## О

О, выкл. О, ля – у значэнні: вось глядзі. О ля, які ты чалавек, гаварыў адно, а робіш другое. Хамякі.

Оберлюхт м. Верхняя рама акна, якая адчыняецца для праветрывання хаты. Аччыні оберлюхт, хай дух свежы ў хату надыдзе. Аленічы.

Обруць ж. Аброць. На гэтаго каня і обруць трэбо добру мець. Адэльск. Жарабяці ашчэ німа, а на яго обруць шыюць (прыказка). Малая Жорнаўка.

Обцасам прысл. Нахабна. Ты, што здурэў, обцасам лезяш на людзей, ні глядзіш ні вока ні бока. Рацічы.

Овад м. Авадзень. Гарачыня, гоўца збіліса ў горбу, овад нападая. Пагараны.

Огер м. Жарабец. Огер быў у пана, на ім ніхто ні егдзіў. Рагачы.

Огнік м. Скураная хвароба ў дзяцей, пачырваненне скуры. Огнік кабеты самы лячылі, набярэ ў кузні вады, у якую жалезо кладуць, памыя – і огнік прападзе. Сапоцкін. Огнік лячылі самы, выпякалі лёнам. Лаша.

Одведы м. Адведкі. Егдзілі ў одведы да маладого, паглядзелі, што мая. Караневічы.

Одур м. Адурэнне, зацменне свядомасці. Некі одур чалавеку старэйшаму ў голаў улес, пляце нешто дурное. Канчатка.

Ожах м. Асмалены кіёк, якім мяшаюцьу печы прысак. Зарас як вазьму ожах, дам па руках, будзяш ведаць, як рабіць. Яскевічы. Ожахам баба гочы можа павыпорваць, ні лесь да печы. Копанькі.

Ойдзя прысл. Тут. Ойдзя нікого німа, сядай пастаруям, як жыць будзям бес тата. Свіслач.

Окунь м. Акунь. На окуня-жыўца шчупак добро бярэ. Сухая Даліна.

Опарак м. Прылада для кідання камення. Опарак я сам сабе рабіў з вяровачак і раменьчыку. Зробіш і кідаяш камянь, аш свішча, ляціць. Кунцаўшчына.

## П

Паабрынданы дзеепрым. Заношаны, абтрапаны. Андарак паабрынданы, німа як да людзей выйсці. Кунцаўшчына.

Паабшмэрганы дзеепрым. Абтрапаны, заношаны, забруджаны. На ім адзежа заўсёды паапшэргана, бо ў чым ходзіць, у тым і спіць, у чым у пасцелі, у тым і ў касцелі. Кунцаўшчына.

Паацёпкваць зак. Растрапаць, паабіваць краі тканіны. Настольнік ні зарубіла, та чысто канцэ паацёпкваліса, німа як на стол заслаць. Белева.

Пабрысаць зак. Патаптаць, паблытаць. Ля, каля дарогі чысто жыто пабрысалі, як гэтыя людзі жаць будуць. Лікоўка.

Павесма (павесмо) н. Пасма нітак, валокнаў. За раніцу, бывало, павесмаў шэсць-сем лёну натрэш. Хамякі.

Павінуцца зак. 1. З'явіцца на кароткі час, на хвіліну. Здаецца тут быў, павінуўса і зноў недзе прапаў, шукай яго. Балічы. 2. Павярнуцца. Панаставіць тут пад нагамі гаршкоў, павінуцца німа дзе. Коматава.

Павядзыгаць зак. Павыскокваць Загаратку трэбо вышэй зрабіць, а то парасята павыдзыгаюць. Вострава.

Павэдлуг (павэдлух) прысл. Параўнальна, у параўнанні. Павэдлуг таго року, та гэты рок быў усё лепшы, нават грэччына ўрадзіла. Гібулічы.

Паваргоня ж. Пеларгонія. Павяргоня ні пахня, але файно цвіце, яе трымаюць, каб моль ні развіваласа. Свіслач.

Павятка ж. Паветка, павець. Пат павяткай дровы добро трымаць, яны і сохнуць хутко, і зьверху ні намочыць. Парэчча.

Павячоркі мн. Вячоркі. Помню, на павячоркі ўсе збіраліса ў нашай хаці, бо пpасторна была. Галавачы.

Пагібаны дзеепрым. Пагнуты, сагнуты. Узяў некі кубак пагібаны, кінь, нашто ён табе здаўсо. Ласосна.

Паглянуць зак. Глянуць. Паглянь, Іван, што тут робіцца, да чаго людзі дажыліса. Васілевічы.

Пагнойка ж. Шампіньён. Пагнойка – гэто такі грып, ён на гнае расце. Скамарошкі.

Пагрэбкі мн. Згрэбеныя рэшткі саломы пасля жніва. Адных пагрэпкаў прывязлі вазоў два, будзя каровам на зіму. Квасоўка.

Падагонніца (і падагонь) ж. Падхвоснік. Падагонніцу папраў, а то хамут кабылі на голаў з'едзя. Гібулічы. Бес падагоні, брат, возам з гары ні з'едзяш, кабылі ногі воз паадбівая. Карозічы.

Падалец м. Мядзянка. Як ступіў, так с-пад нагі босай і выскачыў, вывярнуўса падалец. Зарубічы.

Падане н. Заява. Злажыў падане, можа, якой пажычкі дадуць на адбудову хаты. Хлістовічы.

Падапнуць зак. Падвязаць, завязаць. Як да печы, та падапну сабе запонку, і андарак чысты, ні завэдзгаяш яго. Будоўля.

Падасовік . Падасінавік. Падасовікі я ні марыную, а сушу, бо з імі суп зімою добро варыць. Калбасіна.

Падацца зак. Падаць несапраўдныя звесткі пра сябе. Мікалай быў падаўсо, што ён з восьмаго року, а яму прызналі, што з дзісятаго. Белева.

Падаянка ж. Перадача прадуктаў харчавання, рэчаў каму-небудзь. Як нашы хлопцы сядзелі ў Гродзенскай цюрме, та можно было ў месяц перадаць толькі адну падаянку, больш ні прынімалі. Кавалічы.

Падбакерыцца зак. Падбадзёрыцца, прыняць баявую постаць. Ён ні з палахлівых, падбакерыўсо і кажа: „А ну падхоць!" Сухая Даліна.

Падбародавішча н. Падбародак. Што яму, есць і п'е, глядзі, падбародавішча абвісло, як у паршука. Баяры.

Падбаць зак. Змарнець, схуднець. Ён, мусі хворы, бо за гэты час зусім падбаў, паловы ні стало. Ахрымаўцы.

Падбой м. Падкладка ў вопратцы . Глядзі, у андараку падбой зусім аптрапаўсо. Пагараны.

Падбрэхач м. пагард. Даносчык, нагаворшчык. Хто яго ні ведая, ён за падбрэхача ў немцаў быў, на людзей даносіў. Каўпакі.

Падбярознік м. Падбярозавік. Падбярознікі найбольш пад бярозамі растуць, я, як пайду, так і назбіраю кожны рас. Канчатка.

Падвінуць зак. Захацецца, зажадацца , займець ахвоту. Як падвіне яму, та зробіць за двох, а так гультай, абібок. Віцькі.

Падгалы прым. Падгалісты, цыбаты. Конь, што Міхась купіў, некі падгалы, на ім тулькі вярхом егдзіць, ні гараць. Агароднікі.

Падгарляна ж. Ліверная каўбаса. За часоў польскіх купіш падгарлянай з паўкіля – і добро, бо кракаўская дарагая была. Гродна.

Падграбастаць зак. Падмяць; наваліўшыся, прыціснуць. Здаецца і нізавідны хлопяц такі быў, а як падграбастаў пад сібе, та той ледво ўстаў на ногі. Гліняны.

Паддастаткам прысл. Удосталь, уволю. Яны паддастаткам усяго маюць, тулькі аднаго птушынаго малака ні хватая. Свіслач.

Паддубнік м. Паддубовік. Паддубнікаў ні браў, а яны добрыя грыбэ, тулькі чорныя, як зварыш. Зарубічы.

Пад'еты дзеепрым. Сыты, накормлены. Чаго яму больш трэбо, ён і адзеты, і пад'еты, а ўсероўно носам круціць. Пагараны.

Падздэбіцца зак. Прыхарашыцца, прыбрацца. Старая, а падздэбіцца сабе, і, глядзі, добрая дзеўка. Рудавіцы.

Падземнік м. Пра шкоднага, скрытнага чалавека. Падземнік некі, ён на чалавека ні можа глядзець, нікого добраго ў яго німа.

Кунцаўшчына.

Падзе́ць зак. Схаваць; палажыць так, што цяжка знайсці. Сам недзе падзене шапку, а пасля ходзіць і шукая. Лугавая.

Падкавале́р (паткавалер) м. Падлетак, юнак. Ён у міне ўжэ паткавалер, на гуляне ходзіць. Лойкі.

Падкало́дка (паткалотка) ж. Рэдкая страва з бульбы, мукі і малака. Звары, кажа, падкалоткі, даўно ні варылі. Прыгодзічы.

Падкле́йка (патклейка) ж. Падкладка. Купіў новую патклейку, та нават паўрока ні пабыла, уся паляцела, падралаcа. Каленікі.

Падку́рване (паткурване) н. Абдаванне дымам пры варажбе. Занясі сваго Ванячку да Ганусі, хай паткурыць, паткурване ат пярэпалаху памагая. Лаша.

Падку́ць (патку́ць) зак. Падкаваць. Ні кожны каваль мог добро каня паткуць, бо гэто, брат, ні так просто. Белева. Я сваго Дэраша хачу на ўсе чатыры паткуць, бо дзераво з лесу буду вазіць. Квасоўка.

Падло́бнік м. Пра шкоднага, скрытнага чалаве́ка. Падлобнік, ні засміецца, глядзіць з-пад лоба. Табольская Будка.

Падлу́жваць незак. Скародзіць. У іншых вёсках кажуць скарадзіць, прыбіваць, а ў нас – падлужваць, калі першы рас барануяш па ўзгораным. Рацічы.

Паднябе́не н. Верхняя частка скляпення ў хлебнай печы. Як напаліш добро, та паднябене ў пячэ зусім стане белым. Каленікі.

Падо́лак м. Падол. Во, падолак чысто аптрапала ў спадніцы, бо задоўгу пашыла. Перстунь.

Падо́нкі мн. Ніжнія ад зямлі снапы ў стозе. З падонкаў сечкі ні рэзалі, яны мышамі смярдзяць, адны пераедзіны. Кунцаўшчына.

Падпалу́дзень (патпалудзянь) м. Яда паміж абедам і снеданнем. Як летам жнем, та ні заўсёды бралі на падпалудзень, бо ні было чаго браць. Бакуны.

Падпіла́к (патпілак) м. Напільнік. Але ш і цвёрда піла, два патпілкі змарнаваў, пакуль нагастрыў. Зарубічы.

Падпо́лак (патполак) м. Адна з дэталяў, сахі, на якой замацоўваліся норогі. Патполак з моцнаго дзерава рабілі, каб нарогі добро трымаліса. Азёры.

Падпру́га (патпруга) ж. Частка збруі для ўмацавання сядла ці падсядзёлка. Падцягні мацней патпругу, а то аглоблі добро ні трымаюцца. Бандары.

Падрашо́тнік м. Грыб, падобны да масляка, толькі з буйнейшай сеткай знізу. Падрашотнікі – гэто ні грыбэ, зварыш – чорныя, гатко глядзець, ні тулькі есці. Казіміроўка.

Падро́стак м. Падлетак. Глядзі, нідаўно падросткам быў, а ўжэ кавалер, жаніцца будзя. Гарны.

Падро́чвацца незак. Дражніцца. Ты чаго гэто падрочваесса, хочаш каб табе далі, потым плакаць будзяш. Пагараны. Чалавек

стары, а любіць падрочвацца з сабакай, аш ні хочацца ўзірацца. Галавачы.

Падрузгатаць зак. Пабіць, паразбіваць. Як разышоўса, та ўсе талеркі падрузгатаў, пабіў, а ціпер во новыя купляй. Кунцаўшчына.

Падсанкі (пацсанкі) мн. Дапаможныя санкі для перавозкі доўгіх бярвён. Бес патсанкаў з лесу доўгай штукі на санях ні прывязеш. Старая Дубавая.

Падспод (пацспот) прысл. Падыспад. Палажы салому пацспот, а то жыто ў мяшках адсырэя – зямля мокра. Каленікі.

Падспор (пацспор) м. Падмога, падтрымка. Яблыні – гэта велькі пацспор у гаспадарцы, прадасі – і ўжэ свежы грош есьць на абыходы. Агароднікі.

Падсухі (пацсухі) прым. Пацсухі чалавек здаравейшы бывая, як сыты, ён як смальняк, хвароба ні бярэ. Жукевічы. Пакуль сыты ссохня, та пацсухі здохня (прыказка) Кунцаўшчына.

Падтарганец (паттарганяц) м. Пра чалавека, у якога вопратка не адпавядае росту – кароткая. А гэта што тут за паттарганяц стаіць, аткуль ён ўзяўса? Кунцаўшчына.

Падтатакваць (паттатакваць) незак. Паттакваць, выказваць згоду. Што гэто за мужык, вечно паттатаквая жонцы, ён думая, што дагодзіць ёй? Баброўнікі.

Падтрасуха (паттрасуха) ж. Назва танца, які нагадваў польку. У нас польку паттрасуху раней скакалі, а ціпер, можа, ніхто і ні ведая, што была такая. Бакуны.

Падушка ж. Драўляны брусок, на які адным канцом кладзецца і прымацоўваецца бервяно пры перавозцы. Як на падушцы вязеш дзераво, та сані куды хочаш паверняш, яны пакручваюцца. Зарубічы.

Падхвацік (патхвацік) м. Прылада, з дапамогай якой ставяць або вымаюць з печы гаршкі; від вілаў. Бес патхваціка каля печы, як без рук, што трэбо ў печ паставіць ці дастаць – та ўсё ім. Канчатка.

Падхвосніца (патхвосьніца) ж. Падхвоснік. Як патхвосьніца есьць, та і набэдрыкаў ні трэбо на каня. Кунцаўшчына.

Падходжвацца (патходжвацца) незак. Забяспечваць нанач ядою жывёлу. Пакуль я буду патходжвацца, та пасядзі ў хаці, а тады пойдзямо на вечарынкі. Няцечы.

Падцінаць (пацціналь) незак. Іграць на губным гармоніку або грэбені. Ён так умеў іграць, як пачне падцінаць на гармоніку, выцілінгваць полячку, та тулькі ўсе слухаюць. Пасосна.

Падчаровак (паччаровак) м. Падчароўе. С паччароўка тлустасці мало, яго тулькі варыць добро. Свіслач.

Падчукаць (паччукаць) незак. Гушкаць, падкідаць дзіця на руках. Як возьмяш на рукі, пачнеш паччукаць, так дзіця і перастае

плакаць. Агароднікі.

Падчыпурыцца (паччыпурыцца) зак. Прыбрацца, прыхарошыцца. Вот ён трохі паччыпурыўса і на чалавека стаў пахожы. Дзекалавічы.

Падшмараваць (пачшмараваць) зак. 1. Падмазаць. Пачшмаруй калёса ў возі, вада, мусі, шмаравідло вымыла. Балічы. 2. Даць узятку, хабар. Ні пачшмаруяш – ні паедзяш (прымаўка). Дарашэвічы.

Падшпарак (пачшпарак) м. Падлетак, юнак. Пачшпарак ён у міне, ужэ помач есьць матцы. Салаўі.

Падыспан м. Танец, які бытаваў у Заходняй Беларусі. Падыспан як скакалі, та пацспеўвалі: „Падыспаняц – вясёлы таняц, і ляхко нам яго танцаваць". Гарны.

Падэбаць незак. Паволі, нязграбна пайсці, падыбаць. Ты дзе гэто падэбаў, пачакай, разам пойдзямо. Рацічы

Паждаць зак. Пачакаць. Трэбо трохі паждаць, а можа прыедуць госці. Грандзічы.

Пажычаць незак. Пазычаць. Любіць пажычаць, а аддаваць німа каму. Баранава.

Пажычка ж. Пазычка. Трэбо, мусі, пажычку ўзяць на хату, можа, як выплацім за пару рокаў. Дубніца.

Пазалані прысл. Пазалетась. Пазалані, помню, мы з Любай босыя хадзілі ў гэту пору. Свіслач.

Пазалонскі прым. Пазалеташні. Ні ўсе добро жылі, у нас на весну ні было чым карміць жывіны, а ў яго ашчэ пазалонскі стох саломы стаяў. Карозічы.

Пазацягаць зак. Паразносіць, параскідаць. Інструменту ўсялякаго было, та за весну дзеці ўвесь пазацягалі, нічога ні знойдзяш. Дзекалавічы

Пазвыкаць зак. Прывыкнуць. Дзеці пазвыкалі позно лажыцца спаць, і хоць што хочаш рабі. Гродна.

Пазябіць зак. Пазябліць. Як тулькі снапэ звязуць, так кожны і стараяцца жывей пазябіць, каб уляжалася зямля да зімы. Рацічы.

Пайсці зак. Пайсці. Пайсці замуж – трэбо знаць, позно легчы, рано ўстаць (з нар. песні) Сухая Даліна.

Пак м. Вялікая скрыня для захоўвання збожжа або мукі. Мы ў паку трымалі асыпку свіням. У каморцы стаяў. Путрышкі.

Паквапісты прым. Спакуслівы, прываблівы. Паквапісты конь, нічога ні скажаш, але і грошы за яго добрыя даў. Рагачы

Паквітаваць зак. Паквітацца. Накенец, дзякаваць богу, псаквітаваў, ціпер нікому ні вінаваты. Старая Руда.

Пакішлаваць зак. Паклыгаць. Ты гэто куды ізноў пакішлаваў, вярніся, кажу. Азёры.

Пакоршкаць зак. Паварушыць, пакорпаць. Пакоршкай прысак, мо ашчэ бульба печаная якая есьць. Карозічы Малая Альшанка.

Пакрака м. і ж. экспр. Пачвара, вырадак (неадабр.). Пакрака нека ні мужык, і на каго яна паквапіласа. Кунцаўшчына. З-за гэтаго пакракі ніхто спакою ні меў, пакуль ні скруціў галаву. Свіслач.

Пакумячыць зак. Пакамячыць, памяць, змяць. Што за дзіця, як дарвецца да кнішкі, та чысто лістэ пакумячыць, паразрывая. Каўпакі. Недзя рубашку пакумячыў і ходзіш цэлы дзень. Дубоўка.

Паліванка ж. Ганчарны паліваны посуд з вушкам. Паліванкі ў Гродні куплялі, ні дарагія былі. Пышкі.

Паліцікант м. Той, хто любіў пагаварыць пра палітыку. У нас Бурневіч была заядлай паліцікантկай. Клачкі. Гэта паліцікант быў, дзе што толькі пачынаецца, а ён ўжэ ўсё ведае. Палаткова.

Паліцман м. Паліцэйскі. Пры паляках паліцман адзін баяўсо ў вёску і нос паказаць, як ішлі, та ўдвох або трох з карабінамі. Баброўня.

Палічак м. Шчака. Глядзі, як палічкі гарацъ, мусі, захварэла, бедная. Занявічы.

Палкаць незак. Глытаць. Дохтар дае розныя фігулкі, а я аніяк іх ні магу палкаць, натта ш горкія. Агароднікі.

Пальнуць зак. Моцна ўдарыць, выцяць. Ён, доўго ні чакаючы, як пальня немцу ў морду, а сам у ногі, тулькі яго і бачылі. Струбка.

Палэтак м. Вялікі кавалак сала. З таго паршука толькі адзін палэтак застаўсо, усё разышлосо. Стрэльчыкі.

Палюга і паляя ж. Пустазелле. Наполяш, набярэш палюгі ў посцілку, кіняш свіням, і ядуць, аш вушы трасуцца. Казіміроўка.

Па-людску (па-люцку) прысл. Добра. Пры саветах тулькі сталі па-люцку жыць, а так хлеба ні мелі. Забагонікі.

Палямбіца ж. Паляндвіца. Палямбіцы солящь нікаторыя, а мы вэндзім, так лепей. Карозічы. Палямбіцы Ганя акручвая ў марлю ці палатном, тады яны жоўтыя, ні чарнеюць. Дарашэвічы.

Палямкацець зак. Шпарка паехаць. Глядзі, нека фурманка прас сяло палямкацела, мусі нехто кунцаўскі паехаў. Зарубічы.

Палянта і палянтра ж. Від гульні, лапта. У палянта я і сам гуляў, набегаясса, ледво ногі валачэш. Баброўнікі. Міне заўсёды выбіралі старшым, бо моцно біў па мячыку, як гулялі ў палянтру. Копанькі.

Палянуць зак. Паглядзець. Трэбо палянуць, што на дварэ робіцца, мо ўсё пазамятало, з хаты ні вылясці. Кашэўнікі.

Паляруш м. Параліч. Каб це паляруш разбіў, каб це (праклён). Бакуны.

Памор м. Пчолы, якія адмерлі ў вуллі за час зімоўкі. Такрок больш было памору, як у гэтым року, бо зіма ні такая была. Грынёўка.

Памылак м. Дэфект у даматканай матэрыі. Во, ткучы дапусціла памылак у радне, пустое месца пакінула. Свіслач.

Памялішча н. Палка, на якую насаджваецца памяло. Як памялішчо доўго, та і с печы ўсё вымяцяш, нават з вуглоў падастаеш. Зарубічы.

Памяльнік м. Месца каля хлебнай печы, у якім стаялі памяло і качарга. У памяльнік заўсёды ставілі качаргу, а памяло – калі хлеб садзілі у печ. Круглікі.

Панашаць зак. Успамінаць. Нашто табе старое панашаць, што было, таго ні верняш. Сухмяні.

Паневяраць незак. Зневажаць, здзекавацца. Як ён і трывая, паневярацъ сталі ні тулькі суседзі, а і родныя дзеці, аказацца ні даюць. Круглікі.

Панцак м. Круглыя ячныя крупы. Учора быў у мліне, панцаку нарабіў, будзя на ўсю зіму. Луцкаўляны.

Панціна ж. Пучок жорсткіх валасоў каля капыта пярэдняй нагі каня. Як куеш каня, та за панціну трымаяш нагу, пакуль каваль прыб'е паткову. Круглікі.

Панаць зак. Затапіць. Балото вадой паняло, ні прайсці, ні праехаць. Лікоўка. Вёску вадой паняло, тулькі каміны стырчаць. Дзекалавічы.

Папа м. Толь, дахавы матэрыял. Папай накрыў хату, та, думаяця надоўго? Паўгода ні праляжыць, паабрываяцца. Бычкі.

Пападлавічу прысл. Пад лавамі. Ты чаго там лазіш пападлавічу, ты што там згубіў? Дубоўка. Кажуць Шарашэўскі, што фабрыку тытунёву меў, у Індоры ў аднаго яўрэя гадаваўсо, пападлавічу лазіў. Пракопавічы.

Папарыцца; ні папарыцца – не захаваецца. За гэтымі дзяцьмі тут нічого ні папарыцца, усё парасцягаюць, павыносяць. Хамякі.

Папеляваты прым. Папялісты. Глень, Антось, якую папелявату я сабе хусцінку купіла, ці файна будзя? Круглікі.

Папер м. Папера. Можа ў цібе есць які чысты папер? Мне трэбо пісьмо брату напісаць. Капцёўка.

Паплёнтаць зак. (непахв.). Пайсці, паплесціся. Ты дзе гэто зноў паплёнтаў, табе ў хаці работы німа? Кавалічы.

Паправунак м. Папраўка, выздараўленне. Захварэў, і німа яму ніякаго паправунку, і дахтарэ нічого ні памагаюць. Пракопавічы.

Папярэчка ж. 1. Папярочка, дошка, планка, замацаваная ўпоперак. Стаўбэ маю добрыя, тулькі адных папярэчак ні стае. Пяслі. 2. Папярэчны загон, палоска зямлі. Папярэчку засаджвалі бульбай, рэтко калі засявалі жытам, бо ўсяроўно стоптвалі. Караневічы.

Паранак м. Раніца, ранак. Паранак халодны, бяры бурку, а то так ні вытрымаяш. Дарашэвічы. Паранак выдаўсо тады цёплы, расісты. Дзекалавічы.

Парка ж. Мата з саломы для страхі. Каб пакрыць хату, трэбо дзесяць парак. Балічы. Найлепяй паркі вязаў адзін чалавек з

Баброўнікаў, яго ўсе бралі вязаць, як хаты крылі. Кунцаўшчына.

Па́ркасць ж. Парнасць. Паркасць косці ні ломіць. Верцялішкі. Паркасць нека, мусі, дошч будзя. Саломенка.

Парні́к м. Металічны кацёл з падагрэвам, у якім парылі бульбу. У каго много свіней было, та бульбу ў парніках парылі, без яго ні абыдзесса. Квасоўка.

Па́рт м. Рэшткі спаленай парцяной анучкі (для выкрэсвання агню). Возьмяш парту на крэмянь і красаяш, пакуль ні ўпадзе іскарка на парт, загарыцца. Гушчыцы.

Паршу́к м. Парсюк, Мы той рок паршука на пудоў дванаццаць выкармілі, натта ш еў. Некрашы. Учора Навіковы велькаго паршука закалолі, свежаніны далі. Свіслач.

Парэ́сятка н. (памянш.) Парася. Парэсятко купілі ў Лунай, натто ўдалае, што ні дасі, усё з'есьць. Сухая Даліна.

Па́с. м. Пояс, рэмень, папруга. Як пачнуць дурэць дзеці, так бяру пас, каб усьмірыць. Лугавая.

Пасаляве́не н. Сцябліны фасолі. Пасалявене кіну пат куры, та яны паабіраюць лісточкі, хочуць зялёнаго. Рудавіцы.

Пасві́ска (пасвіско) н. Паша, выган. На садзібах пасвіско добро было, коні пасвіць вадзілі, і я вадзіў. Копанькі.

Пасвісцё́л (пасьвісьцёл) м. 1. Свісток, свістулька. Я сам рабіў пасвісцёлы з вярбы, іх можно было на адну, дзве дзірачкі рабіць, а можно і больш. Каўпакі. 2. перан. Пра тонкага высокага хлопца. Ашчэ і чатырнаццаці німа гэтаму пасьвісцёлку, а яго выпярло, як канапліну. Караневічы. Пасвісцёл некі, высокі пад небо, а дурны як трэбо. Клачкі.

Пасвя́дчыць (пасвяччыць) зак. Пасведчыць, выступіць у ролі сведкі. Што я з гэтай вёскі, тут кожны можа пасвядчыць, малое дзіця і тое міне знае. Зарубічы.

Пасвянцо́нка і пасвянцоўка ж. Плеценая з саломы і лазы пасудзіна для вялікоднай ежы. Помню, поўную пасвянцонку наложыць тато і нясе, каб бацюшка пасвянціў. Бакуны. Багаты поўную пасвянцоўку наложыць усяго і нясе свянціць, а ў беднаго гаспадара і свянціць ні было чаго. Рацічы.

Паскро́бак м. Апошняе дзіця ў сям'і. Паскробак гэты, рошчы яму ніякай німа. Струбка.

Паску́львацца зак. Скурчыцца. Мусі халадно, куранята паскульваліся. Зьбірай, нясі ў хату. Зарыца.

Пасля́д (паслят) м. Адходы пасля ачысткі (праветрывання) збожжа. У нас пасляд давалі курам, нікаторыя малолі свіням. Славічы.

Пасыка́цца незак. Узяць намер, мець намер. Быў пасыкнуўсо да тае дзеўкі ехаць у сватэ, але пабаяўсо, што ні пойдзя. Сколубава.

Пася́душкі мн. Пасядзелкі. Унатрыў на пасядушкі хадзіць, і рады німа: ідзе ні прыпыняяцца, а ты адна ў хаці што хочаш рабі. Гарны.

Па́сярб (пасярп) м. Пасынак, няродны сын у сям'і. Шурык яму ніродны сын, а прыходзіцца пасярбам. Кулёўцы.

Пасярбіца ж. Падчарыца, няродная дачка. Мачаха на міне ні магла глядзець, што тулькі лепшае, та усе сваей дочцы, я ёй пасярбіца, зусім ніпатрэбна была. Кулёўцы.

Пата́пкі мн. Дзіцячая гульня, падобная да гульні ў квач. Як малыя былі, та ўсе ў патапкі гулялі, набегаесса, ног ні чуяш. Свіслач.

Патрахата́ць зак. Пабіць (посуд). Як надышло на яго, та усе талеркі патрахатаў. Рагачы.

Патрахе́ мн. Вантробы. Маці патрахе с курыцы ні варыць, выкідая, тулькі пячонку і сэрцо дастае. Квасоўка.

Патруха́ ж. Пацяруха. Мы патрухе ні гаўцам, ні свіням ні давалі, бо тохлым аддае, мышамі пахня. Брузгі. У патрусе нікаторыя на вялігдзень яйца фарбавалі, зеленькавыя такія палучаюцца. Віцькі,

Патрухіня́ць зак. Пабегчы трушком; патрусіць. Конік той зусім слабенькі, ледво патрухіняў, як ён даедзя да таго Гродна? Кунцаўшчына.

Паты́чак м. Палачка, кіёчак. Мая ўнучка, як у школу пашла, на патычках і пальцах добро лічыла, а без іх аніяк ні магла. Лугавая.

Паўга́рчык м. Невялікі карабок, сплецены з саломы і лазы для рассявання збожжа. У паўгарчык лезло пуд жыта, а мо і больш. Паўгарчык пачэпіш сабе на шыю, ідзеш і сеяш памаленьку. Пад'ятлы.

Паўглу́вак м. Недаразвіты, прыдуркаваты чалавек. Што вы хочаце ад гэтаго паўглуўка? Ланявічы.

Паўкалу́пашак м. Пярэдні палукашак. Паўкалупашак як заставіш, та ўжэ салома з воза ні выпадзя і торба ні згубіцца. Табала.

Паўку́рак м. Курыны гермафрадыт. Купіла за курыцу, а зноў спявая, мусі, які паўкурак. Гарны.

Паўмэ́тра м., лічэбн. Паўцэнтнера, 50 кг. Некалі прадасі с паўмэтра жыта, і ужэ маяш грошы на абыходы. Цвіклічы.

Паўпа́чак м. Недаростак (зневаж.) Адзін сын і той паўпачак, яго нават да войска ні ўзялі. Клінчаны.

Паўпры́ца ж. Жалезная планка ў жорнах, на якой трымаецца верхні камень. Як хутко раскруціш жорна, так, глядзі, верхні камянь с паўпрыцы так і зляціць. Верцялішкі.

Паўсвя́та н. (паўсвятак м.) Невялікае свята. Градавая серада – гэта паўсвято, можно святкаваць, а можно і ні святкаваць, як захочаш. Кунцаўшчына. На Зелянок, адны ішлі на Індоры на фэст, другія – рабілі, бо паўсвятак – граху велькаго ні было.

Круглікі.

Паўслухацца зак. Паслухаць, слухаць некаторы час. Пайдзі там паўслухайся, што мужчыны кажуць, можа заўтро касіць пойдуць. Сухая Даліна.

Паўстыдацца зак. Пасаромецца. Што ты робіш? Чалавека чужого паўстыдаўсо п. Ферма.

Паўтарака м. Пра таго, хто любіць паўтараць тое самае. Ён – паўтарака, пляце адно па некалькі рас, слухаць абрыдло. Карозічы.

Паўтароўка ж. Паўтарачны воз. Вазэ – паўтароўкі былі тулькі ў маёнтках, у мужыкоў ні было, і такім возам ні было чаго вазіць. Рагачы.

Паўучастак м. Старая мера зямельнага надзелу, роўная 6 га. На паўучастку ашчэ можно было жыць, трымаць каня і карову, ні тоя, што на шастаку. Дзекалавічы.

Паўхацеч ж. Месца на сенажаці, парытае кратовінамі. На балоці адна паўхацеч, німа як касіць. Круглікі.

Паўхір м. Пухір. Глянь, на руцэ некі паўхір выскачыў, і сам ні ведаю ад чаго. Адэльск.

Паўшубак м. Паўкажушак. Ашчэ ў міне і ціпер паўшубак есьць, як халадно, та надзяваю, хаджу. Лугавая.

Пахадны прым. Спраўны. Чалавек ён пахадны, ён усюды дойдзя, сваго даб'ецца. Азёры.

Пахадня ж. Дэталь у калаўроце, на якую наступаюць нагой і прыводзяць у рух вялікае кола. Як калаўродак добры і ход мая лёхкі, та пахадню пад нагой і ні чуяш. Бакуны.

Пахрасціцца зак. Прарасці, пусціць расткі. У склепі цяпло, глядзі, як бульба пахрасцілаcа. Падлабенне.

Пацёркі мн. Пацёрка ж. Пацеркі, пацерка; каралі. У нас ні было моды насіць пацёркі, а ў другіх вёсках насілі. Малая Жорнаўка.

Пацюпаць зак. Паволі пайсці, пакрочыць. Вы, дзеткі, ашчэ сабе пасядзеця, а я ўжэ пацюпаю дахаты. Кульбакі.

Пачасы мн. Пачаскі, адыходы пры часанні лёну. Я таксамо прала пачасы, як мяхкія, та і добро было прасьці. Забагонікі.

Пачтар і (паштар) м. Паштальён. Ідзі жывей, пачтар, мусі, пэнсію нясе табе. Грандзічы. Ля, паштар пісьмо табе прынёс, мусі, ад Геніка? Каленікі.

Пачыкілдаваць зак. Пайсці пакульгваючы. Глядзі, Іван твой і зноў недзе пачыкілдаваў. Кунцаўшчына.

Пашкарэндзіць зак. Пашкодзіць. І сама ні ведаю, што мне пашкарэндзіло, жывот баліць, ні перастае. Малахавічы.

Пашкуда м., ж. Паскуда. Дзе трэбо, дзе ні трэбо, усюды гэта пашкуда ўлезя, усюды яго поўно. Дарашэвічы.

Пашугаць зак. Пакалыхаць. На пашугай трошкі дзіця, а то плача. Кунцаўшчына.

Пашчэ́мкі мн. (пашчэмак м.) Скіўіцы. Ад злосці ён тулькі пашчэмкі сцяў, ні ведаў, што яму рабіць. Літвінкі.

Пашыхава́ць зак. Пашанцаваць. Ей пашыхавало, глядзі, якого хлопца патхапіла. Каўпакі.

Пе́кар м. 1. Дзіцячая гульня. Некалі гулялі ў пекара, пазбіраемса на балоцячку і гуляям да цямна. Саломенка. 2. Завостраны кіёк у гэтай гульні, які утыкаецца ў зямлю. Паставіш кіёк, адмераюць дзесяць шагоў і б'юць, кап пекар збіць. Зарубічы.

Пе́люсць ж. Праход у хлебнай печы, праз які ідзе дым у комін. Пелюсць чорная, як сопуха, трэбо хоць трошкі сажу венікам абмясьці. Рацічы.

Пе́нь м. Вулей, калода. Ён, мусі мае пнёў дваццаць пчол, а мо і больш. Рагачы.

Пераба́ркі мн. Рэшткі, астаткі; адходы. Што мне даеш, тут адны перабіркі засталіса, самыя лепшыя яблыкі другім аддаў. Бакуны.

Перабі́рысты прым. Від дывана, які ткаўся спосабам перабору рознакаляровых нітак. Некалі і я ткала перабірыстыя родна, Люба памагала. Каробчыцы.

Пераб́ітка ж. Старое рэчышча ракі. З перабіткі вадэ ні нап'есса, каб і хацеў, бо яна жоўта, смярдзіць. Караневічы. Свіслач перакапалі, выпраставалі, адны перабіткі засталіса. Рагачы.

Перабо́ры мн. Пераборлівасць. Маня за свае пераборы так і замуж ні вышла, а хлопцаў было ўсялякіх. Некрашы.

Перабэ́чыцца зак. Схіліцца на бок. Глядзі, як качка наеласа, аш воля перабэчыласо, ісці ні можа. Жукевічы.

Перабэ́чыць зак. Схіліць на бок; наставіць. Ён, помню, як стаў начальнікам, та перабэчыць жвот і паўзе, нікого ні бачучы. Рудавіцы.

Перава́раны дзеепрым. Кіпячоны. Нікаторыя сырой вадэ зусім ні п'юць, а тулькі пераварану, а мне – ўсяроўно. Каўпакі.

Перавэ́рцень м. Пярэварацень, ваўкалак. Рас пераверцень у Сухой Даліні на вяселе зайшоў, та ўсе памлелі, ні ведалі, што рабіць. Літвінкі.

Перагаво́ршчык м. Перакладчык. Ён, кажуць, перагаворшчыкам пры немцах быў, а потым у цюрме сядзеў. Рагачы.

Перагара́ць зак. Прыараць у час ворыва частку чужога поля. Ты што да міне маеш, што я табе перагараў, ці перакасіў? Капцёўка.

Перадзы́гнуць зак. Пераскочыць. Некалі наша Лашанка шырокая была, а ціпер перасохла, у любым месцы перадзыгнуць можно. Лаша.

Пережо́віны мн. Тое, што пережавана і не з'едзена. Конь стары, зубы з'едзены, у жолабі адны перажовіны, штодзень трэба выкідаць. Новікі.

Перамо́та ж. Памылка, дапушчаная ў час снавання асновы. Трэбо добро глядзець, каб якой перамоты ні зрабіць, а то той рас

нарабіла. Клінчаны.

Перапало́х м. 1. Спалох, збянтэжанасць, паніка. У сяле тады перапалох падняўсо, бо нехто сказаў, што немцы едуць. Малая Жорнаўка. 2. Дзіцячая хвароба, выкліканая спалохам. Ат перапалоху наша баба воск дзецям вылівала і нікаторым, праўда, памагала. Лэйгабалі.

Перапа́сціся (перапасьціса) зак. Пахудзець, схуднець. Карова зусім перапаласа, аткуль тоя малако будзя. Баранавічы.

Перапілі́каць зак. экспр. Перапілаваць. Піла зусім вытупіласа, ледво перапілікаў гэто палено. Батароўка.

Перапу́цкаць зак. Перабоўтаць ежу, выбраўшы смачнейшае. Дасі парасяці, та ні есць, а тулькі перапуцкая. Квасоўка.

Перапу́шчаны дзеепрым. Launderatoплены. Перапушчанае нутраное сало мы ў бойцы трымалі, яно ў ёй як свежо было. Кунцаўшчына.

Перапяча́йка ж. (перапячаўка м.), Перапечка. Маму, пакуль хлеп той будзяце садзіць, спячэця нам перапячайку. Зялёная. Добро помню, як баба казала: „Дзеці, дзісь будзям перапячаўку пячы, даўно ні елі”. Парэчча.

Перася́дка (перасятка) ж. Перасадка. Ведаеце, як сеў на гэты пояст, та ехаў без перасяткі аж да Мінска. Жытомля.

Перахля́біцца зак. Схуднець. Кабылу прывёў з пашы зусім галодную, бачыш, як перахлябіласа, дыхавіны запалі. Кунцаўшчына.

Перашурмава́ць зак. Перашукаць, усё перагледзець; абшукаць усюды. Здаецца, усё перашурмаваў, дзе тулькі можно было, але так і ні знайшоў малатка. Няцечы.

Пе́рвіца ж. Першы ўкос травы. У гэтым року первіца файна была, больш чатырох вазоў прывёс. Караневічы.

Пе́сікі мн., м. Драўляныя клінкі, якімі плытагоны замацоўваюць ў плытах бярвёны. Глядзі, забівай песікі мацней, кап калатке ні мелі лёзу. Навасёлкі.

Пе́ста ж. Ступа. Ашчэ і ціпер на гарэ ў нас недзя песта ляжыць, што некалі панцак таўклі. Азёры.

Пігу́лка ж. Таблетка. Во, дахторка дала некіх пігулак, мо што і памогуць, ні ведаю. Грынёўка.

Пілаві́ны мн. Пілавінне. Гэта ў горадзі свіней пацсцілаюць пілавінамі, а на вёсцы, дзе ты бачыў, кап хто пацсцілаў. Навасёлкі.

Пі́льнасць ж. Нагляд. Павінна, кап нат кожным дзецям была пільнасць, тады будзя дзіця дзецям, ні пойдзе ў пустапаш. Кунцаўшчына.

Пінцю́х ж. Бесхарактарны, непаваротлівы чалавек; цяльпух. Што гэто за хлопяц, пінцюх некі, а глядзі, якую дзеўку файну ўзяў. Клачкі.

Піро́гі мн. Наведванне бацькоў нявесты за тыдзень пасля

вяселля. Учора ў Сальвесявых пірогі былі, дачка з мужыком прыягджалі. Свіслач.

Пірындзіць зак. экспр. Гаварыць глупства, недарэчнасць. Што ты пірындзіш, дурыш голаву людзям? Раціча.

Пірыць незак. Перыць. Ашчэ людзі і ні думалі брацца за работу, а ён ужэ пірыць цэпам ў адрыні, тулькі лёскат ідзе. Навасёлкі. Маці пірыць яго, як сабаку, а ён усероўно ні слухая, робіць сваё. Баброўнікі.

Піскацець незак. Пішчаць. Птушанята ў гняздзе сталі піскацець, мусі, ластаўка прыляцела. Каўпакі.

Пітушка м. Маленькі гліняны гаршчочак. Паставіла ў пітушцы кашку дзіцяці, глядзі, каб ні прыгарэла, памешвай. Кунцаўшчына.

Піяк м. П'яніца; алкаголік. Усе ў міне добро было б, каб ні сын піяк. Адамавічы.

Плавук м. Плывец. Будзь ты найлепшы плавук – усероўно ні вырабісса з маіх рук. Грандзічы.

Плавун м. Рэшткі, якія прыбіваюцца вадой да берагу. Глядзі, як за ноч вада спала, на балоці тулькі плавун застаўсо. Загорцы.

Плазма прысл. Плазам. Палажы дыліну плазма, та габляваць ямчэй будзя. Рудавіцы.

Пласкакіжы мн. Спецыяльныя абцугі для нацягвання і загінання бляхі. Во тут, здаецца, палажыў пласкакіжы, і куды яны падзеліса, чорт іх ведая. Саннікі.

Пласкуга ж. Пустазелле. Пласкугі назбіраяш, трохі макрыцы, крапівы – і ўжэ есьць што свінням даць. Вялікая Альшанка.

Пласкуне мн. Маніцы, мужчынскія калівы канапель; валакно, якое атрымліваюць з іх. Пласкуне выбіралі неяк летам ці можа раней, добро ні помню. Мішкенікі.

Плеса (плесо) н. Плёс. Помню, во тут было некалі балото, а ціпер – плесо, пяску нанясло. Свіслач.

Плёўка ж. Плеўка. Плёўка такая смашная, а ты кажаш, што ў рот ні можаш узяць. Дарашэвічы.

Плёнта ж. Той, хто любіць бадзяцца, хадзіць без справы; валацуга. Плёнта нека ні жонка, яна ў хаці ні прыпыняяцца, усе недзя плёнтая. Калбасіна.

Плёнтацца незак. Хадзіць без мэты, без патрэбы. Каб ён ні плёнтаўса так, та чалавекам быў бы, а так – валацуга ды годзі. Кашэўнікі.

Плёнтаць незак. 1. Блытаць, бязладна пераплятаць. Вы больш плёнтаяця матке, чым разматваяця, мне такія памочнікі ні патрэбныя. Зарыца. 2. Хадзіць памаленьку. Стары наш ашчэ плёнтая каля хаты, але сілы зусім ні мая. Кукалі.

Плітоўка ж. Расколатыя на кавалкі камяні. Пакуль тае плітоўкі наб'еш, та дзісятыя поты с цібе выйдуць, так цяшко было. Зарубічы.

Плітоўнік м. Спецыяльны малаток для расколвання вялікіх камянёў на кавалкі. Камень раскалоць ні так просто было, трэбо ведаць, дзе ўдарыць плітоўнікам і як. Навасёлкі.

Плошчыкі мн. Кіёчкі для раздзялення асновы ў кроснах. Плошчыкаў аж два, яны – каля навоя, возьмяш і патсоўваяш куды трэбо. Свіслач.

Плужкаваць (плушкаваць) зак. Абганяць, акучваць плугам-акучнікам. Рано пойдзям плушкаваць бульбу, з расой ляпей, потым ні улезяш, паломіш. Баброўнікі.

Плукаць незак. Паласкаць. Пытаяш, дзе матка, а во панясла на рэчку бялізну плукаць. Эйсманты.

Плут м. Ашуканец, абманшчык, махляр, прайдзісвет. З кім ты звязаўсо, з гэтым плутам? Ён цібе да халоднай вады давядзе. Індура. Гэта ш плут, хіба ш ты яго ні ведаяш. Баяры.

Плутаваць незак. Абманваць, ашукваць. І ат каго ты навучыўсо так плутаваць, здаецца, у вашым родзе плутоў ні было. Зарубічы.

Плюска і (плюсква) ж. Клоп. Плюскі найбольш у цесных хатах вадзіліса, дзе много людзей, у нас ні было. Кавалічы. Плюсквы ў лошку завяліса, ніяк ні магу вывясці, і кіпяток ні памагая. Рагачы.

Плюта ж. 1. Непагадзь. На дварэ нека плюта, нідобро, ні хочацца с хаты выходзіць. Кунцаўшчына. 2. Шкодны, патайны недобразычлівы чалавек. Плюта – ні сусет, ён, як жыве, та добраго нікому ні зрабіў. Каўпакі.

Пляскач м. Пустаслоў; выдумшчык, пляткар. Ну з цібе і пляскач, плешчаш абы-што, абы гаварыць. Гібулічы. Ні слухайця гэтаго пляскача, ён вам нагаворыць бочку арыштантаў. Малахавічы.

Пляшніца ж. экспр. Жанчына лёгкіх паводзінаў. Пляшніцу неку ўзяў, кажуць, валочыцца з другімі, дзіцей ні глядзіць. Малахавічы.

Пляшня ж. Прылада ў выглядзе рычага для даставання з зямлі вялікіх камянёў. Ашчэ тут мой бацько даставаў пляшнёй каменя, іх тут много было, ні то, што ціпер. Свіслач.

Под (пот) м. Драўляная скрынка ў жорнах, куды высыпаецца мука. Намеляш поўны под мукі, а тады ўжэ выбіраяш у сявенку. Батароўка.

Позранкі мн. Пасьба жывёлы ў ранішні час (з трох да сямі гадзін раніцы). Помню, спаць хочацца, а тут татко будзіць, кажа кап вёў коні на позранкі. Балічы.

Понця м., ж. Цяльпук, кіжлай. Наш зяць понця некі, а ні чалавек, у яго ні гарыць, ні мокня, ідзе і сьпіць. Сухая Даліна.

Поплава (поплаво) н. Поплаў. На поплаво ілу много нанясло, дак трава ўзяласа расці аш у трубы павіласа. Загорцы.

По́рт м. Рэшткі спаленай льняной або баваўнянай анучкі (для крэсіва). Запалкаў ні было, та возьмяш трошкі з баначкі порту, паложыш на крэмянь і красаяш, пакуль ні ўпадзе іскарка, ні загарыцца порт. Каўпакі.

По́сік м. Мачавы пузыр у свінні. Тато, як разбіраў паршука, та посік дастаня, пакачая ў попелі, надуя, і мы ім гуляям, падкідаям. Лаша.

По́тра ж. Пацяруха. Сена німа, адна потра засталаса, каровы есці ні будуць. Горніца.

По́ўзіна ж. Лата. Хату трэбо крыць, ды поўзін німа, ні ведаю, дзе можно дастаць. Жукевічы.

По́ўпрык м. экспр. Малое дзіця. Вот поўпрык, усюды ён улезя, дзе трэбо, і ні трэбо, усюды яго поўно. Адэльск.

По́ўраз (поўрас) м. Самаробны паясок; кавалак вяроўкі. Поўрас сабе прычэпіш да сявенкі, заложыш на шыю і сеяш памаленьку. Занявічы. Поўрас парваўсо, можа дзе які знойдзяш, пашукай у каморцы. Кузьмічы.

По́ўх м. Крот. Паўхе чысто балото змарнавалі, парылі, касіць ні будзя як. Загорцы.

По́ценькі мн. Поцемкі. Ты што гэта ў поценьках чытаяш, гочы псуеш, і так нічога ні бачыш. Клачкі.

По́шар м. Корм, нарыхтаваны для жывёлы на зімовы перыяд. Пошару маям, дзякаваць богу, на ўсю зіму, з дзедам нарабілі. Парэчча.

По́шкудзь (пошкуць) ж. Пра паскудных людзей (хуліганаў, жулікаў). Пошкудзь гэта старым людзям жыць ні дае, збыткуюцца. Круглікі.

Прабіва́льнік м. Інструмент для прабівання дзірак. Прабівальнік гэты ашчэ мой дзед у кузні зрабіў, паглядзі, які добры. Бандары.

Прабэ́каць незак. Ледзьве прачытаць. Гэты грамацей ашчэ недзя і вучыўсо, а прабэкаць слова ні можа. Баброўнікі.

Правэ́йдацца зак. Правалэндацца. Думаў, што зраблю што-небудзь, а зноў нічога ні атрымаласо, так цэлы дзень правэйдаўсо. Рудавіцы.

Прага́ра ж. непахв. Пра пражэрлівага, ненасытнага, вельмі скупога. Прагара нека, а ні чалавек, што ні ўгледзіць, та ўсё яму трэбо, усё забраў бы. Славічы.

Праду́шына ж. Палонка; адтуліна ў лёдзе. У гэтым месцы ні ідзі, бо прадушын много, падавайся ўправо. Ласосна.

Празо́рны прым. Празрысты. У нашай крыніцы такая чыстая вада, празорная, як набярэш у бутэльку, та, здаецца, што ў ёй нічога німа. Кунцаўшчына.

Празы́ўка ж. Мянушка. Ён любіў даваць празыўкі, але ш і яму далі, і хто такую і прыдумаў. Свіслач.

Пралямкацець зак. Шпарка праехаць. Брычка праз сяло пралямкацела, мусі, аграном паехаў. Кунцаўшчына.

Прамануць зак. Панадзіцца, унадзіцца, узяць звычку. Бяда цэла, прамануў чалавек мой хадзіць на вечарынкі – і рады німа, ідзе і ідзе. Карозічы.

Прамы́га ж. Закутак, цёмны куток. Пазакідай транты гэтыя ў прамыгу, каб ні было відаць. Рудавіцы.

Пранцуга́ ж. Расліна-паразіт (з пакручастым сцяблом) на канюшыне і ільне. Той рок пранцуга чысто лён высушыла, скруціла, ні было чо рваць. Свіслач.

Пранэлька ж. устар. Сукенка. У нас, у аколіцах, паненкі пранэлькі такія насілі, яны былі з чорнага рыпсу, пекныя. Эйсманты.

Прарэ́з (прарэс) м. Выраз, пройма (у адзенні). У сароццы замалы прарэс, ні магу даць цыцкі дзіцяці. Бакуны.

Прарэ́х м. Прапушчаная пры ворыве або баранаванні на полі лапіна. Здаецца, і добра баранаваў, а прарэхаў нарабіў, гатко глядзець. Рацічы.

Прасня́к м. Праснак. Маці прасняк пакрышыць ў дзешку, залье вадой – і прас два дні квас гатовы, п'ем. Каўпакі.

Праставáць незак. Выпростваць, выраўноўваць. Што ты ўзяўсо гэту бляху праставаць, з яе толку ні будзе – яна ж дзіравая. Мількаўшчына.

Прастапо́льніца ж. Поле, на якое ніколі не клалі гною. Гэто поле – прастапольніца, гною ні бачыло, адзін тулькі заяц гнаіў. Эйсманты.

Прастраміць зак. Прабіць, пранізаць, прадзіравіць. Хвароба на яго, як наступіў на некі ражон, так ногу і прастраміў. Калеты.

Прасця́цкі прым. Просты, бясхітрасны. Я аж здзівіўсо, такі вучоны, а зусім прасцяцкі чалавек. Капцёўка.

Пра́таць незак. Скідаць (з воза, машыны); апаражняць. Давайця жывей пратаць снапэ з воза і зноў паедзям, бо нешто хмурыцца, каб дошч ні быў. Каленікі.

Пра́ўнейшы прым. Які мае больш правоў. Я тут, у сваёй хаці, праўнейша, што захачу, тоя і буду рабіць. Ніжнія Пагараны.

Прашка́піцца зак. Пралічыцца, памыліцца ў меркаваннях, падліках. Я, як што куплю, прашкаплюсо, бывая, на які рубель і думаю, як гэто вышло. Свіслач. Я трохі прашкапіўса, мог бы пэнсю большу палучаць. Гродна.

Про́йма ж. Плойма. Камароў вечарам пройма, жыць ні даюць ні старому, ні малому. Малая Альшанка.

Про́ўда ж. Праўда. Ты мне скажы, ці гэта проўда, што Ядзя замуж вышла, ці не. Караліно.

Про́ца ж. Прашча. Як малыя былі, та збярэмса над рэчкай і давай каменя з процы кідаць, хто далей кіне. Кунцаўшчына.

Про́шаны. Запрошаны. Хто прошаны, а хто і ніпрошаны – усе

прышлі на вяселе, кап паглядзець маладую. Круглікі.

Прошлы і (прэшлы) прым. Мінулы. Прошлы год даволі марозны быў, бульба ў буртах нават памерзла. Пракопавічы. Прошлы торг добры быў, карову як завёў, так і прадаў, купцоў – ні адбіцца. Індура.

Пругé мн. Прылада ў кроснах у выглядзе плоскай дошчачкі з вострымі цвічкамі па канцах для нацягвання тканіны. Без пругоў кужалю ні выччаш, скручвацца будзя. Луцкаўляны.

Пружына ж. Спружына. Паглядзі, мусі, у часах пружына пэнкнула, ні заводзяцца, як ні круці. Чэхаўшчына.

Пружыніць незак. Спружыніць. Гэты дрот, мусі, сталёвы, пружыніць, ні ззагнеш. Каробчыцы.

Пружыноўка ж. Культыватар. Пружыноўку ні кажды гаспадар меў, ні было за што купіць, багатыя тулькі мелі. Верхнія Пагараны.

Пруток м. Дэталь у кроснах. Як пачынаю ткаць, гляджу, кап пруток ў навой добро залажыць, кап аснова ні выяхала. Балічы.

Прухніца ж. Перагной. Тут адна прухніца, вечны гной, таму і добро родзіць. Батароўка.

Прыбяражні мн. Намёрзлы прыбярэжны лёд. Страшно ехаць, прыбяражні велькія, конь саней з рэчкі ні выцягня. Балічы.

Прыгар м. Схіл гары, берага, ракі. У прыгары тулькі падбел адзін рос, яго нават гоўца ні елі. Свіслач.

Прыгараць зак. Заараць. Як тулькі снапэ звязлі с поля, так пожню і стараюса прыгараць, каб зямля ляпей улежаласа на зіму. Ніжнія Пагараны.

Прыглямбаваць зак. Прыбіць цвікамі, добра прымацаваць. Але і прыглямбаваў дошку, аніяк ні адарву, мусі, цалёвымі цвікамі. Баброўнікі.

Прыданыя мн. м. Людзі вясельнага абраду, якія дастаўлялі куфар з тканінай і адзеннем нявесты ў хату жаніха. У нас хто надумаецца з вясельнікаў, той і едзя ў прыданыя, ні назначалі. Ферма. Ля, прыданыя прыехалі – куфар прывязлі маладой. Лаша.

Прыз (прыс) м. Бусак. Плытэ як стануць, та мы іх ад берага прызамі атпіхваям. Загорцы. Як на хату дзерава купілі, то гналі яго прысамі больш як дзевяносто кілёметраў па Нёмні. Дзекалавічы.

Прызірацца незак. Прыглядацца. Я да гэтай хаты доўго прызіраўсо, пакуль купіў, добра хата, німа што казаць. Дарашэвічы.

Прызма ж. Вяроўка, скручаная з лазы, для замацавання дэталяў сахі. Найлепшыя прызмы з распаранай ракіты, як звяжаш, та ўжэ будзя трымаць, пакуль ні згніе. Азёры.

Прызнак м. Прыкмета. Дзед мой, прызнакі ўсялякія ведаў, казаў: „Калі гусі ніско ляцяць, та хутко зіма будзя", „Калі зімой ад іняю суке на дзераві гнуцца, та жыто будзя ядронае", „Калі

куры рано сядаюць на седало, та заўтро дошч будзя". Лаша.

Прыкаркнуць зак. Заснуць на кароткі час; задрамаць. Трэбо хоць трошкі прыкаркнуць, ні магу вытрымаць, гочы так і зліпаюцца. Малахавічы.

Прыклёп м. Прычына, зачэпка, падстава. Як ні кажы, а баба заўсёды знойдзя прыклёп, кап прычапіцца, дапячы мужыку. Дайлідкі.

Прылежаны дзеепрым. Пра садавіну, якая даспела лежачы. Гэта яблыкі прылежаныя, можно есці, мяхкія. Кузьмічы.

Прыманка ж. Прынада. Найлепша прыманка – гэто гарох параны, накідаяш, так рыба і збярэцца, тулькі закідай вудачку. Гожа.

Прымастак м. Насціл з дошак паміж печчу і сцяной у курнай хаце. Ніякіх ложкаў у курных хатах ні было, усе спалі на прымастку, месца ўсім хватало. Палаткова.

Прымастыкавацца зак. і (прымастыколіцца зак.). Размясціцца, уладкавацца (звычайна ў нязручным месцы). Каб дзе тут прымастыкавацца каля вас, дый трошкі ўздрамнуць. Батароўка. Галоўнае, каб у Гродні на кватэру прымастыколіцца, прыпісацца, а работу знойдзяш. Казіміроўка.

Прымен м. (прымно н.). Сені, сенцы. Даўней у кожнаго гаспадара ў прымні стаялі жорна, кожны сам сабе на хлеп малоў. Грыўкі. Зачыні прымно, кап свіня якая ні ўлезла ды мяшке ні паразрывала. Скамарошкі.

Прымовіска (прымовіско) н. Прымаўка. Мой на адных тулькі прымовісках і жыў, што ні слово, так і прымовіско. Верцялішкі.

Прыножак м. Дэталь у калаўроце, на якую наступаюць нагой і прыводзяць у рух кола. На прыножак моцно ні наступай, можаш паламаць, я тулькі пальцамі датыкаюсо. Сухая Даліна.

Прысвята (прысвято) н. Невялікае свята. Макавей – гэта прысвято, хто святкаваў, а хто і ні святкаваў, граху ні было. Казіміроўка.

Прыстаўлене н. Пастаноўка, паказ п'есы. Ён як пачне гаварыць, та мы за баке браліса, гэта ні чалавек, а цэлае прыстаўлене. Баранава.

Прыстаўляць незак. Іграць ролю ў спектаклі. Як на Коляды з звяздою хадзілі, та я чорта прыстаўляў. Кунцаўшчына. Учора ў Міхалкавай хаці прыстаўлялі „Моднаго шляхцюка", а дванастай толькі кончылі. Дарашэвічы.

Прытаромна (прыстаромно) прысл. Жудасна, жахліва, страшна. Каля гэтай хаты аш прытаромноісці, як уздумаяш, што ў ёй чалавека забілі. Адэльск.

Прытаромны прым. Страшны, жудасны. Ён мне некі прытаромны, ні магу на яго глядзець. Ферма.

Прыхваткай прысл. Прыхваткамі. Ячмень прыхваткай тулько можно было жаць раніцамі з расой, а так сыпаўсо, ні ўзяцца

было. Бакуны.

Прышчаперыцца незак. Зачапіцца. Кацяня як прышчаперыласо за сарочку, та ледво адарваў, так трымаласо. Карозічы.

Прышчыкнуць зак. Прышчаміць. Дзіця, мусі, зубамі язычок прышчыкнуло, што крычыць, кроў ідзе з рота. Жукевічы.

Прышчыць незак. Пячы (пра адчуванні пры запаленчым працэсе на скуры). Прышчыць паляц, баліць, мусі, рваць будзя. Лікоўка.

Прыягджаць незак. Прыязджаць. Усяго два разы быў у нас, а так прыягджаць чамусьці ні хоча, бо далёко. Вялікае Дзямідкава.

Прэндкі (прэнткі) прым. Хуткі, рухавы. Да яды та ты прэнткі, кап такі прэнткі да работы быў, та добро было п. Аульс.

Прэндка (прэнтко) прысл. Жыва, хутка. Вы міне тут пачакайце, я прэнтко вярнусо, доўго там ні забаўлюса. Квасоўка.

Пугарчык м. устар. Невялікі посуд, якім пілі гарэлку. Пойдзям, Пятрусю, да карчмэ, дый вып'ямо па пугарчыку, вясялей будзя. Лаша.

Пугаць незак. Прагна есці. Як пастәвіш міску крупніку, та дзеці як пачнуць пугаць адно перад другім, та ўміг выпугаюць. Белева.

Пудэлка (пудэлко) н. Невялікая папяровая, драўляная або металічная каробачка. Хто там пудэлкамі тыя цукеркі дзецям купляў, добро было, калі па адной якой бацько купіць. Пагараны. Дзед, помню, дастане табакі с пудэлка, заложыць у нос, чмыхне сабе разоў тры – і пашоў. Баброўнікі.

Пужальнішча н. Пугаўё. Найлепшае пужальнішчо гэта з ялаўцу, яно табе ні зломіцца, ні адну пугу пераржыве. Палаткова.

Пуздрыкі мн. Аладкі, спечаныя з толькі што замешанага хлебнага цеста. Маці, як хлеб месіць, та напячэ нам пуздрыкаў, яны такія наздраватыя, смашныя нам здаваліса. Пагараны.

Пулангелькі мн. Боты з хрому з крывымі халявамі, якія былі моднымі ў Заходняй Беларусі да 1939 года. Во, паглядзі, зрабіў сабе ў Ліпску пулангелькі, добро будзя на забавы хадзіць. Рацічы.

Пунтамі прысл. Часам, часамі, перыядамі. Пунтамі як схопіць жвот, месца сабе ні знаходзіш, так баліць. Гінавічы.

Пунця м., ж. Бесхарактарны, заняпалы чалавек. Іван – пунця ні мужык, яго жонка ўсім кіруя, а ён і голасу ніякаго ні мая. Свіслач.

Пупех м. Сасок жаночых грудзей. Аніяк пупех у рот дзіця ні бярэ, выкідая, хібо хто ўрок. Рудавіцы. Пупяхе чысто дзіця ааапкусвало, баляць. Стрэльчыкі.

Пупрыца ж. Дэталь у жорнах у выглядзе металічнай планкі, насаджанай на шпянёк, на якой трымаецца верхні камень. Пупрыца як ператрэцца ў жорнах, та я ў каваля заказваў, другую зробіць – зноў сабе меляш. Парэчча.

Пурэчкі мн. Парэчкі. У Мядзьвежым ляску гэтым рокам пурэчак навалам, бабы збанкамі носяць. Пагараны.

Пустацван м. Шавецкія абцугі. Пустацванам шаўцэ цвіке выцягвалі з абцасаў, скуру нацягвалі, бо ў яго захват шырокі. Індура.

Пуха ж. Тупы канец яйца. На вялігдзянь, як яйца білі, та спачатку б'еш носам, а тады ўжэ – пухою. Лаша.

Пухір м. Мачавы пузыр у парсюка. Як зарэжам паршука, та пухір ні выкідалі, а сушылі і рабілі забаўку для дзяцей. Клачкі.

Пуцалаваты прым. Круглатвары, з тоўстым, вялікім тварам. І ў каго дзіця ўдалосо, пуцалавато неко, здаецца, у іх нікого такого ні было. Карозічы.

Пуцэлцам м. Шавецкая прылада для навядзення на рантах і абцасах абутку глянцу. Вазьмі гэты шырэйшы пуцэлцал, та ім лепшы глянц навядзеш. Індура.

Пшонка ж. Манна. Пшонку тулькі куплялі дзецям кашку варыць, хто яе так купляў. Кругляны.

Пшонны прым. Пшанічны. У міне пшонна мука заўсёды ў запасі, бо трэбо ці які пірох, ці аглатку спячы. Доргунь.

Пызы мн. Вялікія бульбяныя галушкі, начыненыя мясным фаршам. Пызы рэтко калі варылі, хібо калі на велька свято або як кудзельніцы былі. Дарашэвічы.

Пырай м. Пырнік. Пырай усю бульбу пакрыў, трэбо палоць жывей, бо позно будзя, прападзе. Пагараны.

Пыск м. Рот, вусны (груб.). Замкні свой пыск і ні крычы, цібе тут ніхто ні баіцца. Талочкі.

Пэйсах м. Рэлігійнае свята ў яўрэяў (вялікдзень). На пэйсах Іршко мацу прыносіў, даваў пакаштаваць, яна такая белая, як папер, бес солі была. Індура.

Пэйсахі мн. Пэйсы. Я Лейзара здалёк пазнаваў па яго пэйсахах. Пракопавічы. Ты што гэта распусціла свае пэйсахі, ні маяш часу зачасацца, ці што? Дубоўка.

Пэйсахаўка ж. Спецыяльны гатунак гарэлкі, якую яўрэі пілі ў час сваіх святаў. Я сам пэйсахоўку піў, даволі моцная была. Азёры.

Пэндзіць незак. Даганяць. Пэндзіў, пэндзіў, а ніяк ні мох дагнаць. Гродна.

Пэнснуць зак. Ударыць. Трэбо было яму пэнснуць, каб ён дзісятаму заказаў, як чужое браць. Табольская Будка.

Пэртацца незак. Рабіць няякасна, з агрэхамі, без ведання справы (груб). Кінь пэртацца, ні можаш – ні бярыся, ні марнуй матар'ялу. Дубоўка.

Пэсткі мн. Семя сланечніка. Помню, на вечарынках пэсткі хлопцы як пачнуць лушчыць, та ўсю хату закідаюць, тулькі падмятай за імі. Кунцаўшчына.

Пэцкала н. і (пэцкель м.). Той, хто няўмела, неахайна выконвае

работу; бракароб, партач. Або з яго майстар? Пэцкало! За што ні возьмяцца, та тулькі змарнуя. Пяслі. Я ведаю гэтаго пэцкеля, ён сабе нічого люцкаго ні зрабіў, а хочаш ашчэ, каб другім зрабіў. Баранава.

Пялю́га ж. Пустазелле. Пялюгі як ні вырвяш з лёну, та прападзе, ні вырасце, чысто высушыць. Цыдовічы.

Пялю́шка[1] ж. Пялёнка. Я пялюшке паласкаць на рэчку насіла, рэтко калі ў хаці мыла, там ляпей вымыяш. Кавалічы. Пялюшка[2] ж. Палявы гарох (кармавая расліна). Пялюшку сеялі тулькі на корм, да яды яна ні гадзіцца, бо чорная. Лугавая.

Пярга́ ж. Пылок з кветак, сабраны пчоламі і прынесены ў вулей. Пярга – гэта хлеп пчаліны, бес пяргі пчолы ні пражывуць. Табольская будка.

Пярэ́гляды мн. Наведванне бацькамі засватанай дзяўчыны бацькоў жаніха і яго гаспадаркі. Учора на пярэгляды егдзілі, мусі, нічога ні будзя, ні пойдзя, кажуць, зусім ён бедны. Пышкі.

Пярэ́дніца ж. Вяроўка, якой спераду прывязвалі жэрдку ў возе з сенам. Я заўсёды, каб мацней жэртка трымаласа, пярэдніцу двайной пятлёй закладаў, ні было выпатку, каб выскачыла. Сухая Даліна.

Пясцю́к м. Пястун. Пясцюк ні дзіця, як падымя крык, та хоць с хаты ўцякай, нікого ні слухая. Каўпакі.

Пясчыра́ (пяшчыра) ж. Пяскі; плошча, занятая пяскамі. За сялом Хаміцкім адна пяшчыра, прайсці ні можно. Свіслач.

Пятнасто́ўка ж. Дзяўчына, якой споўнілася 15 год. Я думаў, што яна дзеўка, а гэта пятнастоўка, у школу ашчэ ходзіць. Баяры.

Пятушы́ны прым. Пеўневы. Хто там пятушына мясо калі еў, хібо, як захварэя, тады білі пятуха, крупнік з ім варылі. Каленікі.

Пятушы́цца незак. Храбрыцца; гарачыцца, хадзіць пеўнем. Ты чо пачаў пятушыцца, паддзыгаць да кожнаго? Мы такого рызыканта бачылі. Рацічы.

Пячо́рка ж. (пячурка ж.) Шампіньён. Пячоркі ў нас растуць каля кароўніка, ні трэбо і ў лес хадзіць. Калбасіна. Пячуркі ўсялякія бываюць, адны на полі растуць, другія – у лесі, адны белыя, другія – ружаватыя такія. Караліно.

Пяшчура́ ж. Вельмі дрэнная пясчаная глеба. Адна пяшчура была, нічога ні расло, а ціпер, глядзі, які ячмень, аш у трубы павіўсо. Жукевічы.

## Р

Рабаце́не мн. Вяснушкі. Плечы ў яго і тыя ў рабацені, ні тулькі твар. Заполле.

Раварыст м. Веласіпедыст. Ціпер раварыстаў развялосо, што па гуліцы ні пройдзяш. Квасоўка.

Рагануць зак. Цяжка ўпасці, грымнуцца. Так раганўў, што з гачэй іскры пасыпаліса, думаў – ні ўстану. Капцёўка.

Рагатка ж. Колюшка, дробная рыбка з калючкамі на спіне і брушку. Якая там рыба ў нашай рэццы, адны рагаткі. Кунцаўшчына.

Рагач м. Вілкі, якімі ставяць у печ або вымаюць з печы гаршкі. У мене рагач заўша стаіць пад рукамі, бо патрэбны кажну хвіліну. Сапоцкін.

Раговіш м. і (рагойш, рагэйшас м.). Хлеб у выглядзе вялікай аладкі, спечаны перад пасадкай у печ асноўнага хлеба. Як хлеп пяклі, та мы, дзеці, так і таўкліса пад рукамі – раговіша чакалі. Бяляны. Аднаму жабраку, расказваюць, замест пірага далі рагойш, та ён як пачаў яго кійком хвастаць і прыгаворваць: „Як ты пірог – та піражыса, як ты рагойш – та перажыса". Селюкі. Спячэш рагэйшас, пакуль хлеп садзіць у печ, і дзеці ядзяць. Азяркі, Грандзічы.

Радзіва (радзіво) н. Радыёпрыёмнік; рэпрадуктар. Радзіво ні гаворыць, можа нешто перагарэло там. Кунцаўшчына.

Радзівола ж. Радыёла. Радзіволу, як купілі, та ўжэ каторы рок іграя. Свіслач.

Радзюжка (радзюшка) ж. Дзяружка. Зімой у хаці халадно было, пад адной радзюшкай ні ўлежыш. Няцечы.

Радуніца ж. Радаўніца. На радуніцу як пойдзям на магілкі, та людзей там столькі, што ні прайсці. Клачкі.

Ражанцова ж. Парафіяльнае свята і кірмаш восенню ў вёсцы Азёры. Людзі ражанцовай чакалі як нівядомо чаго, бо на кірмашы можно што хочаш было купіць. Забагонікі.

Ражачка ж. Драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай. Я ў ражаццы парасятам давала, яна нівелька такая. Капцёўка.

Ражке (рашке) мн. Намордпік з вострымі цвічкамі, які надзяваюць адлучанаму цяляці, каб не ссала карову. Трэбо, відаць, рашке цяляці надзець, а то зусім карову дабіло. Караневічы.

Ражон м. Шпень (дэталь калаўрота). На ражон насадзіш цэўку – і тулькі буіць, так нітка ідзе, наматваецца. Балічы.

Разбазыраць зак. і (разбазырыць зак.). Разбэсціцца, распусціцца, разленавацца. Ціпер людзі зусім разбазыралі, булак ні хочуць есці. Гродна. Ты ў міне ўжэ зусім разбазырыў, устыду ніякаго ні маяш. Рагачы.

Разброхаць зак. Разбіць, знасіць растаптаць. Чаравікі зусім разброхала, з ног спадаюць. Сухая Даліна.

Разбувацца незак. Разувацца. Трэбо ўжэ разбувацца ды ісці спаць, бо позно. Дзекалавічы.

Разбузаваць зак. Бязладна перамяшаць, папсаваць, патаптаць.

Як уляцела карова ў гарот, то ўсё разбузавала, ні пазнаяш, дзе што расло. Лаша.

Развальнене н. Панос. Мусі, у яго развальнене, калі і сну яму німа, бегая на двор. Ферма.

Развальні мн. Развалкі. Развальнямі добра ехаць, ні выварнясса, хай будзя найгорша дарога. Верцялішкі.

Развіткі мн. Прыстасаванне для разматвання маткоў (мае выгляд дзвюх змацаваных крыж-накрыж планачак, асаджаных рухома на металічнай восі). Развіткі зрабіць – ні велька штука, абы матэрыял быў, за вечар так і гатовыя. Прыгодзічы.

Разводзіць незак. Расходаваць, траціць. Яна бес патрэбы разводзіць грошы, а потым бегая, пазычая. Адэльск.

Разводка (развотка) ж. 1. Разведзеная жанчына. Некалі ні было разводак, а ціпер тулькі ў адной нашай вёсцы аш чатэры. Кульбакі. 2. Інструмент для развядзення зубоў пілы. Німа развоткі, пілу трэбо было б развясці. Кулакоўшчына.

Разводнік м. Разведзены мужчына. Ні хацеў жыць с сям'ёй як чалавек, та хай ціпер пажыве разводнікам. Верцялішкі.

Разворка ж. Прыстасаванне ў выглядзе гладкай жэрдкі, з дапамогай якога можна павялічваць даўжыню воза. У маём возі разворка доўга была, пад любыя драбы можна было вос расцягнуць. Сухая Даліна.

Разгрувасіць зак. і (разгругазіць зак.). Разбіць, раз'ездзіць, папсаваць яздой. Дарогу чысто разгрувасілі машынамі, ні пройдзяш, адны ямы. Рагачы. Як пайшлі з зімы машыны гной вазіць, та і дарогі той ні пазнаць, усю разгругазілі. Круглікі.

Раздарожа н. Бездараж, бездарожжа. Іздумаў ты ехаць у такоя раздарожа, у такую непагаць. Каленікі.

Разец м. Рэжучы інструмент для апрацоўкі капытоў каня пры падкоўванні. Каваль спачатку расцом абрэжа каню капыто, а тады ужэ прыбівая паткову. Бандары.

Раззява ж. і (раззявяка м., ж.). Разява (разявяка). Раззява, а ні чалавек, с-пад носа бяруць, а ён ні бачыць. Рагачы. Пазбіраюцца гэтыя раззявякі і глядзяць гадзінамі, як экскаватар землю капая. Скідаль.

Разлезлік (разьлезьлік) м. Пра хваравітае дзіця. Некі разлезлік, а ні дзіця, і адзяваям цёпло, а вецяр падуя – і зноў сморгая. Лабна – Агароднікі.

Разлязаваць зак. Гасіць вапну, змешваць нягашаную вапну з вадой, каб атрымаць будаўнічы раствор. Вапну трэбо разлязаваць, трэбо кап паляжала ў ямі, тады добра будзя. Тарусічы.

Размер м. Бандарскі цыркуль для разметкі дна посуду. Размеры мы самы рабілі, а нікаторыя заказвалі ў кавалёў. Бандары.

Размузнець зак. Стаць мяккім, ператварыцца ў месіва. Зацерка зусім размузнела, есці німа як. Лаша.

Разыгра́ ж. Раздолле, прастор. раскоша. Але ш нашым курам ціпер і разыгра – куды хочуць ідуць. Квасоўка.

Ра́йзар м. Беспрацоўны ў панскай Польшчы, які хадзіў па вёсках, там харчаваўся і начаваў. Райзара солтас прывядзе да цібе, а ты мусіш яго накарміць і даць начлех. Кунцаўшчына.

Райко́ м. Дарадчык. У нас жыў адзін дзед, яго так райком і празывалі, бо ён усім раіў, якую дзеўку хлопцу браць. Дарашэвічы.

Райкру́т м. Рэкрут. А якую табе, сынку, долю даці, калі цібе запісалі ў райкруты ўзяці. (з нар. песні). Свіслач.

Ра́йста ж. Багністае тарфяное месца, парослае хмызам. Мы ўсе да райсты па торпу егдзілі, аттуль усе прывозілі. Гожа.

Райсо́ра ж. Рысора. Брычкі на райсорах толькі ў паноў былі, нават шляхта і тая ні мела. Баяры.

Рама́н м. Рамонак. Я толькі раманом і вылячыўся, а так рана ніяк ні гавілася. Парэчча.

Раматы́зм м. Рэўматызм. Даўней ад раматызму самы лячыліса, пілі настойку мухамораў, настойвалі яе на гарэлцы. Лаша.

Рандэ́ляк м. Металічная пасудзіна з ручкай для прыгатавання ежы. У гэтым рандэльку нам маці ўсё кашу варыла. Рацічы.

Ра́па ж. Парог; камяністы папярочны выступ на дне ракі, які парушае плаўнасць плыні. Глядзі, кап плыт ні занясло на рапу, а то разаб'е – і канцоў ні нойдзяш. Селюкі.

Рапе́й і (рапейнік) м. Суквецце – шышка лопуху з учэпістымі калючкамі. Конь раз як набраўсо рапяю, та с паўрока хадзіў, пакуль хвост і грыву ні абрэзалі. Путрышкі. У нас за адрынай рапейнік рос, там куры нясліса. Грабяні.

Расава́ць незак. Красаваць (пра цвіценне збожжа). Той рок, як жыто расавало, погода такая ціхая была, таму і ўмалот добр быў. Загорцы.

Расаві́к м. Дажджавы чарвяк. Я та больш на расавіка рыбу люблю лавіць, найлепяй келб марскі браўсо. Пышкі.

Расквэ́цаць зак. Размазаць, расцерці па паверхні, пэцкаючы яе. Ні вымыў, а тулькі расквэцаў грась па падлозі, глядзець німа на што. Верцялішкі.

Раскірна́ка м., ж. Раскірэка. Нека раскірнака, ідзе перавальваючыся, як качка. Кунцаўшчына.

Раскірна́чыцца зак. Раскірэчыцца. Ты сяць, а то стаіш тут перад намі раскірначыўшыса. Балічы.

Раскірна́чыць зак. Раскірэчыць. Села тут, раскірначыла ногі, ні прайсці. Рудавіцы.

Раско́л м. Свавольнік, дурасілівец. Раскол гэты, чалавеку адурыў галаву, рады з ім німа. Коматава.

Раскура́жыць зак. Раззлаваць, раздражніць, разлютаваць. Але ш учора я пчолы і раскуражыў, страх падысці было. Дзекалавічы.

Расо́вы прым. Пародзісты, надзелены якасцямі добрай пароды.

У баярскага пана расовыя коні былі, некай арапскай пароды Індура.

Распарцылёўваць незак. Парцэляваць, падзяляць на малыя ўчасткі, парцэлы. Да вайны землю пачалі распарцылёўваць, але ні паспелі, немяц ні даў. Караневічы.

Распускаць незак. Раскідаць сена з копаў для прасушвання на сонцы. Пачалі, капке распускаць, а тут раптам дошч, і не ведалі, што тут рабіць было. Грандзічы.

Распшыкаць і (расшыкаць) зак. Растраціць, расходаваць. Гэта ш трэба падумаць, столькі меў грошай і за гот усё распшыкаў. Кругляны. Расшыкаў грошы, а ціпер пасвішчы, аткуль іх узяць. Гарны.

Расхрэстаны дзеепрым. Расхрыстаны. Вечно ходзіць расхрэстаны, грудзі голыя, і марос яго ні бярэ. Рагачы.

Расхрэстаць зак. Расхрыстаць. У цібе німа каму гузікаў ушыць, што расхрэстаў рубашку і так ходзіш? Гібулічы.

Расштырбаць (рашштырбаць) зак. Раззлаваць, раздражніць. Мой сабака нікого ні рухаў, але як расштырбалі яго, та і ён пакусаў. Жукевічы.

Ратoрда ж. Спецыяльная печ на смалакурным заводзе. Спачатку ў радорду кладзем сасновыя карчэ, знізу патпальваям, а потым ужэ загружаям зверху. Рыбніца.

Ратэльны і (рахтэльны) прым. Знаходлівы, дасціпны. Ён чалавек ратэльны, жонка за ім будзя жыць, ні прападзе. Кунцаўшчына. На такой гаспадарцы ні пражыў бы, кап ні рахтэльны быў, а так і каня, і карову трымаў. Батароўка.

Ровар м. Веласіпед. Ён тады на ровар ускочыў і даў цугу, паспрабуй яго дажані. Лойкі.

Рожа ж. Дэкаратыўная расліна з вялікімі яркімі кветкамі. І ў нас каля хаты рожа расце, высока, пат саму стрэху. Кунцаўшчына.

Рок м. Год. Рок на року ні стаіць, адзін бывая кепскі, другі — добры. Лаша.

Рондзіць незак. Кіраваць, распараджацца. Хіба я грошы лічу, сама імі рондзіш як хочаш. Свіслач.

Ронтмэйсар м. Спецыяльная шавецкая прылада для апрацоўкі рантаў па краях абутку. Кап добро было, та ранты ронтмэйсарам рабілі, атшліфоўвалі. Індура.

Ронца м. Асоба ў панскім маёнтку, якая кіравала гаспадарчымі справамі. Ронца тут усім маёнткам упраўляў, пан тулькі прыягджаў паглядзець. Пад'ятлы.

Ротман м. Старшы над плытагонамі, які падае каманды. Ля, ротман на чаўне паехаў наперадзе, кіруя плытамі. Селюкі.

Рохаць незак. Рохкаць. Свіня дзесьці ў гародзі рохая, мо дзе ў бульбу ўлезла. Дарашэвічы.

Рошча ж. Рост у вышыню. Твайму дзіцяці ніякай рошчы німа,

мусі, нечага ні дастае яму. Дзекалавічы.

Рубінка ж. Кавалачак льняной тканіны для перавязвання ран. Даўней ніякіх бінтоў ні было, завяжаш рану рубінкай і ходзіш, пакуль зажыве. Кунцаўшчына.

Ружоўка ж. Гатунак бульбы, ружовага колеру. Белай бульбы ні было, та ружоўку ўсё садзілі, яна ні гніла. Грынёўка.

Рукаўніна ж. Спецыяльная самаробная тканіна вузкага памеру, з якой шылі рукавы ў кашулях. Гэта ашчэ пакойная мама ткала рукаўніну, я ўжэ яе ні ткала. Кавалічы.

Рулька ж. Жалезная дэталь у шпульцы калаўрота, праз якую праходзіць нітка. Бачыш, нітка спярша праз рульку ідзе, тады — на серы, а потым ўжэ нематваяцца на шпульку. Бакуны.

Румянак м. Рамонак. Ціпер румянак у аптэках прымаюць, толькі давай. Пагараны.

Рутка ж. Травяністая кармавая расліна з жоўтымі кветкамі, расце на сухіх сенажацях. Пад Грайнам у нас файно сено было, буграво, як прывязеш, та тулькі адна рутка. Кунцаўшчына.

Рыдаль м. і (рыдзель м.). Рыдлёўка. Вазьмі рыдаль ды гарот хоць скапай, пакуль ні замерзло. Скамарошкі. Рыдзель як добро нагострыш, та ён сам у землю лезя. Сапоцкін.

Рызыдаваць незак. Самаўладнічаць; вольна сябе весці, не прызнаючы абмежаванняў. Жонкі німа, а ён адзін тут сабе рызыдуя, што хоча вычаўпляя. Карозічы.

Рына ж. Металічная труба для сцёку дажджавой вады з даху. Як дасць дошч, так поўныя рыны вады, ні ўспявая ў бочку сцякаць. Пракопавічы.

Рышчыны мн. Размоклыя хлебныя крошкі ў квасе. Куды гэтыя рышчыны дзець, трэбо, мусі, свіням выкінуць. Цыдовічы.

Рэксман м. і (рэчман м.) Старшы сярод плытагонаў, які кіруе сплавам лесу. Як рэксман спрактыкаваны, та ўвесь Нёман пройдзя і ні адзін плыт ні разаб'е. Прывалка. У нас часто начаваў рэчман, як плытэ гналі, ён чалавек бывалы. Дарашэвічы.

Рэміза ж. Памяшканне, у якім захоўваўся проціпажарны інструмент. Пракопавічы.

Рэпка ж. Прыстасаванне ў калаўроце, на якім трымаюцца ручкі са шпулькай. Рэпка як добро асаджана, та і шпулька лёхко цягня. Казіміроўка.

Рэўза м., ж. Той, хто часта плача. Дзіця нека рэўза, як дзень, так і ноч нікому спакою ні дае. Забагонікі.

Рэхва ж. 1. Жалезны абруч, які мацуе драўляную калодку кола. Калёса чысто парассыхаліса, рэхвы спадаюць. Малахавічы. 2. Абручык для замацавання касы на касільні. Косячы, як зачапіў за корч, так рэхва і паляцела, мусяў да каваля ісці. Лаша.

Рэхнуцца зак. Звар'яцець, з глузду з'ехаць. Ты, што, мусі, рэхнуўсо, нека глупство пораш. Свіслач.

# С

Сабака́р м. Сабачнік; аматар сабак. Сабакар, бес сабакі жыць ні можа, усялякіх у яго сабак перабыло. Белякоўшчына.

Сабарно́ м. узмацн. Вялікі сабака. Глядзі, некі сабарно бегая па гуліцы, каб дзіцей часамі ні пакусаў. Бросты.

Саба́х м. Малітва ў татараў. Ашчэ слонца ні ўзышло, а скідальскія татары ўжэ свой сабах гавораць, такую малітву. Скідаль.

Саба́чы прым. Сабачы, які мае адносіны да сабакі. Гэта ні сабачы сьлед, а воўчы, як па вяровацццы бех. Зарубічы. Сабача галава – пра шкоднага, злапамятнага чалавека. Сабача галава твая, ты што гэта робіш, як табе ні брытко. Тужаўляны. Сабача галава – вельмі цвёрды камень сінега колеру. Як пападзе сабача галава, та нават і плітоўнікам, такім малатком, ні разаб'еш, ён слоя ні мая. Зарубічы. Сабача мыла – расліна з сакавітым сцяблом, якая выкарыстоўвалася як дэзінфіцыруючы сродак. Помню, каля рэчкі нарвем сабачага мыла і мыям сабе твар і рукі, кап чыстыя былі. Кунцаўшчына. Сабача мята – від мяты, якая расце па берагах рэк і азёр. Сабача мята такая ж, як і ў гародзі расьце, тулькі ні так пахня. Ласосна.

Савакі (саваке) мн. Прыстасаванне для перавозкі сахі. Саваке рабілі з моцнага дзерава, найбольш зь бярозы, каб можно было саху палажыць і самому сесьці, ехаць. Азёры. Паложыш саху на саваке, сядзяш і едзяш дахаты, валэ падганяяш. Азёры.

Саве́ты мн. Савецкая ўлада. Пры тых саветах ён прадсядацялям быў, першы калхос у раёні арганізаваў. Караліно.

Саға́н м. Чыгун, вялікі гаршчок. Добры сабе саган купіла, больш як паўпуда бульбы ўлазіць. Галаўнічы.

Садаві́цца незак. Заходзіць, садзіцца (пра сонца). Ужэ слонцо садавіцца, а ўсяроўно гарачэ, ні дыхнуць. Жукевічы.

Садзі́ба ж. Сядзіба. Наша садзіба ў канцэ сяла была, ніхто нам ні мяшаў. Кунцаўшчына.

Са́жань м. Старая мера дроў. У маю бытнасць школам давалі на адну печку тулькі па аднаму сажню дроў, ні больш. Клачкі.

Са́жаўка ж. Сажалка. У нас рэчкі ні было, жывіну паілі с сажаўкі, што нідалёко Каранявіч. Караневічы.

Сакары́ мн. Ясакары. Во, помню, у гэтым месцы, дзе сакарэ, цыганэ ўсе стаялі, кастрэ палілі. Навасёлкі.

Сакваста́тар м. Службовая асоба пры панскай Польшчы, якая збірала з сялян падаткі. Таго саквастатара, як агню, баяліса, бо за падаткі апошню карову забіраў, адзежу с куфраў выцягваў. Галынка.

Саке́ра ж. Сякера. Сакеру як нагастрыў, та ні чуяш у руках, так цеша. Будоўля.

Сакун м. Той, хто вымаўляе цвёрда постфікс „-ся". Сакун ты с-пад Гродна, бо кажаш: наеўсо, напіўсо, набраўсо, нарабіўсо. Гродна.

Саладух м. Ежа, прыгатаваная з жытняй мукі, ягад каліны і вады. Саладух зрабі, даўно ні елі, захацеласо. Бакуны.

Салёнка (соленка) ж. Адвараная ў салёнай вадзе бульба. На вечар маці наварыць салёнкі, і мы с кіслым малаком ямо, а іншы раз і с квасам елі. Верцялішкі. Солянкі на вячэру адварэцця, з волякам будзям есьці. Цыдовічы.

Салонны прым. Салёны. Мясо натто ш салонно, ні магу есьці, адна соль. Вусенікі.

Салтысон м. Свіны страўнік, напханы кусочкамі пячонкі, лёгкіх і сала. Я вельмі любіў салтысон есьці, ён смашнейшы нават за найлепшу каўбасу. Няцечы.

Салька ж. Мансарда. Яна ў нас жыла на сальцы, аш пакуль ні далі кватэру ў школі. Падкрыжакі.

Салэпа м. экспр. Пра няўклюднага, з раскрытым ротам чалавека. Аднаго чалавека ўсе салэпай празывалі, бо ён на салэпу падобны быў, вечно з рота сьліна цякла. Свіслач. Ашчэ й салэпы гэтаго тут бракавало, і ён да кампані прыстаў! Агароднікі.

Салядэра ж. Сырадэля (кармавая трава). Кажуць, і с салядэры пчолы мёд бяруць, а я й ні думаў, што могуць браць. Табольская Будка.

Самаход м. Аўтобус, аўтамабіль. Да той вайны самаходы да Гродна ні хадзілі, коньмі ўсе езьдзілі, а я часто й пяшком хадзіў. Грабяні.

Самахоць прысл. Па сваёй волі, па сваёй ініцыятыве. Самахоць сібе са сьвету зьвёў, нікого ні слухаў, сам сабе пятлю шукаў. Радзівілкі.

Сампорык м. Рэдкі малапажыўны суп. Наварыла некаго сампорыку і кажа – еш, адна вада... Рудавіцы.

Сапацець незак. Часта сапці, дыхаць. Перастань сапацець, ні трэбо так хутко бегаць, цібе ніхто ні застаўляў. Сапоцкін.

Сапсці незак. Сапці. Як пачаў цяшко сапсці, та думала, што ўжэ кончыцца, ні вытрымая. Васілевічы.

Сараканожка ж. Невялікая ракападобная жывёліна, макрыца. Як падняў камянь, так сараканошкі і забегалі, захадзілі. Баяры.

Сарвэта ж. Абрус, настольнік. Засьцялі нову сарвэту на стол, людзі зараз у хату прыдуць. Кульбакі.

Саргуч м. Адростак ў выглядзе прадаўгаватых валікаў у свінні пад падбародкам. Адзін рок у нас былі сьвіня с саргучамі, добрай пароды, файныя на сало. Зарубічы.

Сардак м. Кароткая жаночая вопратка без рукавоў. Во, у нас Ганьдзя ходзіць у сардаку, ён такі, як гамзэлька. Круглікі.

Сардачок м. Кароткая жаночая вопратка без рукавоў. Шлях-

цянкі ў кракаўскіх сардачках хадзілі, тады былі ўсялякаго коляру: вішнёвыя, бурдовыя, нібескія. Наша мама надзявала сардачок, каб цяплей было. Прыгодзічы.

Сартовы прым. Добрага гатунку, сартавы. Дастаў сартавой бульбы, будзя чым дзялку засадзіць. Лабна-Агароднікі.

Сасун м. Сысун (пра жывёлу). Ён у нас ашчэ сасун, кабылу сьсе, ні адлучалі. Губінка.

Саўгач м. Удар кулаком, кухталь, грымак. Я ш і надавоў яму саўгачоў, будзя ведаць, як да старэйшых лесьці. Табала.

Сачак, сачык м. Жакет. У міне й ціпер есьць сачак, да магазіну ў ім хаджу. Гушчыцы. Пашыла сабе файны сачык, а так ні мела ў чым да людзей выйсці. Лаша.

Сачэўка ж. Сачавіца. Даўней кожны гаспадар сачэўку сеяў, ціпер ніхто ні сея, моды німа. Занявічы.

Сванька ж. Сваццяя. У міне натто ж лядашча сванька была, вечны ёй покуй, жыць ні давала. Лойкі.

Сварба ж. Сварка. Як пажаніліса сынэ, так і стала ў хаці сварба, жанке аніяк ні міраццца. Пагараны.

Сваха ж. Сваццяя. Як Янак жаніўсо, та я свахай была, добра вяселя зрабілі. Батароўка.

Свая ж. Сваячка, родная. Я хоць і далёка, але прыходжуса табе свая па бацьку. Дарашэвічы.

Сваяволіць незак. Сваволіць. Гуляйця сабе, толькі ні сваявольця, а я хутко вярнусо. Скідаль.

Сваячына ж. Далёкі сваяк, радня. Яна яму нека сваячына, мусі ў другой стрэчы сястра, ці што, прыходзіцца. Адэльск.

Свентаянскі агеньчык м. Святляк, светлячок. Свентаянскі агеньчык у траве ночу свеціцца, бывая і ў старых карчах таксамо сьвеціцца. Пышкі.

Сверан м. Свіран, клець. Да той вайны і ў нас быў сверан, стаяў ад Бяртэлявых, згарэў. Свіслач. Як ад'яжджалі ў бежанства, та ўсе кублы з адзежай паставілі ў сверан. Літвінкі.

Свіга ж. Мінога ручаёвая. На весну, на пераезьдзі ў нашай рэццы гэтых свігаў мноство круціласо, мы, дзеці, баяліса брысьці нават. Кунцаўшчына. Свігі ў рэццы круцяцца – пара гарох сеяць (нар. прыкмета). Лаша.

Свіганула зак., безасаб. Стала лепш, лягчэй на некаторы час (пра жыццё). Чалавеку трошкі сьвіганула, лягчэй стало, жыць, і зноў наваліласа бяда, жонка захварэла. Абухава.

Свігнуць зак. Паказацца. У палудзень на якую мінуту слонца свігнуло і зноў схаваласо, вісіць, як у мяшку, цемната. Жытомля.

Свінінец м. Свінарнік. Мы свіней много ні трымалі, та й свініняц у нас быў нівелькі. Свіслач.

Свінінчык м. Свінарнік. Тато да хлява свінінчык прыставіў, больш будзя свіням месца, а то зацесно было. Сонічы.

Свіны прым. Свіны, свінячы. Свіны пастух па хатах еў, адзін дзень у аднаго , другі – у другога. Вялікая Капліца. Свіны тато – кныр, самец свінні (жарт). Згарнуўсо, як свіны тато (прымаўка) Кунцаўшчына.

Свісцёлачка ж. Невялікі свісток. Ой, гуляя, гуляя, на свісцёлачку іграя. Баркі.

Свой[1] м. Вялікі кусок кужалю, скручаны ў рулон. У свої піцьдзісят аршын кужалю, ні менш бывая. Сухая Даліна.

Свой[2] м. Сваяк, родны. Свой – ні свой, загаліўшыса ні стой (прымаўка). Хамякі. Ён нам далёкі свой, але да нас часта заходзіць. Капланаўцы.

Свойчык м. Тое, што і свой[1]. У міне было аш тры свойчыкі кужалю, а ў адным свойчыку – дзесяць губіц, па шэсьцьдзісят аршын у кожным. Свіслач.

Сволак м. Два папярэчныя бярвёны ў адрыне над токам, якія звязваюць ачэпы. Як канчаям малаціць, та цапэ заўсёды вешаям на свалаке, кожны на сваё месцо. Рагачы. 2. Дэталь у кроснах у выглядзе доўгага выгнутага кійка для рэгулявання навоя з асновай. Сволак перакладзеш, каб мацней нацягнуласа аснова, і зноў сабе тчэш. Рацічы. 3. Прыстасаванне ў курнай хаце ў выглядзе жэрдкі, на якую вешалі адзенне. Адзежы ні было дзе лажыць, та вешалі на сволак, каб ні ляжала на зямлé. Бакуны.

Свэтар м. Світэр. Гэты свэтар мне Надзя зьвязала, во каторы ўжэ рок у ім хаджу і ашчэ ні парваўсо. Свіслач.

Свядэцтва н. Пасведчанне. Мая кабыла пашла да войска па першай катэгорыі, мне адразу выпісалі на яе свядэцтво, кап палучыць прэмю. Зарубічы.

Свянцаць незак. Свянціць. Як скажуць, што ксёнц прыехаў, так і нясеш свянцаць каропку с кумпяком, сырам, яйцамі на прыгуменя. Калбасіна.

Свярбячка ж. Кароста. Мусі, свярбячка нека прыстала, усё цело чэшацца, здаецца разарваў бы. Сухая Даліна.

Свяронак м. Памянш. да свіран. Наш свяронак пакрыты быў бляхай, ніякі пажар ні страшны, ні баяліса, што збожа згарыць. Салаўі.

Свярчок, свяршчок м. Цвыркун. Як завёўсо пат печчу свярчок, та рады ні было, нікому ні даваў спаць, пакуль ні выкурылі. Каленікі. У старой хаці аднекуль узяўсо свяршчок, што ні рабілі, ніяк ні маглі вывясьці, потым сам недзі прапаў, ні стаў чырыкаць. Караневічы.

Святка м. Сведка. Тато мой ні разу святкам ні быў, сам ні хацеў, кажа: „Я нічого ні бачыў, нічого ні ведаю". Свіслач.

Святы прым. Святы, які мае адносіны да святога. Сьвятая Барбара – ночы ўварвала (прымаўка). Лаша. Святы вечар – вечары ад каляд да Новага года. У сьвятыя вечары можно было

тулькі новое шыць, старого ні можна было, лічыўсо грэх. Лугавая. Святы Еры – рэлігійнае свята 23 красавіка па ст. ст., Юр'я. Як прыходзіў Сьвяты Еры, та кожны гаспадар раніцай апходзіў сваё поля, закопваў сьвянцоныя косьці і казаў: „Сьвяты Еры, сьвяты божа, захавай ніўку ад града, захавай жывінку...". Лаша.

Се́ займ. Сябе. Саквастатар карову за валавод цягня да се, а Ганьдзя да се, ні пуская, каб забраў. Кунцаўшчына.

Се́венка ж. Сявёнка. У севенцы былі такія вушкі, праз іх працягняш пояс, пачэпіш на шыю севянку, ідзеш сабе і сеяш. Плавы.

Се́гчы (сехчы) зак. Сесці. Сегла сабе і нічога ні робіць, дзе гэта хто бачыў! Гадуны.

Се́дала н. Дэталь у калаўроце, на якой прымацаваны ручкі са шпулькай. Як седало добро пастаўляно, та і прасць добро, шнур ні будзя спадаць. Бакуны.

Сенава́не н. Сенакос, касьба. Якраз на сянаваня і пагода добра стаіць, бачыш, як сено сохня. Літвінкі.

Сенава́ць незак. Касіць, сушыць і ўбіраць сена. У гэтум року рано пачалі сенаваць, а сено ні высушылі, у нікаторых пагніло. Парэчча.

Се́нніца ж. Памяшканне для захавання сена. Мы сено ў сенніцу клалі, а другія ў абарог, як хто хацеў. Цыдовічы.

Серадольшы прым. Сярэдні па ўзросту (пра дзіця ў сям'і). Мой серадольшы ўжэ войско атслужыў, робіць трактарыстам. Гібулічы.

Се́ўка ж. Сявенька. Сеўку высяяў ячменю і ўсяроўно ні хапіло, трэбо будзя дасяваць. Завадзічы.

Сё́мсты прым. У кропінку, рабы. Сёміста курыца найбольш яец зьняслa, добра курыца. Свіслач.

Сё́рбала н. Той, хто сёрбае пры ядзе. Эх, ты, маленькі сёрбало, здаецца насёрбаўсо даволі зацеркі і ашчэ хочаш. Балічы.

Сібірны прым. Ве́льмі халодны, сіберны. Сібірны вецяр падуў, пранізвая да касьцей, увесь ат холаду лякаціш. Карозічы.

Сі́ры мн. Дэталь на шпульцы калаўрота ў выглядзе металічных кручкоў, па якіх праходзіць нітка. Ні садзі, дзетка, рукі ў сіры, бо абдзярэш, балець будзя. Лойкі.

Сі́тка н. Пчалярская маска. Добры пчаляр сітко ні надзява́я, яго й так пчолы ні кусаюць. Ласосна.

Сі́цечка (сіцячко) н. Мноства дробных зорачак у сузор'і Цяльца, пад назвай Плеяды. Во, як Сіцячко высоко падышло, зараз поўнач, пятухе заспяваюць. Бакуны.

Ска́ба ж. Рабро, рабрына. Кабыла зусім твая схудла, адны скабы стырчаць. Гожа. Конь як даў задам, так яму дзве скабы і выбіў, таму і здароўя ні мая. Пракопавічы.

Скава́ць незак. Цкаваць. Кінь скаваць свіней сабакамі – вушы

ўсе паапкусвалі. Агароднікі.

Скавытаць незак. Голасна плакаць. Кінь ты скавытаць, убівацца, усяроўно з магілы ні падымяш. Багушоўка. Ты чо гэтаго скавычаш, думаяш, пакінуў? Нікуды ні дзеняцца, верняцца. Баброўнікі.

Скакун м. Вернік-яўрэй, які не брыў барады, вусоў, насіў доўгія валасы. Скакунэ і ў Індуры былі, я сам бачыў. Караневічы.

Скалягавацца зак. Здружыцца, пасябраваць, стаць сябрамі. Скалягавацца – гэта, як мы зь Зінай, адна да адной ходзім, бо скалягаваліса. Свіслач.

Скапаваць зак. Зразумець, уцяміць, скеміць. Я адразу ні мох скапаваць, аля добрыя людзі патсказалі, як пэнсю вырабіць. Баброўнікі.

Скапец м. Капец, бурт. У Лашы кожны Габец мае свой скапец, у які сыпле бульбу. Лаша.

Скаралюшча ж. Шкарлупіна яйка. Куранята ўжэ даўно вышлі, тулькі скаралюшчы ў гняздзе засталіса. Грыўкі.

Скарамінка ж. Сала свіное. Мой ты галубок, мой ты харошанькі, дай беднай цыганцы скарамінкі, та я табе на руку пагадаю, усю праўду скажу. Ласосна.

Скараспейка ж. Гатунак ранняй бульбы. Скараспейка ў гэтым року добро ўрадзіла, будзя на зіму і на насеня застанецца. Копанькі.

Скарач м. Абрус, настольнік. У нас пасьля вялікадня кожны гаспадар браў косьці сь свянцонаго, закручваў у скарач і нёс на сваё поля закопваць. Круглікі.

Скарбовы прым. устар. Казённы. На скарбовым полі і мы некалі жыто сеялі на трэці сноп, два снапэ аддавалі пану, а трэці – сабе. Кавалічы. Гэта скарбовы чалавек, бо робіць на пана. Свіслач.

Скарцаваць зак. Адолець, асіліць; кінуць, скруціўшы, зламаўшы. Як схапіў яго, так і скарцаваў, той ні ўсьпеў аказацца. Карозічы. Мяшок быў вельмі цяшкі, адзін аніяк ні мог яго скарцаваць на вос. Кунцаўшчына. Гэта ш такая хароша ліпка расла, а ён, халернік, яе скарцавоў за нішто. Азёры.

Сквазняк м. Скразняк. Зачыні ў хаці дзьверы, а то скваэьняк некі, галаву скруціць можа. Кукалі.

Скінуць зак. Заўчасна радзіць (пра жывёлу). І зноў у нас нішчасьця, кабыла жарабя скінула, мусі, хто моцно дзе ўдэрыў. Арэхавічы.

Скіпер (скіпяр) м. Той, хто кіруе баржай. Я сам да той вайны баржы ганяў, скіпярам быў. Ласосна.

Скласці зак. Адзець, надзець (пра вопратку). Трэбо скласьці чысту кашулю, гэта ж заўтро свято, пакровы. Дарашэвічы.

Склюд (склют) м. перан. Худы. Свіня зусім выхудла, склют

некі, якоё тут сало на ёй будзя. Дзекалавічы. Склют гэты, ні хлопяц, яго й да войска ні возьмуць. Дарашэвічы.

Скляпіцца зак. Пакрыцца тонкім лядком. Глядзі, вада на лужах ўжэ скляпіласа, мусі ўначэ мароз будзя? Віцькі.

Скома ж. Аскома Гэтыя яблыкі зялёныя, нісмашныя, імі тулькі скому наб'еш. Зарубічы.

Скорам м. Тлушч, сала. Скорам вышаў, і паршука німа як калоць, хоць бы пахаладало трохі. Азёры.

Скоўзка (скоўско) прысл. Слізка, коўзка. На дварэ скоўско, нікованым канём у дарогу ні выяжджай, нідзе ні даедзяш. Малая Жорнаўка.

Скрабаць незак. Скрабці. Як у войску быў, та й я навучыўсо бульбу скрабаць, а так ні ўмеў. Зарубічы.

Скружваць незак. Ачышчаць зерне ад паловы пры дапамозе рэшата. Насыпляш пшаніцы ў рэшато і давай скружваць, зьверху зьбіраць ашаке, пасьляд ўсялякі. Рудавіцы.

Скруціцца зак. Упасці мёртвым. Паліцман як стрэліў с карабіна, так мой сабака і скруціўсо пад ногі. Баброўня.

Скрыгель м. Скрыль. Хто такімі скрыглямі каўбасу рэжа, тонянькімі трэбо, та больш будзя. Свіслач.

Скрыгітаць незак. Скрыгатаць, скрыпець. Свіня мусі захварэла, скрыгітаць стала зубамі, ні ўстае есьці. Рацічы.

Скрып м. Хвошч. Скрып у мокрых месцах расьце, у нас каля сажалак рос, аля яго жывіна ні хоча есьці. Кунцаўшчына. Тут добрай травы німа, адзін скрып расьце. Сухая Даліна.

Скрыпач м. Цвыркун. Скрыпач цяпло любіць, як залезя пат печ, та пілуя ў пілуя, на сваю скрыпку выігрывая, грая. Ласосна.

Скрыпун м. Від пустазелля. Маці, як пойдзя ў гарот, так і прывалачэ прыпол скрыпуну, кіня свіням, та тыя аж давяцца, ядзяць. Свіслач.

Скрэнт м. Дэталь пярэдняй часткі воза ў выглядзе бруска, у якую ўстаўляюцца ручкі. Гэты скрэнт я сам зрабіў зь бярозы, каб ручкі добро трымаліса, такого і стэльмах ні зрабіў бы. Рагачы.

Скудлаваць зак. Замучыць, стаміць тармосячы, затармасіць. Жучок як напаў на кацяня, так і скудлаваў, каб ні адабраў, та загрыз бы бедно. Зарыца.

Скулячка ж. Памянш. да скула. Нека скулячка выскачыла на шчацэ, і сам ні ведаю, ад чаго. Літвінкі.

Скумячыць зак. Скамечыць. Чысто хусьцінку скумячыла, німа як на голаў завязаць. Гібулічы. Сукенку ўзяў скумячыў, скумячыў, і ціпер, як ні мыта, усяроўно, трэбо ізноў гладзіць. Вялікая Альшанка.

Скупяндзя м. і ж. Пра вельмі скупога чалавека. Скупяньдзя гэты, ён усё забраў бы, усё згроб бы пат сібе. Скамарошкі.

Скутак м. Паразуменне, згода, аднадушнасць. Трэбо, каб яны

да якого-небуць скутку прышлі, дакуль будуць судзіцца. Квасоўка.

Слабізна ж. Слабасільны, нядужы. Слабізна конь зусім, дабіты, хто яго купляць будзя. Каленікі.

Слабода ж. Свабода. Мы самы сабе слабоду заваявалі, ніхто нам яе ні даў. Вялікая Жорнаўка.

Сламянка ж. Пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы. У нас і ціпер есьць сламянка, што некалі жыто сыпалі, пудоў дваццаць, а мо й больш улазіло. Сапоцкін.

Сланіна ж. Свіное сала, саланіна. Лані ў Паўла паршук натто ж быў удачны, сланіна на пядзю, такая тоўста была. Свіслач.

Следзеўка (слядзеўка, следзя) ж. Сорт бульбы белага колеру, прадаўгаватай формы. Да той вайны ў нас следзяўку ўсе садзілі, файна была бульба. Яскевічы. Сьлядзеўка файна бульба была, добро вырасла, рассыпчыста такая. Рацічы.

Следзь (сьлець) м. Селядзец. Хто тыя сьледзі калі куплёў, дарагія былі тулькі на вігілю бралі, як пост быў. Парэчча.

Слепандзя м. і ж., экспр. Пра таго, хто кепска бачыць. Сьляпаньдзя ты, ніткі ў голку ні можаш зацягнуць. Баранавічы.

Слесар м. Слесар. Мой прадзят у пана Галяра слёсарам быў, таму нас і ціпер называюць Слёсаравымі. Сухая Даліна.

Сліж (сьліш) м. Уюн, рыба сям'і ўюновых. Як малыя былі, та гэтых сліжоў ў рэчцы рукамі лавілі, столькі іх было. Кунцаўшчына.

Слізгавіца ж. Слізгота, галалёдзіца. На дварэ такая сьлізгавіца, хоць с хаты ні выхоць, куды там у дарогу ехаць. Валавічоўцы.

Слізікі мн. Кусочкі пшанічнага цеста, адвараныя ў вадзе і залітыя салодкай макавай сумессю. На куцю найляпей я любіў есьці сьлізікі, яны такія халодныя салоткія былі. Каўпакі. Навапыць на куцю маці сьлізікаў, і мы так з верцяхі й ямо. Забагонікі.

Слон м. Услон. Слон, дзе паставіш, там і сядзеш, хочаш каля стала, а хочаш і каля печы. Дарашэвічы.

Слонко ж. Сонейка. Слонко заходзіць, а духата нека, ні вытрымаць, парыць. Жылічы.

Слонца ж. Сонца. Ляпей бачыць на грамніцы ваўка ў аборы, чым слонца ў каморы. Чарнуха. Слонца іграе – пераліваецца рознымі колерамі. На Юр'я, як коні пасьвілі, та ўсе ўзіраліся, як слонца ўсходзіць, казалі: „Глядзеця, як слонца іграя" Кунцаўшчына. На Юр'я слонца скача, пераліваяцца, іграя. Лаша. Слонца падае – сонца заходзіць. Глядзі, слонца падая, пара каровы дахаты гнаць. Забагонікі. Слонца скача – пераліваецца рознымі колерамі. Усе казалі, што на Пятра слонца скача, та я залез на хату, дзьве гадзіны сядзеў і нічога ні ўбачыў. Копанькі.

Слончык м. Услончык, зэдлік. Добры слончык зрабіў, а то ні было на чом сядзець, як бульбу скрабеш. Кавалічы.

Службóвая ж. устар. Чарка ёмістасцю 100 гр. Пойдзям, хоць па якой службовай вып'ямо, цяплей будзя. Ласосна.

Слухáўкі мн. Навушнікі. Некалі радзіва такого ні было, як ціпер, тýлькі на слухаўкі слухалі. Вішнявец.

Слюняк м. пагардл. Нерашучы, слабавольны чалавек; слімак, размазня, разявака. Каб я з гэтым слюняком спаткаўса п, та ад яго мокра месца засталоса п. Сіўкава.

Сляпéц м. Сляпень. Сляпец на каровы нападая, страшно тне іх. Прыгодзічы.

Сляпня́к м. Сляпень. Сляпняк, ён нівелькі, але як упячэ, та як агнём апаліць. Забагонікі.

Смакатýлі мн. Прысмакі, ласункі. Во, нешто ў вас пахня, некія смакатулі варылі. Табольская будка.

Смáкі мн. Прысмакі. Пясьцюк, стравы ні хоча есьці, на адных смаках прывык жыць, сама ні ведаю, што яму даваць. Вусенікі.

Смактýн (смактунь) м. Халодная неўрадлівая глеба. На смактун ці ты кідай гной, ці ні кідай, нічого ні вырасьцяۥ усё ўсмокча. Сабаляны. Пад лесам там адзін смактунь быў, нават гавёс і той ні рос. Зарубічы.

Смалíцай прысл. Неадчэпна, напорыста, настойліва, упарта. Камарэ, хвароба на іх, смаліцай усюды лезуць, пякуць, рады ад іх німа. Карозічы.

Смалíць зак. перан. Шпарка ісці. Я тут закінуў касу на плечы і смалю за рэчку касіці, азноў, бачу, паліцман ідзе с карабінам. Баброўня.

Смальня́к м. Смаляк. Набраў смальнякоў, добро будзя на распал у печчы. Жылічы.

Смалянíна ж. Гар, пах гарэлага. Недзя паршука, мусі, смаляць, смалянінай нясе. Ферма.

Смаргýля ж., непахв. Той, хто часта смаркаецца. Смаргуля ты мая, хадзі я табе носік вытру, а то засмэрганы. Кунцаўшчына.

Смаршчóк м. Смарчок. Мама наша смаршчкоў ні брала, казала, мусі воўчыя. Свіслач.

Смы́знік м. Хмызняк. Тут такі быў густы смызьнік, што ніхто ні мох празь яго прабрацца, хіба тулькі ваўке адны. Зарубічы.

Смы́к м. 1. Дэталь у прымітыўным такарным станку ў выглядзе гнуткай дужкі. Смык найлепшы з ляшчыны, ён такі пруткі, добро нацягвая шнур. Круглікі. 2. Прылада для лоўлі бадзяжных сабак у выглядзе доўгай палкі, рухомага кальца і шнура. На рынку, як пакажацца гуццаль са смыком, та сабакі ні ведалі, куды дзецца, пад ногі лезьлі. Гібулічы.

Смэ́ргель (смэргяль) м., груб. Недаростак, малы, непаўналетні. А гэта чый тут смэргяль круціцца пад рукамі, забярэця яго, каб ні мяшаў. Бычкі.

Смэ́ргля ж. 1. неадабр. Дзяўчынка, якая часта смаркаецца. Ідзі

сюды, смэргля малая, трошкі табе лічыко памыю, а то замурзаласа зусім. Рагачы. 2. перан., груб. Малая дзяўчынка, недаростак. Дзе гэтай смэрглі цялятніцай рабіць, хто яе прымя? Панямунь.

Смярдзюх м. перан., зневаж. Баязлівец. Гэты смярдзюх пры немцах с хаты баяўсо вылясьці, ні тулько куды існці. Рагачы.

Смяцё н. Смецце. Ты чаму гэта сьмяця ні выкіняш, так і ляжыць каля печы. Дарашэвічы.

Смяцюх м. Від жаваранкаў, якія не адлятаюць у вырай. Кажуць, сьмяцюхе жывуць ў лесі, гэта яны толькі зімою круцяцца каля хатаў, на сьметніках. Кунцаўшчына.

Снітка ж. Невялікая луста, скібка. Дачка добра мая, адрэжа сьнітку хлеба, кавалачак каўбасы і кажа: „Тату, перакусеця сабе, пакуль вячэра тая зварыцца". Скамарошкі. Вазьмі сьнітку хлеба і дай дзіцяці, хай ні плача. Калбасіна.

Снойніца і (снуйка, сноўніца) ж. Прылада для снавання асновы тканіны, снавалка. Снойніцы былі ўсялякія, вярчальныя і хадзячыя, у нас ніякай ні было, хадзілі снаваць у каго была. Свіслач.

Снягоўцы мн. Жаночыя гумовыя чаравікі. Ціпер снягоўцы з моды вышлі, ніхто ў іх ні ходзіць, а ўсе ў боціках ходзяць. Гібулічы.

Снякаць незак. Смаркаць. Трэбо, дзетка, мацней снякаць, каб выснякаць з носа, тады сапсьці ляхчэй будзя. Агароднікі.

Сойка ж. Песня валачобнікаў хлопцам у велікодныя дні. Як засьпяваюць валакомьнікі сойку, так і давай ім штук пяць-шэсць яец і пірага. Забагонікі. У нас хлопцы на вяльканац сойку сьпявалі, а як пачыналасо, – добро ні помню. Талочкі.

Соленіца ж. Адвараная ў салёнай вадзе бульба. У пост маці зварыць соленіцы, і мы с квасам елі, алею нават ні было. Прывалкі.

Сомец (сомяц) м. Сак (рабалоўная снасць). У міне добры сомяц быў, аля та той, та другі возьмя – гэдак і парвалі. Стрыеўка.

Сотка ж. Старая мера гарэлкі, ёмістасцю 1/4 літра. Добро было некалі, гарэлку прадавалі соткамі, ні тоё, што ціпер – літрамі. Клачкі.

Сош м. Шаша. Каля вёскі быў стары сош, які ішоў на Сапоцкін, ціпер пастроілі новы, шырайшы. Рацічы.

Спадак м. Частка воза ў выглядзе кузава ці платформы. Як снапэ возіш, та ў драбіна закладзеш спадак, каб збожо ні сыпаласо з воза. Балічы.

Спадацца зак. Схуднець, пахудзець, змарнець. Ясі много, мусі, баіса, каб ні спадацца. Грыўкі.

Спадлобя прысл. Спадылба. Я нігды ні бачыў, каб ён на каго ласкаво глянуў, а ўсё, як той воўк, спадлобя. Путрышкі.

Спалюбíць зак. Палюбіць, пакахаць. Ні я яго спалюбіла, спалюбіла маці, заставіла сваю дочку навек гараваці (з нар. песні). Свіслач.

Спанáдлівы прым. Спакуслівы, прывабны. Дзеўка спанадліва, яе й бес пасагу возьмя, што й казаць. Абухава.

Спанáтрыць зак. Прызвычаіцца, прывыкнуць. Спанатрыло дзіця рано ўставаць, і рады німа, ашчэ ўсе сьпяць, а яно ўжэ крычыць. Хамякі.

Спарóцца зак. 1. Рана ўстаць. Наш стары спорацца с пасцелі і ходзіць па хаці, усё нешто шукая. Рудавіцы.

Спарóць зак. Падняць з пасцелі. Ледво сваго спарола, аніяк ні хацеў уставаць, кажа: „Дай ашчэ трошкі паляжу". Навасёлкі.

Спарыжавáны дзеепрым. Паралізаваны, разбіты паралічам. Ён спарыжаваны ляжыць, нівядома, ці паправіцца, дахтарэ ні ўручаюцца. Бычкі.

Спарыжавáць зак. Паралізаваць. Яму цяжкай работы ні даюць, бо можа спарыжаваць другі рас, даўленя мая. Ласосна.

Спáслівы прым. Той, хто вельмі хутка папраўляецца пры добрым харчаванні. Мой натто ш спаслівы, каб яму даць добро есьці, та за тыдзянь ні пазнаў бы. Дзекалавічы.

Спасóўка ж. Гатунак летняй грушы, Спасаўка. Спасоўкі файныя грушы былі, жоўцянькія такія, ні вельмі велькія. Кунцаўшчына.

Спáсціся зак. Схуднець, пахудзець. Мая баіцца спасьціса, хоча ашчэ таўшчэйшай быць, а нашто гэта патрэбно? Балічы.

Спаўнńяцца незак. Збывацца, здзяйсняцца, ажыццяўляцца. Ты мне ні верыў, азноў стало спаўняцца так, як я казоў, па-мойму выходзіць. Старая Руда.

Спахнýцца зак. Адумацца. Пачаў быў пілаваць дзедавы ліпы, аля спахнуўсо, шкада стало. Круглікі.

Спáцыр м. Прагулка, шпацыр. Нашы маладыя кожны вечар ходзяць на спацыр, у хаці ні сядзяць. Кузьмічы.

Спацыравáць незак. Прагульвацца, шпацыраваць. Добро панам жылосо, нічого ні рабілі, адно спацыраваць умелі. Пагараны.

Спáцькі незак., дзіц. Спаць. Ты, Пецік, мусі спацькі хочаш, та йдзі, я табе пасьцельку пасьцялю. Капцёўка.

Спéрціса зак., экспр. Устаць з пасцелі раней, чым трэба. Ты чо гэта так рано спёрса, хібо куды паедзяш? Бычкі.

Спінáр м. Спінінг. Купіў сабе сьпінар, та нічого ні робіць, тулькі пойдзя на рэчку і сядзіць там. Дубоўка.

Спірыць зак. Моцна ўдарыць. Хацеў я яму спірыць тады, аля пашкадаваў, думаю: малады, дурны ашчэ. Лужкі.

Спíцак м. і (спіцоўка ж.). Малаток для драблення камянёў на шчэбень. І ў міне быў сьпіцак, я таксамо калісь хадзіў с хлопцамі на шашу біць каменя. Зарубічы. Дай сьпіцоўкі, а то сваёй ніяк ні

магу камянь разьбіць. Навасёлкі. Трэбо ведаць, як сьпіцоўку гартаваць,трэбо тры разы лажыць у агонь і тры разы ў воду. Зарубічы.

Сплашаць зак. Пабаяцца, спужацца, не адважыцца. Быў пасыкнуўсо ехаць да Ганьдзі ў сваты, але сплашаў, пабаўсо, што за яго ні пойдзя. Скрабляркі.

Сплянтаваць зак. Вытаптаць, зьнішчыць (пра пасевы). Жыто начлежнікі чысто сплянтавалі, німа чаго жаць. Кунцаўшчына.

Спавіяч м. Спавівач. Дзіця, каб спало добро, сповіячам спаўеш, і яно сьпіць сабе, ні рук ні нох сь пялюшак ні дастаня. Занявічы.

Сподне мн. Споднікі, кальсоны. Некалі для мужчын ткалі такое плаценко, з яго сподне шылі. Ланявічы.

Сполка ж. Суполка, таварыства. У нас больш сполкай абраблялі землю, бо па аднаму каню мелі, рэтко ў каго пара коняй была. Лаша.

Сполнік м. Удзельнік суполкі, таварыства. Мой сполнік с коньмі абходзіўсо добро, без дай прычыны ні ганяў коняй і ні біў. Кунцаўшчына.

Спратваць незак. Скідаць, скідваць. Трэбо жывей снапэ спратваць, ізноў паедзям, каб дошч ні памачыў. Жукевічы.

Спронжка ж. Спражка. Ашчэ тато гэту дзягу з мікалаеўскай вайны прынёс, во зь якой спроншкай, з арлом. Малая Жорнаўка.

Спруткавацца зак. Напружыцца, сабрацца з сілай, прыкласці намаганні. Ён думаў, што адразу яго кіня, аля той як спруткаваўсо, та нават зь месца ні зварухнуў. Балічы.

Спрындзіцца зак., груб. Памерці, акалець. На яго людзі даўно наракалі, бо ўсё яму было мало, ўсё браў, аш пакуль ні спрындзіўсо. Дарашэвічы.

Спускаць незак. 1. Выраўноўваць паверхню дошкі або бруска рубанка м. Дошкі ніроўныя, пачаў спускаць, падганяць, аля ні даў рады, зусім сырыя. Агароднікі. 2. Віць вяроўкі з канапель, ільну пры дапамозе спецыяльнай прылады. І я навучыўсо спускаць вяроўкі, нічого цяшкаго тут німа. Лаша.

Спуст м. Вялікі рубанак. Ціпер спуста мало ў каго й знойдзяш, усё машынамі габлююць, раўнююць. Бычкі.

Спэнду прысл. Адразу. Як уляцеў некі сабака, так спэнду на нашаго і напаў, каб ні адагнаў – загрыз бы. Дарашэвічы.

Ссыпка ж. Насыпка. На ссыпку як бяру, та гляджу кап палатно было густоё, кап пер'я ні вылазіло. Багушоўка.

Ссякнуцца зак. Цяжка навярэдзіць паясніцу, зрушыць пазваночнік. Падняла мяшок і ссякнуласа, у хату міне ледво ўвалаклі, сама ні магла. Рагачы.

Стада (стадо) н. Статак, гурт. Стадо кароў як пражане пастух, та чысто гуліцу разьмесяць, с хаты ні вылязяш. Свіслач.

Стадола ж. Адрына, пуня. Як добры рок, та поўну стадолу збожа накладалі, нават і ні ўлазіло. Рацічы.

Стаельнік м. Стаеннік. На стаельніку тулькі пан езьдзіў вярхом, у плуг яго ні запрагалі. Белева.

Сталюжкі і (сталюшкі) ж. Козлы, прылада для распілоўкі дроў. Гэтыя сталюшкі як зрабіў, та ўжэ каторы рок нам служаць, ашчэ й суседзі бяруць. Капцёўка.

Сталянтаваць зак. Вытаптаць, знішчыць (пра пасевы). Каля балота коні чысто жыто сталянтавалі, бо хто іх упільнуя – сют-тут і зноў катора ўскочыць. Старая Дубавая.

Стан м. 1. Асноўная частка верхняй жаночай вопраткі. Да стану як прышыяш рукавэ, та можно сказаць, што сачык гатовы, тулькі гузікі ўшыць. Клінчаны. 2. Кавалак кужалю на адну сарочку. З гэтаго свойчыка адрэзала кужалю на адзін стан, больш ні брала. Загорцы. 3. Старая мера кужалю. У стане лічыцца тры аршыны кужалю, ні больш. Грыўкі.

Станавік м. Лекавая расліна. Станавік пілі, калі хто сярэдзіну наверадзіў, як што цяшка падымаў, кажуць, памагаў. Клінчаны. Станавік пілі, як у грудзях балело. Пад'ятлы.

Станаўма прысл. Стаўма, старчком. Давайця шафу паставім станаўма, так ляпей яе вынясьці. Карозічы.

Станкі мн. Асноўныя апорныя дэталі ў кроснах. Давайце ўнясем станкі ў хату, кросна трэбо ставіць, каб да вялікадня выткаць кужаль. Зарубічы.

Станога ж. Макрыца, станожка. Як падняў дошку, так станогі і забегалі, замітусіліся, бо сьвятла ні любяць. Зарубічы.

Стан-шрубка ж. Адтуліна з разьбой у станіне калаўрота. Стан-шрупку як добро вытачыш, та, можно сказаць, што палавіна работы зрабіў, калаўродак гатовы. Круглікі.

Старавацъ незак. Гутарыць. Як ззышліса дзьве бабы, як пачалі старавацъ, та во, гадзін дзьве старуюць, хоць ты вадой іх разганяй. Верхнія Пагараны.

Старана ж. Адна з дзвюх частак адрыны, палавіна адрыны. Мыў адну старану адрыны клалі жыто і пшаніцу, а ў другую – сено і канюшыну. Кавалічы.

Староце мн. Старызна. Што купляць гэто староця, як купляць, та ляпей ўжэ што-нібуць ново. Кругляны.

Стаў м. Сажалка, запруда. У Капцёўцы, каля самай шашы, стаў відаць, у ім некалі пан рыбу разводзіў, пасярэдзіні выспачка была, на ёй панэ атпачывалі. Бычкї.

Стаўбуноўка ж. устар. Мужчынскі летні галаўны ўбор.; картуз.У маю бытнасць мушчыны шапкі-стаўбуноўкі ўжэ ні насілі, німодныя былі, гэта раней насілі. Бакуны.

Стаўдур м., экспр. Тупы, разумова недаразвіты чалавек. Стаўдур некі ні дзеўчына, такая, як і маці, нічога ні ўмея, і нічога ні

навучыш рабіць. Сцяцкі.

Стаўніца ж. Посуд ў выглядзе вялікай драўлянай бочкі для захавання збожжа. Насыплям поўну стаўніцу жыта, і нам на ўсю зіму на хлеп хватало, аж да новаго. Грандзічы. Навесну татко выбіраў с стаўніцы жыто, сыпаў на радзюшке, перасушваў. Батароўка.

Стаячка прысл. Стоячы. Я сам умеў стаячка на кабылі ехаць, станяш, трымаяса за повад і едзяш. Жылічы. Па снапэ я ў возі любіў стаячка ехаць, тулькі лейцамі над галавой пакручваяш, паганяяш. Літвінкі.

Стварэнне: стварэння ні знаць. Хтосьці брудны, забруджаны. На дзіцяці тваём стварэня ні знаць, недзі мусі ў шмаравідло ўлезло. Лікоўка.

Стойка ж. Адзін з відаў дарожных павіннасцей пры панскай Польшчы (прадстаўленне фурманкі). Я сам адбываў стойку, як солтыс закажа, заедзяш і стаіш с канём, пакуль ні скажуць каго-нібуць вясьці. Лаша.

Столак м. Услончык, зэдлік. Во, вазьмі столак дый сяць каля цёплай печы, пагрэй плечы. Гібулічы.

Страва ж. Вадкая ежа. Я бес стравы ні магу й дня пражыць, хоць адзін раз мушу гарачаго паесьці. Бакуны.

Страгнуць незак. Гразнуць, вязнуць, грузнуць. Тут багно, ногі страгнуць, падавайся лявей. Верцялішкі.

Стракаваць незак. Уцякаць, ратуючыся ад нападу аваднёў (пра кароў). Каровы як пачнуць стракаваць, та ніхто іх ні ўтрымая, як могуць бягуць у кустэ, або дахат. Рагачы.

Страмак м. Прылада ў выглядзе чатырохграннага шуфеля з доўгай ручкай для капання торфу. Страмаке рабілі ў кузьнях, закажаш, і табе зробяць, які ты хочаш. Круглікі.

Страмака і (страмотыч) прысл. Старчма, стаўма, старчаком. Ён страмака ўпаў з рыштаваня і зламаў сабе ногу, ужэ трэці месяц, як ляжыць у гіпсі. Селюкі. Як зламаласа драбіна, так страмотыч і паляцеў, думалі – забіўсо, а ён устаў і сьміецца. Калбасіна.

Страміна ж. Круты схіл, абрыў, круча. Над Свіслачу, дзе коні пасьвілі, была такая страміна, што аж глядзець страшно было, там тулькі берагулькі вадзіліса. Занявічы.

Страх і (страшок) м. Страшыдла, злы дух, д'ябал. Усе баяліса дуба на панскум гародзі, ні йдзеця, казалі, каля таго дуба, ба страх у ім сядзіць. Парэчча. Ціхо, дзеткі, ні дурэйця, ба страшок прыдзя, забярэ. Свіслач.

Страчыцца незак. Тое, што і стракаваць. Як настаня лето, та каровы так строчацца, пазалазяць у рэчку і стаяць аж да вечара. Літвінкі.

Строк м. Авадзень. Гарачэ, строк на каровы нападая, рады ні даеш, бегаюць хвастэ пазадзіраўшы. Рацічы.

Стромгалоў прысл. Стрымгалоў, як мага. Як упякла пчала, та стромгалоў ляцеў да рэчкі, і адразу ў воду, баяўсо, каб ашчэ катора ні ўпякла. Казловічы.

Строп м. Накладка на верхняй частцы саламянай страхі. Кап строп вецяр ні ззарваў, та я прывязаў яго латамі, наверх нават і каменя лажыў. Кунцаўшчына. Найлепшы строп – гэта с пырніку, ён як уляжацца, та ніякі дошч ні прамочыць. Алекічы.

Струмент (струмянт) м. Інструмент. начынне. За весну ўвесь струмянт дзеці парасцягалі, а ціпер рабіць ні маю чым. Дзекалавічы.

Струпяшаць зак. Збуцвець, струхлець, спарахнець. Дзераво на хату як папаляжало, так і зусім струпяшало, на дрова і то ні гадзіцца. Рагачы. Кару зь дзерава аскрабі, а то можа струпяшаць, як доўго паляжыць. Віцькі.

Стрыказа ж. Насякомае конік, якое скача і стракоча крыламі. Услыхайся, як стрыказа харашэ спявая. Забагонікі.

Стрыек м. Брат бацькі. Заўтро да стрыйка ў госьці паедзямо, нас у хаці ні застаняш. Пышкі.

Стрымбуль м. 1. Сцябло расліны, пазбаўленае лістоты. Падло, каларацкі жук усё бульбавеня паеў, адны стрымбуле засталіса. Пагараны. 2. Хударлявы, празмерна высокі чалавек. Стрымбуль, ніякаго клёку ў ім німа, выцягнуло, як канапліну. Сіўкава.

Стрымотыч прысл. Старчаком, старчма, стаўма. Як піхануў, так той стрымотыч с клаткі і паляцеў, ледво выцягнулі з вады. Круглікі.

Стрынгалет м. Хударлявы, празмерна высокі хлопец. Які зь яго хлопяц, стрынгалет некі, а, глядзі, якую дзеўку файну ўзяў. Кавалічы.

Стрынгель м. Тое, што і стрынгалет. Ці яна здурэла, што за гэтаго стрынгеля замуж ідзе, што ёй сьвет ні мілы? Лаша.

Стрыножак м. Трыножак. Летам мы ў пячэ ні палім, маці на стрыножку вячэру варыць. Баброўнікі.

Стрыхаваць незак. Фармаваць, надаваць пэўную форму гліне. Я сам хадзіў да цагельні стрыхаваць цэглу, як наробіса, та ледво дахаты прылезяш. Літвінкі.

Стрыхар м. Той, хто фармуе цэглу. Самым лепшым стрыхарам у цагельні быў Антось Камлач, бо ён здаровы быў, па дзьве нормы вырабляў. Сухая Даліна.

Стрыхмус м. Рэйсмус. Гэты стрыхмус я, як маладым быў, зрабіў, а гэты ашчэ дзедаў, ён мне пакінуў. Агароднікі.

Стрыца і (стрычка) ж. Дэталь у калаўроце ў выглядзе трансмісійнага невялічкага драўлянага кола. Паткруці ляпей стрыцу, а то, бачыш, калаўродак добро ні цягня. Свіслач. Адну столку шнура закладаяш на стрыцу, другую – на шпульку і тады ўжэ прадзеш. Казіміроўка.

Стрычны прым. Стрыечны. Стрычны брат адзін быў і той памёр,

ціпер з радні ў міне нікого ні засталосо. Лойкі.

Стрэха ж. Страха. У нашым сяле ўсе стрэхі с саломы былі, тулькі ў аднаго стрэха была крыта чарапіцай. Белева.

Стрэча ж. Ступень роднасці. Перша стрэча – родныя, другая стрэча – дваюрадныя, так што мы с табой у другой стрэчы, ашчэ зусім бліскія, сваяке. Карозічы.

Стрэчны прым. Стрыечны. Мая стрэчна сястра аж у Бакунах замужам, за трактарыста вышла. Кулёўцы.

Стужаць зак. Злёгку зацвярдзець. Масло, як палажыла ў халодну воду, так і стужало, во якоё, паглядзі. Сяцкі.

Ступа ж. Ступня. Якая ў яе ступа, зусім маленька, як у дзіцяці. Круглікі.

Ступіца ж. Дэталь у жорнах у выглядзе металічнай планкі, на якой трымаецца верхні камень. Ступіца як перашаруяцца, та пойдзяш да нашаго каваля і ён табе зробіць, якую хочаш. Клінчаны.

Стусла (стусло) н. Сталярная прылада, пры дапамозе якой распілоўваюць дошкі пад вуглом 90° і 45°. Бес стусла правідлово вугла ні зарэжаш, ні дасі рады. Свіслач.

Стырчэць. зак. Тырчаць, выставаць, выступаць. Глядзі, тут у дзьвярах некі цьвік стырчыць, каб рукі часамі ні абадраў. Сонічы.

Судзя н. Посуд. Памый судзя адразу, пакуль ні заскарэя, а то потым ні адмыяш. Свіслач.

Сук м., перан., экспр. Скупы чалавек, скупярдзяй. Страшэнны сук быў, як дзе якую капейку, та усе складваў, ні жонцы, ні дочкам ні даваў. Ферма.

Сукадла (сукадло) і сукайла (сукайло) н. Прылада для сукання нітак, сукала. Сукадло кожны меў свае, сам мог зрабіць, ні трэбо было купляць. Рацічы. Сукайло ў нас есьць, аля яно нікому ні патрэбно, бо ніхто ні прадзе. Прывалка.

Сукман м. Бурка, світка. На начлех коняй як вадзілі, та закруціса сабе ў сукман і ляжыш каля агню, дрэмляш. Навумавічы.

Сукня ж. Суконная сукенка. Яна ні тулькі святам у сукні сабе ходзіць, а і ў будзянь ні скідая, як тая пані. Лугавая.

Супражнік м. Удзельнік сўпольнай апрацоўкі зямлі. У маго супражніка конь слабейшы быў, як гарэш, та ўвесь час трэбо было падганяць, атставаў. Лікоўка.

Супражыць незак. Апрацоўваць суполкай зямлю. У нас рэтко ў каго было па пары коняй, а так па аднаму каню, на весну кожны шукаў сабе сполніка, каб зь ім супражыць. Кавалічы.

Сураеўжка. Сыраежка. Суравешка – гэта ні грып, пакуль прынясеш дахаты, та зь яе нічого ні застанецца, пакрышыцца. Зарубічы.

Сурамець ж. Сырамяць. Сурамець, моцна, як прывяжаш да цэпа біч, та нігды ні парвецца, аш пакуль ні перашаруяцца. Баранава.

Сурдук м. 1. Верхняя мужчынская адзенне з самаробнага сукна. Як ён выглядаў той сурдук, чорт яго ведая, тулькі ведаю, што

такія сурдуке ў нас былі. Круглікі. 2. Верхняе мужчынскае кароткае адзенне ў выглядзе курткі. Першы сурдук я пашыў сабе ў Скідзялі, як жаніўса. Селюкі.

Сусліць зак. Чуць прасочвацца (пра ваду). Каля мае хаты есьць месца, дзе вада зь зямлі сусьліць, там заўсёды мокро. Зарубічы.

Суталака ж. Мітусня. беганіна. У такой суталацы свой сваго ні мох пазнаць, ні тулькі чужого. Карозічы.

Суталач ж. Зборышча жулікаў, пранырлівых, хітрых людзей; зброд; навалач. Панаехало сюды ўсялякай суталачы, жыць ні даюць. Круглікі. – Дзе ідзеш, бапка? – На святоё вяселячко. – Адкуль ідзеш, бапка? – С сабачай суталачы (прымаўка). Белева.

Суткі мн. Вузкі праход паміж сценамі будынкаў. Праз гэтыя суткі каня ні правядзеш, сам ледво пралезяш. Кунцаўшчына.

Сутунак м. Змярканне, змрок. Ужэ слонца зайшло, сутунак, а ты недзі хочаш ісьці. Агароднікі.

Сутуняць незак. Змяркацца, цямнець. Гэта ш стало сутуняць, а кароў чамусьці ні жануць. Навумавічы.

Сухавейка м. Бяссмертнік, сухавей. Сухавейка ат печані памагая, я сама парыла і піла, і дзякаваць богу, вылячылаcа. Канчатка.

Сухадрэўка н. Кустовая расліна брызгліна. Мы с сухадрэўка ўсе рабілі сабе муштуке, мой цесьць міне навучыў рабіць. Пагараны.

Суханожкі мн. ж. Грыбы жаўтаватага колеру на тонкіх ножках, якія растуць на выгане. Пасля дажджу гэтых сухаможак на выгані много, аля іх мало хто збірая, яны сухія. Лаша.

Сухапастой м. Сухастой. Сухапастой на будоўлю ні гадзіцца, ён тулькі на дрова йдзе. Струбка.

Сухотка ж. устар. Хвароба скуры ў малых дзяцей, сухі лішай. Ат сухоткі дзіцей лячылі цынцылеяй, такое зеля, яно жоўтым цьветам цьвіце. Лаша.

Сучкі мн. Невялікія дапаможныя санкі для перавозкі бярвёнаў. Як доўго дзераво, та бяры сучкі, бо на адных санях доўгай штукі зь лесу ні прывязеш. Брузгі.

Суш ж. Пчаліныя рамкі з сотамі без мёду. Я ўжэ назапасіў больш як дзесяць рамак сушы, на весну будзя. Сыпаная Гара.

Схапіцца незак. Стаць меншага памеру, скараціцца (пра адзенне, тканіну пасля мыцця). Усунь свэтар у гарачу воду, та так схопіцца, зробіцца меньшым, ні надзеняш потым. Іванаўцы.

Схракатаць зак. Пабіць, разбіць. Як разыдзяцца, та ён можа ўсю пасуду схракатаць, пакідаць пад ногі, кап хоць над гэтым сваю злосьць ззагнаць. Адэльск.

Сходзіць незак. Узыходзіць (пра сонца). Паглядзі, як небо паружавело, зарас слонцо сходзіць будзя. Грандзічы.

Сціслa прысл. Ашчадна, эканомна. Калі так сціслo будзям жыць, та можа грошай і на машыну якую назьбіраям. Галынка.

Сцяна ж. устар. Мера даўжыні тканіны. У адной сьцяне бывая

шэсьць-сем аршын, а то і больш. Лугавая. За адзін раз можно аснаваць на шэсць сьцен кужалю. Забагонікі.

Сыка́ць незак. Пакрыкваць на старэйшых. Ты чо гэта стаў сыкаць на дзеда, ён табе хто, раўня? Астравок.

Сынава́я ж. Жонка сына ў адносінах да яго бацькоў. Сынавая да нас адносіцца добро, німа чаго наракаць, ні крыўдзіць. Занявічы.

Сы́рнік м. Клінок, трохвугсльная торбачка для адціскання сыру. Як сыроватка сьцячэ добро, та сырнік пат камянь паложыш, хай ляжыць. Прыгодзічы.

Сыро́ўка ж. Неапаленая цэгла. Да вайны хаты ў вёсках ставілі с сыроўкі, аля яны вельмі халодныя былі, сырыя. Асташа.

Сы́ска ж. Соска. Як дам дзіцяці сыску, та яно ляжыць і ні плача, а я сваю рабсту раблю. Мількаўшчына.

Сысу́нчык м. Сысун. Наш сысунчык нігды ат кабылы ні атстае, так і трэцца каля аглоблі, як едзяш. Балінянты.

Сэймікава́цца незак. Раіцца. Яны прывыклі сэймікавацца, адразу нічого ні робяць, можа, гэта й добро, бо дзьве галавы, та ні адна. Літвінкі.

Сюдо́ю прысл. Тут, у гэтым месцы. Сюдою ні праедзяш, граско, конь воза ні выцягня, заваліцца можа. Беражаны

Сюды́кава прысл. Сюды. Сюдыкава, хлопцы, ідзеця, я вам нешто пакажу. Валавічоўцы.

Сюрту́к м. Бурка, шырокая адзежына з даматканага сукна з башлыком. Мой бацько бесь сюртука ў дарогу ні выяжджаў, заўсёды браў с сабой. Галаўнічы.

Сяве́нка ж. 1. Сявенька. Добры гэта быў час — час сяўбы, ідзеш сабе сь сявенкай і сеяш памаленку. Лаша. 2. Посуд, сплецены з саломы і лазы для захоўвання мукі. Муку ўсыпляш ў сявенку, утрамбуяш, і стаіць, нават, як пажар, та салома абгарыць, а мука ўтрамбована так і стаіць. Сабаляны. 3. Посуд у рост чалавека, сплецены з саломы і лазы, для захоўвання збожжа. У нашу сявенку ўлазіло больш дзісяці пудоў жыта, а мо дзе і больш, добро ні помню. Бакуны.

Сядаві́цца незак. Садзіцца, сядаць. Ні хачу каля печкі сядавіцца, галава будзя балець, натто ж моцно напаліла. Батароўка.

Сядзё́лка ж. і сядэлка (сядэлко). Падсядзёлак, частка конскай вупражы. Без сядзёлкі хутко ні паедзяш, аглоблі будуць бэнтацца. Бандары. Патпругу падцягні, кап сядзёлка спраўней ляжала на кане. Лаша. Сядэлко патпраў, а то перакруціласо, зусім набок з'ехало, аглоблі ні трымаюцца. Бакуны.

Сядні́к і сяльнік м. Сяннік, матрац. Наб'еш сяднік саломай і качаямсо, каб раўнейшы быў, ляпей спаць было на ім. Лойкі. Мая Стэпка, перат тым, як спаць, заўсёды сяльнік ўносіла ў хату, ператрасала, каб мяхчэй быў. Кульбакі.

Сялéдзеўка ж. Бочка з-пад селядцоў. Як капусту ні было ў чым квасіць, та купіш селедзяўку, жонка выпарыць кіпятком і ложыш капусту. Дубоўка.

Сялéдзец м. Селядзец. Сяледцы дарагія былі, хто там іх купляў, воляк с-пат сяледцаў бралі і бульбу зь ім елі. Жытародзь.

Сялéдзя ж. Сорт бульбы. Сяледзя, была бульба такая, прадаўгавата, зь ямачкамі, усе яе садзілі. Парэчча.

Сярадня́ прысл. Сярод дня, удзень. Ці хто гэта бачыў, каб чалавек сярадня спаў, а ён, лежабок, ляжа й сьпіць. Карозічы.

Сярмя́га ж. Шырокая і доўгая адзежына з даматканага сукна, звычайна белага колеру. Накінь сярмягу на плечы, каб ні змок на дажджэ, бачыш, як крапаціць. Бакуны.

Сярмя́жка (сярмяшка). Кароткая мужчынская адзежына з даматканага сукна шэрага колеру. Свая сярмяшка – нікому ні цяшка (прыказка). Вострава.

## Т

Таба́ка ж. Захворванне пшаніцы, пры якім зерне ператвараецца ў чорны парашок. У нас кожны гаспадар сініў пшаніцу сінім камяням, кап табакі ні было. Сухая Даліна.

Табарэ́тка ж. Табурэтка. Некалі ніякіх табарэтак ніхто ні ведаў, былі лавы і сланэ, і добра было. Лаша.

Табато́ж (табатош) часц. Так, але, ага; сапраўды. Табатож, дзеткі, табатож, а як жа ж мы бяс таты жыці будзямо, хто нам хлеба наробіць? Круглікі.

Табачко́вы прым. Колеру тытуню. Купіў сабе каптан табачковы, ля, паглядзі, ці добры будзя? Каўпакі.

Табэ́ляк м. Невялікі свердзел. Гэты табэляк ашчэ даваенны, ім натто добро дзіркі круціць пат тэблі. Свіслач.

Таварышкава́ць незак. Таварышаваць. Мы зь ёю таварышкавалі, аш пакуль нас у Германю ні вывязьлі. Гарны.

Така́рня ж. Саматужны такарны станок для апрацоўкі дрэва. У Данілоўскіх свая такарня была, калаўроткі рабілі, мы ўсе ў іх заказвалі. Круглікі.

Таквéля прысл. Столькі. Табвеля яму прышлоса пәражыць за немцамі, ні дзіво, што здаровя ні мая. Пракопавічы.

Тако́ўскі займ. Такі. Такоўскі ўжэ ён быў чалавек, нікому ніякай крыўды ні зрабіў. Зарубічы.

Такро́к прысл. У мінулым годзе, летась. Такрок карова перадойка была, нават дзецям малака ні было. Лойкі.

Такро́чны прысл. Леташні, мінулагодні. Такрочны ўмалот быў лепшы, а ціпер на салому збожа вырасло, а ўмалота німа. Пракопавічы.

Таксо́ўка ж. Легкавы аўтамабіль. Некалі маладыя да шлюбу

вазамі ехалі, а ціпер – на таксоўках. Вішнявец.

Талма́ч м. Перакладчык. Ён пры немцах талмачом быў, а потым уцёк, аля, кажуць, дзесьці дагналі і забілі. Зарубічы.

Талму́д м. перан. Цяжкі для разумення тэкст, пісанне. Я ў гэтым талмудзі нічого ні разбярусо. Дубоўка.

Тальма́к м. 1. Перавязь, тальмах. Яму дохтар сказаў, ні меньш месяцу насіць руку на тальмаку, нічого ні рабіць. Рацічы. 2. Прывязь, прычэп. Добро, што знаёмы шофяр падвярнуўсо, узяў машыну на тальмак, а так стаяў бы нівядомо дакуль. Верцялішкі.

Та́ма[1] прысл. Там. Нас тама ніхто ні жджэ, і німа чаго туды ехаць. Кавалічы.

Та́ма[2] ж. Гаць, запруда. Гэту таму нідаўно зрабілі, а так тут цякла нівелька рэчачка. Селюкі.

Тамава́не н. Умацаваннез камянёў, бярвёнаў, лазы супраць размыву берага вадою. Як тая велька вада была, та каб ні тамаваня, наш бераг у Нёман паехаў бы. Дарашэвічы.

Та́майка і тамакава прысл. Там. Ідзі сюдою, тамайка глыбоко, ні пяройдзяш. Сухая Даліна. Давай ашчэ тамакава пашукаям, можа дзе знойдзям. Балічы.

Тапары́ска (тапарыско) н. Тапарышча. Пабіў тапарыско рубаючы карчэ, а новаго німа ш чаго зрабіць. Скамарошкі.

Тапта́к м. Сячкарня, якая працуе пры дапамозе коннага прывода, тапчак. У таптаку конь мусіць нагамі перабіраць, бо як ні будзя, та яго кола ўніс пацягня. Круглікі.

Тара́нка ж. Сплецены з саломы і лазы посуд для вымярэння збожжа. У таранку якраз ув.ходзіло тры пуды пшаніцы, ні больш. Батароўка.

Тарата́йка ж. Разбітая, старая брычка. Ляхноўскі аканом на некай таратайцы тады езьдзіў. Рагачы.

Тарахто́рыць незак. Тараторыць. Пакінь тарахторыць, ужэ галава ад цібе баліць. Кунцаўшчына.

Таркава́ць незак. Церці на тарцы. Дзісь будзям пячы бабку, трэбо бульбу таркаваць. Ніжнія Пагараны.

Тарна́біць незак. Валачы, цягнуць, несці з цяжкасцю. Удвух тарнабілі гэты мяшок і ледво старнабілі, а ён хацеў адзін. Баяры.

Тарнаві́ м. Плытагон, які кіруе плытом з дапамогаю жэрдкі-руля. Як плыт тады разбіло, та ўсю віну на міне звалілі, бо я тарнавым быў. Пагараны.

Таро́пна (таропно) прысл. Страшна. Як убачыла, што чалавек ніжывы ляжыць, та стало неяк таропно. Адэльск.

Тарпанты́на ж. Шкіпінар. Некалі тарпантыну цэлымі бутлямі ладавалі ў вагоны і адпраўлялі за граніцу. Рыбніца.

Тарцыя́рка ж. Багамольная жанчына, якая дала абяцанне кожны дзень хадзіць у касцёл. Хто ні ведая гэту тарцыярку, толькі ў касцелі і прападая, а кожного абгаворыць, ачарніць. Эйсманты.

Тасе́мка ж. Тасёмка, вузенькая стужка, паясок. Гэтымі тасемкамі мы збанке ўвязвалі, як у поля палудзянь бралі, самы іх ткалі. Кавалічы.

Тасцёва ж. Цешча. Тасцёва мая жыць ні давала, наводзіла жонку, кап сварыліса, пакуль асобно ні сталі жыць. Брузгі.

Та́тусь м. Бацька, тата. Татусь да касцёла пашлі, а мама недзі ў хаці. Рацічы. Як татусь быў, та і гаспадарка трымаласа,а ціпер усё прахам пашло. Сапоцкін.

Таўжэ́ш часц. Няўжо, хіба. Таўжэш гэта праўда была? Выдумаў нешто і пляце. Кунцаўшчына.

Таўкані́ца ж. Невялікая бочка для захоўвання здору. Таму і таўканіца, што ў ёй таўклі ўнутрано сало, яно ў ёй і стаяло. Прыгодзічы.

Таўка́ч м. перан. Пра непаваротлівага, няспрытнага чалавека. Пакуль гэты таўкач паверняцца, та можно туды й назад зьбегаць. Круглікі.

Таўку́нчыкі мн. Камары, што мітусяцца ў паветры клубком, таўкуць мак. Глянь, як таўкунчыкі мак таўкуць. Жукевічы.

Таўпі́цца незак. Тоўпіцца. Пайдзі, паглядзі, чаго гэта людзі таўпяцца, мо якоё віно добро прывязьлі. Рыбніца.

Таўшчы́р ж. Вельмі тоўстае нешта. Аля ж і таўшчыр баба, да яе страшно патходзіць. Дубоўка.

Тну́ць незак. Іграць. Тне гармонік на ўсю хату, а яны аж на голавах ходзяць, скачуць. Кунцаўшчына.

То́пкі прым. Тлусты, які дае многа тлушчу пры тапленні. Сланіна ў гэтым року ні тоўста, аля даволі топка, бо малака сьвіням падлівалі. Дарашэвічы.

То́плены (то́пляны) дзеепрым. Топле́ны, адтоплены. Гэта малако ў печы ні руш, яно топляно, на сыр пойдзя. Хамякі.

То́рг (торх) м. Кірмаш. Торг быў багаты, што хочаш можно было купіць, абы грошы. Літвінкі.

То́рпа ж. Торф. Мы ні палілі торпай сколькі жывем, гэта дзе балото было, там палілі. Свіслач.

То́ўба ж. Пра тоўстую, здаровую жанчыну. Гэту тоўбу трэбо на вос патсаджваць, сама ўжэ ні дае рады залесьці. Карозічы.

То́ўстая прым. Цяжарная. Яшчэ дзіця ад зямлі ні адрасло, а яна йзноў тоўстая ходзіць. Каўпакі.

Трамкаце́ць і трамцець незак. Мільгацець, мігцець, стракацець. У вачах трамкаціць нічого ні бачу. Свіслач. На мароз, відаць, зьбіраяцца, бо зоркі на небе аш трамцяць. Гібулічы.

Трані́ла (траніло) н. Дэталь у выглядзе развілкі, якая прыдае ўстойлівасць задняй частцы воза. Траніло нештó добро ні трымая, трэбо як-кольвяк ды нова зрабіць. Рацічы.

Транса́ва ж. Дрыгва, багна, топкае месца. За Рудавіцамі была такая трансава, што ні прайсьці, ні праехаць, а ціпер хоць бокам

каціса – сухо. Свіслач.

Трапач м. 1. Ручнік. Прынясі трапач, хай госьці рукі памыюць, вытруць. Гожа. 2. перан. Пустаслоў, пустамалот, балбатун. Яму ніякай веры німа, гэта ш трапач, што хочаш нагаворыць. Лікоўка.

Трапачка ж. Драўляная прылада ў выглядзе плоскай жэрдачкі для трапання лёну. Трапачку робяць з берасту, каб вашкай была і моцнай. Віцькі.

Трасце н. зб. Тонкія пласцінкі ў бёрдах (дэталях кроснаў). Былі бёрда жалезныя, та ў іх трасьце жалезна, а ў дзеравяных – з цвёрдаго дзерава. Свіслач.

Трасціна ж. Трыснёг, чарот. Як з бежанства прыехалі, та жалі трасьціну, вязалі парке і гэдак хаты крылі. Сухая Даліна. Мы, малымі, с трасьціны паплаўке сабе рабілі, плавалі на іх па рэццы. Лікоўка.

Трахт м. Тракт, гасцінец, шлях. Гэты трахт ідзе з Адэльска на Кузьніцу, а тады на Белысток у Польшчу. Старая Дубавая.

Трацiны мн. Пілавінне. Пры паляках дораго дрова каштавалі, та нікаторыя трацiны ў тартаку бралі і палілі імі. Ласосна.

Трацяк м. 1. Старая мера зямлі (каля 4га). На трацяку ашчэ можно было жыць, а на чацьвяртаку – ужэ цяшко, хлеба да каляд і таго ні ставало. Кунцаўшчына. 2. Трэці па ліку. Ні прашло і паўгадзіны, як бачу, з гэтаго самаго вулля – ашчэ адзін рой, трацяк, вышаў, на грушу сеў. Гродна. 3. Дзіцячая гульня. 4. Галоўная фігура ў гэтай гульні. Стаім па двоя, адзін за адным, а трэці, трацяк, ходзіць па кругу, кап стаць за кім, тады першы ўцякая. Кунцаўшчына.

Тропнуць зак. Моцна стукнуць, ударыць. Дзіця зусім ні вінавато, а ён як тропня яго, і кап сказаў за што. Лаша.

Трохсценак м. Прыбудоўка з трох сцен, трысцен. Прыставіў трохсценак да адрыны, будзя хоць гоўцам дзе стаяць. Кунцаўшчына.

Трубіць незак. Сігналіць. Нешто машына пад акном іхнім трубіла, аля ніхто ні выходзіў. Пракопавічы.

Трудніцца незак. Пакутаваць ад болю. Кажуць ён натто трудніўса, пакуль сканаў, грахі, відаць, ні давалі. Круглікі.

Труды мн. Турботы, клопаты, намаганні. А колькі трудоў трэба было, пакуль хату паставілі. Баранава.

Трунак м. Алкагольны напітак. Кожны трунак чалавеку шкодны, аля ўсяроўно п'юць. Занявічы.

Трускаўкі мн., адз. трускаўка. Трускалкі. Я ў гэтым року за трускаўкі ўзяў рублёў трыста, о што трэбо садзіць, а ні бульбу. Зарыца.

Трутоўка ж. Трутнёўка. Мусі, ў сінюм ўляі трутоўка завяласа, трутнёвы расплот кладзе, як яе вывясьці. Грынёўка.

Трухіняць незак. Бегчы трушком, трухаць. Конь слабы, ледво

трухіняя, дзе тут яго пагоніш. Кунцаўшчына.

Трухлей м. Хваравіты чалавек. Ты паглядзі на гэтаго старого, здаецца, трухлей, а ўсяроўно нешто робіць. Круглікі.

Трухцець незак. Бегчы трушком, трухаць. Не жані так кабылы,а то жарабя атстаня, бачыш, ледво трухціць. Рагачы.

Трыба ж. Прасека ў лесе для лакалізацыі ачага пажару ці размежавання лясных кварталаў. На трыбі ў гэтым року грыбоў много, як пойдзяш, та адных баравікоў кош прывалачэш. Копанькі.

Трыбухі (трыбухе) мн. Вантробы. Трыбухе гэта ўжэ апошня яда была, безработныя толькі куплялі. Гродна.

Трымкаць незак. Няўмела іграць на струнным інструменце, трынкаць. Кінуў бы трымкаць, ні ўмеяш, ні бярыса іграць. Белева.

Трында м. і ж. Пустаслоў, пустамалот, балбатун. Гэты трында ўсё разнёс, распляскаў, а ціпер на нас шышкі валяцца. Каленікі.

Трындзіць (тырындзіць) незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што. Памаўчаў бы ляпей, чым трындзіць усяляко глупство. Баброўнікі. Што ты тырындзіш, ці ш гэта праўда была? Капцеўка.

Трындола м. і ж. Тое, што і трында. Гэта трындола як пойдзя па хатах, та забудзяцца, што ў яго дзеці есьць. Рудавіцы.

Трындоліць незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што, несці лухту. От, трындоліш, што сліна да гуп прынясе. Квасоўка.

Трынкаць незак. экспр. 1. Ісці частымі і дробнымі крокамі. Ты куды гэта ізноў трынкаяш, табе работы ў хаці німа, ці што? Лаша. 2. Выпіваць. Мой навучыўсо кажды дзень трынкаць, і рады німа. Зарубічы.

Трынчык м. Невялікі рэмень, дзяга. Зараз як вазьму трынчык, та хутко вас паміру, каль ніяк ні памірыцяса. Кунцаўшчына.

Трыца ж. Дэталь у калаўроце ў выглядзе драўлянага кольца, праз якое шнурам перадаецца рух шпульцы. Трыцу паткруці ляпей, а то шпулька добро ні цягня. Бакуны.

Трэліць незак. Пустасловіць, гаварыць абы-што. Што ты трэліш, слухацца ні хочацца. Пяслі.

Трэнты мн. Транты. Калі ты ўжэ скіняш гэтыя трэнты, у цібе што, адзежы лепшай німа? Палаткова.

Трэпы мн. Басаножкі. Летам я ў трэпах заўсёды хаджу, бо нагам здаравей, ні парыць. Занявічы.

Тубалец м. Тутэйшы. Там ты ніякаго голасу ні маяш, бо ты ні тубаляц, ні тутэйшы. Кунцаўшчына. Ён лічыць сябе тубальцам, бо даўно тут жыве. Рагачы.

Тудой прысл. Тым месцам, той дарогай. Ляпей пойдзямо тудой, там будзя сушэй. Луцкаўляны.

Тудэмі прысл. Туды. Тудэмі мы хадзілі некалі па грыбэ. Стральцы.

Тулькі, тулько, туко. прысл. Толькі. Мы чакалі тулькі, кап сцямнело. Баранава. Ён тулько й глядзіць, дзе хто да каго пайшоў.

Малая Жорнаўка. Туко мы вышлі с хаты, азноў бачым – немцы ідуць. Азёры.

Ту́мар м. Вялікі кавалак. Я ні шкадуючы дала хлеба пастуху, адрэзала цэлы тумар. Агароднікі.

Ту́птаць незак. Тупаць, хадзіць паціху, не спяшаючыся. Цэлы дзень тупаў каля хаты, здаецца ніц ні рабіў, а ног ні чую. Круглікі.

Ту́рзаць незак. 1. Тузаць, торгаць, цягнуць. Яго ўсё жыця турзалі, ні дзіво, што здаровя німа. Рацічы. 2. Торгаць (пра боль). Нешто паляц турзая, мусі, нарываць будзя. Рацічы.

Туркаце́ць незак. Утвараць характэрныя для жабаў-жарлянак гукі. Як выйдзяш вечарам за адрыну, та луг аж разлягаяцца, так жабы туркацяць. Кунцаўшчына.

Ту́ркаўка ж. Мядзведка. Туркаўка, як ціха пагода, та за нашымі гародамі туркаціць і туркаціць. Табольская Будка.

Туркачэ́ мн., м. Жабы-жарлянкі. Туркачэ туркацяць – пара лён сеяць (нар. прыкмета). Хамякі.

Турча́к м. Тое, што і турак, туркаўка. Увесь вечар турчак туркаціць і туркаціць, а дзе ён – ніхто ні знойдзя яго. Адэльск.

Ту́така прысл. Тут. Тутака вы ні пераедзяця, броду німа, глыбоко. Балічы.

Ты́днічак м. Тыдзенчык. Каб яшчэ які тыднічак прайшоў, та больш пчолы ні раіліса. Дзекалавічы.

Ты́ля прысл. Столькі. Тыля яго ўчылі, а розуму на капейку німа. Ласосна.

Тымчасо́ва прысл. Часова, дачасу. Тымчасово прыладзіліса ў швагра жыць, а там – бачыць будзям. Батароўка.

Тымчасо́вы прым. Часовы, непастаянны. Гэта работа ў міне тымчасова, трохі асвойчуса – лепшу знайду. Грыўкі.

Тыра́ць незак. экспр. Цяжка працаваць. Каб я тыраў так як ты, та ўжэ даўно машыну меў бы. Вішнявец.

Ты́сячны м. устар. Службовая асоба пры царскай уладзе. Тысячны падчыняўса асэсару, ён глядзеў, каб усюды парадак быў. Вялікае Дзямідкава.

Ты́ць незак. Таўсцець. Яна нічого ні робіць, сядзіць у хаці, таму й тыя так. Каўпакі.

Тэ́бяль м. 1. Драўляны шып, пры дапамозе якога злучаюць бярвёны ў сцяне. Як сьцены на тэблі добро ўзяты, та век будуць стаяць, ні выкруцяцца. Дзекалавічы. 2. Вялікі свердзел для выкручвання дзірак у бярвёнах пад тэблі. Я хатаў даўно ні стаўлю, а тэбаль хай будзя, мо спатрэбіцца. Дзекалавічы.

Тэ́нча ж. Вясёлка. Кажуць, калі хто будзя стаяць бліска тэнчы, та яна схопіць і кіня на другі бок ракі. Бакуны. Тэнча воду збірая, патопу больш ні будзя. Мішкенікі.

Тэ́нчыць незак. Кленчыць, настойліва прасіць, дамагацца просьбамі. Чаго ты тэнчыш тут, усяроўно нічого ні будзя. Кунцаўшчына. Я бы на яго месцы так ні тэнчыў, трэбо нейкі гонар мець. Квасоўка.

Тэ́чка ж. Партфель. Узяў тэчку й ходзіць сабе, як які ўжэннік. Навумавічы.

## У

Убо́й м. 1. Пра павольнага каня. З гэтым убоям нічого ні зробіш, хочаш, бій яго, хочаш, агонь кладзі пад ім, зь месца ні пойдзя. Бакуны. 2. перан. Пра чалавека з упартым флегматычным характарам. З гэтым убоям нічого зрабіць ні магу, ты яму кажы, а ён па-сваему робіць. Пяслі.

Уабра́ць зак. Убраць з поля (пра збажыну, сена). Я вам добро казаў, трэбо было ўвабраць жыто да дажджу, а ціпер папастаіць, пакуль высахня. Грабяні.

Увары́цца зак. Змарыцца ад цяжкадушнага надвор'я, моцна прапацець. Гарачыня, ні дыхнуць, чысто ўварыўсо, каб якая хоць хмарка надышла. Батароўка.

Уве́дзгаць зак. Забрудзіць, запэцкаць. Ты дзе гэта спадніцу ўвэдзгала, паглядзі, што зь яе робіцца. Вішнявец.

Уга́! выкл. Вокліч, якім адганяюць ваўка. Уга!!! Уга!!! Ваўка!!!... Уга́!.. Кунцаўшчына.

Уго́р м. Вугор (рыба). Я угра ні ем, гаткі, як чалавек утапіўсо, та ён у гэтаго тапельца залез і сядзеў у ім. Аднаго тапельца дасталі, та аш тры угры ў ім было. Угор жывучы, кіняш на патэльню, а ён смажыцца і круціцца, выжыткоўваяцца, можа выскачыць. Ласосна.

Угры́ (угрэ) мн. Лічынкі аваднёў, якія знаходзяцца пад скурай жывёлы і ўтвараюць на ёй бугаркі. Летам, слонцо як прыпячэ, та угрэ́ самы з-пат скуры каровы вылазяць, падаюць на траву. Лянявічы.

Уда́ць зак. 1. Па-здрадніцку выдаць. Ён быў удаў нас немцам, тату чуць ні схапілі, ледво ўцёк. Лужкі. 2. Прыкінуцца, прытварыцца. Гэта такі чалавек, ён удасьць, што хворы, абы тулькі на работу ні ісьці. Пракопавічы.

Уда́цца зак. Накіравацца, звярнуцца. Табе с тваёй хваробай трэбо было да прафэсара ўдацца, у Вільню, кажуць, травамі лечыць. Скідаль.

Удо́валь прысл. Удосталь, уволю. Пры саветах усяго ўдоваль стало, ды жыць мало засталосо. Вялікае Дзямідкава.

Удо́т м. перан. Пра таго, хто мае ўпарты, замкнёны характар. Ты ад гэтаго ўдота слова ні даб'еса, стаіць як вады ў рот набраўшы. Галавачы.

Уду́бальт прысл. Удвайне, у два разы. Ні аддалі тады даўгу, та ціпер працэнты ўдубальт нарасьлі. Батароўка.

Удэ́рыць зак. Ударыць, стукнуць, выцяць. Адыдзі ад гэтаго каня, а то ўдэрыць можа, я яго ведаю. Дубоўка. Як хвойку, у якую ўдэрыў пярун, абцясаць і палажыць у зруп хаты, та ў яе ўжэ пярун нігды ні ўдэрыць. Брузгі.

Ужэ́ прысл. Ужо. Хлопцы, ужэ даволі позно, трэбо ісьці дахаты. Жукевічы.

Узаго́н прысл. Пад пасевы азімых (араць). Я с самаго лета, так і начынаю гараць узагон, каб зямля добро ўлежаласа. Каленікі.

Уза́ўтра прысл. Заўтра. Узаўтро будзямо аб гэтым гаварыць, а ціпер ідзі спаць, ні дуры галавы. Гарны.

Узя́так м. Мёд, сабраны пчоламі за пэўны перыяд часу. У прошлум року ўзятак зь ліпы добры быў, за двоя сутак так натстаўку пчолы й залілі. Абухавічы.

Укамяне́ць зак. Зрабіцца цвёрдым, застыць (пра варанную бульбу). Бульбу даўно зварыла, мусі ўкамянела стоячы, трэбо было адразу есьці. Селіванаўцы.

Уканталéжыць зак. жарт. Забіць, умярцвіць. Мусі йзноў пятуха ўканталежыла, хай сьпяваў бы сабе. Кунцаўшчына.

Укара́ць зак. Пакараць. Бацькі німа, та німа каму ўкараць, хлопяц што хоча тоя й робіць. Бубны.

У́льга ж. Ільгота, паблажлівасць, уступка. Пры паляках аніякай ульгі для нас ні было, плаці падаткі і ўсё, аткуль хочаш, грошы бяры. Палаткова.

Уману́ць зак. Панадзіцца, унадзіцца. Уманулі каровы ў канюшыну лесьці, і рады зь імі німа. Новая Дубавая.

Умардава́цца зак. Замучыцца, стаміцца, змагчыся. Чысто умардаваласа пры гэтых бураках, ледво дахаты валакусо. Скрабякі.

Умеркава́ць зак. Разлічыць, зрабіць разлік, размеркаваць. Здаецца, добро умеркавала, павінно было на цэлы месяц хапіць, і усёроўно ні стало. Адэльск.

У́н часц. Вунь. Ун ваша карова ў шкоду ўлезла, выганяйця. Свіслач.

Уна́трыць зак. Прывыкнуць. Ён з малого ўнатрыў, каб яму ўсё, што захоча, давалі. Хамякі.

У́ндзе прысл. Там. Ты шукаяш яго, а ён ундзе, стаіць з некім чалавекам. Круглікі.

У́нцыя ж. Старая аптэчная мера вагі, роўная 29,8 грама. Узяў сабе паўтары ўнцыі соды ў аптэцы і пакуль што будзя, ні трэбо больш. Клачкі.

У́пал м. Спёка, спякота, гарачыня. Упал страшэнны, усё павысмальвало, павыгарало, хоць бы які дожджык пашоў. Занявічы.

У́пар м. Пра ўпартае дзіця. Станя гэты упар каля печкі, і што яму ні кажы, та як гарох ап сьценку, ні слухая. Скамарошкі.

Упарчы́вы прым. Наравісты, упарты (пра каня). Конь у яго ўпар-

чывы, як станя, та яго хоць забій, зь месца ні пойдзя. Сапоцкін.

Упа́свіцца зак. Распаўнець, растаўсцець, зрабіцца сытым. Аля ш твая кабыла і ўпасьвіласа, аж блішчыць, мусі, адным гаўсом корміш. Баброўнікі.

Упе́рці зак. груб. З'есці, зжэрці. Здаровы, як конь, ён табе можа адразу с кілё каўбасы ўперці. Баброўня.

Упе́рыць (упірыць) зак. груб. Моцна ўдарыць. Як трымаў у руках граблі, так імі і ўперыў па нідавярку, аж лёскат пайшоў. Клачкі. Ні лезь да яго, а то можа ўпірыць, і на гэтым канец будзя. Аленічы.

Упо́руч прысл. Поруч, побач, адзін каля аднаго. Яны з маладосьці добро жылі, і ціпер, як сядуць упоруч, та на іх любо паглядзець. Багушоўка.

Упру́дзіць зак. Моцна ўдарыць. Як малацілі, та Іван снапоў ні разьвязваў, а як упрудзіць пару разоў, так перавясло і пэнкало, сноп сам развязваўсо. Луцкаўляны.

Упу́цкацца зак. Запэцкацца. Упуцкаліса, як чэрці, а ну, зараж жа мыцца! Скідаль.

Упяка́ць незак. перан. Дапякаць, выводзіць з раўнавагі, даймаць. Ні трэбо было на каждум кроку яму ўпякаць, та можа й жыў бы с табой. Бычкі.

Ура́зіць зак. Зняважыць, абразіць. Ні злуй на міне, я цібе ні хацеў уразіць. так толькі сказаў. Хлістовічы.

Уракчы́ зак. Сурочыць, урачы. Глядзі, ні паказвайця дзіцей гэтай бабі – уракчы можа, у яе гочы нідобрыя. Селюкі.

Уро́скід прысл. Спосаб ворыва ад флангаў да цэнтра ворыўнага ўчастка. На зіму пад ярыну у нас усе ўроскід гаралі. Барбарычы.

Урэ́мтаць зак. Утаймаваць, супакоіць, суняць. Як разышоўсо, та ледво яго суседзі змаглі ўрэмтаць, спаць палажылі. Пракопавічы.

Урэ́х м. Прапушчаная пры ворыве або сяўбе лапінка на полі, агрэх. Казалі, хто зробіць сеючы ўрэх на полі, та ў таго будзя мрэц, нехто памрэ. Лаша.

Усарна́чыць зак. Прымусіць узяць, навязаць сілком, уперці. Ні хацеў браць, та ледво яму неяк усарначыў, ніхочучы ўзяў. Зарубічы.

Усе́нькі займ. Увесь. Колькі ў нас таго гаўса было – за два дне ўсенькі пажалі. Хамякі.

Ску́раць зак. Паспець, улажыцца ў час. Думаю, што ўскураю ўсё парабіць, пакуль яны прыедуць. Дарашэвічы.

Услуха́цца незак. Слухаць. Я ні хачу ўслухацца, што ён пляце, гэта зусім ні так было, як ён кажа. Баяры.

Усміра́ць незак. Утаймоўваць, уціхамірваць, супакойваць. Дзеці, ні дурэйця, а то я вас зараз дзягай усьміру, усьміраць я ўмею. Ялаўшчына. У хаці, як падымуць неку сварку, та кожны рас трэбо ісьці усьміраць, так ні паміраецца. Малая Капліца.

Уста́ва ж. Закон, прыняты парадак, указанне. Ну, мусі, так і

трэбо, калі такая ўстава, нічого ні зробіш, мусіш падчыняцца. Гібулічы.

Усталява́цца зак. Стаць на правільны шлях. Думалі, што зь яго нічого ні будзя, ні зможа ўсталявацца, а зноў бачыця, што за чалавек стаў. Кругляны.

Устаткава́цца зак. Тое, што і ўсталявацца. Пакуль ні жаніўса, аніяк ні мог устаткавацца, ішоў, як вецяр, а ціпер жонкі слухая. Эйсманты.

Устрапястава́ць зак. Наслядзіць, нарабіць слядоў. Во, пусціла ў хату качанят, та ўсю падлогу ўстрапяставалі, а ціпер бяры ды мый. Рагачы.

Устрашы́ць зак. Запалохаць, запужаць, застрашыць. Устрашыў хлопца, баіцца да хаты свае падысьці, зьвер – ні чалавек. Пяслі.

Устрэ́ць зак. Сустрэць, спаткаць. Ён пат самы вечар да нас прыедзя, та ты ідзі яго ўстрэць, там каля мосьціка. Чашчаўляны.

Уступа́цца незак. Абувацца на басанож. Жывей уступайса ў хадаке, ды йдзі ў хлеў, карова, мусі, целіцца. Зарубічы.

Устыда́цца незак. Саромецца. Ён ашчэ малады, дзяўчат будзя ўстыдацца, хай з вамі ні йдзе. Пальніца.

Устэ́рня ж. (устар.). Вялікі будынак у панскім маёнтку, у якім жылі парабкі. Ашчэ нідаўно ў Ляхнові ўстэрня стаяла, здалёк яе было відаць, чырвонай чарапіцай накрыта. Рагачы.

Усумо́нець зак. Дагадзіць, унаравіць. Я ніяк ні магу ўсумонаць яму, што ні зробіш – усе ні так, як ён хоча. Стральцы.

Усце́лька ж. Вусцілка. подсцілка ўсярэдзіне абутку, да якой мацуецца падэшва. Падэшвы нешто атстаюць, відаць, слабую ўсьцельку шавец даў. Кавальцы.

Усяню́тко займ. узмацн. Усе. Я гэтай рукой усянютко раблю, хоць яна мне й баліць. Адэльск.

Уталантава́ць зак. Утаптаць, выбіць (пра пасевы). Ці ты бачыў, гэта ж за гумнамі каровы рунь чысто уталантавалі, с карэньмі павыносілі. Ферма.

Утало́піцца зак. Утаропіцца. Ты чо гэта на міне ўталопіўсо, мусі ні пазнаў? Ферма.

Утамава́ць зак. Утаймаваць. У гэтум месцы рэчку аніяк ні маглі ўтамаваць, што ні кідалі, ўсё панясла вада, размыла. Сухая Даліна. Кроў з носа як адбіласа, та ніяк ні маглі ўтамаваць, так ішла. Рыдзелі.

Утарна́біцца зак. Залезці, забрацца з вялікай цяжкасцю, ускарабкацца. У аўтобус ледво утарнабіўсо, людзей бітком было набіто, ні павярнуцца. Каленікі.

Утарна́біць зак. узмацн. Узваліць. Мяшок гэты адзін аніяк ні мог утарнабіць на вос, мусяў прасіць, кап памаглі. Кавалічы.

У́тлы прым. Хваравіты. Мой меньшы зусім некі утлы, чуць што, так ізноў захварэя, ляжыць. Забалаць.

Уто́ры мн. Спецыяльныя выразы ў клепках для ўстаўкі дна ў бандарскіх вырабах. Я, як устаўляю ў бочку дно, та стараюсо, каб шчыльно ўваходзіло ў ўторы, каб ніякага лёзу ні было. Бандары.

Уто́чкі мн. Боты, у якіх да старых халяваў прышыты новыя перады. Халявы ашчэ добрыя, трэбо заказаць, каб Алтар уточкі зрабіў, можа ашчэ з рок які прахаджу. Белява.

У́траніца ж. Заранка, ранішняя зорка. Паглядзі, утраніца ўзышла, на сьвет будзя занімацца. Бакуны.

Утранца́цца незак. Умешвацца. Я ў гэту справу ні буду ўтранцацца, хай робяць, як хочуць. Рацічы.

Ухайда́каць зак. груб. Забіць, забіць напавал, зарэзаць. Нашто нам мэнчыцца, давай лепш клікням свінабоя, і ён нам раз-два паршука ўхайдакая. Лаша.

Ухо́даваць зак. Забіць, зарэзаць. Глядзі, бычка ўміг уходавалі, ані мэкнуў, тулькі нагамі дрыгануў. Грыўкі.

Уце́нты прым. Упарты, зацяты. А то ш чалавек уценты, як упрэцца, та хоць кала яму на галаве цяшы. Бандары.

Уця́цца зак. Займець злосць, неўзлюбіць, уз'есціся. Я ведаю, за што ён на міне ўцяўсо – за тоё, што праўду ў гочы яму сказаў.Адэльск.

Уця́ць зак. Укусіць. Уцяў сабака, аш кроў пайшла, ледво ўтаймавалі. Рудавіцы.

Учапе́рыцца зак. Моцна учапіцца. Дзіця, як учаперыласо за матку, та немяц ніяк ні мог адарваць, так і застрэліў. Скідаль.

Учо́рака прысл. Учора. Учорака хлопцаў да войска атпраўлялі з музыкай, сваякоў много было. Верцялішкі.

Учэ́пісты прым. Задзірысты, задзірлівы, схільны да боек, сварак. Ну й чалавек учэпісты, абы за што, так і прычэпіцца, так і завядзецца. Кавальцы.

У́шалка ж. Арэлі. Як малымі былі, та зробім сабе ўшалку і ўшаемсо цэлы дзень, пакуль маці ні пакліча. Копанькі.

Ушва́лак м. Дубіна, друк, тоўстая палка. У міне ў руках быў добры ўшвалак, хай, думаю, тулькі паткнецца паліцыянт. Белева. 2. перан. Здаровы, мажны чалавек. Што й казаць, добры ўшвалак, яго ўсе баяліса навокрух. Кунцаўшчына.

У́шлы прым. 1. Слабы фізічна, недаразвіты. Куранята ў гэтым року зусім некія ушлыя, мусі зь іх нічого ні будзя, паздыхаюць. Дубоўка. 2. Хітры, пранырлівы. Аля ж і ушлы, тулькі і глядзіць, кап каго абдурыць, упісаць у дурні. Баранава.

Ушпа́рыць зак. Моцна ўдарыць. Ён як ушпарыць пугай па кабылі, так тая панясла, што, думалі, калёса паспадаюць. Казіміроўка.

Ушчапі́ць зак. Прышчапіць. На весну трэбо будзя ўшчапіць гэту дзічку, хай расьце; ні я, та можа дзеці прыждуць. Каменка.

Ушчэ́пка ж. Прышчэп, прышчэпка, прышчэпленая расліна. У міне ўшчэпка за рок больш як на мэтар вырасла, але вецяр зламаў.

Пагараны.

Ушыпуліцца зак. Уціснуцца. Людзей поўна хата была, ледво змог ушыпуліцца паміж імі, далесьці да стала. Індура.

Ушытка ж. Шыцік, рачны маленькі чарвяк, які жыве ў рухомым доміку-трубачцы. Ушытка бывае чорна і жоўта. На жоўту ушытку рыба лепяй ловіцца. Ласосна.

Уюн м. Мінога ручаёвая (падклас рыбападобных жывёл). Уюнэ у рэццы на пераездах круцяцца – пара лён сеяць (нар. прыкмета). Лаша.

## Ф

Файтлапа м. груб. Нязграбны чалавек. Гэтаго файтлапу і да войска ні ўзялі, бо што ён там рабіць будзя. Квасоўка.

Фалдаванка ж. Спадніца, пашытая ў фалды, складкі. У маёй мамы ашчэ нідаўно фалдаванка была, святам надзявала. Эйсманты.

Фальбанка ж. Саматканая спадніца, пашытая ў складкі. Помню, як яна да нас першы рас прышла, та была маладой, у фальбанцы пекнай. Караневічы.

Фалюш (фолюш) м. Валюшня, валюш; майстэрня, у якой валяюць сукно. Тато сукно вазіў валяць аж да Лунай, там фалюш быў. Свіслач. Кажуць, найлепшы фалюш быў каля Гродна, але мы туды сукна валяць ні вазілі. Каўпакі. Фолюш, дый фолюш называюць, а я й ні ведаў, што ў ім сукно валілі. Ласосна.

Фанар м. Ліхтар. Як трэбо было хутко, та нашыя мушчыны й пры фанарэ малацілі. Хамякі.

Фарбарня ж. Фарбавальня. У Скідзялі фарбарню трымаў Есяль, на які хочаш коляр фарбаваць можно было. Загорцы.

Фарблёнка ж. Спадніца з саматканага фарбаванага сукна. Гэта хто багацейшы, та фарблёнку насіў, а мы – простыя андараке. Струбка.

Фарфал м. Брак, памылка. Ну, брат, нічого ні зробіш – фарфал, трэбо нанова рабіць. Рацічы.

Фатыга ж. Клопат, турбота, справа. Як кажуць, за дзянькуя ніц ні купя, за фатыгу трэбо заплаціць, кап крыўды ні было. Скрынікі.

Фах м. Спецыяльнасць, прафесія. Добро, калі маяш у руках які-нібуць фах, з голаду ні прападзеш. Пракопавічы.

Фацат м. Франт, моднік. Знюхаласа з гэтым фацатам, рады німа, ідзе і йдзе. Ласосна.

Фіга ж. перан. Невялікі скрутак апрацаванага лёну. На кудзелю, як робіш, та больш як тры фігі лёну йшло. Забагонікі.

Філінг м. Тонкая мастацкая апрацоўка вырабаў з дрэва; разьба па дрэву. Дзьверцы да шафы і то ў філінг зрабіў, ні так сабе. Дзекалавічы.

Філінговы прым. Фігурны, па-мастацку зроблены. Ціпер у кож-

най хаці дзьверы філінговыя, ні то, што некалі было. Саломенка.

Флёндра ж. лаянк. Любіцель прагульвацца, сноўдацца без патрэбы. Флёндра, ты дзе гэта валочышса, прыпынку табе німа! Цвіклічы.

Францік м. Франт. Францік, ён першы некалі ў Лунай боты сабе заказаў. Лугавая. Нашаго Стася ўсе францікам называлі, бо харашэ хадзіў. Лугавая.

Фрэндзлі мн. Фрэнзлі. Настольнік з фрэндзлямі засьцялі, людзі зарас прыдуць. Луцкаўляны.

Фугоўнік м. Невялікі гэбель для выбаркі пазоў (фугаў) у гонце. Фугоўнік, як добро бярэ, та гонту ўміг дапасуяш адна да адной, глатко прыдзецца. Рыбніца.

Фультон м. Сталярная пілка з малымі зубамі для апрацоўкі тонкіх дэталей. Гэты фультон я берагу, сталь натто добра, швэцкая. Дзекалавічы.

Фура ж. Поўны воз. Цэлу фуру збожа прадаў, а грошай мало, бо танно яно ў гэтым року. Брузгі.

Футрына ж. Аснова акна, дзвярэй. Футрыны у вокнах зусім пагнілі, мусі, трэбо новыя ўстаўляць. Жукевічы.

Фэйчар м. Фельчар. Антасёва дачка, ведаяш, за некаго фэйчара вышла, у Гродні жыве. Зарубічы.

Фэляр м. Загана, брак, дэфект. Гэты конь, відаць, фэляр мая, бо мало за яго просіць. Казіміроўка.

Фэсткі мн. устар. Семя сланечніка. Хвароба, за цэлы вечар фэсткаў паналушчваюць, панакідаюць, а ты падмятай за імі. Рагачы.

## Х

Хаванкі мн. Хованкі. Хлопцы, давайця ў хаванкі гуляць. Калбасіна.

Хаваць незак. Гадаваць, утрымліваць. У прошлум року мы аш троя цялят хавалі, файныя цялушачкі былі. Кулёўцы.

Хадакі мн., адз. хадак. м. 1. Абутак на драўлянай падэшве. Пры паляках хадаке ўсе насілі, куплялі ў Скідалі. Саволеўка. 2. Скураны абутак, які святам насіла мясцовая шляхта. У хадаках толькі да касьцёла хадзілі, пасля клалі ў пучке саломы, каб ні псаваліса. Занявічы. 3. Лапці. Зробіш сабе хадаке з лыка й ходзіш, пакуль ні парвуцца. Ахрымаўцы.

Хадун м. Хадок. Які зь яго хадун, ён, як жыве, пехатой ні хадзіў, усе езьдзіў. Зарубічы.

Хазан (хазын) м. устар. Служыцель культу ў яўрэйскай рэлігійнай абшчыне, які за аплату забіваў птушак. Каля нас жыў хазан, як пачнуць нясьці куры, та той ні пасьпяваў рэзаць. Азёры. Хазын, кажуць, сьпярша памоліцца, а тады курэй рэжа. Табольская Будка.

Хала ж.Здобная булка (пірог), якую пяклі яўрэі на свята. Іршко,

як малыя былі, халы даваў пакаштаваць нам, прывозіў зь Індоры. Белева.

Хамуль – хамуль зак. Ціхенька, непрыкметна (уцячы, сысці з вачэй). Як паглядзеў што б'юцца, та ён, доўго ні чакаючы, хамуль-хамуль дый с хаты, тулькі яго й бачылі. Рагачы.

Халява ж. перан. груб. Горла, рот. Ты чо гэта сваю халяву дзярэш, разышоўсо! Дубоўка.

Халярысты прым. Халярычны, гарачы, які лёгка ўзбуджаецца. Аля ж і халярысты чалавек, абы што – так і ўскіпіць. Бакуны.

Хапун[1] м. 1. Яўрэйскае рэлігійнае свята перад Новым годам. У яўрэяў, мусі, зарас хапун будзя, зноў усю ноч маліцца будуць. Пракопавічы. 2. Міфічная асоба ў выглядзе чорта (д'ябла), якая ў час свята – Хапуна хапае людзей. Усяроўно хапун вас знойдзя, нідзе ні дзеняцяса. Круглікі.

Хапун[2] м. 1. Мужчынская верхняя кароткая вопратка, бекеша. Надзеняш сабе хапун у дарозі, і ўжэ ні халадно. Сапоцкін. 2. Бурка. Пагода ці ніпагода, а свой хапун у дарозі ні пашкодзіць. Копанькі.

Харанючкі мн. Кураняты, якія курыца вывела без ведама гаспадароў. Сваіх курэй было даволі, а тут ашчэ курыца харанючак прывяла. Карозічы.

Харашаць незак. Кастрыраваць, пакладаць. Наш тато сам ўмеў харашаць паршучкоў, нават другім харашаў, як прасілі. Свіслач.

Харашэ прысл. Хораша, прыгожа. Век харашэ ні праходзіш і смашно ні праясі (прымаўка) Горніца.

Харляк м. Хваравіты чалавек. От, некі харляк, усе кашляя, аткуль будзя ў яго сіла. Балічы.

Харонга ж. Харугава, пратэса. Як велько свято, та вакол цэрквы с крэсным ходам хадзілі, с харонгамі. Свіслач.

Хахаль м. Вялікая луста. Зарас вячэра будзя, а ён узяў хахаль хлеба і есьць. Балічы.

Хваіна ж. Хвойнік. Ні гаралі, та хваіна паварыстала, плугам ні ўгарэш. Свіслач.

Хваляваць незак. Валяць сукно ў валюшні. Хваляваць сукно ні так просто, на гэто машыны сьпецыяльныя патрэбны, у хаці гэтаго ні зробіш. Лойкі.

Хваравека м. і ж. Хваравіты чалавек. Ён хваравека, колькі ні жыве, та ўсё хварэя. Сонічы.

Хвашчай м. Хвошч. Хвашчай у саломі, файна будзя сечка. Кунцаўшчына.

Хімеры мн. Капрызы, выдумкі; дзівацтва. Ат тваіх хімераў галава кругам ходзіць, ты сам ні ведаяш, чаго хочаш. Лаша.

Хлапчак м. Хлопчык, хлапчук. Хлапчак некі прыходзіў да нас, нечаго ў таты прасіў. Сінявічы.

Хлеб м. Хлеб. Мы елі хлеб траякі: чорны, белы і ніякі (прымаўка). Пагараны. **Хлеб адданы** – пра цяжкае жыццё, долю. Хлеб

адданы, які́м хлебам карміў ён сваіх бацькоў, такім хлебам кормяць і яго родныя дзеці. Свіслач. **Хлеб пытляваны** – хлеб з прасеяннай жытняй мукі. Нават з багатых рэтко хто хлеп пытляваны пёк, гэта хібо калі святам тулькі. Луцкаўляны. **Хлеб сітні** – паўпшанічны хлеб. Сітняго хлеба ніхто ні пёк, яго ў мястэчках куплялі. Рагачы. Ідзем, Гарцём, с паўфунта хлеба сітняго купім, зьзямо. Кунцаўшчына. **Хлеб пчаліны** – пылок, які пчолы збіраюць на кветках. Бес хлеба пчалінаго пчолы ні перазімуюць, трэбо хоць дзьве рамкі на зіму паставіць. Грынёўка.

Хле́бны піро́г. Перапечка, невялікі хлеб у выглядзе аладкі. Для нас, дзіцей, хлебны пірог быў самы найсмашнейшы, мы яго ждалі як нівядомо чаго. Клінчаны.

Хлюкаце́ць незак. Ціха булькацець, пераліваццa. Нешто ў адной нашай курыцы ў горлі пачало хлюкацець, ні есьць нічого. Гібулічы.

Хля́ба ж. Худая, схуднелая істота (чалавек, жывёліна). Кабыла хляба нека, як ні кармі, усяроўно галодна, баке ўпаўшыя. На ёй далёко ні заедзяш. Рацічы.

Хляба́к м. устар. Сумка, у якой салдаты панскай Польшчы насілі хлеб. У маго дзеда ашчэ ў ціпер есьць хлябак, хлеб носіць, як кароў пасе. Аульс.

Хлябусце́ць незак. Пераліваццa, хлюпаць. Высьнякай нос дзіцяці, а то хлябусьціць, ні можа сапсьці бедно. Гарны.

Хо́дка (хотка) ж. Снапы, прыгатаваныя на адзін абмалот у малатарню. Толькі за адну хотку вымалацілі больш дзьвух коп жыта. Баброўнікі.

Хрбу́ст (храбушч) м. Лугавая расліна з шырокімі крохкімі лістамі. Храбуст коні добро елі, а мы нават сьвіням давалі. Свіслач. У нас храбушч за зеля ні лічылі, бо другого зеля ўдоваль было. Кунцаўшчына.

Храсто́к м. Расток. Храстке бульба папускала, трэбо садзіць. Дарашэвічы.

Храсці́ць незак. Прарошчваць. Мы бульбу заўсёды храсьцім, тады яна і ўзыходзіць раней. Віцькі.

Хру́ля ж. Старая, худая. Хруля ні карова, дзе табе малака яна дасьць. Кругляны.

Хрыбя́ціна ж. груб. Хрыбеціна. Мусі так і будзяш вычаўпляць, пакуль хто хрыбяціну табе ні скруціць. Хлістовічы.

Хрышчо́ны. м. Хросны бацька. Хрышчоны даўно памёр, а хрышчона ашчэ жыве, да нас прыходзіць. Квасоўка.

Худашча́вы прым. Хударлявы. Мой нігды тоўстым ні быў, заўсёды худашчавы, і ціпер такі. Саломенка.

Худо́ба ж. Худзізна. От, нека худоба, поправы яму німа. Лаша.

Ху́сця мн. Бялізна, пасцельнае адзенне. Я на рэццы хусьця мыла, на бярозу вешала (з народн. песні). Рудавіцы.

Хэ́нць ж. Ахвота. Нека хэнць падбіла міне схадзіць тады па гры-

бэ. Грандзічы.

Хэўра ж. груб. Вялікі натоўп, гурт, кампанія, зборышча. А гэта што тут за хэўра ззабраласа, што яны тут вынюхваюць. Пракопавічы.

## Ц

Цаган м. Вялікі металічны гаршчок. Як спарыш цэлы цаган бульбы, та свіням на ўвесь дзень хапая. Казіміроўка.

Цадзілка (цадзілко) н. перан. Пра чалавека з маруднай манатоннай манерай размовы. Гэты цадзілко пакуль слово скажа, та абаранак можно зьесьці. Віслач.

Цалёўка ж. Дошка таўшчыной 2,5 см. У нас свае былі цалёўкі, та Санька сам нарабіў шалёвак і хату пашаляваў. Віслач.

Цаль м. 1. Канец плыта. Тарнуй улево, трымай, каб цаль ні закінуло. Дзекалавічы. 2. Непрыкметная пад вадой выспачка, востраў. Як сядзе плыт на цаль, та ўжэ бяда, плытнікі скідалі ганавіцы, лезьлі ў воду і сьпіхалі бусакамі. Навасёлкі.

Цалюські прым. узмацн. Цэлы, увесь. Ты сабе што думаяш?! Цалюські дзень недзя прападаў, тулькі ціпер зьявіўсо. Аульс.

Цаля ж. Старая мера даўжыні – 2,5 см. Гэтай дошкі будзя мо больш як чатэры цалі таўшчынё. Дарашэвічы.

Цалякі (цаляке) мн. Цэлае зерне, што трапляецца ў муцэ пасля памолу. Ці ж з гэтай мукі хлеп спячэш – тут мо трэця часьць цаляк оў. Баранава.

Цамбравіна ж. Бетонны круг для студні. Гэта ж дваццаць цамбравін упусьцілі ў студню, ледво вады дасталі. Гібулічы. Якрас пасярэдзіні студні цамбравіна пэнкнула, та чуць майстра ні заваліло. Лаша.

Цапіла (цапіло) н. і цапіўня. Цапільна. Найспраўнейша цапіло зь ляшчыны, яно павінно гнуцца гэдак трошкі. Гліняны. Гэты цэп у міне ўжэ рок дзесяць служыць, бачыш, якое цапіўня гладко стало ад рук. Карозічы.

Цацкавацца незак. неадабр. Цацкацца. Ці доўго ты будзяш зь ім цацкавацца? Гібулічы.

Цваны прым. Хітры. Аляж і цваны, як папаў у беду, та прытварыўсо дурным, ціпер ізноў стаў разумным. Батароўка.

Цваняк ж. Хітрун. Гэта ашчэ той цваняк, яго ніхто ні правядзе, выкруціцца з любой бяды. Вішнявец.

Цветабой м. Пара цвіцення раслін. Цветабой пачаўсо, глядзі, пчолы аж зьвіняць на вішнях. Баброўня.

Цвілік м. Цвікля. Гэты кусок кужалю пакінь на цьвіліці, у рукавэ будзяш устаўляць. Бакуны.

Цвінтары мн. Старыя закінутыя могілкі. На цвінтарах каровы толькі пасем, даўно ніхто ні хавая. м. Парэчча.

Цвіркун м. Цвыркун. Цвіркун у хаці завёўсо, ні дае спаць. Кун-

цаўшчына.

Цвічыць незак. Дрэсіраваць, муштраваць. Каб цібе цьвічыў мужык так, як мой Косьця, та ты па вяровачцы хадзіла п. Рагачы.

Цекунец м. Сыпучы пясок. Цекунец на дарозі, конь ледво вос цягня. Ліхачы.

Целяпайло н. Чалавек, які вельмі марудна ўсё робіць. Цяляпайло нейкі, робіць як мокро гарыць. Рудавіцы.

Целяпацца незак. Марудзіць, рабіць вельмі павольна. Цяляпаяцца ў гародзі – і то добро, усе неку работу робіць. Жылічы.

Целяпей м. зневаж. Целяпень. Сякі-такі целяпей – і то будзе ляпей (выслоўе) Гібулічы. Ці ж гэты целяпей чаго даб'ецца, яго самого трэбо піхаць у плечы, каб дзе йшоў. Солы.

Ценжар м. Цяжар. Ці ж гэта бабі такі ценжар падымаць, сам бяры. Карозічы.

Цермяць ж. Кастра, кастрыца, адходы ад лёну, канапель. Мы цермяцю падрубы ў хаці апсыпалі, на столь сыпалі, каб цяплей было. Бандары.

Церпкі прым. Даўкі, які выклікае аскому. Ці ж гэта грушы, яны церпкія, есьці ні можно. Малахавічы.

Цёнг м. 1. Цяга ў печы. Цёнгу зусім німа, паглядзі, мо люфта завалілася сажай. Кавалічы. 2. Скразняк, пройма. Зачыні акно, а то цёнг некі, шыю можа скруціць. Зарубічы. Адным цёнгам – безупынна, бесперапынна, бесперастанку; увесь час. Ні даваў жыць, адным цёнгам крычаў: паедзям да цёткі і паедзям. Кругляны.

Цёнгле прысл. Пастаянна, заўсёды, увесь час. Ён цёнгле абадраны хадзіў, жонка зусім ні глядзела. Агароднікі. У міне цёнгле есьць работа, гэта як рабіць ні хочаш та яе німа. Каленікі.

Цёпкацца незак. Растрэпвацца, раскалмачвацца. Што ты хусьцінку ні зарубіла, бераге ш цёпкаюцца, ці часу табе німа? Грыўкі.

Цёска ж. Лучына. Я ашчэ сам помню, як у дзеда Матука цёскамі ў хаці сьвяцілі. Калбасіна.

Цібрыць незак. неадабр. Красці, браць чужое. Ох, і цібрыць ён майстар, так і глядзіць, дзе што ні так ляжыць. Індура.

Ціліфон м. Тэлефон. Ціпер Мішы ціліфон маглі правясьці, бо дзяпутатам выбралі. Дзевятоўка.

Ціпер (ціперака, ціперачы) прысл. Цяпер. Ціпер стало жыць добро, гультае і тыя бес хлеба ні жывуць. Баброўнікі. Ідзеця ціпер палуднаваць, а работа ў лес ні ўцячэ. Балічы. Ціперака яму ні да вяселя, калі хата згарэла. Малая Капліца. Ціперачы маям хлеб і да хлеба. Кукалі.

Ціпеслівы прым. Мітуслівы, паспешлівы, хапатлівы. Яна нека ціпясьліва, паніку падымя зь нічого, бегая, а што рабіць – сама ні ведая. Рудавіцы.

Ціп-ціп! Ту-ту-ту і выкл. Воклічь, якім падзываюць курэй. Ціп-ціп! Ту-ту-ту!, курачкі. Лойкі.

Ціпцюх м. 1. Кволы, фізічна недаразвіты чалавек. Які зь яго кавалер, ціпцюх некі. Рыбніца. 2. Пампон. Купіў шапку хлопцу з ціпцюхом, та толькі бяды набраўса, кожны палохая хлопца, што адарве. Луцкаўляны.

Цмэнтаж м. Могілкі, могільнік. Мой тато ні тут, на Парэцкум цмэнтажэ пахованы. м. Парэчча.

Цубаніць незак. Барабаніць, сячы. Дождж усю ноч цубаніў па блясі, спаць ні даваў. Кунцаўшчына.

Цубасіць незак. груб. Моцна біць. Здаецца й хмара нівелька была, а град як пачаў цубасіць, та чуць ні ўсё жыто палажыў. Малая Жорнаўка.

Цуглей м. Цуглі. Я заўсёды даю цуглей у зубы каню і еду сабе, ужэ ні панясе. Азяркі. Гатовых цуглей ні было, та я ў каваля сваго заказваў. Грандзічы.

Цугундар м. Цуглі. У нас палахлівы конь быў, та заўсёды цугундар давалі, бо машын натто баяўсо. Кунцаўшчына.

Цукер (цукяр) м. Цукар. Ні было за што цукяр купіць, каву с сахарынай пілі. Караневічы.

Цукернік м. устар. Прадавец цукерак. Як фэст, та цукернікі як пастануць з цукеркамі пат касьцёлам, ні прайсьці, так і заманьваюць згуляць, каб абдурыць. Індура.

Цундала (цундало) м., н. Той, хто любіць бадзяцца, хадзіць без справы. Цундало, ты дзе гэта цэлы дзень цундаяш, у хаці ні прыпыняяса? Гродна.

Цундаць незак. Хадзіць, бадзяцца без справы. Прывык халернік цундаць, пад'есьць толькі і зноў недзі цундая. Рацічы.

Цунтар м. Спаленая ільняная або баваўняная анучка для крэсіва. Я цунтар насіў у пудэльчыку, паложыш на крэмянь і красаяш, пакуль загарыцца. Кунцаўшчына.

Цыбасты прым. Цыбаты. А што гэта за цыбасты хлопяц каля цібе ўвінаўсо, ці с Капцёўкі які? Караневічы.

Цыбы мн. жарт. Доўгія ногі. Ты дзе свае цыбы суняш, тут і так німа дзе прайсьці. Сухая Даліна.

Цывіль м. Цывільны, не ваенны чалавек. А каля жаўнераў адзін цывіль усе цёрса, я думаў, што загатавіцяль які. Занявічы.

Цыганок м. Дэталь у калаўроце ў выглядзе планкі, якая прыводзіць у рух вялікае кола. Цыганок нешто бэнтаяцца, гэта ні работа, прасьці німа як. Брузгі.

Цымас м. Цымус, салодкая яўрэйская ежа, прыгатаваная з бручкі, морквы, яек на гусіным шмальцы. Цымасу я ні каштаваў, толькі бачыў як яго елі, жоўты такі. Пракопавічы. 2. Вельмі смачны, непараўнальны, непераўзыдзены па смакавых якасцях. Ну, што як на смак? – Цымас, я ш табе казаў, што каяцца ні будзяш.

Лаша.

Цынгяль м. Курок, спускавы кручок. Ён нізнарок націснуў на цынгяль, так дубальтоўка і высмаліла, чысто дзіцей перапалохаў. Гродна.

Цынтрыфуга ж. Цэнтрыфуга, медагонка. У нас цынтрыфуга на дзьве рамкі, а бываюць і на чатэры, даражэйшыя. Грынёўка.

Цынцылея ж. Травяністая расліна сямейства макавых, з жоўтымі кветкамі падтыннік, чыстацел. Цынцылея ўсюды расьце, пат плотам, на сьметніку ў нас расла, ад экзэмы, кажуць, памагая. Кунцаўшчына.

Цыранка ж. Невялікая дзікая качка, чырок. Зь зімы, як наляціць у лух цыранак, та вады ні знаць, столькі іх было. Сухая Даліна.

Цыркяль м. Цыркуль. Цыркяль кожны меў, бес цыркяля дна ў дзешцы ні ўставіш. Азяркі, Грандзічы.

Цыцалы мн. Невялічкая квадратная скураная скрыначка, якую яўрэі ў час малення прывязвалі на левую руку, або прымацоўвалі да ілба. Як у нас Лэйшко печ рабіў, та нам дзецям натто было страшно, як ён маліўса, крычаў нешто з цыцаламі на лобі. Кунцаўшчына.

Цьма ж. Маленькі начны матылёк. Зачыняй акно, а то ізноў цьма наляціць. Рацічы.

Цэбаць незак. жарт., неадабр. Ісці вялікімі крокамі. Гэты магазын яму, відаць, аш пахня, што ён зраня да яго так і цэбая. Лаша.

Цэбер м. Цэбар. У нас адзін цэбер быў, што трэбо было ўдвох нясьці, адзін ні даваў рады. Галавачы.

Цэлкі прым. Меткі, трапны. Я, брат, ні цэлкі, колькі ні страляў, аніяк у цэль ні пападаў. Галаўнічы.

Цэрква ж. Царква. Кажуць, Лашанская цэрква ашчэ за паншчыны была, пры некім Ханькоўскім бацюшцы. Лаша.

Цэўка ж. Трубчастая частка галёначнай косці. Цэўка зрасласа, аля як на перамену пагоды, та нага ўсяроўно ныя. Дарашэвічы.

Цюкаць незак. Ісці (пра гадзіннік). Глядзі, часэ ледво цюкаюць, мусі, стануць. Каўпакі.

Цюнькі мн. Хатні мяккі сялянскі абутак, звязаны з тоўстых нітак. У хаці ў цюньках файно хадзіць, і лёхко, і ногі ні мерзнуць. Шэмбелеўцы.

Цюркач м. Цвыркун. Хвароба на яго, цюркач як завядзецца ў хаці, та яго ўжэ ні выжаняш, ні дасьць заснуць. Гродна.

Цюрыш выкл. Вокліч, якім адганяюць куранят. Цюрыш! А цюрыш! Вы куды гэта лезяця! Кунцаўшчына.

Цюхна ж. Безхарактарны, няўклюдны чалавек. Прападзе, аддалі замуж за гэтаго цюхну, а ціпер што хочаш рабі. Рагачы.

Цюцельку прысл. Трошкі, крышку. Да твае рубашкі цюцельку матэрыі ні хватая, трэбо дакупіць. Свіслач.

Цю-цю-на! выкл. Вокліч, якім падзываюць сабаку. Цю-цю-на!..

Бобік, хадзі сюды! Баяры.

Цягашчы прым. 1. Бадзяжны, бяздомны. Некі цягашчы сабака прыстаў да нас, пабыў дзень і зноў недзі пацягнуўсо. Кульбакі. 2. Шукальнік любоўных прыгод, маральна няўстойлівы. Што й казаць, цягашчы чалавек, ужэ другую жонку кінуў, і зноў недзі пацягнуўсо. Кульбакі.

Цяльпех м. Бесхарактарны, непаваротлівы чалавек. Альбо гэты цяльпех што талково зробіць, яму тулькі на пячэ сядзець. Свіслач.

Цялячына ж. Цяляціна. Ціпер цялят ні рэжуць, гадуюць, таму і цялячыны німа. Сухая Даліна.

Цяты прым. Зацяты, злосны на каго-небудзь. Ён на яго цяты, шукая толькі прычыны, кап пабіцца. Лаша.

Цяромшына ж. Сляды ад пабояў. Мне твая бітва ні першына, на маіх плячах – цяромшына (з нар. песні) Свіслач.

Цяруха ж. Пацёртыя рэшткі сена або саломы. У тую весну ў нас ў адрыні тулькі адна цяруха засталаса, карові ні было чаго на раз даць. Карозічы.

Цярэшня ж. Чарэшня. У гэтым року цярэшні ўрадзілі, а вось вішняў зусім німа. Гібулічы.

## Ч

Чалавек м. Муж, мужчына ў адносінах да сваёй жонкі. Мой чалавек учора як паехаў да сваіх, та і ашчэ німа. Навасёлкі. Чалавек без жоўці – добры па характару. Гэта чалавек без жоўці, ён нігды ні злуе, ні чулі, кап с кім сварыўсо б. Зарубічы.

Чалавечак м. Зрэнка (у воку). Гэта добро, што я гоко закрыў, а так парнуў бы ў самы чалавечак і хадзіў бы сляпым. Лаша.

Чало н. Лепшыя адборныя зярняты, пакінутыя на насенне, эліта. Я на насення адбіраю само чало, таму і пшаніца ў міне лепша, як у другіх. Сухая Даліна.

Чамайда м., ж. Бязвольны, бесхарактарны чалавек. Хай другі рас чамайдай ні будзя, добро пільнуя, а то самого забяруць і панясуць. Сухмяні.

Чамкаць незак. Марудна жаваць ежу. Некай сухой каўбасы далі, та як пачаў чамкаць, мо с паўгадзіны чамкаў, пакуль праглынуў. Мігова.

Чамяргес м. жарт., груб. Самагон. Ціпер чамяргесу і таго цяшко дастаць, бо мало хто жане. Каменка.

Чамярыца ж. устар. Гарэлка. Пятруся, пойдзямо да міне, мо чамярыцы вып'ямо, весялей будзя. Лаша.

Чапля ж. Слімак, смоўж. Чапля жыве па такіх ніскіх месцах, дзе вільгаці много. Прыгодзічы.

Чапы (чапэ) мн. (Чап. м.). Шыпы ў сталярных дэталях. Чапэ добро ні запілаваў, а ціпер падганяй, каб уваходзілі. Дзекалавічы.

Чаранок м. Ручка прадмета, за якую бяруцца рукой пры карыс-

танні. Чаранок гэты зрабіў с сухой бярозы, думаю, што моцны будзя, можаш капаць. Мількаўшчына.

Чарапа́ха ж. Рапуха. Чарапаха ў норах жыве, пчолаў хватая, я сам бачыў, як прылезла да лятка і хацела пчол лавіць. Табольская Будка.

Чара́пкацца незак. 1. Драпацца. Чую, нехто стаў чарапкацца, каль я аччыніў дзьверы, а зноў бачу – наша кацяня. Грандзічы. 2. Карабкацца, узлазіць з цяжкасцю. На гару як стаў чарапкацца, та ледво ўзьлес, так было сліско. Агароднікі.

Чарапо́к м. устар. 1. Чарка. Давай ашчэ па аднаму чарапку вып'ям, ні замного будзя. Лаша. 2. Галава ж. перан. Як я бачу, твой чарапок зусім ні варыць, нічого ты ні разумеяш. Кунцаўшчына.

Чарассядзе́льнік м. Частка конскай вупражы, рэмень, працягнуты ад адной аглоблі да другой цераз падсядзёлак. Я заўсёды стараюса мацней падцягнуць чарассядзельнік, каб едучы, аглоблі ні бэнталіса. Бандары.

Чарве́не н. Адкладка пчалінай маткай яечак у ячэі. Як чарвеня роўно, адразу відаць, што маладая матка, добро чарвіць. Грынёўка.

Чаркава́ць незак. Выпіваць (пра гарэлку). Яны часьценько сабе зьбяруцца, ды давай чаркаваць. Горніца.

Чаро́муха ж. Чаромха. Кажуць, што кара чаромухі памагая ад немачы, трэбо парыць і піць па адной шклянцы ў дзень. Капцёўка.

Чаро́пка ж. Макацёр; гліняная пасудзіна, у якой труць мак. Ціпер каб і хацеў чаропку купіць, та ні купіш, у магазінах ні прадаюць. Пагараны. На куцю маці насыпля ў чаропку маку, а я качалкам тру, пакуль белы ні станя. Кашэўнікі.

Часны́к м. Часнок. Ні еш часныку – з рота ні будзя смярдзець (прымаўка). Гібулічы.

Часы́ мн. Гадзіннік. Хто тыя часы знаў, а ціпер кожно дзіця на руцэ носіць, ведая, каторы час. Скамарошкі.

Чаўны́к м. Чаўнок. Гэты чаўнык век будзя служыць, хіба ён зношваяцца, як помню, та такі ён. Капцёўка.

Ча́ўпсці незак. Чаўпці. Што ты чаўпеш з гэтымі дзяцьмі, пат старасьць яны табе за ўсё гэта атплацяць. Сухмяні.

Чацвярта́к м. Чацвёртая частка зямельнага надзелу (каля 3 га). Як бацько памёр, та яны падзялілі землю, ледво па чацьвяртаку прышлоса на кожнаго. Кавалічы.

Чачо́тка ж. Камлёвая частка бярозы з цвёрдай і пакручастай драўнінай. Як парабіў чаранке да долатаў ш чачоткі, та і ціпер служаць, ні адзін ні раскалоўса. Дарашэвічы.

Чашчаві́к м. Падбярозавік. Адных чашчавікоў кош набраў, ледво дахаты прынёс. Пагараны.

Чварагра́нны прым. Чатырохгранны, які мае чатыры грані. Помню, даўней прадаваліса і чвараграння гаршке, у міне самой

доўгі час быў чварагранны гаршчок. Эйсманты.

Чвара́к м. устар. Дом ў маёнтку, у якім жылі дваровыя слугі, парабкі. Усе парапкі ў нашаго пана жылі ў адным чварку, мо сем'яў дзесяць, ці больш. Зарубічы.

Чва́рыць (чвэрыць) незак. Выдумляць, гаварыць няпраўду, глупства. Гэты дзядзько мусі чварыць, ні так усё было, як ён кажа. Ахрымаўцы. Як пачаў чвэрыць, та мы за голавы браліса, як можно так глатко дурыць людзей. Клачкі.

Чвэ́клы мн. Драўляныя цвічкі, якімі падбіваюць падэшву абутку, гвазды. Каб чвэклы добро ішлі ў падошву, та я спачатку тыкаю іх у мыло, а тады ўжэ забіваю. Індура.

Чвэ́ртка ж. Бутэлька гарэлкі ёмістасцю ў чвэрць літра. Мы прынясем сабе чвэртку і вып'ям удвох, нам будзя даволі, бо я много ні п'ю. Адэльск.

Чвэ́хаць незак. Чмыхаць (пра цягнік). Глядзі, паравоз нешто цяшко цягня, ледво чвэхая, ідзе. Батароўка.

Чкэ-чкэ-чкэ! Вокліч, якім падзываюць свіней. Маці, як пакліча „чкэ́-чкэ́-чкэ́!..", так свіня, як могуць, бягуць с поля дахаты. Ба́броўнікі.

Члу́нак м. Сустаў. Нешто ў члунках круціць, мо дзе які раматызм прыстае. Каваліčы.

Чма́рыць незак. Чмурыць. Кап хоць, праўда, чмарыць умеў, а то нясе неку ерась. Кунцаўшчына.

Чмо́ніць незак. Выдумляць, гаварыць няпраўду, глупства. Што ты чмоніш, гэта ж зусім ні так было, як ты пляцеш. Белева.

Чмо́хкаць незак. Цмокаць. Паршучка некаго ніўдачнаго купілі, дасі есьць, та тулькі чмохкая, ні есьць. Аульс.

Чмэ́хаць незак. Курыць, пускаць дым з люлькі.Пакінь чмэхаць накурыў, што ў хаці ні дыхнуць. Свіслач.

Чо́баты мн. Галоўкі; боты з адрэзанымі халявамі. Во, ат старых ботаў тулькі чобаты засталіса, добро каля хаты хадзіць. Бакуны.

Чо́рны бэ́з – бузіна, куставая расліна з чорнымі ягадамі. З чорнаго бэзу мы ўсе сікаўкі сабе рабілі, ходзім і адзін аднаго абліваям вадой. Кунцаўшчына.

Чо́рны хле́б устар. – хлеб з прымяссю мякіны і іншых сурагатаў. Мне баба казала, што некалі пяклі чорны хлеб, у ім была толькі палова жыта, другая палова – з мякіны, жалудоў і бульбы. Лаша.

Чо́санкі мн. Самаробныя валёнкі. Я сам чосанкі рабіў, за вечар пар дзьве скачаяш. Ласосна.

Чо́ўкаць незак. Марудна жаваць ежу. Ты ўжэ чоўкаяш, як стары, хіба зубоў ні маяш? Ты ж яшчэ малады. Батароўка.

Чо́хмацца. незак. 1. Чухацца. Ты чо гэта чохмаяса, мо дзе якой каросты набраўсо? Баброўнікі. 2. Марудзіць. Ні чохмайса, а жывей прыбірайса і ець, людзі даўно паехалі. Казловічы.

Чуга́н м. Чыгун (гаршчок). Насып у чуган бульбы ды пастаў у

печ, хай варыцца. Хамякі.

Чудзіла (чудзіло) н., м. Дзівак. Чудзіло ты, ні чалавек, гаворыш і сам сабе ні верыш. Дарашэвічы.

Чужанец м. Чужы, не родны. Ён мне чужы чужанец, ні сват ні брат. Баброўня.

Чуйка ж. Світка, бравэрка, армяк, старадаўняя сялянская верхняя адзежына з тоўстага саматканага сукна. Чуйку можно было п пашыць, аля краўца добраго німа. Васілевічы.

Чукаць незак. Гушкаць, пагойдваць (пра дзіця). Прывыкло, каб яго чукалі, і рады німа, плача. Круглікі.

Чупарачкі мн.: на чупарачкі. На кукішкі. Вазьмі слончык і сяць, ці ж гэта старому чалавеку на чупарачках сядзець, ногі адбярэ. Баранава.

Чупачкі мн.: на чупачкі. На дыбачкі, на пальчыкі. Хоча быць большай, та ўсе на чупачкі падмошчваяцца. Жукевічы. Я на чупачках паціху прашла, каб іх не разбудзіць, і жывей лягла. Грабяні.

Чупірадла н. груб. Страшыдла, страхоцце; пачвара. Гэта ні баба, а неко чупірадло, дзе ён такую і знайшоў... Балічы.

Чухмель м. пагард. Неахайны чалавек. Чухмель, ён рэтко калі мыяцца, так і ходзіць. Адэльск.

Чухмоліцца незак. 1. Чухацца. Тулькі што чысту сарочку надзеў, бачу ізноў нешто чухмоліцца. Кунцаўшчына. 2. перан. Марудзіць. Ні трэбо чухмоліцца, а зьбірай свае рэчы і йдзі жывей. Каўпакі.

Чучак м. Тумак, кухталь; штуршок. Аля ж і надаваў яму чучакоў, будзя ведаць, як лесьці ў чужоё. Некрашы.

Чучарапка ж. Смоўж, балацянік звычайны з вежападобнай ракавінай, які жыве ў сажалках, у прыбярэжных зонах рэк. Чучарапка жыве ў затоках Нёмна. Пустыя чучарапкі зьбіралі, гулялі імі, як дзецьмі былі. Прыгодзічы.

Чучка ж. Верх сагнутага сустава пальца. Як упаў, хвароба на яго, та чысто чучаке пааббіваў, во, аш кроў цячэ. Гібулічы.

Чушка ж. дзіц. Свінка, парася. Хадзем, сынок, я табе маленькую чушку пакажу, во, там яна бегая. Зарубічы.

Чыкілдаць незак. Ісці кульгаючы, чыкільгаць. Даволі табе чыкілдаць, хадзі падвязу, усераўно паражняком еду. Пілюкі.

Чынавацiна ж. Самаробная тканіна з самага горшага гатунку ільну. З чынавацiны мы тулькі мяшке шылі, а нікаторыя і конскія торбы. Караневічы.

Чыны (чынэ) мн. Дзве часткі асновы, паміж якімі прасоўваецца чаўнок. Як добро на панажэ наступіш, та і чынэ большыя, лёхко чаўнок пралазіць. Цвіклічы.

Чыпурыцца незак. Прыбірацца, прыхарашвацца; прыгожа адзявацца. Яна нешто стала чыпурыцца, відаць, хоча яму спадабацца. Сіўкава. Чыпурыцца, як вош на марозі. Свіслач.

Чыслінка ж. Некалькі нітак, складзеных удоўж; адна з частак, на

якія дзеліцца маток пражы. У пасьмі ні больш, як чатэры чысьлінкі, а ў чысьлінцы нітак можа быць і больш і меньш. Сіўкава.

Чы́ста прысл. Зусім, цалкам, поўнасцю; дачыста. З нашага сяла ўсе чысто хаты згарэлі, ні адной ні засталосо. Кунцаўшчына. Хвароба на яго, ходзячы за гэтым дзецям, чысто прыстаў, ледво ногі валаку. Путна.

Чэ́пак м. Чапец, жаночы галаўны ўбор. Чэпакі шляхцянкі замужнія насілі, мода тады такая была. Эйсманты.

Чэ́рхаць незак. Запальваць запалкі, чыркаць. Ні давай дзіцяці запалкаў чэрхаць, а то хату можа спаліць, як застанецца адно. Казловічы.

Чэ́шчавік м. Падбярозавік. Я чэшчавіка лічу нараўне з белым грыбам, бо яго можно і сушыць, і варыць, і смажыць. Зарубічы.

## Ш

Ша́! выкл. Ціха! Супакойцеся! Ша, дзеці, ні крычэця, малы Ванячка сьпіць. Каленікі.

Шабасо́ўка ж. Яўрэйскі народны танец, полька. Іршко, як урэжа, бывало, на скрыпцы шабасоўку, та ногі самы ідуць скакаць. Кунцаўшчына.

Шавалу́-шавалу́ прысл. Паволі, няспешна, не спяшаючыся. Пакуль маці зьлезя с тае печы, та я ні чакаючы, шавалу-шавалу ды на двор, дый дроў ёй прынясу. Свіслач.

Шалдыбу́х у знач. выкл. Шабулдых. Я тут да яго, а ён шалдыбух у воду і паплыў. Ласосна.

Шаляно́ўка ж. Шарсцяная каляровая хусцінка. Кабеты і дзяўчата тады шаляноўкі насілі, яны на той час даволі дарагія былі, ні кожна магла купіць. Эйсманты.

Шаляшо́к м. 1. Грошык. Дам я курам шаляшок, паляцеця на таржок, і купеця піражок. Сяцьця на калочку, з'ешча па кусочку (з дзіцяч. калыханкі). Свіслач. 2. Таблетка. Некіх шаляшкоў прыпісаў фэйчар, аля нічого яны ні памагалі. Рудавіцы.

Ша́маць незак. дзіц. Есці. Бедны, мусі, добро прагаладаўсо, калі ўзяў кусочак хлеба й шамаяш. Старая Дубавая.

Шампо́ліць незак. Невыразна гаварыць. Нешто сабе шамполіць пад нос, нічого ні разьбярэш. Белева.

Шамята́ць незак. Марудна есці; жаваць. Як пачне шамятаць, та с паўгадзіны шамеча, пакуль палкне. Жытародзь.

Шанда́ ж. Від крапівы (глухая крапіва). Шанды нарвеш, кіняш сьвіням, і ядуць, тульки вушы трасуцца. Дарашэвічы.

Шапту́х м. Порхаўка, шарападобны грыб. Шаптухе – гэта ні грыбэ, а нікаторыя кажуць, што іх ядуць. Хамякі.

Шапята́ць незак. Шаптаць, гаварыць шэптам. Прывык шапятаць, усе нечаго баіцца, гавары каб усе чулі! Баяры. Стары наш сядзя каля печы і нешто сабе шапеча, говорыць сам с сабой. Лугавая.

Шарачка ж. Спадніца з самаробнай тканіны. Дзяўке ў нас насілі шарачкі, такія спадніцы сь сіваго паўсукна. Бакуны.

Шарачковы прым. Сшыты з шарсцяной самаробнай тканіны шэрага колеру. Пашыла сваім хлопцам шарачкавыя каптанікі, а то былі зусім паабрываліса. Брузгі.

Шарварак м. Дарожная павіннасць у сялян пры панскай Польшчы. У каго зямлі было, таму і шарварку прысылалі больш адрабляць, нам дзён дзесяць трэбо было адрабляць. Луцкаўляны.

Шарлота ж. зневаж. Басота, бедната. Куды ты лезяш, там адна шарлота пазьбіраласа, нікого люцкаго німа. Лугавая.

Шаршубаль м. Рубанак для першапачатковай апрацоўкі драўніны, шархебель. Нешто мой шаршубаль папсаваўсо, стаў забівацца, аніяк ні бярэ. Бандары.

Шасцідзённік м. гіст. 1. Прыгонны селянін, які шэсць дзён на тыдзень працаваў на пана і толькі адзін дзень на сябе; 2. перан. Вельмі бедны чалавек. Ты што за гэтаго шасцідзённіка дачку замуш хочаш аддаць, хіба розуму ні маяш?! Пад'ятлы. Шасцідзённік, бывало, карову выпусьціць пасьвіць, а ўсе на яго: „Ты, кажа, шасьцідзённік, карову і то пасеш ні на сваім, а на чужым". Бакуны.

Шаснастка ж. Старая мера вагі збожжа (каля двух пудоў). Некалі прадасі шаснастку жыта Моўшцы – і ўжэ маяш за што выпіць. Клачкі.

Шастак м. Старая мера зямлі, каля 2-х дзесяцін або каля 2-х гектараў. Шастак, матуленьку, прадаў кашуляньку (з нар. прыпевак). Кунцаўшчына. У яго тулькі шастак зямлі, а ён жаніцца задумаў яшчэ. Бубны.

Шасціручка ж. Каса даўжынёй у шэсць абхватаў далоні. Шасьціручкай шырокаго пакоса ні возьмяш, ею тулькі добро крапіву касіць. Брузгі.

Шаўбусь выкл. Шабулдых. Чую, нехто шаўбусь у воду, каль я прыгледзяўсо, азноў гэта бабёр, іх тут процьма развялосо. Занявічы.

Шаўбухнуць зак. Упасці ў ваду. Ён як шаўбухнуў, та думалі што ўжэ ўсё: мінут дзьве ні было, азноў галава аш пат тым берагам паказаласа. Карозічы.

Шаўпатаць незак. Шамацець, шоргаць. Адну зіму ў нас ёжык быў, та як пачне ноччу бегаць, шаўпацець, та ні заснеш. Навасёлкі.

Шаўпятаць незак. Жаваць; ціхенька есці. Ты гэта што шаўпечаш, схаваўшыса ў куточак, пакажы? Каўпакі.

Шаўхатун м. Той, хто шапялява, невыразна ґаворыць. Ля, і зноў той шаўхатун да нашай Надзі прышоў, нешто ёй кажа. Свіслач.

Шаўхянуць зак. Падаць голас, адазвацца. У сяле была такая цішыня, нідзе ніхто ні шаўхяне, аш пакуль ні закрычалі – пажар!

Хамякі.

Ша́хер-ма́хер м. Ашуканства; абман. Як я паглядзеў, та ў вас ўсё робіцца на шахер-махер, абы больш грошай зарабіць. Кавалічы.

Ша́шкі мн. Дзіцячая гульня пераважна хлопчыкаў, тое, што і гульня ў бабкі. Як прыехалі з Расіі, та ў шашкі ўсе гулялі, на грошы, хто больш выіграя. Караневічы.

Шашо́к[1] м. Прылада, якую вешалі цяляці на мысу, каб не магло ссаць карову. Татко зьдзярэ з вожыка шкурку, прышыя да палатна і вешая цяляці на мырсу, яно як парне карові голкамі, так тая — нагой, і ні дасьць ссаць. Ліхачы.

Шашо́к[2] м. устар. Збожжа, украдзенае сынам ад бацькі на выпіўку. Бацько ў міне скупы, та я ўкраду шашка — і ўжэ есьць на гарэлку. Капцёўка.

Шва́йкаваць незак. Кампасціраваць (пра талоны, білеты). Жывей трэбо швайкаваць талоны, а то кантралёр ідзе, білеты можа праверыць. Гродна́.

Шваргіта́ць незак. Гаварыць на незразумелай мове. Бачу, немцы спалохаліса, сталі нешто шваргітаць, бегаць як апараныя. Скідаль.

Шва́рцаваць незак. Накіроўваць (пра плыт). Шварцуй! Шварцуй, бліжэй да берага! Глядзі, каб ні занясло хваста! Дарашэвічы.

Шварцу́га ж. Прывязка з кручаных дубцоў, якой змацоўваюцца бярвёны ў плыце. Давай набярэм гэтых шварцугаў сухіх, добро будзя на хлеп печ паліць. Дарашэвічы.

Шво́рын м. 1. Шворан. Мне шворын як зрабіў каваль, та й ціпер недзі ляжыць, ні з'ездзіўсо. Круглікі. 2. Дэталь у калаўроце ў выглядзе драўлянага шпянька з разьбой, якая мацуе шпульку і рэгулюе нацяжэнне шнура. Паткруці шворын, а то шнур спадая, добро ні нацягнуты. Бакуны.

Шво́рыць незак. неадабр. Шукаць, вынюхваць. Ты чо тут стаў шворыць, хіба што згубіў. Бакуны.

Швэ́нда м. і ж. неадабр. Бадзяга, валацуга. Або гэта чалавек — швэнда нека, ідзе і йдзе, сам ні ведая куды. Кулёўцы.

Швэ́тар м. Світэр. Во, глянь, які табе швэтар прывязла, будзяш мець у чым хадзіць. Сіўкава.

Шка́па ж. Пра слабага, худога каня. Неку шкапу купіў, ні ведаю, ці што зь яе будзя, ці паправіцца? Азёры. Добрай кабылы купіць ні мох, і шкапы якой купляць ні буду. Азёры.

Шкапле́ры мн. Нанізаныя на нітку кавалачкі тканіны з вобразамі святых. Шкаплеры бабы насілі на шыі, а потым палілі іх на агне, каб разам і грахе згарэлі. Эйсманты.

Шкляро́з м. Шкларэз (прылада). Помню добро, што купіў сабе шклярэз, а куды палажыў, ніяк ні здумаю. Путрышкі.

Шклячко́ н. Шкельца; кавалачак каляровага шкла. Паглядзі,

дзіця неко шклячко знайшло, каб ні парэзало сабе рук. Рагачы.

Шкóда ж. Патрава; знішчэнне жывёлай пасеваў. Ні пускайця кароў бліско жыта, шкоды наробяць, ні ўтрымаяця. Беражаны.

Шкóдлівы прым. Шкадлівы. Шкодлівы конь, так і стараяцца каб дзе ўлесьці, шкоды нарабіць. Каробчыцы.

Шкóла ж. Яўрэйская бажніца. У Індоры і ціпер яўрэйска школа стаіць, немяц у вайну ні спаліў. Ракопавічы.

Шкóлка ж. Гадавальнік, у якім вырошчваюць саджанцы дрэў, кустоў. У нашаго тата свая школка была, і сабе было сажанцаў і людзям прадаваў, як хто хацеў. Пагараны.

Шкумя́ціць незак. Мяць, камячыць, рваць на кавалкі. Даў дзіцяці папер, та яно толькі шкумяціло, шкумяціло і кінуло. Рагачы.

Шламбáч м. неваж. Той, у каго празмерна вялікія або пляскатыя ступні ног. Шламбач некі, ні адны боты на тваю ногу ні прыдуцца, трэбо на заказ рабіць. Кунцаўшчына.

Шламбачы́ (шламбачэ) мн. Апоркі; старыя боты з адрэзанымі халявамі. Ці ў цібе чаравікаў німа, што насадзіў некія шламбачэ на ногі і лазіш. Баброўнікі.

Шлéі мн. Шляя; частка конскай збруі. У шлеях езьдзілі сапоцкінскія гаспадарэ, у нас ніхто ні езьдзіў, тулькі можа які багаты шляхціц. Кунцаўшчына.

Шлíшпер м. устар. Металічны шпянёк ў калаўроце, на якім трымаецца шпулька. Шлішпер з аднаго канца зусім тонкі, а з другога таўшчэйшы, зь дзірачкай, празь якую працягваюць нітку. Круглікі. Шлішперы аднекуль прывозілі, іх кавале ні рабілі. Круглікі.

Шлóмбаць незак. Шлёпаць ботамі па вадзе, гразі. Хай яго, надаело шломбаць па гэтаму калу, боты чысто прамоклі. Квасоўка.

Шлы́г (шлых) выкл. Шусь. Боты завелькія, ні трэбо нацягаць, а ногу ў бот – шлыг, і ўжэ абуўсо, ідзеш. Кунцаўшчына.

Шлы́гацца незак. Совацца. Твае чаравікі мне не падыдуць, ногі ў іх будуць шлыгацца. Баброўнікі.

Шлэ́каць незак. Ісці кульгаючы; дыбаць. Ён быў зусім ні хадзіў, тулькі ціпер стаў на двор выходзіць, с кійком шлэкаць. Балічы.

Шлэ́ндаць незак. Шлындаць. І хочацца яму шлэндаць у такую пагоду, гэта ш такая макрата, усё раскісло. Няцечы.

Шлю́мпарка ж. лаянк. Прастытутка. Ой, шлюмпарка гэта, хто яе ні ведая, яна ўсюды пабывала. Гродна.

Шля́г (шлях) м. Беражок, аблямоўка ў тканіне, хустцы. Натта ш пекны шляг у гэтай хусьцінцы, паглядзі, во які. Эйсманты.

Шлямавáць незак. Чысціць кішкі, рыхтаваць іх для вырабу каўбас. Кішке зусім у паршука німоцныя, німа як шлямаваць, так і рвуцца пад нажом. Карозічы.

Шля́хнуць зак. Прапасці, загінуць. Пасля гэтых прымараскаў

бульба можа зусім шляхнуць, бачыш, як пачарнела. Свіслач.

Шляхціць м. 1. Шляхціц, дробнапаместны дваранін, жыхар засценка. Шляхціць хоць абдзёрты, але гонар свой трымаў, быле с кім ні гаварыў. Літвінкі. 2. Хлясцік, паясок у вопратцы, прышыты ззаду. Шляхціць у бурцы адарваўсо, паглядзі – бэнтаяцца. Свіслач.

Шмагла (шмагло) прысл. Важка. Вазьмі лепей гэты цэп, ён шмагло б'е, добро ім малаціць. Рагачы.

Шмаглы прым. Важкі; гнуткі, пругкі. На гэты дубец, шмаглы – добро кабылу будзя паганяць. Горніца.

Шмаравідла (шмаравідло) н. Каламазь. Купі шмаравідла ды калёса пашмаруй, а то рыпяць, як едзяш на ўсю аколіцу. Рацічы.

Шмаргануць зак. Моцна ўдарыць. Як шмаргануў па каню пугай, та той тулькі хвастом закруціў. Кашэўнікі.

Шмігла (шмігло) н. Прапелер. Паглядзі, брат, як шмігло ў самалёці работая, ні згледзіш, як круціцца. Караліно.

Шмургаць незак. Кідаць са злосцю. Ты што тут свае парадкі наводзіш, пачаў шмургаць, я цібе пашмургаю. Зарубічы.

Шмурыгаць незак. Насіцца, ездзіць без патрэбы. Удзень адзін за другім аўтобусы шмурыгаюць, а пад вечар, калі людзі з работы – ніводнаго ні ўгледзіш. Гродна.

Шмыга ж. 1. Цыркуль. Я шмыгай любы вугал змераю, які хочаш, ад бацькі навучыўсо. Канюхі. 2. Празмерна вяртлявае, непаседлівае дзіця. Шмыга нека ні дзіця, адной мінуткі ні пасядзіць. Свіслач.

Шмыглясты прым. Высакарослы і танклявы. Ля, некі шмыглясты хлопяц стаіць, нешто ў тата пытаяцца. Стральцы.

Шмэльц м. Утыльсыравіна. Старыя самалёты спісалі, усе на шмэльц пашлі. Гродна.

Шнайда ж. Прылада ў выглядзе цыліндра для перамешвання гліны на цэглу. Як я помню, та шнайду круцілі рукамі, а потым ужэ сталі коньмі круціць. Дзекалавічы.

Шнайдар м. Тое, што і шнайда. Міне паставілі да шнайдара, я гліну насыпаў, работа даволі цяшкая. Літвінкі.

Шнюр м. Шнур, дэталь у калаўроце. Як дзе называлі, а ў нас – шнюр называлі, я сама яго з ніцей рабіла, як трэбо было. Казіміроўка.

Шолам м. Шорах, шоргат; шастанне, шамаценне. У каморцы некі шолам, мусі нехто есьць, чуяш, здаецца, ходзіць. Кунцаўшчына.

Шопа ж. 1. Вазоўня; паветка на чатырох слупах для вазоў. Укаці вос пат шопу, хай на дажджэ ні мокня. Зарубічы. 2. Доўгая павець на цагельным заводзе для цэглы. Ніпаляну цэглу пат шопу клалі, каб дождж ні размыў. Дзекалавічы.

Шопка ж. Трохсценная прыбудоўка пры адрыне для сячкарні, захоўвання сечкі і мякіны. Шопка ні ў кожнаго гаспадара была, нікаторыя сечку рэзалі ў адрыні. Дарашэвічы.

Шо́плік м. Сявенька, сяўня. Ні хапіло аднаго шопліка гаўса, каб гоны дасеяць, трэбо ізноў ісьці набіраць. Бандары.

Шо́ркі мн. Дэталі ў шпульцы калаўрота ў выглядзе драцяных зубчыкаў, праз якія праходзіць нітка. У шоркі пальцаў ні сунь, а то абдзяруць. Казіміроўка.

Шо́ш м. Шаша. Шош сліскі, нібяспечно ехаць, тым больш нікутым канём. Рацічы.

Шпа́даль м. Лапата, рыдлёўка. Узяў бы шпадаль, ды гарод кончыў капаць, пара цыбулю садзіць. Перстунь.

Шпа́ра ж. Трэшчына, расколіна. У сьценах шпараў ні пазатыкаў, дзе тут будзя тоё цяпло... Кулёўцы. 2. Прамежак паміж пальцамі рукі. Воду прыгаршчамі ні наносіш, прас шпары ўцячэ, вазьмі кубак. Ласосна.

Шпа́руна ж. Трэшчына, расколіна. Узяў бы ды гэтыя шпаруны хоць глінай пазамазваў, і то выгляд быў бы інакшы. Баброўнікі.

Шпа́рыць незак. перан. Вельмі хутка ісці. Ён чалавек патсухі, лёхкі да хады, шпарыць, як малады, зь ім ні ззыдзяса. Белева.

Шпахлява́ць незак. Шпакляваць; замазваць спецыяльнай замазкай няроўнасці паверхні, трэшчыны. У тваей кватэры спачатку трэбо сьцены шпахляваць, а тады ўжэ бяліць, так нічого ні будзя. Пракопавічы.

Шпікулява́ць незак. Спекуляваць. Прывыклі шпікуляваць і шпікулююць, а рабіць німа каму. Гарны.

Шпі́ль (шпіндаль) м. Прылада ў выглядзе завостранага кіёчка для вязання снапоў. У нас шпілём усе вязалі снапэ, як зьвяжаш, та ні разьвяжацца, кідай яго, як хочаш. Камчатка.

Шпі́лька ж. Кіёчак у церніцы для замацавання верхніка. Шпільку табе зрабіў з моцнаго дзерава, будзя трымаць, верхнік ні выскачыць. Бакуны.

Шпіля́р м. Шыла (плоскае). Шавец возьмя шпіляр, наколя, наколя дзірак у падэшві, а тады ўжэ забівая гвозьдзі. Індура.

Шпі́нгаць незак. Цікаць (пра гадзіннік). Часэ ледво шпінгаюць, мусі, стануць. Занявічы.

Шпі́ндзель (шпіндзяль) м. Свердзел. У міне свой шпіндзяль быў, а ціпер ідзі пазычай, прасі, кап хто даў. Копанькі.

Шпо́кнуць зак. Цмокнуць, пацалаваць. Дай я цібе, дзетка, шпокну ў шчочку, і пойдзяш спацькі. Кунцаўшчына.

Шпо́нка ж. 1. Запінка, засцёжка для манжэтаў сарочкі. Файныя шпонкі ўчора сабе купіў, а то ніякіх ужэ ні было. Балічы. 2. Кнопка (адзежная). Як шпонкі ў плаці, та і хутко зашпіляць, раз, два – і зашпіліш. Дарашэвічы.

Шпо́ны мн. Кіпцюры. Ого, наша кошка, як выпусьціць шпоны, та ніякі сабака ні патступіцца, гочы выдзяра. Рудавіцы.

Шпу́ль м. Прылада ў выглядзе завостранага кіёчка для вязання снапоў. Я шпуль з ляшчыны заўсёды рабіў, ён лёхкі такі, і ім добро

было вязаць. Батароўка.

Шпу́нда ж. груб. Нізкая тоўстая жанчына. З гэтай шпундай і ў людзі німа як паказацца, усе глядзяць, як на дзіво якое. Кунцаўшчына.

Шпу́нт м. Шпонка; металічны клінок для замацоўвання дэталяў у машыне. Нешто калясо ні круціцца, мусі шпунт выпаў... Баяры.

Шпургану́ць зак. Шпурнуць, кінуць, запусціць. Але ж і шпургануў камянь, барані божа, ў каго папаў – на месцы труп. Каменка́.

Шпы́рка ж. Свіное сала. А мой ты галубок, дай цыганцы хоць трошкі шпыркі, я табе на руку паваражу! Лаша.

Шпэк м. Свіное сала. Раз да нас прылез некі нямчурыско і кажа: „Матко, шпэк ё?, а маці яму – а хваробу табе ў бок, ні шпэк". Свіслач.

Шпэ́кты мн. Аранжарэя; памяшканне для вырошчвання раслін. І ў Адалькаўшчыні былі свае шпэкты, агароднік там разводзіў розныя кветкі. Круглікі.

Шру́ба ж. 1. Гайка. Мусі, шруба заіржавела, аніяк ні аткручу, ключ ні бярэ. Баброўнікі. 2. Драўляная дэталь у калаўроце з вінтавой нарэзкай. Паткруці шрубу, а то шнур спадая, заслапко нацягнуты. Рацічы.

Шрубста́к (шрупстак) м. Ціскі. Паглядзі, які я шрупстак сабе прыдбаў, ціпер што хочаш магу зрабіць, Дзекалавічы.

Штама́йза ж. Стамеска. У міне штамайзы ўсялякія есьць, нават адну круглу маю. Свіслач.

Шту́ка ж. Бервяно. Як добро дзераво, та больш адной штукі на воз ні возьмяш, я больш нігды ні браў. Пяслі.

Штупо́рыць незак. Стопарыць, закліноўваць. Каляcэ ў возі штупорыць, хоць бы як дахаты даехаць. Рацічы.

Шты́бала (штыбало) н. жарт. Дзіця, якое толькі пачало хадзіць. А маёш ш ты маленько штыбало, ідзі ношкамі, тулькі ні ўпадзі. Кунцаўшчына.

Шты́бацць незак. Спрабаваць хадзіць; няўмела хадзіць (пра дзяцей). Колік наш паволі пачыная штыбаць, на ношках трымаяцца, аля доўго ні можа. Лаша.

Шты́бна прысл. Цвёрда, упэўнена. Хоць ён і стары, аля на нагах трымаяцца ашчэ штыбно, ходзіць бес кія. Лікоўка.

Штымава́ць незак. Адпавядаць, стасавацца, быць у суладнасці. Нешто, брат, у цібе зусім ні штымуя, трэбо ашчэ гэты край падпілаваць. Дзекалавічы.

Шты́рбаць незак. Штурхаць, пароць, калоць вострым. Чарвяка пачні штырбаць, та і той раззлуецца, ні тулькі сабаку. Баранава.

Шты́рхаць незак. Штурхаць. Нашто яго штырхаць, ён і сам ўстаня, ведая, што дзісь рабочы дзень. Рацічы.

Шу́бянік м. жарт. Свавольнік, дураслівец; разбойнік. Гэтаго шубяніка ў хаці ні ўтрымаяш, як вырвяцца, так і пашоў. Навумаві-

чы.

Шу́гала н. і шугаўка ж. Гушкалка, арэлі. Шугало зробім сабе на дзераві і давай шугацца, аш пакуль хто ні пражане. Зарубічы. Міне малого мацi на шугаўку ні пускала, баяласа, каб ні ўпаў. Кунцаўшчына.

Шу́гацца незак. Гайдацца. Як пачнем шугацца, та і сьцямнея, а мы ўсё шугаямсо. Сухмяні.

Шу́гаць незак. Гайдаць. Пакінь шугаць дзіця, бачыш, як баіцца, учапіласо ручкамі за вяроўку. Баброўнікі.

Шу́льман м. Старшы над плытагонамі. Во, шульман на чайцы едзя, плытэ будуць ісьці. Дарашэвічы.

Шумаве́не н. Шумавінне. Мясо мусі ні зусім свежо, бо шумавеня пашло, ні ўсьпяваю апалонікам зьбіраць. Гродна.

Шу́пля ж. і шупляк м. Яйка, пабітае ў час велікодных гульняў. Як моцна яйцэ пападзецца, та поўныя кішане шупляў навыбіваяш. Лікоўка. Паглядзі, Іван, колькі я шуплякоў навыбіваў. Ліхачы.

Шурмава́ць незак. Шукаць, утвараючы ўсюды беспарадак. Перастань шурмаваць, усероўна нічога ні знойдзяш. Палаткова. Што ты тут шурмуяш, што табе трэбо? Навасёлкі.

Шу́рцы мн., м. жарт. Свавольнікі, гарэзы; дурасліўцы (пра дзяцей). За цэлы дзень мне гэтыя шурцы голаў адурылі, але куды ад іх падзенешса. Адэльск. А гэта чые тут шурцы бегаюць, крычаць пад акном. Сапоцкін.

Шу́фля ж. 1. Шуфель; саўковая рыдлёўка. Ашчэ шуфлю пяску ў раствор паткінь, а то занатто рэткі. Пракопавічы. 2. Пабітае яйка ў час велікодных гульняў. У міне цэлых яец ні засталосо, адны шуфлі, усе папрабіваў. Прыгодзічы. Глядзі, колькі ў міне шуфляў, поўныя кішане налажыў. Азёры.

Шуфлява́ць незак. Пералапачваць; перамешваць. Жыто давай будзямо шуфляваць, каб ні спрэло, сыроё зусім. Лаша. 2. перан. Ашукваць, махляваць. Калі праўду сказаць, ні шуфляваць з малаком, та дзе тут яго аддасі. Баранавічы.

Шчаве́й м. Шчаўе. У нас шчавей на балоці рос, пайду пад вечар і назьбіраю, колькі трэбо на дзень. Асташа.

Шчадзёр м. Шчадрэц; у народных абрадах: вечар перад Новым годам. У шчадзёр хлопцам ні можно было ехаць да дзяўчат у сваты, казалі: „Хто прыедзя ў сваты шчадрамі, та пойдзя віхрамі". Селюкі.

Шчадрава́ць незак. Хадзіць у ноч перад Новым годам па дварах з віншавальнымі песнямі. У нас ціпер нікаторыя хлопцы жартам ідуць па хатах, шчадраваць, сміюцца. Селюкі.

Шчадры́ мн. Тыя, хто ходзіць на шчадрэц з віншавальнымі песнямі, шчадруюць. Шчадрэ ўвойдуць ў хату і пытаюцца: „Хто ўдома? – Пан гаспадар жыто сея. – З каласочка – жыта бочка, а з другого – жыта много". Клачкі.

Шчалубіна ж. Шчыліна. Шчалубіна мусі ў дне бочкі, капуста пацякла, змарнуяцца. Кавалічы.

Шчаміць незак. Балець, ныць. Нешто сэрца шчаміць, неку беду чуе. Бычкі. 2. Ціснуць. Боты добрыя сабе купіў, але ў адным у пальцы шчаміць, ні магу хадзіць. Баранава.

Шчапа ж. Трэскі. Як хату ставілі, та шчапы было навалам, маці ўсё лета ею варыла. Сухая Даліна.

Шчапіцца незак. Задрацца; пачаць сварку, бойку. Абы за што, так і зноў гатовы шчапіцца, адзін аднаму ні папусьціць, ні ўступіць. Рагачы.

Шчарбель м. Пра таго, у каго не хапае зубоў у роце. Ён ад роду шчарбель, пярэднія зубы ні вырасьлі, так і ходзіць. Кругляны.

Шчубіцца зак. Задрацца; пачаць бойку, сварку. Глядзі, а то і зноў могуць шчубіцца, ім гэта ні ўпершыню. Струбка.

Шчур м. Пацук. Ціпер гэтых шчураў усюды развялоса, рады німа, у міне адзежу паелі. Грандзічы.

Шчыкаўка ж. Ікаўка, іканне. Хвароба на яе, нека шчыкаўка на дзіця напала, мусі зьмерзло. Лікоўка.

Шчыкаць незак. Ікаць. Ты што ізноў пачаў шчыкаць, на малака гарачаго напіса, мо пройдзя. Гарны.

Шчыпяры (шчыпярэ) мн. Зялёныя парасткі цыбулі. Пасадзіла трошкі цыбулі, яна ні вырасьця, аля хай будзя на шчыпярэ. Ласосна.

Шчыры м. Баравік, белы грыб. Наша мама, як пойдзя ў Баракаво, так і прывалачэ поўны прыпол адныш шчырых. Свіслач.

Шчэбель (шчэбяль) м. Шчэбень, каменны друз. Шчэбелю панавозілі, мусі, дарогу будуць строіць. Бакуны.

Шыдзіць незак. Насміхацца, здзекліва смяяцца. Ні трэбо шыдзіць са старого чалавека, бо і сам будзяш старым. Занявічы. Ты што зь яго шыдзіш? Талочкі.

Шыдэлка ж. Вялікая шарсцяная хустка. Як халадно станя, та шыдэлкай закруціса, вецяр ні прадуя. Пыра.

Шыкаць незак. Траціць без патрэбы грошы. Ні трэбо было грошай так шыкаць, а расшыкаў, та ціпер ідзі пазычай. Грыўкі.

Шынк м. Шынок, карчма. Як які багаты яўрэй, та шынк трымаў і з гэтаго жыў, а як бедны – та вошчыкам быў. Азёры.

Шынкаваць незак. Шаткаваць, крышыць капусту на засол. Бочку вымыла, заўтро буду капусту шынкаваць. Калбасіна.

Шынкарачка ж. Дачка шынкара. Ён ідзе да шынкарачкі, ідзе і ні каяцца (з нар. песні). Лаша.

Шыплюкі (шыплюке) мн. Шыплюк м. 1. Недаразвітыя пярынкі ў выглядзе шпілек, якія застаюцца на птушцы пасля яе скубання. Здаецца і стараласа добро скубаць курыцу, а бачыш, колькі шыплюкоў засталосо. Круглікі. 2. Збітая ў камякі воўна. А гэта што за праява: уся воўна ў адных шыплюках, машына ні зможа часаць,

прыдзецца рукамі. Свіслач.

Шыплявіць незак. Шапялявіць, шапялява гаварыць. Ён з маленства ў міне шыплявіць, нічого ні зробіш. Баранава.

Шыптух м. Порхаўка, шарападобны грыб. Пасля дажджу, ты бачыш, як шыптухе зь зямлі павылазілі, колькі іх? Дзекалавічы.

Шыпуліцца незак. Хавацца. Гэта ні сабака, што ў буду шыпуліцца, як чалавека ўбачыць. Луцкаўляны.

Шыпуль м. Трэска. Запалі вось гэты шыпуль, ды пасьвяці, а то нічого ні бачу. Кавалічы.

Шырыга ж. Тоўсты і доўгі кол, замацаваны паміж бярвеннямі, які служыць для тармажэння ці затрымання плыта. Шырыгі рабілі з моцнаго дзерава, зь бярозы або дуба, кап пад напорам ні зламаліса. Селюкі.

Шырындзіць незак. Жартаваць; кпіць. Нідавярак, прышоў у хату і давай шырындзіць, пакуль дзед ні выгнаў. Гродна.

Шыхаваць незак. Шанцаваць. Яму з маленства шыхуя, ніякай бяды, ні хваробы ні ведаў. Жытародзь.

Шышка ж. Сорт бульбы. Шышка, такая бульба некалі была, нівелька, мела много ачок. Сапоцкін.

Шэржап-пшэ-пшэ! выкл. Вокліч, якім падзываюць кароў. Шэржап-пшэ-пшэ! Шэржап-пшэ-пшэ-пшэ! Хадзі ў хлеў. Кунцаўшчына.

## Э

Экзэфія ж. Касцельная служба па памёршаму. Учора далі на экзэфію па нібошчыку – тату, крэўныя прыедуць. Лойкі.

Электрыка ж. Электрычнасць. Ціпер і на гуліцы відно, усюды электрыка гарыць. Вялікая Альшанка.

Эмка ж. Гатунак бульбы. У другіх была эмка, а ў нас яе ні было, чырвону садзілі. Свіслач.

## Ю

Юргіня ж. Вяргіня. Я натто люблю юргіні, як цьвітуць, хаця і ні пахнуць зусім. Скамарошкі.

Юська ж. дзіц. Свіння. Я пайду юськам есьці даваць, а ты паглядзі ў акенца, як яны будуць амаць. Грыўкі.

Юсь-юсь! Вокліч, якім падзываюць свіней. Юсь-юсь-юсь!...сьвінькі, хадзеця ў хлеў. Капцёўка.

Юха ж. груб. Кроў. Як даўсо носам, так юха і пайшла, ні маглі ўтаймаваць. Шэмбелеўцы.

## Я

Яблыка н. Яблык. Яблыко ад яблыні далёко ні падая (прымаўка). Эйсманты.

